# СЦЯПАН ГАЎРУСЁЎ

# крона

ВЫБРАНЫЯ
ВЕРШЫ
І ПАЭМЫ

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1981

## З ПЕСНЯЙ ВЕРНАСЦІ

Сцяпан Гаўрусёў запомніўся мне ўражлівым, даверлівым і шчырым хлопцам, які нават за тры гады жыцця ў горадзе (вучыўся ў Магілёўскім педвучылішчы) не пазбавіўся вясковай непасрэднасці. Заспяваў ён звонка, прыгожа і адразу звярнуў на сябе ўвагу. У армейскім страі ў час вайсковай службы падабраўся, падцягнуўся. І — пайшоў у вялікае жыццё ўпэўненым бадзёрым крокам з узнёслай юнацкай песняй, услаўляючы воіна-пераможца, якога сустракаў і вітаў у сваім раннім маленстве, родную вёску, маладыя пачуцці, бацькоў, сяброў, радасць жыцця, далёкі і блізкі свет у пералівах ценяў, святла, гукаў, мелодый, у даверлівай суцішанасці закаханых. А пазней адчуў і выказаў і тыя сейсмічныя патрасенні веку, што не абмінаюць нашы сэрцы.

«Я вырас пад гарматнымі стваламі»,— сказаў пра сябе С. Гаўрусёў на пачатку свайго творчага шляху. Вось яна, гэтая лірычная споведзь, поўная жыццёвай праўды і эмацыянальнай узрушанасці:

І цішыня, як сцятае рыданне,
Вярнулася да вёсак палявых,
Прынёсшы неадступнае гаданне:
Ці ўсім з дарог вярнуцца франтавых?

Мы не змаглі даверыць ночы сіняй,
Уздрыгвалі, як хруснуць дзе дубцы.
І з «юнкерсаў» падбітых алюміній
Ламалі для дзяўчат на грабянцы.

Мы прызнаваліся сваім любімым
І службу ўжо дарослую няслі.

Стаў новым свет, а губы пахлі дымам,
Бо мы з снарадных конавак пілі.

Сказана, здаецца, нямала нават у пададзеным урыўку. Ды паэт не палічыў закончанай размову пра тое, што ён пераЖыў у дзяцінстве. Верш «Я вырас пад гарматнымі стваламі» вызначыў адну з галоўных тэм у паэзіі С. Гаўрусёва. Пайшла шырокая плынь вобразаў, малюнкаў, пачуццяў, думак, інтанацый успамінная лірыкі.

Дзявочыя грабянцы з алюмінію збітых варожых самалётаў. Конаўкі са снарадаў. Метал вайны пакінуў свой злавесны звон і гул, бляск і жалобную маўклівасць. І паўстае, высвечваецца незабыўнае. На спустошанай заваёўнікамі сялібе «кавалі хлопцы пад павеццю пярсцёнкі з медных пятакоў». Акружэнец-салдат п'е ваду, а «ў той конаўцы меднай ды свінцовае дно». Вобразы тых, «хто аб чужыя танкі паспеў штыкі знянацку прытупіць». І — святочнае, урачыстае: «Паілі жарабкоў кавалерысты, грукочучы акованым вядром, і ля калодзежа струмень празрысты рублёвым рассыпаўся серабром».

Аднаму са сваіх зборнікаў С. Гаўрусёў даў назву «Пераклічка». Пераклічка адпавядае армейскаму тэрміну «паверка». Старшына, цяперашні прапаршчык, абвяшчае прозвішчы воінаў. Першымі называюцца героі Вялікай Айчыннай вайны — ганаровыя салдаты, якія навечна занесены ў спіс вайсковай часці. Паэтычнай паверкай жывых і мёртвых, іх спраў і подзвігаў, мар і імкненняў, усяго, што ўвасабляе наш сучаснік, уяўляюцца многія вершы і паэмы С. Гаўрусёва. Вайна апаліла сэрцы не толькі тым, хто быў на пярэднім краі, яна засталася ў вачах і памяці пакалення, якое вырасла «пад гарматнымі стваламі». Памяць не старэе. Па-дзяцінаму чыстая і даверлівая, звяртаецца яна сёння да новых насельнікаў зямлі: «і дагэтуль у зялёным жыце перазвон званцоў. Ну а вы ці бачыце, скажыце, постаці байцоў?» Паэт жадае, каб бачылі: не прыхаць, а клопат сталага чалавека аб тым, каб наша мінулае належала і наступным пакаленням. І дзеля гэтага ён гатоў наноў адчуць даўнейшы боль і цяжкія страты. І ўспаміны нярэдка падае ў цяперашнім часе. «Дым у грудзі мне лезе, смерць сваю пазнаю», «На галаву маю сівую ападае шматгадовы пыл», «Нечаспадзявана раз, другі і трэці абвальваецца неба на цябе». Не можа не ўразіць невялічкі верш С. Гаўрусёва, у якім, здавалася б, ні слова пра вайну:

Зноў зазірнула і ў маё акно
Дажджоў асенніх шэрае сукно.
Яму аддалі маладосць браты,
Ім саграваліся і я і ты.

Былыя салдаты прыгадваюць, напэўна, раскоўзаную франтавую дарогу, на якой загразлі абозы, убачаць сябе на маршы і ў сырым акопе пад вогненным абстрэлам. Дождж і шэрае сукно шыняля зліліся ў адно адчуванне — быццам ты апрануты ў падатлівыя струмені шэрай вады. Адначасова даведваемся пра вехі жыцця лірычнага героя і яго блізкіх. І ўсё гэта ў чатырох сціслых і сціплых радках.

Падзеі мінулага сталі нашай біяграфіяй. Паэту, які зведаў найвялікшае выпрабаванне — вайну, аб чым бы ён цяпер ні пісаў, даводзіцца зноў і зноў ісці тою даўнейшай дарогай, падымацца на перавал, з якога лепей за ўсё бачыцца мінулае і сучаснае. І блізкім-блізкім становіцца мінулае:

І слухаюць з болем салдаткі —
Скрозь шолахі спаленых траў
Абвугленых хваль плачш-палаткі
З разбітых шуршаць пераправ.

Сіроты сустрэчы чакаюць —
Надзея і скарга ў вачах.
Загінуўшых твары шукаюць
Пражэктары зноў па начах.

Але перавал — не прывал. Знясільваюць пакутныя крокі памяці:

Маё сэрца прысніцца
Дзесь цяжкому свінцу.
Дзе цвіла медуніца —
Я іду па сіўцу.

Перасохла крыніца —
Што рабіць тут карцу?
Не прыстою напіцца —
Я іду па сіўцу.

У паэзіі С. Гаўрусёва хораша гучыць тэма працы. Гэта не даніна закліку часу, а спазнаная неадольная прага чалавека ствараць, пазнаваць — успрыманне працы ў яе народным вызначэнні, як вытоку радасці і красы

жыцця. Па-народнаму, у самых яркіх і натуральных фарбах паказвае паэт вечаровую вёску пасля працоўнага дня:

Адкрыты насцеж ў хатах дзверы,
Над свежым хлебам блішчаць нажы.
Пара спачынку, пара вячэры,
Пара цішы.

Выходзіць з кузні ў адзенні чорным
Каваль стамлёны і ля двара
Спыніўся ціха — шырокім горнам
Шуміць зара.

У тайзе хлопцы будавалі чыгунку. Штабялявалі і ўкладвалі шпалы. Горача, спякотна, усім хапіла добрай працы. І — здаровае ўнутранае задавальненне без пахвальбы і гучных слоў: «Аб гэтым рэдка ўспамінаю — выпадак проста быў такі, і толькі плечы прыгінаю, калі грукочуць цягнікі».

Звычайную працу ткачых, учарашніх вясковых дзяўчат, паэт умее паказаць у сугучным далучэнні вакольнага свету, фарбамі тонкага лірызму:

Сто станкоў гудуць бесперапынна,
Як вятры між роднай асакі...
Сны дзявоцтва ў зіхатлівым гуле
Сцелюцца узорным палатном.
І таполі круцяцца, як шпулі,
Калі вецер пройдзе за акном.

А з якім паэтычным майстэрствам С. Гаўрусёў малюе працу вясковых умельцаў у адным з вершаў пра вясковых цесляроў. Працуюць яны — нібы песню вядуць. Спачатку, як і ў песні, ідзе зачын — каб на сябе, на сяброў паглядзець, паветрам напоўніць грудзі:

Без прынукі спакваля —
Справа, злева
Чэшам дрэва
Ад камля!

Лёгка і пявуча ўзлятаюць сякеры, чысцейшым робіцца рытм. І, як здаровы выдых, гучыць рэфрэн:

Тапары, тапары.

Тут кожнае слова зіхаціць сонцам і пахне баравою жывіцай. У вершы ёсць жыццёвая народная мудрасць, вызначаецца неабдымнасць працоўнага радаслоўя:

Пад вугол кладзем рубля!
Справа, злева
Роду дрэва
Ад камля!

Сярод шматлікіх спадарожнікаў паэта — белагаловы хлопчык з разумнымі і яснымі вачыма, які выклікае нашу ўвагу і павагу, захапленне і трывогу, бо ступае «дарослымі» крокамі веку. Светлы вобраз нашчадка ўвасабляе і маленства, і жыццё, і будучыню. «Не страшны ніякія страты, калі побач хлопчык ідзе»,— сцвярджае С. Гаўрусёў. У вершы, прысвечаным памяці маладога паэта, ёсць і такія здзіўляючыя радкі: «Не вялікае гора, што бацька ў труне,— ён устане, калі яго хлопчык гукне».

С. Гаўрусёў умее валодаць эпічнымі сродкамі. Высокую ацэнку ў чытачоў і крытыкі атрымала яго лірычная паэма «Штодзённы лістапад» — усхваляваны маналог юнага сучасніка пра маладосць, радасць жыцця і шчасце кахання, пра адчуванне свайго абавязку перад Радзімай.

Паэтычны свет С. Гаўрусёва паўстае ў дыялектычным адзінстве і жыццёвай шматмернасці, у паўнаце пачуццяў і адчуванняў, выкліканых падзеямі жыцця. Трывогі і радасці, грамадзянскі клопат, гарачы працоўны будзень, навальніцы веку і праблемы часу — усё гэта знаходзіць свой водгук у сэрцы паэта і становіцца яго ідэйным і мастацкім набыткам.

Прырода — саўдзельнік спраў і перажыванняў. С. Гаўрусёў можа ў разгорнутым асацыятыўным вобразе паказаць хараство прыроды, наблізіць і звесці ў адно супрацьлеглыя паняцці, разуменні, асэнсаваць з'яву так, што арыгінальная думка здзівіць сваёю прастатою і празрыстасцю. І тады, як гэта бывае ў лепшых вершах паэта,— «пазнаеш ты не адзін, што з цвету майскага прадзецца сцюдзёнасць позніх павуцін».

Часам С. Гаўрусёў звяртаецца да традыцыйных вобразаў і сімвалаў. Дзякуючы наватарскаму ўменню паэта, паўстаюць яны абноўленымі ў часе і ў маральных адносінах.

Паглядзіце, якім па-байцоўску актыўным носьбітам дабра, цеплыні і чысціні становіцца спрадвечна ціхмяны лебедзь:

Чорны воран, белы лебедзь —
Лёс нябыту, спеласць мар.
Адзін маску з мяне лепіць,
А другі — натхнёны твар.

Чорны воран, белы лебедзь —
Хто адолее з дваіх?
Першы рукі мне сашчэпіць,
А другі — разніме іх.

Чорны воран, белы лебедзь —
Гляну ўвысь і на жарству.
Мяне воран не зачэпіць,
Покуль з лебедзем жыву.

Сцяпан Гаўрусёў узыходзіць на перавал свайго веку, набліжаецца да свайго 50-годдзя. З вышыні пражытага, пройдзенага, зробленага можна цяпер добра аглянуцца, падвесці вынікі, здабыткі. І — зноў рушыць у дарогу. Па-сяброўску пажадаем яму новых пошукаў, здзяйсненняў, творчага плёну!

*Аляксей Пысін*

З кнігі

# «ПАХОДНЫЯ КАСТРЫ»

(1955 г.)



## КЛЁН

Над новай хатай клён стары
Стаіць,
          нібы асілак,
Якога злосныя вятры
У буру не скрышылі.
І не разбілі перуны
Яго, як іншых, летам:
Напэўна,
          гэтае вайны
Ён стане манументам.
Спакойна вецер угары
Гуляе, як калісьці.
І сонца льецца з вышыні
У бронзавае лісце.
Яны шасцяць усё мацней,
Усё мацней, чым далей.
Гляджу на іх —
                    здаецца мне,
Што гэта ўсё медалі,

Што гэта клён, магутны клён
Сягоння з рук прыроды
За варту верную сваю
Прымае ўзнагароды.

## ПАХОДНЫЯ КАСТРЫ

Канчаючы свой дзённы шлях,
Ці летам,
Ці зімой халоднай,
У стэпе і ў глухіх лясах
Касцёр распальваем паходны.

Разведчыкі наступных дзён,
Мы рады засені лагоднай,
А наш касцёр здалёк відзён
Для іншых зоркай пуцяводнай.

Нямала скарбаў мы знайшлі
І новых шмат дарог праклалі.
Зірні —
Па ўсёй маёй зямлі
Кастры юнацтва запалалі.

Нясём з сабою сцяг зары,
Дарогу ў будучыню масцім.
А пасля нас —
Кастры,
Кастры —
Сляды гарачай маладосці.

І сэрцы ў маладых грудзях
Адным ахоплены імкненнем,
Каб асвятліць кастрамі шлях
Наступным,
Новым пакаленням.

## ШКЛЯР

Я вокны шклю — і прыгажэе дом,
І неба адлюстроўваецца ў шыбах.
Чаму ж, калі пачую блізкі гром,
Успамінаецца мне бомбы выбух.

І успамін той раніць сэрца мне,
Трывожыць памяць днямі і начамі —
Забітая дачушка на мяне
Глядзіць і сёння сумнымі вачамі.

Хай будзе гром, што нам вясну нясе,
Для нівы — дождж, а небу — бляск вясёлкі,
Я грому не хачу, што ўсю зямлю трасе
І шыбы нашы трушчыць на асколкі.

Зашкліў я вокны. Людзі йдуць у дом,
І кожны мяне шчыра прывітае.
І ластаўка перад маім акном
З саломкай у гняздо сваё лятае.

Іду дамоў. Вячэрняя зара
Не хоча гаснуць на вільготных клёнах.
І весела смяецца дзетвара
З усіх акон, рукой маёй зашклёных.

## СІНЯВОКАЯ БАЛГАРКА

Сінявокая балгарка
І цяпер успамінае,
Як паілі сваіх коней
Нашы хлопцы на Дунаі.

Як на беразе пясчаным
(Ці знарок, ці выпадкова?)
Ёй пакінулі на шчасце
Серабрыстую падкову.

Як пра радасць маладую
У той дзень трубілі трубы:

Да дзяўчыны чарнабровай
З гор юнак вярнуўся любы.

На яе вяселлі гралі
Галасістыя гармоні.
А за ворагам казакі
Віхрам слаліся ў пагоні.

Сёння ўсюды нас гасцінна
На Дунаі сустракаюць:
Казакоў, прывёзшых шчасце,
І цяпер успамінаюць.

А балгарка сэрца цешыць —
Сын расце светлагаловы.
І блішчыць над хатай месяц,
Як казацкая падкова.

* * *

Ты выйдзеш з дзіцем на руках
У сад пасля шумнага ліўня.
Ірдзяцца на дужых суках
Крамяныя яблыкі жніўня.

Вісяць над тваёй галавой
Антонаўкі і медуніцы,
І вецер гамоніць з ліствой,
Вільготны пасля навальніцы.

Маўкліва цямнеюць лясы,
Над гаем — істужка вясёлкі.
Блішчаць ад дажджу каласы,
А ў жыце пяюць перапёлкі.

І хочаш усім ты сказаць
Аб шчасці, што першаму сыну
Выходзіш у сад паказаць
Сваю маладую краіну.

Шчасліва смяецца дзіцё.
Табе ж перад сынам не сорам:
Яму ты ўручаеш жыццё
З усёю красой і прасторам.

## НА КАЛГАСНАЙ СЕНАЖАЦІ

Эх вы, травы і буйныя росы,
Эх, каса, мой таварыш і друг!
У сарочцы расхрыстанай, босы,
Я з сябрамі выходжу на луг.

І сляды нашы роўна кладуцца,
Косы звонкія свішчуць наўкруг.
Гэтак хочацца тут размахнуцца
На ўсю моц маладых сваіх рук!

Разбіваюць пракосы дзяўчаты,
І я шчасця свайго не таю,
Што адна ад душы будзе рада
Бачыць сталую сілу маю.

## ПАЛАТКА Ў ПУСТЫНІ

Палатка крылом галубіным
Укрыла сям'ю ў цішыні.
І маці варкуе над сынам:
— Засні, мой сыночак, засні.

Ты вырасцеш, сын, капітанам,
І возьмеш у рукі штурвал,
І там павядзеш караваны,
Дзе сёння капаем канал.

У вольныя выйдзеш прасторы,
Каб сілы памераць свае...
І гэта дзівоснае мора
Маломy заснуць не дае.

Шчасліва смяецца дзіцятка,
Гул мора пачуўшы здаля.

. . . . . . . . . . . .

Бялее ў пустыні палатка,
Як парус яго карабля.

## АТЭСТАТ СТАЛАСЦІ

Адшумеў
Дождж у далі вясновай,
Адгрымеў
Над лесам ранні гром.
Я дарогай —
Яснай і суровай —
Па зямлі іду гаспадаром.

Пажадаю над травою ніцай,
Каб яна ўзнімалася хутчэй,—
Мы не перад гэткай навальніцай
Не згіналі маладых плячэй.

Хоць вясной нас з школы выпускалі,
Я не знаў настаўнікаў такіх,
Што пасведчанні нам уручалі
Для дарог блакітных,
Веснавых.

Падпісаў салют у небе ясным
Атэстат на сталасць, а пячаць —
На нябёсах сонцам непагасным,
Што ў баях змаглі мы адстаяць.

Я дайду,
Куды дайсці мне трэба,
Я зраблю,
Што я зрабіць быў рад.
Сведкаю —
Бязвоблачнае неба —
Сталасці Радзімы атэстат.

## МАЛАДОСЦЬ

Вярнуўшыся ў школу сваю,
Сяброў не сустрэў я тут даўніх.
У класе знаёмым стаю
Не вучань ужо,
а настаўнік.

Усё, як было: на сцяне
Старыя партрэты і карты.
Ды дзеці глядзяць на мяне
Сягоння з былой маёй парты.

І гэтым малым хлапчукам,
Пакуль маё сэрца гарача,
Я ўсю сваю радасць аддам,
Аддам маладосць без астачы.

Хай дзеці,
Выходзячы ў пуць
З сваёй маладою вясною,
У сэрцах сваіх панясуць
Агонь,
Што запалены мною.

Я рад,
Што ў жыцці я не госць
І сэрца нядарма так б'ецца:
Пад старасць гукну маладосць —
І ўсюды яна адгукнецца.

## ГЕОЛАГ

Прагрукатаў
і за хрыбтом гарбатым
Заціхнуў гром. Хмарынка праплыла.
А доўга-доўга гулкім перакатам
Грымела рэха
і зямля гула.

Зайграла сонца на вяршынях голых,
Дыхнула з высі свежым халадком.

Шыракаплечы
Малады геолаг
Стаяў на кручы горнай з малатком.

Ён скарб знайшоў,
і першай тэлеграмай
Гул пракаціўся ў небе веснавым.
Шырокай,
Урачыстай панарамай
Свет з вышыні адкрыўся перад ім.

Ішлі ў тайгу глухую лесарубы —
Прад імі расступаліся лясы.
Дыміліся
Заводаў новых трубы,
Фабрычныя
Ўставалі карпусы.

Стоцветным,
Стогалосым
І бясконцым
Рос ранак гэты ў ззянні залатым.
А ён стаяў —
Нароўні з ясным сонцам —
Гаспадаром на свеце маладым.

## БАЙКАЛЬСКАЯ НЯВЕСТА

І чаму ты так доўга, смуглянка,
Пазіраеш навокал з тугой?
Знаю — шкода бацькоўскага ганка,
Знаю — цяжка расстацца з сям'ёй.

Ды ў блакітнай маёй Беларусі
Ты не будзеш дачкою чужой.
Нашу ніву і вербы у лузе
Ты палюбіш усёю душой.

Хоць не раз, можа, ноччу глыбокай,
Калі гуку не чутна нідзе,
Ты прачнешся ад буры далёкай,
Што на хвалях Байкала гудзе.

## АРКА НАД ВАКЗАЛАМ

Не ўсё на развітанне ты сказала —
Стаяць нам доўга хмара не дала.
Дождж зашумеў.
Вясёлка ля вакзала
Нас трыумфальнай аркай абняла.

Сваімі ўсхваляванымі рукамі
Не утрымаў цябе сягоння я.
Ў смузе бялёса-ранішняй знікалі
Мой родны горад,
Дружбакоў сям'я.

З тых пор нямала я аб'ездзіў свету,
І калі гром грымеў над галавой,
Я над сабою бачыў арку гэту
І ўсюды чуў прызыўны голас твой.

Не раз вясёлка над зямлёй звісала,
Піла ваду і з Волгі і з Данца.
І рад я быў,
Што ты не ўсё сказала
І што няма любві маёй канца.

## НА ПОЛІ БОЮ

Магілу брацкую сябры капалі,
І паўшых асяняў геройскі сцяг.
Суровыя байцы вакол стаялі,
Праводзячы іх у апошні шлях.

І плакаў бор. Тут не было нікога,
Хто б плакаць мог,— ні матак, ні сясцёр.
Над мёртвымі іграў жалобу бор,
Жывых у бітву клікала трывога.

І людзі йшлі — зямлі маёй героі,—
Устаўшы над жалезам і агнём.
І паслужыла баявая зброя
Нянавісці народнай гэтым днём.

. . . . . . . . . . . . .

Я ўзяў у рукі пераможцаў зброю
І стаў на варце заўтрашняга дня,
Бо ўся зямля — былое поле бою
І ў свеце — франтавая цішыня.

## ВЯСЁЛКА Ў ГАРАХ

Ля ціхага прыморскага пасёлка
Уранку бура шумная прайшла.
І сціхла за гарамі. І вясёлка
Усю зямлю сабою абняла.

Схаваўся вецер у прыціхлых кронах,
І я пачуў, як коціцца раса
На дзікі мох з арэшнікаў зялёных,
Як гнецца нізка тонкая лаза.

Так ярка неба майскае сінела,
Нібыта хмары не было зусім,
Ў ім калыханка ціхая звінела,
Любімы зрок свяціўся ціха ў ім.

І я хацеў узняцца над гарамі,
Высокаю вясёлкаю заззяць,
Усю зямлю юнацкімі рукамі
Пяшчотна, па-сыноўняму абняць.

І з вышыні крутога перавала
Убачыць край, дзе нарадзіўся я.
Дзе калыханкі маці мне спявала
І дзе жыла любімая мая.

## НОЧЫ НА ГРАНІЦЫ

Дзесьці далёка-далёка
моўкнуць удары грома,
Цемру начы асенняй
крышыць пражэктар клінком.
Ў хмарнае неба,
падняўшыся з аэрадрома,

Кружыць, гудзе самалёт
      над партавым гарадком.

Спіць гарадок.
      Спяць караблі на прычалах.
А бартавыя гарматы
      наведзены ў цемень начы,
З вернай вінтоўкай сваёю
      стаю я на скалах,
Варту начную
      граніцы сваёй несучы.

Спіце, людзі, спакойна.
      Я сон ваш глыбокі
Зберагу ад трывогі
      ў халоднай начной цішыні.
Мая любая маці!
      Я чую твой голас далёкі,
Бачу светлы твой вобраз
      з горнай сваёй вышыні.

Думы мкнуцца мае
      да бацькоўскае хаты...
Я не хутка прыйду
      да парога твайго.
Але ты не сумуй
      і любога салдата
Да стала запрасі,
      быццам роднага сына свайго.

## СТАЛАСЦЬ

Зязюлі
Змоўклі ў залатых дубровах,
Сады ў дрымоце ранішняй маўчаць.
Напевы колішніх маіх сяброваў
З-за берага далёкага гучаць.

Старых дубоў шырокія галіны
На вокны кінулі спакойны цень.
З лугоў муражных чую звон пчаліны
І гул касьбы, якім пачаўся дзень.

Я пакідаю родныя мясціны,
Зноў у дарогу ехаць трэба мне.
Заўважыць маці раннія маршчыны
І ўжо аб іх украдкай уздыхне.

Спакой і мір бацькоўскаму парогу!
Хай вольна ў небе кружаць галубы
І, кожнага праводзячы ў дарогу,
Шырокім веццем шалясцяць дубы.

## САЛДАЦКІ ТАНЕЦ

Хто сказаў, што нашы ногі
Прытаміліся з дарогі?
Выйшлі ўдвух
На гладкі круг —
Русыя,
Бязвусыя.

Гарманіст — салдат бывалы —
Па басах правёў удала.
Палілася,
Панясласа
Ротная
Паходная.

Што ж, размяцца дык размяцца —
Хлопцы рады пастарацца:
Дробна чэшуць,
Сэрца цешуць
Ладныя
Ды статныя.

А гармонь, гармонь іграе,
Аж да сэрца разбірае —
І паўроты
Топча боты,
Спелецца
Мяцеліцай.

І глядзяць спакойна горы —
На пастах стаяць дазоры,

Верна служыць,
Шчыра дружыць
Брацкая
Салдацкая
Сям'я.

* * *

Жыццё нашы словы праверыць,
Ці шчырая сказана праўда?
Калі ў іх сягоння паверацць —
Паверацць у іх і заўтра.

# «НА ГРЭБНЯХ ХВАЛЬ»

(1959 г.)



## ХЛЕБ-СОЛЬ

На ручніках, расшытых пеўнямі,
Хлеб-соль падносім для гасцей,
Вядзём за стол, каўшамі пеннымі
Частуем брагай пагусцей.

І не хаваем — дзе падзенешся? —
Сваіх пачэсных мазалёў.
А трэба — крошкаю падзелішся:
Лепш сто сяброў, чым сто рублёў.

Наш дом з адкрытымі варотамі
На скрыжаванні ўсіх дарог.
Але з нявыцертымі ботамі
Не запрашаем на парог.

А тых, хто з каменем за пазухай
Збіраўся сесці за наш стол
(Маўляў, пабалюю раз няхай),—
І сёння корміць цвёрды дол.

Рукамі, ад спякоты чорнымі,
Што выціраць не любяць слёз,

Мы перамолвалі, як жорнамі,
Не раз, не два свой горкі лёс.

Але з пакорнымі далонямі
Мы не хадзілі на паклон,
Калі усходамі зялёнымі
Ад хцівых рук наш гінуў плён.

Спіной не гнуліся жабрацкаю...
І хоць шануем свой мазоль —
Мы дзелім хлеб рукою брацкаю,
І любяць нас,
і ў гэтым — соль!

## СЦЯГ БРЭСЦКАЙ КРЭПАСЦІ

Не раз,
Не другі
І не соты
Прыйшлося атаку адбіць...
Ужо як пчаліныя соты
Ўсе сцены,
а крэпасць — стаіць...
Ну, хто там, ну, хто там застаўся?
Разбіты дашчэнту фарты
І — дзоты...
А сцяг не хістаўся,
Скрозь дым прарываўся густы.
Ад кулі ўпадзе сцяганосец
Ці дрэўка асколкам ссячэ —
Нябачныя рукі узносяць
Штандар і яшчэ,
і яшчэ.
Ды новыя раныірдзелі...
Цямней ён рабіўся,
Цяжэй.
Штоміг сцяганосцы радзелі,
І сцяг
апускаўся
ніжэй...
Байцы ж пры сваіх кулямётах,

І кожны іх стрэл —
не пусты.
Істужкі салдацкіх абмотак
Пакроены ўсе на бінты.
Апошнюю кроплю з баклагі
Не п'юць,
Хоць сасмяглі зусім,
Каб толькі не змоўкнуў ад смагі,
Пажыў,
Паслужыў
Ім
«Максім».
І сіл не хапае абцерці
Ад пораху губы,
Але
Ніхто з іх не можа памерці,
Пакуль ёсць патрон у ствале.
А дзесьці плыве над лясамі
Хмурынка...
Звярнула б сюды!
Патроны ўзрываюцца самі
Ў ствале —
кулямёт без вады...
А дзесьці вясёлыя птушкі
Пяюць на зялёнай вярбе...
Даўно апусцелі істужкі,
Патрона няма —
для сябе.
Апошні упаў абаронца
Грудзьмі на лафет
і — замоўк...
Здалося,
Хіснулася сонца,
Калі сцяга алага шоўк
Прыкрыў сваім крыллем салдата,
Ад кожуха ўспыхнуў агнём
І ў неба памкнуў...
Супастаты
Зляталіся ўжо груганнём.
Ды сцяг,
Што хацелі фашысты
Тут ботам тупым растаптаць,
У небе шугаў, прамяністы,
Паспеўшы ўвесь полымем стаць,

Злякнуў ён варожую сілу,
Той вогненны сцяг баявы:
Палотнішча —
Шыр небасхілу,
А дрэўка —
Да самай Масквы!
Ён горда лунаў,
нескароны,
Пад «юнкерсаў» чорных выццё,
Над тымі,
хто ў бітве патроны
Цаніў даражэй,
чым жыццё.

## ЦЕНЬ НА СЦЯНЕ

Праходзіць будуць леты, зімы,
Ды не забыць да смерці мне
У абломках страшных Хірасімы —
Цень на сцяне.

Цень на сцяне...
Свае галіны
Чаромха млосна зварухне,
І раскалыша звон пчаліны —
Цень на сцяне.

Апоўнач з воблакаў туманных
Цікаўны месяц зазірне,
Ля хаты ўбачыць закаханых —
Цень на сцяне.

Той цень, што ў час спякоты пыльнай
Нас прахалодай ахіне.
А гэты стаў плітой магільнай —
Цень на сцяне.

Нябёсы сонца распагодзіць,
Сады бушуюць па вясне,
Але ніколі не сыходзіць —
Цень на сцяне.

След чалавека, што бяспечна
На свет глядзеў, бы ў ціхім сне,
І спален быў бесчалавечна,—
Цень на сцяне.

Нямою скаргаю бясконца
Ён гнеўна шле праклён вайне.
Не змые дождж, не спаліць сонца
Цень на сцяне.

Пад сілу нам, людзей мільёнам,
Сказаць вайне праклятай: «Не!»
Спіной забойцаў мы заслонім
Цень на сцяне!

* * *

Гімнасцёрка пабеліцца потам салёным,
Губы высушыць горкая смага...
Тады
Гэтак хочацца выпіць крынічнай вады,
На хвіліну прылегчы у лузе зялёным,

Скінуць потную скатку і пыльную каску,
Бесклапотна ў траве паляжаць дагары
І паслухаць, як звоніць жаўрук угары
І шукае пчала меданосную краску.

Горы ў сіняе неба узносяць вяршыні,
А над імі застыла лёгкіх хмарак града.
Аб камені грукоча ў цясніне вада,
Пераззвон вострых кос раздаецца ў даліне.

Хоць стаміўся — ідзеш са сваёю калонай,
І дарога кладзецца ў нязведаны свет.
А што цяжка бывае — духам падаць не след:
Крочыць з намі вясна ў гімнасцёрцы зялёнай.

## ХАЛОДНА Ў ГАРАХ

Халодна ў гарах.
Мігціць адзінока касцёр на прывале
(Мы толькі што рукі над ім сагравалі),
І вецер, што сляпа блукае кустамі,
На вогнішча сыпле сухімі лістамі.

Халодна ў гарах.
Глядзіш, пад шынелі палёгшы па двое,
На неба бяздоннае над галавою.
І горнешся к другу бліжэй, каб сагрэцца,
Аж чутна, як сэрца таварыша б'ецца.

Халодна ў гарах.
А месяц з-за хмаркі выглядвае ўпотай
Забытай падкоўкай з салдацкага бота.
Высока Шлях Млечны прасцёрся над намі —
Як пыл, у паходзе узняты байцамі.

* * *

Ставок вады, ставок вады
Раскрыў акно у падзямелле.
І, асцярожныя, сюды
Заглядваць воблакі умелі.

Ледзь дакрануўшыся жарствы —
Пацiху, каб не паслізнуцца,—
Плылі павольна да травы,
Што ў хвалі марыць акунуцца.

Туды, пад карані ракіт,
Што над магілай шалясцелі,
Нябёсаў чэрвеньскіх блакіт
Перанясці яны хацелі.

Там спіць салдат, які не раз
Сачыў кірунак іх палётаў,
Хоць воблакаў было ў той час
На небе менш, чым самалётаў.

Салдат за неба вёў тут бой...
Яму ж зямлёй закрылі вочы.
Ды і ў магіле над сабой
Ён адчуваць нябёсы хоча.

І, асцярожныя, туды
Штодня плывуць цяпер аблокі,
Каб не зямля — блакіт густы
Бярог салдата сон глыбокі.

* * *

Я познім вечарам дамоў прыехаў,
Стаміўся конь — ледзь ставіў капыты.
І я ў табун павёў яго — туды,
Дзе сыпле восень спелы град арэхаў.

Гай клікаў мяне жоўтымі лістамі
І шолахам прадрогшага галля,
Але пахаладзеўшая зямля
Маўкліва слалася пад капытамі.

Нячутна ноч ішла з усіх бакоў,
І неба, як шкарлупіна арэха,
Ганяла ціха стомленае рэха,
Што глуха вылятала з-пад падкоў.

## ПРЫГНУЛА ІНЕЕМ БЯРОЗУ

Прыгнула інеем бярозу,
Галлё настылае звініць.
Набухлі дзверы ад марозу,
І мне іх цяжка адчыніць.

Рукой кранеш і — недарэчы
Аб клямку апячэш далонь,
А ты снуешся каля печы:
Мігціць за шыбамі агонь.

Іграе водбліск ружаваты
На тонкім шкле, ва ўсіх кутках,

Нібы румянец вінаваты
На маладых тваіх шчаках.

А помніш?..
Пад бярозай сталі,
Адным накрыўшыся плашчом,
Калі лісты зашчабяталі,
Як вераб'і перад дажджом.

І ты шаптала з верай шчырай
Прад блізкім сіверам зімы:
— Як вернецца вясновы вырай,—
З табою разам будзем мы.

А сёння шыбаю марознай
Адгарадзілася адна...
Прабач — па звычцы ноччу позняй
Я ля твайго прайшоў акна.

Забуду след да гэтай хаты,
Хоць, можа, ўспомніцца не раз,
Нібы румянец вінаваты,
Святло з акна у позні час.

* * *

Калі імчуся на экспрэсе,
Чамусь карціць заўсёды мне
Сысці на полі або ў лесе,
Што за вагонам прамільгне.

Як быццам не зусім шчаслівы
Без той мясціны буду я,
Дзе толькі чутны пералівы
У сіўцах асцістых ручая.

А сонца едзе на падножцы,
Гарэзна бліскае ў акно,
І раптам — скок, і па дарожцы
У луг пакацілася яно.

І можа цешыцца ў ахвоту:
Каму спякоту, каму цень,

Каму рачную прахалоду
Дарыць у доўгі летні дзень.

Зямля па шчырасці аддорыць
За шчодрасць жыхара нябёс:
Зірні, як промню ліст уторыць
Суладнай музыкаю рос!

І мне б дала зямля нямала,
Каб па любой з яе дарог,
Што для мяне яна паслала,
Прайсці у час патрэбны мог.

* * *

Каму з нас радасць невядома,
Калі, прыспешваючы крок,
Дзяўчына пройдзе каля дома,
Нібы світальны вецярок.

Зірнеш на косы ільняныя —
Адвага траціцца твая,
І сэрца ёкне і заные,
Бы ў золкай плыні ручая.

У маладзёжным карагодзе,
Дзе песні, музыка, вянкі,
Ты на яе пры ўсім народзе
Глядзіш нясмела ўпатайкі.

Яшчэ яна не заўважае
Тваёй затоенай журбы,
Смяецца з некім, бы чужая,
Пад ціхай засенню вярбы.

І хоць адзін ідзеш дадому
Пад цёплым веццем вішняка —
Пакуль небачнага нікому
Ты адчуваеш дружбака.

* * *

Квадрат аконны на падлозе
Кладзецца чорным пераплётам,
І месяц, стомлены ў дарозе,
Спыніўся здзіўлена над плотам.

Да тых не змогшы дастуніцца,
Што ўжо заснуць даўно паспелі,
Пайшоў шукаць, каму не спіцца
Такою ноччу у пасцелі.

Так на геолагаў палатку
Набрыў ён, дзе іграў гармонік.
І сам пусціўся б упрысядку,
Каб не такі густы сасоннік.

А над казахскай цаліною
Ішоў павольна ў небе чыстым,
Каб перад зменаю начною
Хутчэй сабрацца трактарыстам.

І ля казацкае станіцы,
Калі ўжо бралася на ранне,
Дзяўчыне даў ён завушніцы,
Каб не спяшала са спаткання.

## МЛЫНАР

Крапівой і буйным хмелем
    Зарастаюць берагі,
А мы мелем, мелем, мелем —
    На вяселле пірагі.

Уступіць чаргу тут просяць
    Друг у друга жаніхі
І наверх, як цацкі, носяць
    З залатым зярном мяхі.

Не паспееш і паснедаць —
    Пачынае млын грымець.

Хлопцы, меру ж трэба ведаць.
Да другіх павагу мець!

Ці не з гэтай жа прычыны,
Што таўкуся ля вады,
Я застаўся без дзяўчыны —
Сівы з ног да барады.

Мала вам, што без абеда
Я таўкуся з дня на дзень,—
Вы з мяне зрабілі дзеда,
Хоць ідзі на бюлетэнь.

У мяне ж даўно ў прыкмеце:
Кожны дзень, прайшоўшы мель,
Каля млына на дасвецці
Дзеўчына збірае хмель.

Праўда, я нецярпліва
Не распытваў у яе,
Для каго рыхтуюць піва,
Што за свята настае.

Толькі трэба паспяшацца
Каравай прыдумаць свой,
Каб, як кажуць, не застацца
Са старою крапівой.

## МАЛЕНСТВА

Там, дзе бегаў у траве па пояс,
Там, дзе сокам цешыўся бяроз,
Мяне хутка дзён дзіцячых поезд
Весела і радасна прапёс.

Я назад не азіраўся з сумам,
Не адводзіў з далечы вачэй,
Аддаваўся нецярплівым думам,
Каб дарасласць пераняць хутчэй.

А цяпер, бы праз туман бялёсы,
Ідучы ў бацькоўскі край здалёк,

Як убачу белыя бярозы
І пачую, што струменіць сок,—

Мне здаецца, ў тыя дні вярнуцца
Можна — пажадай таго душа,—
Толькі трэба к латаку нагнуцца
Ды напіцца соку з гладыша.

* * *

Птушыныя гнёзды даўно апусцелі —
Расправілі крылы свае птушаняты.
Апоўначы хлопчык прачнецца ў пасцелі —
Не церпіцца ў школу пайсці.

А ля хаты
Калышацца шапкай счарнелай сланечнік,
Сад зябка ахутаўся воблакам белым.
І месяц, падняўшыся з вербаў надрэчных,
Здаецца раскроеным яблыкам спелым.

Бярозавы ліст, да зямлі прыпляскаеы,
Травінка нябачная ціха прабіла.
Дразды атакоўваюць шумна парканы,
Дзе ў алых каралях смяецца рабіна.

Ля звонкага зруба, што бачны далёка,
На жоўтых бярвеннях мужчыны паселі —
Будуецца дом.
Балбатуха сарока
Разнесла ўжо вестку аб хуткім вяселлі.

І кожны, хто крыллі адчуў за плячамі,
Нястомна імкнецца ў прастор невядомы,
Як вырай, які пралятае ў маўчанні
Над мокрай страхою бацькоўскага дома.

І колькі спатканняў і радасцей новых
Чакае таго за мяжою парога,
Каго пад гамонку дажджоў вераснёвых
Імжою абмытая вабіць дарога.

* * *

О, каб я мог у час вячэры,
Як дзень знікае за парканам,
Ва ўсе дамы, ва ўсе кватэры
Зайсці з візітам нечаканым!

Я б паглядзеў, ці многа сонца
Людзям да заўтра засталося,
Ці толькі промні, што бясконца
Нагамі топчуць на падлозе;

Ці першы раз сышліся рукі,
Калі дзялілі лусту хлеба,
І ці не цень дачаснай скрухі
Замгліў смугою яснасць неба;

Ці хопіць тут цяпла такога,
Каб не было далёкім ранне,
Ці не ад холаду людскога
І месяц гнецца ў рог баранні?

Я б не заплюшчыў свае вочы,
Калі б халодны змрок убачыў,
І на парозе сіняй ночы
Дарогу б сонцу перайначыў.

Я б загадаў яму вярнуцца
Туды, дзе дзень лажыцца ценем,
Каб новай раніцай прачнуцца
Маглі ўсе з сонечным праменнем!

* * *

Страшэнны ўдар малатабойца,
Здаецца, падаў мне на плечы.
Каваль смяяўся: — Ты не бойся,
Грымім, каб вёўся хлеб у печы.

Дзядзькі з агнём не жартавалі:
Трасла кавадла ліхаманка,

Калі яны плугі кавалі
З падбітага чужога танка.

І вось над лемехам гарачым,
Як над буханкай, дым віецца...

Відаць, мы многа ў свеце значым,
Калі нам цяжка хлеб даецца.

1958

## ЯЛОВЫЯ ЛАПКІ

Капяжоў гаманлівая сетка
Зранку сонца злавіла, як рыбу,—
І яно там трапеча...
                    Суседка
Выйшла ў кофце адной на сялібу.

Людзі кажуць:
                    — Вясна крадзе вочы.
Можа, праўда: я ледзь азірнуўся
І, пагляд пераняўшы дзявочы,
Па калена ў вадзе апынуўся.

І куды я спяшаю без шапкі,
Ажно ветрам напята кашуля?
Прама ў лес па яловыя лапкі —
Мые хату прад святам матуля.

Засцялю імі ўсе я дарожкі,
Пакладу дыванам ля парогу,
Каб свае не змачыла ты ножкі,
Калі ступіш з двара на падлогу.

Галаву кружыць водар яловы,
Лес разбуджаны голле гайдае.
Ах, напэўна, дарэмныя словы,
Што вясна маладых абкрадае.

Зводдаль светла ўсміхаецца хата,
І, расхрыстаны, юны, без шапкі,
У прадчуванні вялікага свята
Я прынюшу яловыя лапкі.

* * *

Няхай паслужыць мне здароўе,
Як пілігрыму кій дарожны,—
Пайду пяшком у Прыдняпроўе
І завітаю ў луг мурожны.

А там трава — касцу па плечы,
А там раса — буйней гароху,
А там, як цёплы прысак з печы,
Прыпудрыў лёгкі пыл дарогу.

Там лозы ніцыя над рэчкай,
Зямля прапахла медуніцай,
І конь мой з мокраю вуздэчкай
Пасецца ў лузе над крыніцай.

Мой конь, ты добра адгуляўся,
Пакуль я ездзіў на машыне,
Мой конь, ты добра назбіраўся
Дарожнай белай канюшыны.

Дык паслужы мне па-былому,
Пакуль не лёг на поле вечар,
Каб па прастору лугавому
Не мог угнацца следам вецер.

І хоць дарога і цяжкая,
Ты не павінен прыпыніцца,
Бо хтось даўно мяне чакае,
Не зачыніўшы акяніцы.

* * *

Звініць, звініць у лузе скошаным
Дзявочы спеў і — замірае.
А смутак чмелем растрывожаным
Яшчэ ў грудзях маіх іграе.

Скасілі луг, і зараз далечы
Нібы раскрытыя вароты.

А мне, пракосы пакідаючы,
Ісці дадому неахвота.

Згубіўся недзе між пракосамі
Нячутны, лёгкі след дзявочы,
Дзе йшла яна нагамі босымі,
Мне зазірнуўшы шчыра ў вочы.

І сум, як чмель той растрывожаны,
Цяпер звініць у сэрцы дзесьці:
Сягоння кветкі тыя скошаны,
Што ёй саромеўся паднесці.

## ВЯСЕЛЛЕ

Нізка пад ветрам гнуцца жыты,
Гнуцца жыты.
Шлях брукаваны б'юць капыты,
Б'юць капыты.

Чуцен здалёку бразгат званкоў,
Бразгат званкоў.
Коціцца воблака — пыл ад падкоў,
Пыл ад падкоў.

Хлопцу трывогі нельга суняць,
Нельга суняць:
Едзе вяселле — дугі звіняць,
Дугі звіняць.

Шырыцца воблака, бліжай ідзе,
Бліжай ідзе.
Мост пад калёсамі бубнам гудзе,
Бубнам гудзе.

Міг — і віхор (гэтак блізка да слёз,
Блізка да слёз)
Любую дзеўчыну міма пранёс,
Міма пранёс.

Свет пацямнеў — пылам твар абдало,
Твар абдало,

Быццам за воблака сонца зайшло,
Сонца зайшло.

Болем у сэрцы, дзе сум не прайшоў,
Сум не прайшоў,
Ўсё аддаецца стук капытоў,
Стук капытоў.

## МАКАЎ ЦВЕТ

Я на градах мак збірала,
Ці паспеў — пакаштавала.
Спелы мак —
Самы смак.
Раптам — шась! — адкуль узяўся? —
Сын суседкі паказаўся.
— Што збіраеш рана мак? —
Запытаў мяне юнак.
Ой, сусед, ой, сусед!
Залівае мае шчокі
Макаў цвет, чырвоны цвет.

З ім па вуліцы вясковай
Я ішла ў сукенцы новай.
І якраз
У гэты час
Каля клуба без прычыны
Прыгаварвалі жанчыны:
— Камары таўкуць свой мак,
Быць надвор'ю — добры знак.
Ой, сусед, ой, сусед!
Выдае мяне з табою
Макаў цвет, чырвоны цвет.

Сонца знікла ў лес зялёны.
Быццам макаў цвет чырвоны.
Ды ніяк
Не змоўкне мак.
У начной цішы нясмелай
Шалясціць галоўкай спелай.

Я ж паднесці да шчакі
Не магу сваёй рукі.
Ой, сусед, ой, сусед!
        У грудзях маіх не вяне
Макаў цвет, чырвоны цвет.

## ХЛЕБ НА КЛЯНОВЫХ ЛІСТАХ

Сялянскі звычай — з ураджаяў новых
Хлеб выпякаюць на лістах кляновых.
А з печы бохан вымеш — ён ружовы,
Як жнівеньскага сонца дыск барвовы,
Як сонца, ўзнятае з зямлі падзольнай,
Што захавала след рукі мазольнай.
Спадыспаду ж, як працы ўсёй аздоба,
Кляновы ліст — далонню хлебароба.

## НА ГРЭБНЯХ ХВАЛЬ

Страмніна быстрая ракі
Мяне знянацку абдымае.
Адзін,
Другі узмах рукі —
І хваля пругка узнімае.

І вось плыву, плыву,
Грудзьмі
Напор адчуўшы стрэчнай плыні,
І паўстаюць перад вачмі
Раней нязнаныя глыбіні.

Глухі парог, як бюракрат,
Загарадзіў сабой дарогу
І выдумцы няхітрай рад,
Што многа шуму, пены многа.

Як абывацелі, малькі
Хаваюцца пад вязкай цінай.
Ды плынь магутная ракі
Мяне узносіць, як плацінай.

З крамністых гор бяжыць рака,
І дно яе не будзе тванным.
Хай пройдзе паўмацерыка —
Сальецца чыстай з акіянам.

І я спяшаюся туды,
Дзе сілу ёй даюць аблокі,
Да паднябеснай той грады,
Адкуль б'юць чыстыя вытокі.

## НА БЕРАЗЕ БАЙКАЛА

Даўно мяне клікала мара сюды.
І вось, ля падножжа скалістай грады,
Стаю, заглядзеўшыся ўдалеч, адзін,
І студзіць гарачы мой твар баргузін *.

З уловам багатым, збаўляючы ход,
Да берага шустры ідзе параход.
А неба блакітнае палатно,
Здаецца, паслана на самае дно.

Дзявочая песня плыве ў цішыні
Пра шчасце кахання, пра светлыя дні.
Я слухаю спеў — і ўявіць не магу,
Што калісь, бадзяга, ішоў праз тайгу.

І толькі як вечар на хвалі ўпадзе
І месяц рассыплецца дробна ў вадзе,—
Убачыш на дне, ля крутых берагоў,
Разбітыя звенні былых ланцугоў.

---

* Баргузін — байкальскі вецер.

З кнігі

## «ШЧОДРАСЦЬ»

(1962 г.)



### АПТЫМІСТЫЧНАЯ КАНТАТА

Сёння маўчаць не магу я —
будзе гнясці адзінота:
Шчэбетам грымну птушыным,
садам густым прашумлю!
І, нарастаючы рокатна,
зменіцца нотаю нота,
Славячы нашу сучаснасць,
славячы нашу зямлю.
Бачыш —
вянкі карагодаў?
Бачыш —
як людзі адзеты?
Далеч калышацца і —
ад шаўкоў шалясціць.
Што —
не пазнаеш дзяўчыны?
Крыкні:
— Любімая, дзе ты?!
І —
галубінае слова
мігам сюды даляціць.
Ёсць мая іскарка ў сонцы,
што ўсенародна здабыта

Дзецям,
унукам
і праўнукам,—
гора патомкаў міне!
Ведаю —
будзе жыццё маё
ў позірках іхніх адбіта,
Ведаю —
іхняй усмешкай
быць неўміручым і мне.
Хіба калі перад шлюбам
гэтак нявест прыбіралі,
Як прыбіралі зямлю мы —
шчодрыя ўсе як адзін?
З зор электрычных
мы ёй
прымяралі
каралі,
Русыя косы расчэсвалі
грэбнямі новых плацін.
Цешыцца ўжо маладая
шлейфам касмічнай ракеты,
Перад вачамі струменіцца
вечнасці кісяя.
І заківалі галовамі —
глянь ты! —
суседкі-планеты.
Ведама, зайздрасць праймае —
будзе шчаслівай сям'я.
Сёння зямля-прыгажуня
з юным абручана лёсам!
Чуеш —
даносяцца бомы!
Гэй там, сталы накрывай!
Хоць і запозняцца людзі —
мы на бяседу запросім.
Хто там у дзверы не пройдзе?
Го! З цаліны каравай!
Хай жа ён свеціцца ясна
перад красой густабровай,
Хай жа ён вучыць бясслоўна
гордую працу любіць.
Будзе ляжаць перад намі —
быць маладосці здаровай.

Будзе ляжаць перад намі —
дзецям здаровымі быць!
Будучнасць нашай планеты!
Сёння яе распазнаў ты:
Гэта —
штыкі іржавеюць,
гэта — буяюць палі,
Гэта —
варушацца руды,
гэта —
сыны-касманаўты
У міжпланетныя высі
дзёрзка вядуць караблі.
Гэта —
паўсюль чалавечнасці ўзлёт!
ЧАЛАВЕЦТВА!
Шлях мы табе падказалі
і падштурхнулі:
— Ідзі!
Братазабойства сляпога,
гораснага калецтва,
Ярасці неўтаймаванай,
смерці —
не дапусці!
Сведчу істотай усёю:
наша —
свяшчэнная справа.
І калі бесклапотных
зноў папярэджваю я,
Значыць, мяне стопрацэнтна
упаўнаважвае права —
ЛЕНІНА ВЕЧНАЯ СЛАВА —
НЕПЕРАМОЖНАСЦЬ МАЯ!

## Я ВЫРАС ПАД ГАРМАТНЫМІ СТВАЛАМІ

Я вырас пад гарматнымі стваламі,
Я мераў час секундай, а не днём,
Я вызначаў свой рост не пад сталамі —
Пад расчахлёнай пашчай, пад агнём.

У сорак першым, на загоне мёртвым,
Гарматы білі ворага ва ўпор,
І я падрос, калі ў сорак чацвёртым
Яны агонь пераняслі за бор.

Туды, туды, дзе цень адстаў ад ката —
Ён гэтак бег назад, што і пасля
Не мог апомніцца. Як ствол пасля адката,
Наперад падавалася зямля.

І з ёй імгнення праплылі пад небам
Машыны, танкі, вастрыі штыкоў
І пекары, што першым чыстым хлебам
Пачаставалі бледных хлапчукоў.

І цішыня, як сцятае рыданне,
Вярнулася да вёсак палявых,
Прынёсшы неадступнае гаданне:
Ці ўсім з дарог вярнуцца франтавых?

Мы не маглі даверыць ночы сіняй,
Уздрыгвалі, як хруснуць дзе дубцы.
І з «юнкерсаў» падбітых алюміній
Ламалі для дзяўчат на грабянцы.

Мы прызнаваліся сваім любімым
І службу ўжо дарослую няслі.
Стаў новым свет, а губы пахлі дымам,
Бо мы з снарадных конавак пілі.

. . . . . . . . . . .

Нясцерпнай стратай сэрца засмучона.
Былое ўспамінаецца часцей.
Калі ж гляджу на радасных дзяцей,—
Я не вярну з мінулага нічога!

* * *

У перакованыя ямбы
Дыхне мартэнаў новых жар,
Скалістыя ўздыбяцца дамбы,
Падпёршы грэбнем вісажар.

Высокім токам хлыне сіла,
Якую бачаць сёння ўсе,
Што нас да Месяца насіла,
Што нас да Марса данясе.

Бяскрыласць стане нецярпімай,
І будзе кожнаму з рукі
Паднесці для сваёй любімай
Букет маланак трапяткі.

І сонца спыніцца ў зеніце,
Вачамі гэтак павядзе,
Што і на стоптаным граніце
Мак пурпуровы зацвіце.

Ад Сахаліна да Каўказа,
Ад дзвінскіх хваль да Кулунды
Ярчэй якуцкага алмаза
Ўсе людзі зробяцца тады.

І будзе ў кожнай іхняй грані
Зіхцець нязнаных яблынь цвет
І зменшаны, як на экране,
Да ног пакладзены сусвет.

* * *

Румянае, здаровых поўна сіл,
Ад шчодрасці шчаслівае бясконца,
На вымыты дажджамі небасхіл
Выкатваецца ранішняе сонца.

Ты сустракаеш непачаты дзень,
Плячом падпёршы маладое неба,
І далягляды твой злучае цень,
Як шлях, што сёння табе змераць трэба.

На край зямлі пралёг ён напрасткі,
Рассеяўшы сярэбраныя пыркі,
І нават лёгкі ўзмах тваёй рукі
Цяпер па ўзмаху падобны багатырскі.

Сонцападобных сонца пазнае,
На свой аршын людскія сілы мерыць
І па сабе заданні нам дае —
Спрадвеку
сонца ў чалавека верыць!

* * *

Мой даўні род не ведаў кволых:
Яшчэ з мінуўшчыны-начы
Надзею ў прышласць дзён-вясёлак
Умелі продкі берагчы.

Нібы маланкі шаравыя,
Што часта ахалі ў галлі,
Яны скрозь нетры баравыя
Сваю нястрымнасць праняслі.

Яны жадалі долі новай,
Не стараніліся бяды,
І роскат праўды перуновай
Застаўся ў слове назаўжды.

Я рад, што маці надзяліла
Грымотнай моваю — яна
Мне губы смагай апаліла,
Душу ўзварушыла да дна.

Нядарма рукі абдымалі
Бязмежнасць спадчыннай зямлі,
Каб крок, паўтораны грамамі,
Далёка ветры разняслі.

* * *

Прыдумаў я і салаўёў, і бэз,
Хоць не было ні салаўёў, ні бэзу,
А сінім дымам засцілаўся лес,
І кулямёты стракаталі з лесу.
І вось замоўк пярэдні кулямёт,

Не скончыўшы сваёй высокай трэлі,
І пчолы, што лясны збіраюць мёд,
Над воінам у жальбе праляцелі.

І ў думках я вяртаюся туды,
Дзе пад сасной выносістай самотнай
Заснуў наш кулямётчык малады,
Не скончыўшы істужкі кулямётнай.
Тут над плячмі бярозак маладых
Дубы ўзнялі знявечаныя кроны,
Тут і дагэтуль сярод гільз пустых
Звіняць нерасстраляныя патроны.

* * *

Дзве ў дарозе каляіны —
      Злева, справа.
Па дарозе ты ідзеш,
      Побач — слава.

Як бы доўга ні ішоў
      Гэтаю дарогай,—
Знаю — вернешся дамоў
      Толькі з перамогай.

Дзве ў дарозе каляіны —
      Злева, справа.
Калі сам не прыйдзеш ты,—
      Прыйдзе слава.

## ВЕРБАВЫЯ СВІСТКІ

Заўважыш ледзьве, што ў вярбе
Вясенні бродзіць сок,
Галінку выбераш сабе
І зрэжаш на свісток.

Няхай у ім няхітры лад,
Мелодыя адна,

А хто пачуе — будзе рад,
Што на дварэ — вясна.

Ты ж не пакрыўдзішся зусім,
Як вырай прыляціць
І гай пад сонцам маладым
Ад песень затрымціць.

Ты сам іх станеш паўтараць
Без зайздрасці якой:
Няма — каб гукі ўсе сабраць —
Мелодыі такой.

І зноў вясноваю парой,
Калі забродзіць сок,
Галінку на вярбе старой
Ты зрэжаш на свісток.

І што з таго, сябры мае,
Што песня ў ім адна:
Ён першы вестку падае —
Вясна ідзе! *Вясна!*

* * *

Штодзённа аддаляецца ад нас
Міг развітання ці апошняй стрэчы,
І непрыкметна быстрацечны час
З сабою забірае вашы рэчы.

І зарастаюць муравой сляды,
Што дома вы пакінулі калісьці.
І вамі ўзгадаваныя сады
Каторы год адны раняюць лісце.

З кім роўны лёс дзялілі,
Дружбакі
Радзей імёны вашы называюць.
І ў дзень святочны жонкі і бацькі
Для вас пакінуць чарку забываюць.

І толькі ў сэрцы на глыбокім дне
Застаўся боль ад страты незваротнай,
Як жар пякучы.
І калі дыхне
У грудзі вецер скрухай безвыходнай,—

Ён разгараецца шырока зноў
Агнём,
Што вы патомству захавалі.
На нейкі міг мой край сваіх сыноў
Убачыць на высокім перавале.

І хоць ніколі ва ўрачысты час
Усіх імёнаў мы не пералічым,
Аблічча незабыўныя для нас
Цяпер адзіным паўстаюць аблiччам.

І галасы зліваюцца ў адзін
Магутны хор.
І мы ўжо верыць сталі,
Што толькі наш загінуў недзе сын,
Які стаіць цяпер на п'едэстале.

І ён для тых,
Што ў свет прыйдуць пасля,
Хто горкага не паспытае хлеба,
Бяссмертным застанецца,
Як зямля,
І чыстым,
Быццам бацькаўскае неба.

* * *

За сінімі вокнамі бэз зацвітае,
І ломяцца ў шыбы густыя лісты.
З-за рэчкі
Ў штабны кабінет залятае
Шчаслівая музыка, смех малады.

Палкоўнік глядзіць,
расхінаючы карту,

На рыскі блакітныя пройдзеных рэк,
А памяць чамусьці гаворыць упарта
Пра тую,
якой не пабачыць нівек.

Зялёныя,
Жоўтыя,
Сінія рыскі...
Ледзь толькі ў сэрцы ты іх ажыві —
Здалёку пачуецца ласкавы, блізкі,
Даверлівы голас юнацкай любві...

Рукой абапёршыся на падаконнік,
Стаіць задуменна суровы салдат.
Суровы?
А ўзяў бы у рукі гармонік,
І дрогнулі б сэрцы у многіх дзяўчат.

А чубам трахнуў бы,
развёў бы мяхамі,
Удала крануў бы басы і лады,
І змоўклі б усе салаўі над лугамі,
І квеценню белай сыпнулі б сады.

Ды ведае воін, што, ледзь дакраніся
Да звонкіх ладоў і пявучых басоў,
Ён крыкне сваёй маладосці:
— Вярніся
З-за росных лугоў і зялёных лясоў!

Ды трэба вярнуць і баі і паходы,
Смерць любай сваёй ад фашысцкай пятлі...
Рака аддзяліла яго назаўсёды
Ад тых,
што ў юнацтва нядаўна ўвайшлі.

Ён выйшаў на двор,
і гучней далятае
З-за блізкага берага смех маладых.
І ён у дзяжурнага строга пытае:
— Ці добра праверачы сёння пасты?

* * *

Я думаў: вярнуся парой лістападнай,
Калі рукавы закасаюць марозы,
Аб хлопцу служывым, аб выпраўцы статнай,
Аб нечым сакрэтным зашэпчуць бярозы.

Я думаў, што выбежыць нехта на ганак
І ахне шчасліва, вядро сваё ўроніць,
Бо колькі салдатаў — і столькі каханых,
І кожны салдат сваю радасць бароніць.

Я многае думаў, а выйшла другое:
За родным сталом прывітаў мяне жнівень.
А хлопцаў сушыла паветра сухое,
А хлопцаў абстукваў бязлітасны лівень.

Кастрычніцкі дождж у акно барабаніць,
Бяроза над клёнам абдымкі самкнула,
А погляд мой іншая далеч туманіць,
А пільнасць мая і цяпер не заснула.

* * *

Яшчэ ў рухавіках стаіўся гром,
Яшчэ пілот расправіў толькі плечы,
І вымыты дажджом аэрадром
Спакойна дрэмле ў ранішняй сінечы.

І вось, і вось — гайдаючы бетон,
Зямлю штурхнуўшы, у сярдзітым гудзе
Узвіўся рэактыўны — столькі тон! —
Ляціць, а тут — пахіствающца людзі.

Шырокім шлейфам — дыму паласа,
А сам далёка — з макавае зерне.
Ды ён не конь, каб папрасіць аўса:
Прыстане — на абочыну не зверне.

На сонцы бліснуў і прапаў з вачэй,
Ірвецца шлейфу стужка трапяткая,

Чыёсьці сэрца б'ецца гарачэй,
Калі высокі рокат замаўкае.

Нялёгка нам даецца вышыня —
Нябёсы маладушных не прымаюць,
Таму і помняць лётчыкі штодня
Пра рукі, што ў палёце іх трымаюць.

## СЕВАСТОПАЛЬ

Зніміце шапкі прад гэтым ветрам —
Тут кожны камень разбіты ўшчэнт!
На кожнай пядзі, на кожным метры
Збярэш асколкаў на манумент.

Ніхто не думаў пра п'едэсталы,
Ніхто на вечнасць не загадаў —
Кварталы складваліся на кварталы,
Пакуль сам горад плітою стаў.

Метал, што далі зямныя нетры,
Метал, ад юнай крыві руды,
Крактаў з нахрапістасцю ў паветры,
Жывых і мёртвых шукаў сляды.

Даўно гарэла агнём жалеза,
Даўно прыкурвалі ўжо ад штыка,
Даўно на месцы былога лесу
Не засталося ані лістка.

Якою славай герояў славіць,
Якой хвалою? — Была пара —
Здалося, бомбы зямлю расплавяць,
Зямлю расплавяць аж да ядра.

І калі сонца самлела ў дыме —
Яго таксама агонь дастаў,—
Тады над выбухамі густымі
Баец з гранатай на ўзводзе стаў.

На найвышэйшым стаў п'едэстале —
Свабоднай пядзі сваёй зямлі.

І ўсёю сілай агню і сталі
Яго фашысты ўжо не змаглі.

. . . . . . . . . . . .

Цяпер тут ціха. Адно лунаюць
Чародкі мірныя галубкоў.
Не знаю я і яны не знаюць,
Ці многа дрэмле тут землякоў.

У далях столькі святла-сінечы:
Дыхнуць баюся — страсеш расу.
І груз цяжэзны мне лёг на плечы.
Ці данясу ж я? Ці данясу?..

* * *

Зіма запрагла сваіх коней —
Сівых рысакоў табуны,
І пах сырамятных супоней
Шырока ўдыхаюць яны.

Даўно, уздыхаючы сыта,
Пра дальнія снілі шляхі,
А неба скрозь частае сіта
Снег сеяла на пірагі.

Над вёскамі дымкі віселі,
Нібыта сватоў ручнікі,
І ўжо на гулянкі-вяселлі
Склікалі радню дзецюкі.

Паўсюль рыхтаваліся сані,
Каб так праімчаць маладых,
Што вецер нястрымны адстане,
Ледзь-ледзь пераводзячы дых.

І вось, распускаючы грывы,
Ляцяць і ляцяць рысакі,
І наўзбач на снег зіхатлівы
З падкоў вылятаюць цвікі.

## ЖУРБА НЕДАЛЯЦЕЎШЫХ ЖУРАВОЎ

І на нябёсах слізкая дарога,
Калдобіны свае і ў сінявы.
Зірніце! — адстае ад хвастаавога
Аслабшы жораў. Мёртвы ці жывы?

Падбіла куля, ці самлелі крылы,
Ці напужаў размах далечыні?
Губляючы з няцвёрдым пер'ем сілы,
Ён падае ў чароты з вышыні.

Другім да пірамід данесці цені,
А тут, сярод балотных астравоў,
Чуваць у трысняговым шалясценні
Журба недаляцеўшых жураўоў.

## ГЕРОІ ЁСЦЬ — І ПЕСНЯ БУДЗЕ!

Я за сталом пазнаю рукі,
Што серп трымалі да здранцвення,
Што ў час азызлай завірухі
Грузілі коўзкае бярвенне.

Я лёгка распазнаю вочы —
Я іх адчую і аслепшы! —
Што з нашага стала ахвочы
Аблюбаваць кавалак лепшы.

Я ў доме рос, дзе насцеж дзверы,
А не сабака на прыколе.
Пара юнацкай чыстай веры,
Не пакідай мяне ніколі!

Я землякоў перабіраю,
І сэрца ёкне ў захапленні:
Яны за стол садзяцца з краю,
Паклаўшы рукі на калені.

А крок іх чутны ў дальніх далях
Накшталт грымотнага раската.
Але, прызнацца, пры медалях
Не бачыў іх я і на свята.

Сустрэнеш друга ці суседа,
Душа святлее: гэта ж — людзі!
Будзь дружнай, праца і бяседа,
Героі ёсць — і песня будзе!

* * *

Калі б не месяц, што ў акно зірнуў,
Калі б не шорхат ветру веснавога,
Я з клопатамі дробнымі б заснуў,
Не ўспомніўшы азерца лесавога.

Азерца акаймавана было
Плячыстым лесам і густой травою.
І столькі воблакаў тут праплыло
І пад нагамі і над галавою!

Тады ўсяго было ў мяне ўдвая —
Зямлі і неба.
Дык чаго здзіўляцца,
Што нецярпліва распранаўся я,
Каб з хмаркамі на хвалях пакуляцца.

Пасля збіраеш з хлопцамі суччо,
Каб шуганула полымя пад неба,
І конь, аб дрэва чэшучы плячо,
Ківае галавой, што так і трэба.

Цяпер адзін сланяюся ўначы,
Сціскаючы ядлоўцавую палку,
І думаю —
усё б нам берагчы,
Як на дажджы апошнюю запалку!

* * *

Садок вячэрні, садок ружовы
Густога ветру абдаў струмень.
Аб яблык шорхнуўшыся мядовы,
Звініць прамень.

Прамень? А можа, рупліва ўзятак
Дасюль збірала яшчэ пчала?
Пыл усклубіўшы, рыкае статак
У канцы сяла.

Навіслі хмары скрылямі мёду,
Туман разліўся, як малако.
Гусей чародку выводзіць з броду
Гусак-хвалько.

Адкрыты ў хатак смалістых дзверы,
Над свежым хлебам блішчаць нажы.
Пара спачынку, пара вячэры,
Пара цішы.

Выходзіць з кузні ў адзенні чорным
Каваль стамлёны і ля двара
Спыніўся ціха — шырокім горнам
Шуміць зара.

## АДПРАЎЛЕННЕ Ў ПАЛЕТ

Я
спалохаць баюся залётную птушку,
Што з наіўным даверам нясе хахалок,
Што за снег прыняла прасціну і падушку,
Не падумаўшы нават, ці ёсць тут сілок.

Шчабятуха здзіўлёна міргае павекам,
Але ў воку, што медным блішчыць абадком,
Я сябе не дарослым пазнаў чалавекам,
А маленькім
збянтэжаным хлапчуком.

Я даўно ёй зайздрошчу!
І крыллі Ікара
Нада мною зазыўна шумелі ўначы.
І калі за свавольства згушчалася кара,
Верыў я, што няўдачай мяне не змагчы.

Я ў нябёсы імкнуўся, і лёгкае пер'е
Колькі раз я бяздумна падставіў агню!
Ды аб гэтым зусім не шкадую цяпер я —
Я ў яе навучыўся любіць вышыню.

Ёй
стальнога кальца не надзену на шыю.
Не вазьму на ўспамін залатога пяра.
Хай нівек не дазнаюцца людзі чужыя,
Хто мяне акрыліў і ўзнадзеіў...
Пара!

У касмічную далеч рванецца ракета,
Я пакіну будзённасць сваю назусім.
Ну, а з птушкай як быць,
што шчабеча пра гэта,
Як раней:
— Па-ля-цім!..
Па-ля-цім!..
Па-ля-цім!..

Я адстаць не магу ад свайго каравана,
Вось сігнал адпраўлення. Радзее смуга.
І абдымкі мае — не звяно ланцуга,
Якім будзеш навек да мяне прыкавана.

* * *

Нас вада салёная трымае
Весялей, чым прэсная вада.
У абдымкі цесныя прымае
Паўнагрудных хваляў чарада.

Не прывыкшыя да хісткіх палуб,
Выціраюць хустачкаю лоб.

Ім і ванны маленькай хапала б,
І ў начоўках добра ім было б.

Сеў сабе і — люба-міла:
Распускай паскойныя пары.
І вясёлкі ім падорыць мыла
І — для суцяшэння — пузыры.

Ну, а мы нямала солі з'елі,
Плавалі парой і без руля.
Мы на ўласнай скуры зразумелі,
Што такое мора і зямля.

Любая! Ужо дымяцца трубы —
Мала мы бываем на зямлі.
Дык чаго хаваеш свае губы? —
І ў любві хоць раз перасалі.

* * *

Над сваёю стратаю дачаснай
Не адна ссівела галава.
А каму пажаліцца няшчаснай,
Як яна ні жонка, ні ўдава?

Матка па сынах сваіх галосіць,
Плача жонка па гаспадару.
А дзявочы смутак вецер носіць,
А дзявочы смутак не ў пару.

Не прышлюць ёй ліст з ваенкамата,
І ніхто не будзе спачуваць.
Без пары завяла рута-мята,
Без пары нявесце сумаваць.

І цяпер з сваім дзявочым горам
І хадзі адна, і спі адна
Ці да рання стой пад касагорам,
Дзе ўдваіх стаялі давідна.

Шчасце ад людзей сваё хавала,
І бясслоўна веру берагла,
І не менш за іншых пахавала,
Хоць сама салдаткай не была.

* * *

Штурхала хмара ў плечы: падбяжы!
Абмыю — не аддышашся да рання.
Гром вуркатаў у палявой імжы,
І дождж пабег наперад без старання.

Я наравісты быў тады дзяцюк:
Куды мне бегчы — гэтакае шула!
А за спіною кроплі — цюк ды цюк,
І вось — прыстала да плячэй кашуля.

Густая цемра падплыла да воч,
Маланка шумна далі асляпіла.
Я папрасіў начлегу — і на ноч
Дзяўчына мне свой ложак уступіла.

Сярдзіты вецер шкуматаў страху,
І капаў нудны дождж, як суцяшэнне.
Заснуў я. А назаўтра на шляху
Агледзеў дзве антонаўкі ў кішэні.

Не ведаю, што думала яна,
Але заўжды, як перуны бабахнуць,
Мне вёска незнаёмая відна
І — далячыні яблыкамі пахнуць...

## СПЁКА

У птушкі ў роце не было расінкі
За цэлы дзень — за цэлы летні дзень!
Ані лістом не зварухнуць асінкі,
І кожны промень быццам авадзень.

Здаецца, што завяла нават неба,
Пажоўкне і асыплецца блакіт.
Зямля як бохан зачарсцвелы хлеба,
І — засені не знойдзеш ля ракіт.

Цярусіцца самотна пазалота
Пад яблыні — сасмяглі ўсе сады.
І душна так, што цень ад самалёта
Спяшаецца дабегчы да вады.

Мост выгнуўся арэхаваю вудай,
Але нішто не зрушыць паплаўка,
Бо нерухомай пloткай белагрудай
У трыснягі забілася рака.

Гукнеш у даль, і — спатыкнецца голас,
Стаіўся недзе вецер трапяткі.
Саромеецца хлебароба колас,
Кранеш — ён адхінецца ад рукі.

Зямля, ці для таго ты ўсё расціла,
Каб прычакаць расчараваных жней?
Дарэмна, сонца, ты перасвяціла —
Свяціць і сонцу трэба разумней.

* * *

Белагрудыя воблакі, белагрудыя воблакі
За акном самалёта ўцякаюць назад,
Нагадаўшы сабой незабыўныя воблікі,
Нагадаўшы сабой затуманены сад.

Пад галінамі роснымі сцішышся некалі,
Пасмуглеўшай шчакой прыпадзеш да ствала.
А вакол цішыня — ці прайшлі б, ці праехалі,
А вакол цішыня — ні іскрынкі святла.

Вось такою парой у душы нешта будзіцца,
Вось такою парой толькі глупствы вярзеш.
Хоць трывога твая аніколі не збудзецца,
Ты яе дзіваком скрозь жыццё пранясеш.

Белагрудыя воблакі, белагрудыя воблакі
Праплывалі над садам, дажджы несучы,
Атуляючы ценем няўлоўныя воблікі,
Што прыйсці не паспелі да гэтай начы.

І былі тыя воблакі чыстымі гэткімі,
Што ў адчаі гатоў быў падаць ім руку,
Жартаваць і смяяцца, нібыта з суседкамі,
Што ганялі са мною гусей на раку.

А цяпер яны блізка. Ды, пэўна, халодныя,
Можа ў вочы лінуць асвяжальны струмень.
І нястомна працуюць вінты самалётныя,
Даганяючы зараз апошні прамень.

* * *

У складках гор застыла ўсмешка,
Пагарда сківіцы звядзе.
Глядзі, як здрадлівая сцежка
Дзяўчыну ўступкамі вядзе.

Ляціш — трымайся за праменні,
Гукнеш — пачуе толькі бог.
З сярдзітым грукатам камені,
Як ядры, коцяцца з-пад ног.

І ловіць страшны гул абвала
Застыўшых хваляў чарада.
І — вось дзяўчына горда стала
На горб скалістага хрыбта.

І на вяршыні перавала,
Дзе не ўтрымацца вецярку,
Пяшчотна сонца цалавала
Сваю бясстрашную дачку.

Прасторы ясныя сінелі,
Высока воблакі плылі,
І толькі горы пацямнелі —
Зноў засмяяцца не маглі.

* * *

Мы шанаваць не ўмеем вас,
Нявесты, мацеры і сёстры.
Сваёй халоднасцю не раз
Прыносім боль і роспач востры.

Ці не таму прывыклі вы
Сачыць з журбой за журавамі
І ад асенняй сінявы —
Цень сіняваты пад брывамі?

## ЛІВАДЗІЙСКІЯ ЧАЙКІ

Як майскі луг, цвіла вада
Ля берагоў Лівадзіі.
І хваль, і воблакаў града
Паміж сабой не ладзілі.

Галубкі-воблакі плылі,
І выгляд іхні вонкавы
Быў цветам бацькаўскай зямлі
У яе разліў рамонкавы.

Хваль разамлеўшых языкі
Уставалі, неадчэпныя.
Марскія чайцы з рукі
Лавілі крошкі хлебныя.

І сонца душны кураслеп
Свяціў з прастору шэрага.
Ды птушкі, ледзь канчаўся хлеб,
Ляцелі зноў да берага.

Прарочылі нам дождж і гром,
А самі заставаліся.
І ўспомніў я гасцінны дом,
Дзе мы з табой расталіся.

Ты не лавіла хлеб з рукі,
Мая галубка белая.

Ляцела ў буру напрасткі,
За мной ляцела, смелая.

Чаго там крыкам нелюдскім
Бяду прарочыш, чаіца?
Відаць, за берагам марскім
Нябёсы не канчаюцца.

* * *

Пярэднічак крухмальна-белы,
Кудзерцаў лёгкіх завіткі,
Наіўны погляд, хоць і смелы,
Узмах даверлівай рукі.

Куды ты, любая дзяўчынка?
Свой спорны крок спыні, пастой —
Не свята там, а вечарынка
Шумлівай моладзі пустой.

Вішнёвы вецер студзіць грудзі,
Пялёсткі кружаць галаву.
Не думай, быццам усе людзі
Здзіўляцца ўмеюць хараству.

Хоць шалясціць зазыўна вецце,
Твая трывога — не любоў.
Ты паглядзі, як многа ў свеце
І сінявы і галубоў.

Прыберажы свае абновы
Да свята лепшага вясны,
Каб заставаўся цвет ружовым
Ў тваіх вачах да сівізны.

* * *

Беражом мы гадамі нейкі чайнік бляшаны,
Нейкі прымус стары, што даўно набылі,
А да ботаў сваіх аніякай пашаны,
Хоць прайшлі мы ў тых ботах, відаць, паўзямлі.

Яны верна служылі ў любую пагоду,
У паходах бывалі, да любай вялі.
Не насілі мы іх да шаўцоў аж па году,
Бо ў любога яшчэ запасныя былі.

Я не знаў, што аб тым пашкадую па часе —
І чаму я кірзовак сваіх не падбіў?
Маладосці другой не бывае ў запасе,
Не знайсці тое заўтра, што ўчора згубіў.

Ссохлі боты мае сярод хламу ў бакоўцы,
Быццам нехта сілком ім насы пазагнуў.
І падміргвае медзь на стаптанай падкоўцы,
Што я страціў адно і другое мінуў.

Іх цяпер пакрываюць густыя маршчыны,
Яны свецяцца цвеценню, як сівізной,
І цвікамі ўсміхаюцца не без прычыны:
Нада мною смяюцца яны! Нада мной!

* * *

Міне вяселле, адзвоняць чаркі,
Гармоні сціхнуць, замоўкнуць тосты,
Нявеста зменіць вянок свой яркі
На ўбор кухаркі будзённа-просты.

На кухню рэдка свяціла ходзіць —
Нудзіцца стане душа жанчыны.
І сам пачнеш ты штодня знаходзіць,
Для дробных спрэчак шукаць прычыны.

Пад сумнай ношай гарбеюць плечы,
Цямнеюць вочы, і — не заўважыш,
Што меней стала ў акне сінечы:
Без сонца ўстанеш, без сонца ляжаш.

І позна ўспомніш душой цвярозай,
З сяброўкай гутарачы сівою,
Што можна б стройнай ёй быць бярозай,
А не пахілай вярбой крывою.

* * *

Я прыйду вясною белай,
Як зашэпчуцца дубровы,
Не з душою агрубелай —
Малады і густабровы.

За Дняпром, на цёмных ставах,
Гусі шэрыя гагочуць —
Аб зялёных ледаставах
Расказаць сярдзіта хочуць.

Лёд плыве раздоллем сінім,
Вербы згорбленыя гнуцца.
Разам з выраем гусіным
Я б хацеў к табе вярнуцца.

Скрозь адкрытую фіранку
Смех знаёмы заіскрыцца.
Да цябе зайшоўшы ўранку,
Папрашу вады напіцца.

І за кожным тваім рухам
Загляджуся без трывогі.
Цветам вішань, лёгкім пухам
Нашы ўсцелюцца дарогі.

Я скажу з усмешкай шчырай
Пра намер свой самы просты:
— Што ж, калі вярнуўся вырай,—
Птушкі ладзяць сабе гнёзды.

* * *

Калі прынёс я ў хату дроў,
Калі агонь развёў,—
У вушы хлынуў шум дуброў
І лёскат салаўёў.

Агонь шуміць, агонь расце,
І — печка загула.

Глядзіш — і вестку на хвасце
Сарока прынясла.

Надзею-вестачку аб ёй,
Якую я, мядзведзь,
Па-за мяцельнай кісяёй
Хацеў бы разглядзець.

Яна не можа разлюбіць,
За што я і цаню
Сваё каханне... Так і быць —
Даверуся агню.

Ён кажа — будзе ўсё як след,
Прыкметы ўсе ў руку,
Хаця і каркнула мне ўслед
Варона ў хмызняку.

* * *

Я прыйду, не трывожачы дворнікаў сонных,
Добрых сноў пажадаўшы любому двару,
І на клумбах гарачых і пыльных газонах
Да пылінкі збяру, да пушынкі збяру.

Хай лягчэйшым яшчэ тваё стане дыханне,
Хай аб дзівах зямных табе шэпчуць лісты.
Ты прыйшло да мяне неспадзеўку, каханне,
Як прыходзіць стамлёнаму шклянка вады.

У жыцці не такі я ўжо быў недарэка,
Хоць смяяўся хто-небудзь з сяброў:
не лайдач!
У грудзях замірала бяскрылае рэха
І турбот непатрэбных і горкіх няўдач.

Я не ведаю, здзейсніць мне многа ці мала,
І сумленню свайму гавару я: турбуй!
Я хачу, каб і ты мяне так паднімала:
Урывайся!
Будзі!
Падганяй!
Патрабуй!

Як азонам, паветра табою напоўню —
Хай яно палыхае над шарам зямным,
Бо жывём мы шчасліва — пра гэта я помню! —
Не пад дахам адным, дык пад небам адным!

## ІЛЬНЯНЫЯ ЗВАНКІ

Каб не ён, каб не ён,
Ненаглядны мой лён,
Можа б, дзеўчыне жыць,
Быццам рэчка бяжыць.

Вецярок калыхне,
І — звіняць пра мяне
Ільняныя званкі —
Залатыя збанкі.

Можа, слава мая
Ад таго салаўя,
Што звінеў па начах,
Калі сіне ў вачах.

Хоць былі мы адны,
Сталі словы чутны:
Раззванілі званкі,
Падхапілі жанкі.

І вясёлка-дуга
Зычыць мне жаніха.
Добра дзеўчыне жыць,
Быццам рэчка бяжыць!

* * *

Вішнёвы сад разросся ў дзеда,
Гатовы плот перавярнуць
І ў вокны бліжняга суседа
Ружовай квеценню дыхнуць.

Сыны і дочкі выйшлі ў людзі,
Ляглі далёка іх шляхі,
І шкадаваць ніхто не будзе
Утульнай бацькаўскай страхі.

Што ж, маладым відней, канешне,
Стары дзяцей не папракне,
Трускалак, вішні і чарэшні
Паслаць ім зноў не праміне.

Не беражэ свае ён рукі,
Хоць трэці год пенсіянер.
Адно хацеў бы, каб унукі
Сюды прыехалі цяпер.

Пачуць бы іхні шум вясёлы,
Пабыць бы ў іхняй грамадзе...
Стары задумаўся, і — пчолы
Снуюць у белай барадзе.

## НАЧЛЕГ НА СІХОТЭ-АЛІНЬСКІМ ПЕРАВАЛЕ

Тут вечарамі
Дым над гарамі
І — пад нябёсы —
Туман бялёсы.

Сціхаюць словы —
І мне ў галовы
Кладзе Прымор'е
Свае сузор'і.

Чаму ж я помню
Аб тонкім промню,
Што дагарае
На небакраі?

Ён знік, і — цела
Пахаладзела,
І цёмнай стала
Высь перавала.

І ўсе мігценні,
Як тыя цені,
З імглой зліліся-
Пераплялліся.

Прасвету трэба
Чакаць не з неба:
Мне б сонца ў грудзі
І — светла будзе!

* * *

Да сцюжы зімовай далёка яшчэ —
Прадрогшага неба спакойная просінь.
Бывае, што з раніцы дождджык маросіць,
А ў поўдзень па-летняму зноў прыпячэ.

Ручай балбатлівы бяжыць праз кусты,
Калышачы жоўтае лісце на хвалях.
І ўсё ж, калі сцішышся, чуецца ў далях,
Як з поўначы снежнай ідуць халады.

Дыхні на ўсе грудзі — прачнецца зямля
І полем пакоціцца пошчак далёкі.
...Стаіш над ракой, і здаецца, здаля
У вырай плывуць журавы і аблокі.

## ЗАМАРАЗКІ

Ударыць конь падковай разагрэтай,
Аж частакол замёрзшы задрыжыць.
Гатовы сані — дзядзька ў лес сабраўся,
З саломай цёплай шэпчацца піла.

А з-пад куста струменіцца крыніца,
І сонца сляпіць. Дзядзька заглядзеўся,
Згарнуў цыгарку, нечага шукае,
А мне відно — за поясам тапор!

* * *

Дзе леташні чартапалох
Стуліўся ад вятроў пры жэрдцы,
Лахматы снег ля плота лёг,
Хоць ты пагладзь яго па шэрстцы.

Пацягнецца салодка ён,
Адчуўшы промняў казытанне,
І азірнецца голы клён,
Адкуль нясецца вуркатанне.

* * *

Гэта белая ціша пакояў шпітальных
Агарнула мяне, быццам студзеньскі снег,
І здалёку-далёк пры заранках світальных
Жаўруковым званком мяне будзіць твой смех.

Зварухну я адной і другою рукою —
І налева сцяна, і направа сцяна.
Але немач мяне не прыручыць к спакою,
Што юнацкаму сэрцу страшней, чым труна.

Разгарну свае плечы — пасыплецца груда,
Уздыхну маладзей — і растопіцца снег,
І вярну для сябе я штодзённае цуда —
І прыязнасць сяброў, і даверлівы смех.

Ва ўсе вочы на свет загляджуся зялёны,
Што ўсміхнецца мне ветла вільготным лісцём,
І хутчэй да сваёй паспяшаю калоны,
У якой не лічыўся я лішнім байцом.

На суровай паверцы змагу я прызнацца,
Што даручанай зброі трымаць не адвык,
Ні прад чым і ніколі не буду згінацца,
Як не гнецца гранёны навостраны штык.

* * *

*Памяці Івана Сіўцова*

Таварышу я тайны давяраў,
Ён іх бярог і — на той свет збраў.

І сведка сёння ёсць у іх адна —
Дачасная сасновая труна.

Напамінаць не трэба ёй: Маўчы!
Яна — умее тайны берагчы.

Але навошта мне яны былі,
Калі таварыша перажылі?

Мне б тайну — бліскавіцай у руку,
Каб азарыць дарогу дружбаку,

Бо ў непрагляднай цемрадзі начной
Не бачыць ён сцяжынкі ні адной.

* * *

Далёкаўсходнія тайфуны
Паднімуць з лежбішча ўначы
Густых грымотаў гул табунны
І пыл, як хмары саранчы.

І быццам нехта акаянна
Жартуе з вамі наяву,
З цяжкога цэбра-акіяна
Ліну ваду на галаву.

На скалах сосны парадзелі,
І — тыя зараз упадуць.
Хмар пераблытаных кудзелі
Маланкі быстрыя прадуць.

Прайшоўшы з плёскам над ракою,
Сарваўшы дахі заадно,

Гатовы ветры талакою
Згарнуць чыгункі палатно.

І не адразу разгадаеш,
Вада ці пот за каўняром,
Калі ў спакоі прыгадаеш
Грымучы бляск і яркі гром!..

* * *

— Глядзі, гэта ногі трамвая! —
Смяецца дачушка Алеся.
З прыпынку трамвай адбывае.
— А што, на той дом ён узлезе? —
Ускінула чорныя вейкі,
Касічкі ўразлёт ільняныя.
— А што гэта доўгае? — Рэйкі.
— Ага, ты расказваў — шкляныя...
Бабуля дастала цукерку:
— Вазьмі-тка, вазьмі, весялушка.
А вецер ўзвіхурыў паперку —
Зноў пляскае звонка дачушка.
Старой пасля кашлю цяжкога
Даводзіцца зноў захапляцца.
Відаць, той не здзівіць нікога,
Хто сам перастане здзіўляцца.

* * *

Паілі жарабкоў кавалерысты,
Грукочучы акованым вядром,
І ля калодзежа струмень празрысты
Рублёвым рассыпаўся серабром.

Зарніцы бліскалі з-за небасхілу,
Гром шыбы казытаў з далечыні.
Падняўшы клуб улежанага пылу,
Я ехаў на бярозавым кані.

Відаць, і сапраўды быў недарэчным
Густога пылу прывідны клубок,
Што перад кожным коннікам сустрэчным
Спяшаўся ўвішна павярнуць убок.

Нявіннасці было ў ім падабенства
І чысціня даверлівых гадоў,
Калі маё бясхмарнае маленства
Не ўсцераглося конскіх капытоў.

Згасала сонца ў вышыні халоднай,
І «месершміт» за хмарамі вісеў.
Прайшоўся дождж чаргою кулямётнай
Над роднай вуліцай, і —
пыл асеў...

* * *

Настроем сваім я зямлю афарбую,
Аддаўшы ёй лепшыя колеры ўсе.
І кожны каменьчык, травінку любую
Прымушу зазззяць у жаданай красе.

Па волі маёй будуць чутны грымоты
З нявінных пялёсткаў,
ружовых зусім,
І пройдуць у небе шпарчэй самалёты
З пукамі маланак для сіверных зім.

І луг заліўны стане шумнай дубровай,
І гэткае высекуць росы святло,
Што клеткай сваёю грудною здаровай
Дагэтуль і мора ўмясціць не магло.

І кожнае сэрца заб'ецца праўдзіва,
І сумныя вочы ўсміхнуцца навек,
І найдзіўнейшае дзіўнае дзіва
Будзённасцю
назаве
чалавек!

* * *

Усім нам дораг клопат чалавечы
У радасці бясслоўнай і бядзе.
На рослыя альшыны, як на плечы,
Галіны ціха яблыня кладзе.

Вядома, рэч няхітрая — падпоры,
Але сцвярджаць я кожнаму гатоў,
Што яблыня без гэтакай апоры
Загінуць можа ад сваіх пладоў.

З кнігі

## «УРАГАН»

(1966 г.)



* * *

Памяць наша — быццам мост пантонны —
Берагі злучае пад агнём
І, прыняўшы груз тысячатонны,
Днём і ноччу ходзіць хадуном.

Гіне клетка — быстрая танкета,
Стогнуць нервы — правадоў вузлы.
Нашы мары — смелая разведка,
Успаміны — дальнія тылы.

І хоць ноч налева і направа
Ды сігналаў рэдкае святло —
Важна, каб гудзела пераправа,
Наступленне з грукатам ішло.

Наша мэта — не напор фатальны,
Хоць і мы не абмінулі страт.
Дзёрзкіх думак разварот франтальны
Нас вядзе наперад не наўзгад.

Слаўся, горды розум чалавечы —
Праваднік нязведаных дарог:
На свае разгойданыя плечы
Ты прыняў трываласць перамог.

## РЭКВІЕМ

Улёгся
Разгул урагана,
Знямогся і ўціх, а дасюль
Паветра ракоча арганна
На кліч анямелых зязюль.

І слухаюць з болем салдаткі —
Скрозь шолахі спаленых траў
Абвугленых хваль плашч-палаткі
З разбітых шуршаць пераправў.

Сіроты сустрэчы чакаюць —
Надзея і скарга ў вачах.
Загінуўшых твары шукаюць
Пражэктары зноў па начах.

Яны, пасталеўшы ад змогі,
Убачаць праз чуйны туман:
Даўно абеліск перамогі
Б'е ў неба, нібы ў барабан.

Тут сонца было непрытомным,
Бяскроўным амаль... Паглядзі —
За кожным знявечаным промнем —
Здань ворага. Памяць, гудзі!

А чорнае чэрава Рура
Вуркоча... Мы помнім — адкуль
Шугнула агністая бура
Бяздумных снарадаў і куль.

Зямля мая — ведайце, людзі! —
Адна — не забудзьце таго! —
Агонь прыняла ў свае грудзі.
Спатрэбіцца — верне яго!

Смялей, маё сонца, і — вышай!
Ні промня не дам я адсеч.
Маўчу,
Апаясаны цішай.
Сачу.
У руках маіх — меч!

## ЧЫРВОНЫЯ БІНТЫ

*Аляксею Пысіну*

Крыж-накрыж рукі. Пыл на вуснах чорны.
Шафёр з забінтаванай галавой.
Зямля і неба круцяцца, як жорны,
Скрыгочучы блакітам і жарствой.

Каціся сярод колаў і лафетаў,
Наіўны адуванчык лугавы,
І, колькі б жыць ні давялося летаў,
З такога пылу будзеш ты сівы.

Ты будзеш доўга жыць, белагаловы,
Дзіця бездапаможнай дабраты,
Каб помніць маскіроўкі дым яловы
І — пыльныя чырвоныя бінты.

Ты бачыў іх —
ці званi, ці астанкі? —
З адзіным стогнам перасмяглым: «Піць!»
Ты бачыў іх, хто аб чужыя танкі
Паспеў штыкі знянацку прытупіць.

Даверлівы, спагадны, летуценны,
Ты ў сцятым сэрцы панясеш асцё,
Каб на апошні дзень перадваенны
Раўняць сваё наступнае жыццё.

Ты праклянеш прыдуманыя казкі —
Расчуленасць нямогласці старой.
Ты сабярэш на полі бою каскі,
Каб воіны вярталіся ў строй.

І, зычачы ім гонар перамогі
І ўцехі,
непазнаныя ў жыцці,
Ты спапяліш цярністыя дарогі,
Каб вейкамі да бляску падмясці.

* * *

Акружэнцу-салдату
Не было дваццаці.
Ён саромеўся ў хату
І напіцца зайсці.

Ля чужога парога,
У туманнай зары,
Да яго, як да бога,—
І малы і стары.

Хваляванне-спагада,
І з цяжкога каўша
Ён па праву салдата
П'е — святая душа.

Хай адсюль апраметнай
Не відно, не чутно —
У той конаўцы меднай
Ды свінцовае дно.

## ПЯРСЦЁНКІ З МЕДНЫХ ПЯТАКОЎ

Вайной разгойданае вецце
Шумела ўсцяж ля бальшакоў.
Кляпалі хлопцы пад павеццю
Пярсцёнкі з медных пятакоў.

Дзяўчаты кужаль тонкі ткалі,
Загледзеўшыся ў жоўты сад,
Як быццам тут і не чакалі,
Што фронт павернецца назад.

Трывожна далі палымнелі,
Смерць сцерагла з усіх бакоў.
Чаго ж дзівіцца, што цямнелі
Пярсцёнкі з медных пятакоў?

Чыя згвалтована нявеста,
Хто не ўбярогся ад пятлі:

Ад Магілёўшчыны да Брэста
Вяселлі шчасцем не былі.

А пушчы буйна гаманілі
Ад галасоў тых юнакоў,
Што ў дні жалобныя не снілі
Пярсцёнкі з медных пятакоў.

Праз іх убачыш мала сонца,
Яны замкнуць у цесны круг.
Не здраднік і не абаронца,
Хто між агнёў спыніўся двух.

Калі сям'я твая ў напасці,
Зямля спаганена бацькоў,
Каму прынесці могуць шчасце
Пярсцёнкі з медных пятакоў?

* * *

Пад зрэнкамі гарластых кулямётаў,
Праз навалач усіх дратоў калючых
У Маабіт іду! Смялей, Муса!
Нясу з сабой бінты — снягі Паміра,
І флягу для дарогі — Ціхі акіян,
І шапку — неба зорнае краіны.
Няхай ім думаецца — гэта ноч ступае,
А камуніст — у шапцы-невідзімцы —
Праз строй варожы вернецца дамоў,
І тысячам адкормленых аўчарак
Век не дагнаць імклівыя сляды.

* * *

Мы друга ў апошні праводзілі шлях,
На ложа гранітнае беражна клалі,
Стаіўшы дыханне, як кулі ў ствалах,
Якія ў патронніке хлопцы даслалі.

Здавалася, толькі ён зняў супрацьгаз,
І роздум адолеў таварыша нейкі,
І, покуль апошні прамень не пагас,
У сне зварухнуцца стамлёныя вейкі.

Зара дагарала. Цямнела гара.
Раса выступала з гарачага жвіру.
Чакалі. І ўсё ж наступіла пара
Нагнуцца за жменяй зямлі камандзіру.

А кожны, а кожны надзею з нас меў,
Што сонца ў гарах спатыкнулася блізка
І — можа падняцца...
Салют прагрымеў,
І — слёзы скаціліся з абеліска...

* * *

Тут быў паходны медсанбат —
Яго хаваў густы бярэзнік
Ад лязгу гусеніц жалезных,
Ад грому дальніх кананад.

Пад густалісты шум лясны
Салдаты пісьмы тут пісалі
Радні сваёй. Ды з адрасамі
Жартуе часта бог вайны.

Камусь чакаць іх з верай шчырай...
І толькі вецер-паштавік,
Пачуўшы жураўліны крык,
Сабраў іх і панёс у вырай...

* * *

Не ведаю, ці трэба сумаваць,
Што снег схаваў няскошаныя травы,—
З апошняй бітвы, з дальняй пераправы
Не прыйдуць хлопцы — там ім зімаваць.

Асмягла стогалосая зямля,
Адказваючы нам на запытанні:
Калі пасля вялікага расстання
Сыноў сустрэне кожная сям'я.

Яна вярнуць не можа галасоў,
Схаваных у яе пластах падзольных.
Іскрыцца снег, як ільняны настольнік,
У полі скрып марозных палазоў.

І сэрца захвалюецца, нібы
Нядарма траціць веру не спяшыла,—
Вязуць сыны чыгунныя дубы,
Якія ўлетку бура не скрышыла.

* * *

Гнаўся страх па пятах чалавека,
Гнаўся голад-каршун.
А над ім
Неба зімняга звонкае века
Навісала з адчаем цяжкім.

Снег маўчаў у зацятым здранцвенні,
Цень з'яўляўся і зноў прападаў.
Не сляды — раскаваныя звенні
Чалавек за сабой пакідаў.

Шынялёк той — дрыготней асінкі:
Чым трымалася ў целе душа? —
Кроваточыла з кожнай варсінкі
Агароджы калючай іржа.

Помніў воін пра свой абавязак,
Сніў вінтоўку сваю па начах.
— Дакумент!
І ад белых павязак
Пацямнела ў блакітных вачах.

Перагарам, як з віннае бочкі,
Шуганула ад чорных грудзей.

Свой — не вораг-прыблуда...
— Браточкі...
Я ж... ды як вам сказаць... да дзяцей...

— Да дзяцей?
Камісарыць не варта.
Бачыш слуп на высокім гарбе?
Дабяжыш — твая выйграла карта.
Калі не — наракай на сябе.

Ён пабег. Зіхацелі іскрынкі.
Ужо блізка, а сіл не стае.
Эх, не з'еў ён апошняй скарынкі —
Для дарогі бярог ён яе.

І тады пахіснулася неба,
Каб навекі замкнуцца над ім.
І акрайчык дарожнага хлеба
Пакаціўся з рукі назусім.

Ціхі хлопчык, глядзі і запомні,
Зберажы нерастрачаны гнеў:
Надламіліся хрупкія промні,
Снег ад роднай крыві пачарнеў.

Хай жа ён, непрытульны і колкі,
Тваю памяць нястомна пячэ
І вачэй утрапёных асколкі
Усплываюць яшчэ і яшчэ.

Снег растане, і ў душных туманах
Пабягуць наабгон ручайкі,
І засвецяць на ўсіх акіянах
Адабраных вачэй аганькі.

Гэта памяць не згасне ў народзе,
І не будзе спакою ў вады,
Калі нават праз дваццацігоддзе,
А не знойдзе забойцаў сляды.

Стануць сонцы на ўсе небасхілы,
І закруціцца пена ў вірах —
Хай за імі да самай магілы
З цяжкім тупатам гоніцца страх!

* * *

Над лесам кружыцца груган,
Галодным выгледзеўшы вокам,
Што цьмяна бліскае наган
Перад хлапчынай смуглашчокім.
Цень机 гругана, як чорны крыж,
Над юнаком даўно маячыць,
І — лёс свой не перахітрыш,
І — сонца болей не пабачыць.
Пад хвояй дрэмлюць жарабкі,
Заслухаўшыся ў лес шумлівы.
А сівер крочыць напраасткі
І — б'е ў свой бубен зіхатлівы.

## ПАСЛЯВАЕННАЕ

У прысадах рабіны алелі,
Загледзеўшыся ў люстра шасе.
Уцалелі яны, уцалелі,
Уцалелі, хаця і не ўсе.

Самы раз ім сысціся цяпер бы,
Як раней, завясці карагод,
Ды такі, каб старэнькія вербы
На двухсоты забыліся год.

Толькі дзе той музыка дасужы,
На якой затрымаўся касьбе?
Абмінаючы пенныя лужы,
Ходзіць певень і зерне дзяўбе.

Гаспадараць у вёсцы дзяўчаты,
Яны самі і косяць, і жнуць,
І глядзяць на панурыя хаты,
Што паспеў паштальён абмінуць.

Як душы не зайсціся ад скрухі,
Пра якога гадаць жаніха? —
На сяле толькі сторож бязрукі,
І ў таго не накрыта страха.

* * *

З галавою хаваюся ў чэрвеньскіх травах,
Промні гоняцца ўслед недаступнай асвы,
І чародка-града аблачын кучаравых
Праплывае-плыве за прастор лугавы.

Што мяне прывяло сюды? — Даўняя страта,
Ад якой не магу ўратавацца нідзе.
Чую блізкія крокі стамлёнага брата,
Што здалёку ідзе і — мяне павядзе.

Расступіцеся, травы! —
                                        Ён крочыць! Ён крочыць!
У вушах маіх чуйных не шэлест трысця:
Ён ідзе! Ён ідзе і — з дарогі не збочыць,
Як не збочвае подых шырокі жыцця.

Праз уедлівы дым не разгледзець аблічча,
І пантоны пустыя хістае пальба,
І нябачны гарніст звонка воінства кліча,
І ніжэй горбіць плечы старая вярба.

* * *

Ці ясны дзень, ці дождж цярусіць дробны,
У думах адкаснуцца не магу
Ад дрэў,
            што ўзносяць верх крыжападобны
І ў спёку і ў сцюдзёную смугу.

Лясы Радзімы!
                        Як мы цэнім мала,
Што вы для нас прыстанішчам былі,
Што разам з намі доля вас ламала,
Ды вы цярпліва цяжкі крыж няслі.

Вы зберагалі гордую паставу
І бачылі праз кісяю імжы
Сваёй айчыны маладую славу
І — ворагаў драўляныя крыжы.

* * *

На станах палявых, на пераправах,
На стомленых спякотных бальшаках,
На ціхіх аблачынках кучаравых
І ў ветраках на душных латаках —

Здаровы водар маладога хлеба!
Шчаслівы час —
заможнасць і спакой.
У добрай згодзе і зямля і неба,
Куды паедзем хутка талакой.

У нас цяпер магутныя маторы,
Ці — правільней назваць — рухавікі:
За шыбамі аж расхінуцца шторы,
Як самалёт прастуе напрамкі.

І для жняі, што славіцца ў раёне,
Партрэт каторай сустракаўся мне,
Узнікне вобраз,
памятны і сёння,
З пажоўклай фотакарткі на сцяне.

Шафёры з незалежнасцю здаровай,
Пералічыўшы сціпла барышы,
Нясуць з сельмага зноў па паўлітровай,
Каб іх апаражніць каля шашы.

І ластаўкі, падобныя на ноты,
Свіргочуць на лянівых правадах,
А ты ад непасільнай адзіноты
Варочайся пад непрытульны дах.

І хоць прыемна жыць у хаце новай,
Не ўберажэшся, як ні нараві,
Ад гаркаты нясцерпна палыновай,
А душна так, хоць кофту разарві.

Над маладосцю, што вайной забрана,
Не ведаеш,
што думаць і казаць.
А захад палыхае, быццам рана,
Якой нікому не перавязаць.

* * *

Атамныя смерчы,
Рэактыўны свіст
І грымасы смерці —
Рок-н-рол і твіст.

Чалавецтва!
                    Сёння —
Ты яшчэ дзіця:
У тваёй далоні
Нітачка жыцця.

Не гудзі, суровы
Вецер з-пад брывей:
Твой — не папяровы,
Твой — касмічны змей.

Караблі-іголкі
Сноўдаюць наўпрост,
З сінявы —
                    саколкі
Шыюць навырост.

Памяці зарубку
Жартам не ўрані —
Выпускай галубку
З мудрай пяцярні.

* * *

Дажджу матроскі клёш,
        Накідка-прамакашка,
Цялёпканне галёш
        І — спешная зацяжка.

А лівень аж шыпіць
        На гулкім тратуары;
Баішся наступіць
        На ўсмешкі і на травы.

Спектральны бляск святла,
    Дваісты след амфібій;
Пільнуй, каб не сплыла
    Твая надзея — рыбай.

Праспект агні нясе
    Ў рухомай амальгаме,
А глянь звысок — усе
    Ідуць уверх нагамі.

* * *

Птушка ціўкнула ціхенька-ціха,
Пакацілася ценькая кропля расы.
Немаўлят ахінула цяплей салаўіха,
Промень зябка ступіў у аўсы.

Цень нясмела пасунуўся з лесу...
Што такое?
                Адкуль мітусня?
Як удар малатка па жалезу,
У вушах —
                цішыня...
                        цішыня...
                                цішыня...

І —
    далёка-далёка-далёка —
Абазваліся пчолы ў вуллі,
Пасвятлела смуга-навалока,
Кавалі
Малаты узнялі.

Заалела ад горна бяроста,
Адступіла бяроза на крок.
Што такое здарылася?
Проста
Сонца ўдарыла ў гонг...

* * *

Гуляў сланечнік у шырокім полі,
Прад ім у пояс гнулася трава.
І лета было душным, як ніколі,—
Ад дружных пчол гудзела сінява.

Забыўшы пра братоў жоўтагаловых,
Адзін дайсці да поўначы гатоў,
Ён не заўважыў між лясоў яловых,
Як дачакаўся зімніх халадоў.

Дарэмна сонца дзіцянё гукала
Праз скошаныя шызыя лугі —
Не ўгледзела яго, не прычакала
З-за гаманкой струменістай смугі.

Навек застыў ён на ільдзістай грудзе —
Загадкава упарты сілуэт —
І думае — ці скора будуць людзі
Хадзіць, не азіраючыся ўслед.

* * *

Гарлач бярозавіку ў жніўным полі —
Уцеха жней у звонкую сухмень.
Чакаюць, рукі склаўшы на прыполе,
Пакуль прыгубіць стомлены прамень.

Каўшом святочным пойдзе глёк па кругу
Паміж сярпоў, што пекла гарачэй.
На два глыткі не ў кожнай хопіць духу,
А хусткі адхінуцца ад вачэй.

Павее сінім халадком адлігі,
Калі быў той бярозавік, як лёд,
І з вышыні нясцерпнай ціхі-ціхі
Апусціцца напіцца самалёт.

П'юць сок зямлі, што адбівае твары,
І сонца прыпыняецца — яно,

Не бачачы перад сабою хмары,
Гатова сесці на пустое дно.

У ногі жнеям кланяецца ніва,
Асмужаная ліпеньскім дымком,
Над гладышом ракоча гаманліва
Нахіленым сасмяглым каласком.

* * *

Коні рвуцца за вароты,
Коні —
месца не знаходзяць.
Гаспадар густабароды
Юнакоў суняць выходзіць.

— Што вы, хлопцы, выйшлі з хаты,
За сталом не пасядзелі?
Тут ніхто не вінаваты —
Самі дзеўку праглядзелі.

— Ой ты, дзед, хітруеш троху,
Ды сказаць табе павінны,
Што без выкупу ў дарогу
Не адпусцім мы дзяўчыны.

— Выкуп ёсць — аб чым гаворка...
— Горка!
— Горка! —
Чутна з дому.
Падступаюць госці:
— Горка! —
К маладой і маладому.

І нікуды ім не дзецца,
І нікуды не схавацца.
Павядзецца,
Як вядзецца,
Пры людзях пацалавацца.

Гамаплівае застолле
Чаркі дружна узнімае,

Каб быў кожны сноп — да столі
І як сонца — караваі.

А дзе п'ецца — там і льецца.
Мала будзе — дык паўторадь.
І на шчасце посуд б'ецца,
Як даўно народ гаворыць.

* * *

Дзень добры, лес яловы —
Юнацкі мой парог!
Удзячнейшыя словы
Я для цябе збярог.

Не раз цыклон шалёны
Пагібель нёс сюды,
А ты — вечназялёны —
Шуміш, як малады.

Люблю твае напевы,
Натура пазнае:
Пярун — шчапае дрэвы,
Пярун — у пні не б'е!

## ВЕРБАВЫЯ ПРЫСАДЫ

Не даглядалі вас, не шанавалі —
Паспешна абчасаўшы тапаром,
Ля глейкага кювета забівалі
У прэсны дол пад раўнадушны гром.

Вы самастойна набіралі сілу,
І вось цяпер, калі шумяць лісты,
Як доўгі калідор да небасхілу,
Ахвотна ўсе зварочваюць сюды.

Ніхто і не падумае прызнацца
Ў суровай безуважнасці, нібы
Вам звеку наканавана смяяцца,
Каб не адкрыць затоенай журбы.

* * *

У полі — без дахаў і правадоў —
Адно паветра юнацкіх гадоў.

Пажаты жыты, павязаны снапы,
За хвост сябе ловіць вятрыска сляпы.

Чаго ж нецярпліва лячу сюды я —
Хіба што з мякіны спужнуць вераб'я?

О не! Я патрапіць імкнуся на след,
Дзе крочыць юнацтва майго сілуэт.

* * *

Пагранічных шлагбаумаў цені
Праз дарогу кладуцца наўскос,
Дзе хмурынак чутно шалясценне
І —
        чмялямі гудзе сенакос.

Хлопчык спішана ўсеўся на возе —
Хоць ты ў голуба крыл папрасі,
Каб зялёнай зямлі не прыйшлося
На сваёй пахіснуцца асі.

* * *

Я зразумеў бы, як метал куецца,
Пераўзышоў бы спрытам і музык,
Але агонь у рукі не даецца,
Смяецца і — паказвае язык!

* * *

*Памяці маці*

За вокнамі лесу дзялянка
Трымціць у паўдзённым паўсне.
І даўні напеў — калыханка
Кранула балюча мяне.

Чаму такім крокам нясмелым
Іду да высокіх сяней,
Хоць воблака парусам белым
Над хатай стаіць як раней?

Я даць не магу сабе веры,
Што маці не выйдзе сама,
Што сёння бацькоўскія дзверы
Ужо адчыняю дарма.

Сустрэўся я з хатаю роднай,
Дзе столькі былога святла,
Але цішынёю падводнай
Маўклівасць на грудзі лягла.

Не скрыпнуць вясёла масніцы,
Не грукне ў кутку качарга,
Мае вільгатнеюць расніцы,
Гусцее цяжкая смуга.

І мне спачуванняў не трэба,
Спагада мяне не кране,
Бо яснае летняе неба
Далёка цяпер ад мяне.

## КАПЯЖЫ

Весні дзень, як лядзень,
Сходзіць звонкай слязой.
Аркі прывідны цень
Палыхнуў дзеразой.

Промні — роем на мёд
На пупышкі вярбы,
І карэннямі лёд
Узламалі дубы.
Пасінела акно
Ад іскрыстай слязы:
Бачна — сонца адно,
Не відно — драбязы!

* * *

Капаю грады.
Я — спрыцён і дуж.
Я чую — сіла стрымана гагоча.
І дождждык дураслівы — добры душ,
Хто ж адказацца ад яго захоча!

Нібы прайшоў па руні грабянец —
Так і хінецца легчы пад рукою.
Задумалася жонка ля сянец
Над будучым — ці сынам, ці дачкою.

Гром басавітыя кранyў лады,
Падзею прадчуваючы такую.
Схаваўшыся ў бярэзнік малады,
Зязюля бессямейная кукуе.

Цвяроза паглядзеўшы на жыццё,
Ніяк не зразумець прычыну тую:
Завошта палахлівае лісцё
Мяне зялёным венікам лупцуе?

1866

* * *

Між сабой гаруюць рыбакі:
— Рыба разбягаецца з ракі.

Сеткі нашы, як іх ні мачы,
То паленне цягнуць, то карчы.

Сумавалі тыдзень альбо два,
Пацямнела неба сінява.

Выйшла рэчка з ціхіх берагоў,
Захапіўшы некалькі стагоў.

Нечакана — гэткая бяда! —
Прама ў хаты хлынула вада.

І раптоўна — ведамая рэч —
Рыба пахавалася пад печ.

Елі б і дасюль, але дзяды
Не знайшлі пакуль скаварады.

* * *

Ты чуеш? — Збіраецца бура! Спяшайся!
Шыпіць, астываючы ў хвалях, маланкі кап'ё.
Кідаецца ў пену дняпроўская белая чайка
І дымнай вадою крыло асвяжае сваё.

Бяжы да хаціны, гарэзлівым хмелем увітай,
І комін закрый, каб грымоты ішлі стараной!
Там яварам росным памытая пахне падлога,
І радзяцца дрэвы трывожна за мокрай сцяной.

Бяжы, дарагая! Я ўстану громаадводам,
Каб бліскавіца твае не насцігла сляды.
І, ў сэрца прыняўшы,
аддам я заломленым хвалям
Мігценне маланак і рокат грымотаў густы.

* * *

Мы ўсе спяшаемся і — нездарма
Так неахвотна ездзім на трамваі,
Бо нават авіяцыя сама
Імклівасць нашу сёння пераймае.

Мы духам хочам абсягнуць сусвет,
Мы думкай хочам стаць па-над сусветам.
Мы ведаем — геройства прагне свет,
І мы — устанем першымі над светам.
Сягнём да зор і вернемся адтуль,
Хоць нас і падпільноўвае касая,
І вецер спрытны рукавы кашуль
Наступнікам шчаслівым закасае.

* * *

Быць бы мне бардам белагаловым,
Звонка на струнах густых ракатаць,
Каб перад поглядам, як і за словам,
Сокалы ўвысь паспявалі ўзлятаць.

Нізкія б воблакі шумна гудзелі,
Дрэвы б цясней абступалі мяне,
І задуменна бароды-кудзелі
Грэлі б дзяды каля вогнішча... Не!

Сёння з нас той шчаслівейшы, хто юны!
Што мне славутасць баянаў,
Калі
Нават ад лёгкага дотыку струны
Ў зорную высь узнясуць караблі.

Так,
Каб нябёсы іх след перакроіў,
Зоры цярушачы ў жорны віроў,
Хутка народзіцца столькі герояў,
Што ўжо не хопіць на ўсіх песняроў.

* * *

Масква! Бяру цябе агулам —
З усім цяплом,
З усім святлом,
З бяссонным мускулістым гулам
І німбам зорным над чалом.

Ты — ля планетнага карміла.
Ты — павадыр. І помніць свет:
СССР, што ты ўскарміла,—
Плячысты Універсітэт.

Імклівы шпіль у млечнай пене,
Аж шапка валіцца далоў,
Уступы сцен, нібы ступені
Тваіх касмічных караблёў.

Таму заўжды парой світальнай
Грымяць імёны юнакоў
Не на пліце мемарыяльнай,
А на скрыжалях аблакоў.

* * *

Раней па-свойму час лічылі.
І ў памяці дні бераглі,
Як ад суроц каня лячылі,
Як нагаворы адвялі.

У тых трывогах незабытых
Ад першых да апошніх дзён
Пра ўласны кут, пра свой набытак
Спрадвечны клопат быў відзён.

І закрываліся пад стрэхі
Сямействы кожнага двара,
Дзе шалясцелі, быццам вехі,
Лісткі свайго календара.

А наша зберагае памяць
Не ў мімалётным бляску дні,
А час, калі праз пыл і замець
Будоўлі ўспыхваюць агні.

Не робім дробязных засечак,
Як багацеў, як рос адзін,—
Дарогу значаць рэк і рэчак
Ступені стромкія плацін.

Нібы вясновае разводдзе,
Змяцём з дарогі час стары,
Бо ў адрыўным календары
Наш кожны год — дзесяцігоддзе.

* * *

Калі ствараў зямлю ўсясільны бог,
Чорт пад рукой круціўся акаянны.
Гасподзь пакрыўдзіўся і толькі змог
Накрэсліць горы, долы, акіяны.

Скрозь нетры цёмныя мільёны рэк
Ляглі, як нецярэбленае дрэва.
Не атрымаў ад бога чалавек
І жменю зёлак горкіх для засева.

Бог разважаў, што пражыве і так
Ягоных рук высокае тварэнне
І ўславіць усявышняга чарвяк,
Хоць будзе есці горкае карэнне.

І той насіў маланку на грудзях
Замест святла вернападданых свечак
І церабіць пачаў да сонца шлях,
Узводзячы масты на кожнай з рэчак.

Не захацеў ён жыць у тым раі,
Пачаў перарабляць яго патроху.
І кожны з чалавечае сям'і
Шукае сёння ўласную дарогу.

## ВОСТРАЯ БРАМА Ў ВІЛЬНЮСЕ

Душой даверлівай астынь
Каля адной з былых святынь!

Ад чорнай немачы сцяна —
Бялей любога палатна,

Тут поймы змучаных калек
Ішлі прасіць у бога лек.

Ад ног кульцяпых, куцых рук
Пачырванеў сцюдзёны брук.

Іх бачыў бог, іх слухаў бог,
Ды не вярнуў ні рук, ні ног.

Дзівос ягоных бачны след —
Ля амулета — амулет.

Жалезных сэрцаў пяць радоў —
Паноў вяльможных, іх удоў.

І, памяць незабыўных дзён,
Пагон палкоўніка відзён.

Відаць, дамогся ён палка,
Калі распяў бунтаўшчыка.

А нехта высахшы, як хвошч,
Перастаяць стараўся дождж.

Пакорна кленчыў, каб разок
Дыхнуць на свечкі каласок.

Устань! З душы згані угар:
Тут не святыя, а базар!

## МАНУМЕНТ

Як сонца нізка —
                    велічным здаецца,
Застыў, як учаканены ў граніт,
А з чалавечым вобразам сальецца,
Калі яно паднімецца ў зеніт.

* * *

Да цёмных траў прыпаўшы ніц,
Я разглядзеў таемным зрокам
Рух чынгісханскіх кабыліц
Пад небам гулкім і шырокім.

Гне кавылі халодны страх,
Кап'ё занесена над светам,
З-пад капытоў —
жалобны прах,
Ды ён ляціць за войскам следам.

Стрэл чарнапёрых саранча,
А ў смутным прывідзе трывогі —
Пяскоў сыпучая парча,
Як плашч міражнай перамогі.

У іх развеецца арда
Сярод раздолляў апусцелых,
Каб пакацілася вада
Да ног бярозак памярцвелых.

І — знікне ханства.
Чую я
Праз столькі год неспадзявана:
Шыпіць галодная змяя
З пустога ханскага калчана.

* * *

Ты штурхаеш ядро, на трывалы апёршыся грунт,—
Граюць мускулы, твар твой ружовей
ранета!
Хай да сонца ляціць, каб на столькі імклівых
секунд
Рух прыспешыла наша цяжкая планета.

* * *

Конь бяжыць — зямля дрыжыць.

*З народнай песні*

Страшна і прывольна на начлезе,
Сцішана гадаюць хлапчукі —
Што за конь бяжыць па цёмным лесе
І трашчыць, ламаючы сукі?

Жудасна-прыемныя хвіліны,
І не разгадаць на розум свой —
Над табой хістаюцца галіны
Ці ківае месяц галавой?

Хіліць долу праведная стома,
І нам крыўдна трошкі ад таго,
Быццам аднаму яму вядома —
Хто імчыцца ў госці да яго.

Я аддадзены новым інтарэсам,
Але ўбачу маладзік, і — зноў
Мроіцца над парадзеўшым лесам
Тупат шматмільённых табуноў.

* * *

*Брату Віктару*

От марозік — ядраней зацяжкі,
А ў курцоў на самасейку нюх.
Запрагаем санкі-самацяжкі,
Як рабіў калісьці табанюх.

Снег якоча ад сухога хрусту,
Гоняць сані лапавухі цень.
Нават заяц па сваю капусту
У такі не выправіцца дзень.

Выпрастаем з братам баравіну,
Возьмем з паўдзесятка круглякоў
І, падставіўшы завеі спіны,
Пададзімся ўвішней рысакоў.

Хоць давалі лішнюю нам скварку —
Доўга прычашчаўся мазалям.
З той часіны не люблю на карку
Ні другіх вазіць, ні ездзіць сам.

* * *

Бялеюць воблакі пад намі —
То развінуцца дыванамі,
То разбягуцца табунамі.

Дзівосней юных летуценняў,
Блакіт загадкавых адценняў
Трымціць ад сонечных мігценняў.

Туману шоўкавыя шторы
Сарвуць магутныя маторы,
І зноў — бязмежныя прасторы.

Бялеюць воблакі пад намі —
То развінуцца дыванамі,
То разбягуцца табунамі.

І недзе там, далёка ўнізе,
Шляхі людзей перапляліся,
Чыесьці сцежкі разышліся.

Пад вераснёваю імжою
Зямля, пакрытая іржою,
Здаецца цёмнай і чужою.

Бялеюць воблакі пад намі —
То развінуцца дыванамі,
То разбягуцца табунамі.

Тут можна ўсё як след прыкінуць,
Усю зямлю вачмі акінуць
І ўсё нядобрае пакінуць.

Дык вось яно з табою, неба,—
Такое неба, дзе не трэба
Штодзённы клопат дзеля хлеба.

Ад захаплення п'янаваты,
Нясу ў вушах з сабой дахаты
Абрыўкі хмар заместа ваты.

## МЕСЯЦ, ПА СІНЯМУ НЕБУ ПЛЫВІ...

Что-то физики в почете,
Что-то лирики в загоне.

*Барыс Слуцкі*

Месяц, па сіняму небу плыві
Перад вачамі зямных закаханых —
Верую тройчы ў адданасць любві
Той, што не трэба вясці на арканах.

Нечага сёння паэта пужаць,
Быццам яму не сказаць анічога.
Што ён пасеяў — яму і пажаць:
Ніва — вялікая!
Слухай, вучоны!

Чэсць невялікая — з'есці вала,
З'есці вала аднаму, як гавораць.
Мара паэтава думку вяла,
Думку, якая прасторы пакорыць.

Славы ягонай агонь не пагас,
Ён — не з магіканскага племя.
Чуеш? — іржэ каля ганка Пегас.
Бачыш? — блішчыць разгайданае стрэмя.

Там ён пакінуў падкову сваю,
Каб у зялёным папасвіцца жыце,
Каб пакланіцца таму ручаю,
Што напаіў яго зноў...
Дык скажыце,

Ці не знаёма яму тая даль,
Дзе зорны пыл паднімалі падковы?
Высекуць скора за месяц медаль,
А ён, як і кожны медаль,
двухбаковы.

Можа, не ўсе пагадзяцца са мной,
Можа, бяру на сябе я замнога,
Сцвярджаючы,
што ўладай зямной
Першым паэт нас прыўзняў ад зямнога?

* * *

Пад персідскай кашуляй —
Разанская сінь.
Не сустрэўся з матуляй
Спагадлівы сын.

Водар мяты і руты,
Як ты роднаму люб...
. . . . . . . . . . .
Колькі ў свеце атруты
Для даверлівых губ!

* * *

З паветра коней ізваяў Мікула,
Маланістымі жыламі напоўніў,
Бяссонніцай нятленнаю насыціў
І катаржным бяссмерцем падкаваў.

Нябёсы недапісаных старонак
Прашалясцяць над грэшнаю зямлёю
І над яго дубровай густалістай —
Аддай жыццё і не крані лістка!

Калі надзелен словам чалавечым,
Вяшчаць павінен, што жыццё прыгожа
Пчалы стараннем, стомай пладаноснай,
А не халоднай мудрасцю змяі.

* * *

Ліхацтва многа у яршыстых пеўняў —
 І дзюбы вострыя, і грабяні.
І ўсё ж шчаслівы, хто раз хоць меў іх,
 Хто ў маладыя насіў іх дні.

Праходзіць певень, што той палкоўнік,
 Ажно сабакі не завурчаць.
Пагарда ў крылах яго спакойных,
 І толькі шпоры брынчаць-брынчаць.

Куды цягацца з ім недарэку,
 Шчаню сляпому, што спіць з паўдня.
Заводзіць першым ён: — Ку-ка-рэ-ку!
 Не дасць нікому праспаць і дня.

Кранеш такога — пішы прапала,
 Глядзі, каб сесці на што было.
І сакатушка, як тая пава,
 Прад ім заносіць сваё крыло.

Каму не люба яго ліхацтва,
 Хто носіць крыўду на малайца,
Калі ёсць пеўні, чыё юнацтва
 Не варта выедзенага яйца.

* * *

Грэкі — разумныя дзеці —
 Сваіх паважалі паэтаў,
Як пасланцоў алімпійскіх,
 Надзеленых мовай багоў.
Клалі цыноўкі пад вокнамі
 Ціхіх дамоў песняпеўцаў,
Каб не пашкодзіў іх думам
 Гром трыумфатарскіх калясніц.

* * *

Славаю мерацца з мудрымі
    Сціпласць мая не дазволіць,
Вечназялёнаму лаўру
    Сніцца свяшчэнная скронь.
Каб не растала пад сонцам
    Іх сівізна бессмяротная,
Ціха вянкі ім паправіўшы,
    Зноў адступаюся ў цень.

* * *

Пад чорнай мітуснёю камарынай
Захочаш — надакучыць пахвальба —
Азвацца з дабрадушнасцю зубрынай
І — паглядзець маўкліва з-пад ілба.

* * *

Пад словам знемагаць і падаць,
Каціць уверх ядро цяжкой задумы
І аступацца на няпэўных камнях —
Штодня мне сніцца гэта вышыня!

* * *

І разумею, і сказаць умею,
Але калі затоена маўчу,—
Перад размахам велічы нямею
Да аспіднай зацятасці ўвачччу.

Шукаю слоў, што варты маёй веры,
Хоць нецярпліва іх чакаеш ты,
І ведаю, што расхінуцца дзверы
Ад той громападобнай нематы.

## АТЛАНТ

*Міхасю Стральцову*

Я — страж бясформенных цвярдынь —
На плечы неба ўсклаў.
Я — перамог мяцеліц стынь
І — вулканічнасць лаў.

Сабе і ўсім закон і рок,
Вянчаю ўсцяж жыццё
Трываласцю. Ступі я крок —
Скляпенне рухне ўсё!

Што людзі? — Брудная ралля,
Мурашніка драбней.
І — ад няўдзячнасці — зямля
Становіцца чарней.

О папрашайка-чарназём:
То дождж, то сонца дай!
Я не жадаю, каб рыззём
Мой зневажалі рай.

Дзялю і хлеб свой і начлег
Не з тымі, хто ў гразі:
Укрыцца хочаш — побач снег,
Пад'есці — дол грызі.

Адзін між яблынь залатых
Стаю, вакол сачу.
А хто паквапіцца — на тых
Драконаў напушчу.

Ляніва варухну рукой —
Забудзецца іх прах:
Тады парадак і спакой,
Калі ў пашане страх.

Дзе я укараніўся — там
Пакорства звон гудзе.
Нікому пальца не падам
У прывіднай бядзе.

Я — валадар усіх далін,
Дзе вецер не дыхне.
Навошта ж полчышчы раслін
Ківаюць хітра мне?

Ардой да непрыступных ног
Ліяны падышлі.
Смяюцца ў вочы. Я знямог —
Так грудзі аплялі!

Мне душна! Млосна! Дайце піць!
Ад фурый не ўцячы.
Нікуды не магу ступіць,
Сабе дапамагчы.

Скляпенне рухне ўсё! Пастой —
Чаму ж я без пары
Пад рогат бездані пустой
Лячу ў тартарары?!

## ПРАЛОГ

### I

Індустрыя! Цяпер твая пара:
Твае гіганты — паставыя вышкі.
І ўсё ж, як мы не забываем лыжкі,
Не забываем мы і тапара.

Тапор і лом, палатка і касцёр —
Скарб навасёла і яго прытулак,
Дзе, не расправіўшы плячэй сутулых,
Лес зябка рукі сінія прасцёр.

Па барадатаму сівому мху
Агонь пранёсся жвавою вавёркай,
І людзі доўгай грэюцца гаворкай,
Сабраўшыся пад хвойную страху.

Сібір — неразгаданая душа,
Сібір — вякоў затоеная дума.

Тут чуўся гогат цёмных орд Кучума
На берагах лясістых Іртыша.

Тут вечным саванам былі снягі,
Тут кожны корань — катаржніка рукі.
Каб дрэвы сохлі з чалавечай скрухі,—
Даўно б на свеце не было тайгі.

Варушаць цені жухлае лісцё,
Да вогнішча нячутна падступаюць,
Не баючыся, што рыззё падпаляць.
Што — можа, праўнукаў пазнаяцё?

Пагрэйцеся пры нашым шалашы,
Пакуль пакурым і нап'ёмся чаю.
І — цемра не стрымала ўздых адчаю,
Худыя пальцы хруснулі ў цішы.

Іскрынак вогненныя камары
Мяцеліцаю ценькаюць ля вуха,
І — нешта зоры зашапталі глуха,
І — аддалося голасна ў кастры:

Я — зарыва надзеі для жывых,
Я — радасць і пакутлівая мара,
Я — апавітая маланкай хмара,
Уся з агню і кропель дажджавых.

Я — творчасць. Я нядбайных не цярплю,
Я — мітуслівай не прыму дакукі,
Я — працягнула ўсім спагадна рукі,
Я — неўміручая і ўсіх люблю.

Я — вам любоў даю ў павадыры:
Нясіце ў чысціні яе да веку,
Нясіце заўтрашняму чалавеку
Яе крылатасць і яе дары.

II

Выходзіць дзень пацешыцца з агнём
І з горана, раздзьмуханага зранку,
Малінавую выкаціў балванку,
Падняў свой молат і сказаў:
— Пачнём!

І раздалася цішыня па швах,
Калі гагахнуў стопудовы молат,
Аж па тайзе прайшоўся зябкі холад
І далячынь падтакнула: — У-ах!

І лашчыць, лашчыць непадатны шар,
Так лашчыць, што ўгінаецца кавадла.
І дымнай павалокі прасцірадла
Гусцей, часцей ахутвае абшар.

Грамы варочаюцца: — Гах! Га-гах!
Падтаквае ім роскат крутабокі.
Паветра горкне, і ад сіняй спёкі
Рака вылузваецца ў берагах.

І меддзю адлівае сінява,
Нагрэўшыся каля панельных блокаў,
І нецярпліва складвае з аблокаў
Свой горад заўтрашняга хараства.

І сноп праменняў, як булатны меч,
Апаясаўшы вогненнае неба,
Гатоў заўсёды, будзь у тым патрэба,
Любому хціўцу галаву адсеч.

Каб на ружовасць мармуровых пліт,
Што бляскам яркім вочы асляпіла,
Скалечаным юнацтва не ўступіла,
Не узышоў абрубак-інвалід.

* * *

Навальніца нас дагнала
Дзесь ля Іртыша.
Даль таежная стагнала,
Слалася імжа.

І куды мы так ляцелі,
Што не пераняць?
Ці маланку мы хацелі
На шляху дагнаць?

Як успомню твае вочы —
На душы — смуга,
Бліскавіцы ў цемры ночы
І — тайга... тайга...

* * *

Стаяў цягнік пад семафорам цёмным,
І хлынуўшая з цемрадзі рака
Нам паказала ў бляску непрытомным
Рабрыстую кальчугу Ярмака.

* * *

Штабелявалі хлопцы шпалы —
Сасны смалістыя брусы.
Тайзе паветра не хапала,
Стагналі краскі без расы.

І дрэвы бранзавелі потам,
І цень марнеў без вецярка.
Я збокуназіраў
і потым
Падаўся моўчкі да бруска.

І вочы бляскатам сляпіла,
І кроў хадзіла гарачэй,
І добрай працы ўсім хапіла
Для рук нястомных і плячэй.

Апілкі сонца церушыла,
Як цыркуляркаю-пілой,
І далеч доўга не спяшыла
Укрыцца шызаю імглой.

Аб гэтым рэдка ўспамінаю —
Выпадак проста быў такі,
І толькі плечы прыгінаю,
Калі грукочуць цягнікі.

* * *

Бягуць, бягуць — ці воблакі, ці коні? —
Пераваліўшы сінія хрыбты.
Іх пры сваім зацішным падаконні
Пазнаеш ты.

Бягуць, бягуць — ці воблакі, ці коні? —
Калі яны сутрэнуцца з табой?
І вецер, як гарлач на частаколе,
Звініць журбой.

* * *

Пэўна, шэры шынель мне саткалі дажджы
З туманоў вераснёвых і восеньскай слоты,
А бяроза, стаяў пад якой у імжы,
На пагонах пакінула след пазалоты.

* * *

Я палаткай развесіў паходны шынель —
Дождж затупаў у пыльных лістах.
Растрывожаны, з мокрымі крыльцамі, чмель
Прыляцеў да мяне —
                    пад зацішаны дах.

А калі праяснілася зноў сінява,
Чмель расправіў вясёлку вільготную крыл,
Паляцеў!
        І тады шуганула да сонца трава,
Ад зямлі набрынялай набраўшыся сіл.

Зачараваны гэтым, я ціха сядзеў
Пад бязвоблачным дахам густой сінявы:
Так навокал расло ўсё,
                    што, калі паглядзеў —
Карабіна не ўбачыў з-пад лісця травы!

* * *

Крычаў паравоз у жалезную глотку,
Каб мне рыхтавалі сустрэчу хутчэй,
І вецер сарваў нецярпліва пілотку,
Бо я ўжо з акна высягаў да плячэй.

Спяшаўся прайсці па знаёмай дарожцы,
Дзе хаты спавіў неадступлівы хмель,
І нейкаму дзеду ў забытай старожцы
Пакінуў свой ранец і шэры шынель.

Раз сам запасны — напляваць на запасы:
Збяру пятакоў на трамвайны білет.
Паўночную цішу збудзілі абцасы,
І душнае рэха спяшаецца ўслед.

Бяссоннае зараз убачу акенца,
Ад іншых закрытае хмелем густым.
Усход заалеў... Непадкупнае сонца,
Адно для мяне ты — рублём залатым!

* * *

Хлапчуком белагаловым
Гаспадарыў я на лузе,
Пільнаваў з кіём яловым,
Каб не лезлі ў шкоду гусі.

Асядлаўшы воранога,
З хлапчукамі ўперагонкі
Я ляцеў — гула дарога,
Вецер біў у перапонкі.

Папракала мяне маці
За нявымытыя ногі,
Ды ва ўсіх кутках у хаце
Калыхаўся гул дарогі.

І калі змаўкалі птушкі,
ПераТомлена шчаслівы,
Я гарнуўся да падушкі,
Як да выветранай грывы.

## СТАНЦЫЯ ЦЕМНЫ ЛЕС

Без бацькі пуста зімой застолле,
А след замёўся на шэрым снезе,
А цень снуецца на нізкай столі.
Дык дзе ж ён, бацька?
— У Цёмным Лесе.

За шыбай вецер гамоніць глуха,
Трызняцца дзецям ваўкі, мядзведзі.
І закалыша іх завіруха,
І не пачуюць, што бацька едзе.

Адчыніць маці сама вароты,
Конь перад цёплым укленчыць хлевам.
І бацька — шумны, снегабароды —
Дыбае ў хату з марозным хлебам.

Дык вось які ён — ласунак зайца:
Ясі, а холад аж ломіць зубы.
І нават крошкі з таго акрайца —
Хоць пасталееш — а будуць любы.

А лес, што сніўся табе ў марозы,
У чыстым полі вятры шукаюць,
І манеўровыя паравозы
Даўно касога дарма гукаюць.

* * *

Русы хмель дарогай дыбаў —
З вецярком у галаве.
Дзесьці збочыў, дзесьці схібіў,
За вярсту прайшоўшы дзве.
Да дзяўчат — хітрэй прыблуды:
— Вы куды? Куды? Куды?
— Мы ідзём сабе нікуды —
Япрукам па жалуды.
Вецярок табе папутны,
Чыстай скацеркаю дол,
І — папросім, шалапутны,—
Не чапляйся за падол.

* * *

Мне б хацелася прайсці
Па дарозе ў Лакуці.

Сто двароў — семсот гасцей
Кожны дзень да Лакуцей.

Столькі брагі, што няўцям,
Як спраўляцца Лакуцям.

П'юць усе, але ў лапцях
Анікога ў Лакуцях.

Дык ляці, душа, ляці —
На гулянне ў Лакуці!

РУСЕНКА

— Русенка! Русенка! —
Ручаёк кіпіць.
А спаднічка вузенька —
Як пераступіць?

На лугу праменейкам
Выпіла расу.
— Я цябе з пляменнікам
Дай перанясу.

Эх, таўкачы-камарыкі,
Памагаў дарма:
Сына ўзяўшы на рукі,
Перайшла сама.

* * *

Світальны вецер волкі,
Сінеча-халадок.
Аб каблучкі-іголкі
Ламаецца лядок.

Ці зразумеюць птушкі,
Вярнуўшыся сюды:
Хітрушчыя вяснушкі —
Дзявочыя сляды.

Прамень — ружовы дзяцел —
Пастукаўся ў акно.
— А колькі часу, дзядзя? —
Цвіркоча жаўранё.

І я не без прычыны
Сумую навылёт:
Іду, і — на маршчыны
Расколваецца лёд.

* * *

Рукою схопішся за скронь
І — пахіснешся ненарокам,
Нібыта ўдарыў цябе конь
У лузе вольным і шырокім.

Ляцеў бы ветру насупроць,
Раздоллем цешыўся бялёсым,
Але ў руках — адна аброць,
З якой не ўгонішся за лёсам.

Зноў давядзецца ўсё пачаць,
Удар забыўшы выпадковы,
А на чале тваім пячаць —
Пячаць зняважлівай падковы.

* * *

Падлеткі коней пояць —
У вёдрах гнеў дрыжыць:
Сляпнёў сухая поедзь
Са свету можа зжыць.

Як ні кляні іх гучна
І як іх ні гані,
Заўсёды неразлучна:
Дзе коні — там сляпні.

* * *

Я — жвавая крывінка твайго току,
Імклівы век. І твар свой пазнаю
У зарывах, што свецяцца здалёку,
Якім я маладосць аддаў сваю.

## ВАВЕРЧЫНЫ КЛЮЧЫ

Чаго, дзяўчына, адна хадзіла?
Адна хадзіла і — заблудзіла
        У сасняку.
Прад цішынёю — прад медавухай —
Цяпер спыніся, маўчы і слухай:
        — Ку-ку, ку-ку!

А рэха стогне — напэўна, недзе
Па лесе коцяць вуллі мядзведзі
        І без дарог,
Аж захмялеўшы пад кашалямі,
Зайцы за граістымі камлямі
        Нясуць пірог.

І гром вусаты — відно, патрэба! —
Набіў маланкі хутчэй на неба,
        Як абручы.
Зямля, што брага, загаманіла,
І тут ваверка з дупла ўраніла
        Свае ключы.

* * *

Сасновы вецер стрымгалоў
Каля грудзей маіх пранёсся
І кінуў там зярняты слоў
І роднай песні адгалоссе.

А сонца промні ім дало,
І хмарка кроплю ураніла —
І штосьці ў сэрцы загуло,
Прачнулася, загаманіла.

І словы ўсе, што па адным
Увесь час стоена маўчалі,
Калі прыйшлося зліцца ім,
Ледзь чутнай песняй загучалі.

Яна расце усё вышэй
Пад неабдымным шчодрым небам,
Каб стаць увосень для людзей,
Як зернятам даспеўшым,— хлебам.

* * *

Верасьнёвыя дні —
На буланым кані,
І, як стук капытоў,—
Цёмны шэлест лістоў.

Не ўзірайся пакуль,
Хто імчыць і адкуль,
І не згадвай — куды
Павядзе ён сляды?

Калі быстрая рысь —
Тады чыстая высь,
Калі спорны галоп —
П'еш паветра ўзахлёб.

* * *

Бяроз пагоставых абрыс
Здаваўся возам мне нязменна,
Як быццам конь нябачны ўніз
З гары — вязе паўстога сена.

Заціхне ў далях скрып калёс,
Каб нехта ўспамінаў нязменна,
Што белы конь мяне павёз
На возе маладога сена.

* * *

На сцежку вераснёвую
Іду па песню новую —
Яна
Даспелаю антонаўкай
Вісіць на гольцы тоненькай,
І не адна.

Усім дні вераснёвыя
Нясуць дарункі новыя
І мне
Заўсёды і ветрам восені
Больш радасцей прыносілі,
Як па вясне.

## ЦЫРКАВЫЯ КОНІ

Захаплёна пляскаюць далоні,
І хусцінкі — краскі лугавыя:
На арэне — цыркавыя коні,
Коні цыркавыя.

Гэткім коням бегаць сярод лугу,
Воз цягнуць цяжкі, а не лайдачыць,
А яны тут гоцаюць па кругу
І зямлі перад сабой не бачаць.

Што жадаць ад грацыі канёвай,
Бо капыт — не каблучок дзявочы.
А танцуюць з шчырасцю вясковай,
На людзей не паднімаюць вочы.

А яны не гэтага жадалі,
Калі людзі млелі ў захапленні;
Бачыш — коні на калені сталі,
Сталі на калені.

Конь прывык, што корміць яго праца,
Што бакі бываюць часта ў мыле.
І за блазенства, калі прызнацца,
Яго даўніх продкаў не кармілі.

А яны — з свабоднае пароды
І любілі пагуляць у полі.
Эх, каб адчыніў вам хто вароты,
Як бы сіганулі вы на волю!

Там і плёсаў цёплае улонне,
І густыя краскі лугавыя.
Ці не праўда, цыркавыя коні,
Коні цыркавыя?

## ДАРОГА НА АЙ-ПЕТРЫ

Напэўна, бог — адменны бэйбус:
Нагарадзіў без толку горы,
Таму не ходзіць тут тралейбус
І ўладары дарог — шафёры.

Вышэй птушынага палёту
Нялёгка вывесці машыну,
Дзе з-за любога павароту
Раз'езд мізэрны — шына ў шыпу.

Як размалёваная цацка,
Аўтобус коціцца па кругу.
Гляджу наперад — быццам бацька
Сваю раскручвае папругу.

Я век пачаў не вельмі ўдала,
І мне ўласціва слабасць тая,
За што ў дзяцінстве пападала
Ды і цяпер перападае.

Дзеля жывога інтарэсу
Хачу вышэй падняцца ў неба,
Зірнуць на тое часта лезу,
На што глядзець зусім не трэба.

## АЮ-ДАГ

Дзякуй богу, скроні ўжо сівеюць,
Але з сэрцам зноў я не ў ладах,
І шафёр, каб гэты сум развеяць,
Прыгадаў мне сказ пра Аю-Даг.

Жыў мядзведзь.
І сэрца было рада.
Толькі раз —
што бура нанясла! —
З гронкамі цяжкімі вінаграда
Дзеўчына да берага ішла.

Ён — за ёй.
Яна — хутчэй да мора.
Паплыла.
І — змрок зашалясцеў.
І мядзведзь ад яраснага гора
Выпіць мора гэта захацеў.

І цяпер у добрую пагоду
Можна бачыць з палатна шасе,
Як ён морду апускае ў воду
Ці па звычцы лапу сваю ссе.

Думаю, і ты сама не рада,
Што калісьці сцежка нас звяла.
Дык навошта гронкі вінаграда
Ты перада мною пранясла?

* * *

Зоркі, прамільгнуўшыя ў акне,
Недаступнымі здаліся мне.

Расштурхала мора берагі,
На прычал я выйшаў ад тугі.

І, каб асвяжыцца вецярком,
Сеў у лодку з хмурым рыбаком.

І здзівіўся там я, як нідзе,—
Гойдаліся зоркі на вадзе.

І любая — толькі не міргні! —
Гэтак блізка — рукі працягні.

* * *

На крымскіх камяністых берагах
Клянецца мора — з пенай на губах —

Утаймаваным і лагодным быць
І разамлеласць сонную любіць.

І заціхае, каб паверыць мог,
Што будзе гэткім ля любімых ног.

І раптам — шторм! І мора — аж дыміць.
І толькі клятва з далечы грыміць.

* * *

Мы паглыбляемся ў ядро,
Мы спасцігаем мікрасветы.
Сумленне, праўда і дабро
Ўміг набываюць іх адсветы.
Мы зберагаем — я і ты —
Жывым традыцыям адданасць.
І ў тым складанасць прастаты,
Каб проста перадаць складанасць.

* * *

Памяняцца б плаўнікамі з рыбай,
Каб падводны ўбачыць небасхіл
І пажыць пад акіянскай глыбай
Год ці два — на колькі хопіць сіл.

Перш за ўсё, адправіўшыся з дому,
Захаплю я пільнасць праз запас,—
На шляху сустрэнецца, вядома,
Хіжы рух палярысавых баз.

Бачыш —
экспанаты для патомства:
І адкуль ухмылісты аскал,
І сляпога спрута вераломства,
І бязмозгласць тупалобых скал.

Недарэкі ёсць і небаракі
І пачвары з грацыяй сталюг.
Заднім ходам соўгаюцца ракі,
Чарапахі ў панцырах заслуг.

Мора, мора — нудная кансерва,
Ажно смутак смокча пад рабром.
Дакрануцца б да жывога нерва
І вачмі,
і слыхам,
і нутром.

Вось сюды б дзябёлага Мікулу,
Атамную даць яму саху —
Ён бы нарабіў такога гулу,
Каб на Млечным чулася Шляху!

* * *

Я — знак таго, што скора прыйдзе,
Я тут не ўвесь — я ў глыбіні:
Я гартаваўся ў дынаміце,
Каб не забыць аб вышыні.

Палі агнём, студзі вадою,
Грамі да полымя ўваччу,
Як хочаш — бі, а я — устою,
А я — ракетай узлячу!

* * *

Вы чалавека снежнага шукалі —
У паднябеснай высі мураўя?
Выглядвалі яго і аклікалі,
Не ведаючы — хто ён?
Гэта — я.

Мяне загартавала летаргія,
І з ненасытнай прагаю жыцця
Я там іду, дзе не былі другія,
Упэўнены да самазабыцця.

Мяне не спыніць ураган шалёны,
І, вымераўшы маналітны краж,
Качу снягоў бясконцыя рулоны,
Каб заарканіць прывідны міраж.

І там, дзе ні прасвету, ні прадухі,
Паветра робіцца гусцей слюды,
Пад гаману завеі-папрадухі
Я пракладу вячыстыя сляды.

Я перажыў агонь такі, якому
Патрэбна адчуванне вышыні,
Каб стала роўнай подзвігу людскому
І па размаху і па глыбіні.

І, хто б за самаўпэўненасць ні лаяў,
Няхай зламлю апошняе рабро,—
На ўступы неабжытых Гімалаяў
Вядзі мяне,
відушчае пяро!

## «ПРОФІЛЬ ВЕКУ»

(1969 г.)



* * *

У літаўры б'юць мерыдыяны,
Паралелі звоняць у званы.
І, разбег узяўшы акіянны,
Па планеце ходзяць мае сны.

Столькі караблёў — а не сабрацца!
Столькі караблёў — а не паспець!
То трывога, то журба, то праца...
Што гарэнне? — стаў ужо кіпець.

Бескарысна папракаць планету,
Што не быў удачлівым плыўцом:
Некалі і я зямлю аб'еду
Матчынага слова пасланцом.

А пакуль — аддам людзям, што маю,—
І любоў сваю і запавет.
Па-бацькоўску слова абдымаю,
Перад тым як выправіць у свет!

* * *

За прыгуменнем — ядранае жыта:
Сцяна калоссяў, бабкі і снапы.
Паветра густа промнямі прашыта,
Мучнога пылу гойсаюць слупы.

Я аб іржэўнік востры абкалюся,
Шукаючы разору-баразну,
Стамлюся і зняможана звалюся
І, плачучы, сярод снапоў засну.

І будзе сніцца мне гарох зялёны,
Куды дрыготкай кладкаю прайду,—
Лістамі-самалёцікамі клёны
Зацерушылі цёмную ваду.

І будзе сніцца мне, што я высокі —
Магу дастаць з падстрэшша птушанят,
І маці, паглядзеўшы на аблокі,
Мяне не папракне за куранят.

Скрыпяць вазы, уціснутыя туга,
Лянівы гром пагырквае здаля.
І мне не страшна бацькава папруга —
Мы едзем сярод млоснага галля.

Чапляюцца духмяныя травінкі
За кожны лісцік, за любы сучок.
І поту залатыя ручаінкі
Цякуць у бацькі з загарэлых шчок.

Вядома, мне спякотна гэтаксама,
І я скрозь пацяруху-мітульгу
Крычу з адчаем безгалосым: Ма-ма-а!
І аніяк дазвацца не магу.

* * *

Пара світанняў галубіных —
Туман дыміцца малаком,
Зара на вербах і рабінах,
Ручай заспаны пад мастком.

І ці дрымотны, ці журботны
Гук пастуховае трубы,
І —
    валацуга бесклапотны —
Яршысты певень ля вярбы.

Заўважыш, маючы ахвоту,
І гусянё без хадунка,
Што заваліласяа да плоту
Пад злым паглядам гусака.

Шпакі, паснедаўшыя ў полі,
Пад скрып санлівы жураўля
І перадражняць цябе ўволю,
І ахарошацца здаля.

І зноў — вядома,
                что прысніцца! —
Не паднімаючы вачэй,
Па градах ходзіць таямніца
Хмарынкі чэрвеньскай лягчэй.

* * *

Прыехаў на саракатонцы ўранку
Суседскі хлопец,
                сын калгасных ніў,
І, стаўшы на высокую страмянку,
Сваёй усмешкай сонца засланіў.

З ім павітацца — падстаўляй драбіны,
Ды ён не задзірае галавы:
Ніжэй намнога мазаўскай кабіны
Была хаціна маці-удавы.

І хоць цяпер мы з ім і не суседзі,
А будзем па-ранейшаму дружыць.
Зямляк даўно за небасхілам едзе,
А на стале чарніліца дрыжыць.

* * *

Піла-вятруха — звонкая гарэза —
Выкручваецца гэтак альбо так.
Мукой апілкі сыплюцца з надрэза,
Хоць падстаўляй прыгоршчы ці латак.

Я з бацькам дуб пілую на штандары
(Патрэбна ў хаце переставіць печ).
А тут цямнее і находзяць хмары,
І не паспець мне — ведамая рэч.

Куды? Аб гэтым я адзіны знаю
І анікому ў свеце не скажу.
І, сцяўшы зубы, горка праклінаю
І дождж, і змрок, і золкую імжу.

Пакуль я буду вечарам імжыстым
Парадчыць кругляکі на халадку,
Дзяўчына з кучаравым гарманістам
Шчасліва ходзіць недзе пад руку.

І мне ўжо не вярнуць яе — суровы,
Прыйду я да вясельнага стала:
Ці то ў маіх, ці то ў грудзях дубровы
Балюча ные сумная піла.

* * *

Прачынаецца ляда
Ад сякер і агню.
Я санлівае стада
У туманы ганю.

У расхрыстаным дыме —
Рой агнёў-светлякоў.
І зусім маладымі
Бачу ўласных бацькоў.

О зямля! Без аддышкі
І наяве, і ў сне

Да апошняй калмышкі
Рыхтавалася мне.

Тваю цёмную сілу
Я навек пракляну —
Ты забрала ў магілу
Тую, што не вярну.

Размінаюся з полем,
А паветра як вар.
Дышуць жаркім вуголлем
Успаміны у твар.

Нездагадлівы зайчык,
Пабягу за дымком,
Дзе дадуць мне акрайчык
І суніц з малаком.

* * *

Праз далонь угледзішся на сонца
І руку адрозніш — сведчу я —
Цёмную — хто працаваў бясконца,
І ружовую — у гультая!

* * *

Жаўрук прадзе сярэбраную нітку,
Яе пчала нястомная снуе.
Зямлю-карміцельку,
а не наймітку
У новы ўбор аратай адзяе.

Вышэй дугі калышацца калоссе,
Шасцяць снапы.
Не ведае малы,
Што на зямлі ўсё дзіва пачалося
Ад чалавека, птушкі і пчалы.

* * *

Лязом праменным сляпіў рубанак,
Калі ён сонцу міргаў знянацку.
З сумёту стружак, што ўслалі ганак,
Я з захапленнем глядзеў на бацьку.

Ён мне здаваўся мудрэйшым з магаў,
Як над гарачым схіляўся ўслонам:
У любой палаце і мер і вагаў
Магла стараннасці быць эталонам
Яго работа!

* * *

На возе чэрвеньскага сена
Я ехаў — даўняя пара! —
Гнязда буслінага антэна
Цямнела з роднага двара.

І на вільготным небасхіле
Прабіўся месяц праз дубцы,
Як яблык той, што не дзялілі,
А мне пакінулі касцы.

І насцярожаныя кроплі,
Што прымяраліся з паўдня,
Забарабанілі ў аглоблі,
Абмылі потнага каня.

І, не чапаючы вячэры,
Стуліўшыся ля вушака,
Адкрыла маці насцеж дзверы,
Усмешкай лашчачы сынка.

І з гэткай сілай неадольнай
Дыхнула ў грудзі, як раней,
Цяплом, і лямпаю настольнай,
І скрытным шолахам сяней.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Праходзяць дні. Скрыпяць калёсы.
І неадступна — па начах —
Клякоча бусел безгалосы
З журбой у стомленых вачах.

* * *

Не сунімаючы разбегу,
Дзе кружна, дзе і напраскі,
Навобмацак бяруць з-пад снегу
Разгон вясновы ручайкі.

На досвітку іх ход падлёдны
Відзён пад заценню густой,
І ў грудзі вее ледзь вільготны
Паветра смольнага настой.

Яловых лап святлее навісь
Ад белай лёгкасці аблок,
Завязваецца ў вербах завязь,
Блакітны плавае пылок.

Істужкі маладой бярозы —
Хоць іх у косы запляці.
А птушкі ўжо шукаюць гнёзды
І ўвішна чыняць — ты глядзі!

І сам, заняты працай спорнай,
Не ўбачыш ты, як з-пад рукі
Красы святочна-непаўторнай
Ляцяць, ляцяць,
ляцяць дзянькі.

І там, дзе лесу край асмужан,
Дзе ўзгорак дуб прыкрыў шатром,
Пабачыш бляск дрыготкіх лужын,
Маланку першую і гром.

І раптам — сонца засвяціла! —
Лясны ручай ажно кіпіць.
Гамоніць бор — краса і сіла! —
І толькі птушкі просяць піць.

* * *

Ходзіць сон
Ля акон,
А дрымота —
Каля плота.

Салаўі —
У гаі,
Ну, а пеўні —
Тут, напэўна.

Дзверы спяць —
Не рыпяць.
Толькі цені
Ў аддаленні.

Хрусь ды шчоўк
Каблучок
І падкоўкі
Звонкай коўкі.

Нават знік
Маладзік:
Хоць не хочаш —
А сірочыш.

І да дня
Цішыня
Ходзіць з імі —
З маладымі.

* * *

Капеж зялёны цурубоніць,
Прамыўшы ложа раўчука,
Курэй заспаных з смецця гоніць
І з душнай будкі — шчанюка.

З-пад снегу леташнія шышкі
Пабачыць можна дзе-нідзе,

І пацямнеўшыя пупышкі
Адлюстраваліся ў вадзе.

І конь задумаўся над сенам,
Ледзь не заснуўшы ля вазка,
Сцвярджае з правам несумненным —
Няма работы ў лесніка.

Дарога, што цямнее ў лузе,
Знікае ў пошум баравы,
І па-над ёй гагочуць гусі
І кліч раняюць журавы.

* * *

Баюся воблакі спыняць — баюся
Няўзнак паблытаць тумаиоў кудзелю
І пражу вераснёвую дажджоў.
А то яны захочуць прыпыніцца,
І можа здацца верагоднай праўда,
Што ў полі ёсць зялёныя бярозы
І пад адной з іх — самай маладзенькай —
Адпачывае тая, што калісьці
Упэўнена сказала:
                                — Сына
Я аддаю вам у кашулі белай
З разумнымі і яснымі вачамі.

Мне быць такім!
                                А стомленыя рукі
Зямлі папросяць — захачу вярнуцца
Туды, дзе ты мне падарыла свет.

* * *

Стараецца пчала — ёй многа спраў улетку! —
Ад досвітку да душнай цемнаты.
Ніякую не абмінае кветку —
І столькі ў мёдзе тонкай гаркаты!

* * *

Ці пакідаюць птушкі след,
Калі для іх замкнецца свет?

Ні на паветры, ні ў вадзе —
Слядоў не бачна анідзе.

Ды без птушынага крыла
Падняцца б думка не магла.

* * *

О прыстань баязлівых — успаміны,
Мінулых дзён пажоўклае лісцё!
Аблічча маці, хлеба водар кмінны,
Я толькі вас бяру на ўсё жыццё.

Я іржавець не буду на прыколе,
Калі такая далеч з-пад рукі.
І не згаджуся ў неаглядным полі
Збіраць пасля камбайна каласкі.

* * *

Гусак над сажалкай гагоча,
Задраўшы дзюбу ўверх, нібы
І жуpавам сказаць ён хоча,
Што лепшы кут — тут, ля вярбы.

Пагляд сярдзіты затуманен
Лянівай сытасцю, і ён,
Нібы ранейшы хутаранін,
У брудзе плешчацца здавён.

Што ёсць другія небасхілы,
І моры, і мацерыкі —
Не знае ён: звязалі крылы
Гразі засохшай камякі.

Не знаўшы чыстых гладзяў водных,
Ён журавам пагарду шле.
Яны ж — з адвагаю свабодных —
Ляцяць, знікаючы ў імгле.

Падсунуць што б яму пад вока,
Каб здагадаўся ён калі,
Што трэба лётаць нам высока,
Каб крылы чыстымі былі.

* * *

Узятак вечаровы
Нясе дамоў пчала,
А ў засені дубровы
Яшчэ звініць піла.

У стомленыя ліпы
Схаваліся вятры,
І залацяцца шыбы,
Як соты, ад зары.

У прыцемках нясмелых,
Дрыготкіх ад расы,—
Мігценне кофтак белых
І зрэдку — галасы.

А ў пацямнеўшых хатах,
Што ўсталі над ракой,—
Трываласць, і дастатак,
І ўпэўнены спакой.

* * *

Не напісаў я верша росам,
Якімі калісь ногі мылі,
І сінім чэрвеньскім нябёсам,
Што гэтак ласкава свяцілі.

І тым вятрам, што да паўночы
Дзіцячы сон наш калыхалі,
Травінкам, што глядзелі ў вочы,
Калі хадзіць мы пачыналі.

Успомніў толькі шчырым вершам
Аб часе тым, што прыйдзе з далі,—
Патомкам край пакінем лепшым,
Чым ва ўладанне мы прымалі.

* * *

А вы плылі на пласкадонцы,
Калі сярдзіты бор гудзе
І раскалыханыя сонцы —
І на нябёсах і ў вадзе?

Напорам плыні вёслы гнуцца,
Здранцвеласць правага пляча.
І што як даць перавярнуцца —
Прарочыць лісцяў саранча.

І мудра разважаюць рыбы,
Што ў гэты час надзейней дно.
Цябе ж вядуць наперад шыбы,
Куды не стукаў ты даўно.

Шалеюць хвалі непрытомна,
І ў іх загадкавай разьбе
Ты бачыш сонца — хоць і цёмна! —
Яго ты носіш пры сабе!

Палёў размах, смуга дубровы.
І ў ясных зрэнках юнака
Бацькоўскі свет стокаляровы,
Нібы крыло сіваграка.

* * *

Вачэй прыжмураных хітрынкі
      На мяне — як матылькі.
Дзяўчат праводзім з вечарынкі —
      Падлеткі-хлапчукі.

Як майскі цвет, я быў нясмелым,
      І ў памяці жыве —
Ідзеш ты ў плацці бела-белым
      Па роснай мураве.

А там лясок — маё расстанне,
      Дык не хавай шчакі.
Снуюць над намі да світання
      Іскрынкі-светлякі.

Гармонік зойдзецца заўзята —
      Хмялее галава:
— Ой, рута-мята ды не прымята,
      Ды не стаптаная трава.

* * *

З жалезных дахаў промні снег нізрынуць
І, ручаіны ўдалеч ведучы,
Зажмурацца.
                    Абудзіцца звярынец
І — будзе вуркатаць аж да начы.

І сонца на мізэрныя асколкі
Расколецца [illegible] размаху на шасе.
І ты заўважыш — зыркія вясёлкі —
Хто б ні праходзіў — у вачах нясе.

І капяжоў няўстойлівыя прэнты,
Што за маім пабліскваюць акном,
Са смехам пройдуць юныя студэнты,
Нібы марскім любуючыся дном.

Зямля ўсміхнецца маладым шматзначна,
І, ледзьве мяўкне коцік на вярбе,
Я, паглядзеўшы на нябёсы ўдзячна,
З жалезнай клеткі выйду да цябе.

* * *

Цягнік сапе, прастор грабе,
З вятрамі зычна лаецца.
Гляджуся ў люстра, што ў купэ,
І твар мой аддаляецца.

Перада мной і за спіной
Два люстры гэтак зведзены —
Няйначай, хітраю раднёй
Пастаўлен на агледзіны.

Дваюся я, траюся я
І, можа, ўчацвяраюся.
Душа прапашчая мая,
Дык для каго стараюся?!

О, колькі, хто на свой капыл
Мяне хацеў бы выхаваць!
Лячу стралой за небасхіл —
Пляваць на вашу прыхамаць!

Пакуль запал мой не ачах,
Люблю язду таропкую,
Няхай у некага ў вачах
І застаюся кропкаю!

* * *

Вузялок дзяўчаты ловяць,
Той ад смеху аж дрыжыць,
І праз нітак каляровасць
І бяжыць ён, і бяжыць.

А тканін узор стракаты
Аж звініць ад салаўёў —
Іх прывабілі дзяўчаты
З васемнаццаці гаёў.

Запявала і танцорка,
Паглядзі — з усіх бакоў
Зіхаціць скарагаворка
Дваццаці пяці станкоў.

Вузялок той дураслівы
Угрунём ды угрунём
І — зняможаны, шчаслівы —
Пырхне ў рукі — птушанём.

* * *

Так за колам спяшаецца кола,
Быццам я за табой, ты — за мной.
І слупы, як жардзё частакола,
За вагоннай мільгаюць сцяной.

У адкрытую фортачку шквальна
Урываецца востры струмень.
Між прасветамі дрэў адчувальна
То зайграе, то змоўкне прамень.

Што за дзіва? Няўжо таму цуду
Мы не верылі столькі гадоў,
І накшталт прамяністага груду —
Бляск і цень гудуноў-правадоў.

Ёсць залежнасць прамая і тайна
Паміж гукам і фарбай — тады
Будуць нашы іграць надзвычайна
Ад электрасвятла гарады.

Трэба гэтаму верыць і можна:
Недарэмна, пабачыўшы лес,
Па чыгунцы бяжыць асцярожна
На пружыністых лапах экспрэс.

* * *

Ёсць магія сталіц — жывыя цені,
Забытыя ў скляпеннях камяніц,
Паданняў воблакі і летуценні
Былых стагоддзяў, што ўлягліся ніц.

І — павуцінне даўнасці на шыбах,
І — скамянеласць гіпсавых маршчын,
І — могільнікаў ціш. А ты — як выбух:
Узор сабе і сам сабе пачын.

Ты, расшпіліўшы ветразь гімнасцёркі,
Лясоў зялёных зняўшы патранташ,
Урочышчы адсунуў за пагоркі,
Дзе што ні крок — акоп альбо бліндаж.

Не старац хліпкі, не хвалько-гарэза,
Ты ўзводзіў сцены з дыму і агню
І колеру астыўшага жалеза
Страі дамоў, што мкнуць у вышыню.

Свабода — вось твая узнагарода,
Якой усцешан будзеш на вякі.
І плошчы падарыў ты для народа,
І вуліц партызанскія клінкі.

* * *

Слова —
            прыцягнення зямнога аснова.
Ньютон, ты мне даруй,
                        што папраўляю цябе:
Мудрасць многіх вякоў
                        мы праверылі сёння
                                        нанова,
Каб не быць нам бяззбройнымі
                                і ў здзяйсненнях,
                                        і ў барацьбе.
Той,
      хто верыў калісьці ў нікчэмныя словы,

Паплаціўся не раз.
Прыгадай, як дзяды,
Што паверылі ў царскія словы,
пад пахі узяўшы галовы,
З дэманстрацый ішлі,
і наўсцяж чырванелі сляды.
Вер сабе і таму,
хто цябе загартоўваў да бою
Мудрым словам сваім.
І — нявер'е развей:
Яго слова прыняўшы,
нясі яго вечна з сабою.
Ты —
адзін пераможца.
І адкрыюцца перад табою
Трыумфальныя аркі брывей.

* * *

Імперыя, дзе сонца не заходзіць,—
Паэзія! І кожны прызнае —
Штоміг тут рунь вячыстая ўзыходзіць
І — невычэрпны жытніцы твае.

Я прызнаю сапраўднага паэта
Як трыумфатара усіх эпох,
Бо кожная далёкая планета
Ваўчком круцілася ў яго ля ног.

* * *

У пурпурова-трапяткім прыполе
Мяне зара нячутна прынясла,
Калі раздольна гойдалася поле,
Калі чаромха белая цвіла.

Даверлівых праменняў пералівы,
Раса, вады крынічнай саладзей,
Сцвярджалі мне, што буду я шчаслівы,
Што прынясу я радасць для людзей.

Што, бескарысліва звонкагалосы,
Вазьму любую ношу па плячу
І самыя высокія нябёсы
З штодзённасцю суровай спалучу.

Жыву, прыняўшы і зямлю і неба,
І кожны раз,
як пачынае днець,
За тое, што зрабіў не так, як трэба,
Перад зарой гатоў пачырванець.

* * *

Пад мудрым словам — шклом павелічальным —
Звычайнае здаецца незвычайным.

Чаму? Начуўшыся аб дзіўным цудзе,
Яго вачмі адшліфавалі людзі.

І, выступіўшы ў ролі ювеліра,
Явілі нам і Гётэ і Шэкспіра.

* * *

Жыве і ў слове атамная сіла
Здаровай радыяцыі — яна
Заўсёды там разумна каласіла,
Дзе ходзіць умалотная вайна.

Даўно мы параўняліся б з багамі,
Каб так не даражылі булавой:
Зямлю мы падштурхоўваем нагамі
І вельмі неахвотна — галавой.

Калі прад ёй паўстане нябяспека,
Што з перагрэтай саслізне асі,—
Надай ёй новы рух, а чалавека,
З бяздоння ўзняўшы, зноў уваскрасі.

* * *

О пранікнёнасць слепаты!
Хто б нашу ўважлівасць патроіў?
А то ў штодзённасці герояў
Не разглядзелі — я і ты.

Ужо іх твары бачыць свет,
А ў нас і словы не гатовы,
І, задзіраючы галовы,
Бяжым за імі дружна ўслед.

А кожны побач жыў і рос,
І незвычайная дарога
Ў нас пачалася ля парога,
Вышэй акрэсленых нябёс.

Мы ж, лень шануючы сваю,
Знаходцы рады выпадковай
І ўжо ў вядомай Церашковай
Бяром пра космас інтэрв'ю.

Пустой хвалы цямнее медзь,
І гэта нам напамінанне,
Каб ненароджаных жаданні
І мары мёртвых разумець.

* * *

> За многія дасягненні, якія садзейнічаюць прагрэсу, чалавецтву даводзіцца плаціць дарагой цаной, часам цаной жыцця лепшых сваіх сыноў.
>
> *Юрый Гагарын*

У ачышчэнні ёсць усім патрэба,
І будзем вечна кланяцца мы дню,
Калі ты да зямлі наблізіў неба
І — нас усіх падняў у вышыню.

Усёй светабудовы патаемнасць
Прыадчыніў ты, ды не толькі тым

Узвысіў нас — будзённую нікчэмнасць
Ты аджануў ад свету назусім.

І, быццам з-за перагародкі тонкай,
Ад радасці спяваючы няўзнак,
Зямлі дакладваў — са сваёй старонкай
Мы раімся, каб працаваць усмак.

І, можа, ты — адзін з усіх смяротных —
Ажыццявіў найбольшую з надзей,
Упершыню з адлегласцей халодных
Віншуючы акрыленых людзей.

Яшчэ і не паспеў ты прызямліцца,
А бачны быў на ўсіх мацерыках
Па здымку, што ляцеў, як бліскавіца,—
З бялюткаю галубкай на руках.

Адкаліся і ў найдрабнейшай рысе,
Так уласцівых доблесным сынам,
І родныя, і незямныя высі,
Што падарыў ты назаўсёды нам.

Быў гэты ранак незабыўна сінім,
Як ты назад вярнуўся ў караблі,
І колькі матак тваім светлым імем
Сваіх сыноў у дзень той нараклі!

Аддана паслужыўшы ўсяму свету,
Ты ў парываннях дзёрзкіх не ачах,
І так, як у вачах ты нёс планету,
Планета ўся нясла цябе ў вачах.

Такому ўражанню не раздрабіцца,
Яго з нас кожны ў сэрцы пранясе.
І горкі боль —
ну, як ён мог разбіцца? —
Здаецца, зрушыў паралелі ўсе.

І ў неўміручасці шукаць уцехі
Балюча нам — балюча ад таго,
Што многія нязведаныя вехі
Праклаў для чалавецтва б усяго.

Ты, стаўшы славай нашай і сумленнем,
Адвагу не змяніў на рамяство
І прыйдзеш з кожным новым пакаленнем
Сказаць жыццю: — Якое хараство!

* * *

Марозны лес захутваецца ў дымку,
Скрыпіць пад палазамі санны след,
А я ўсё думаю аб фотаздымку,
Што ўбачыў у газеце.

Сельсавет
Аж сіні ўвесь. За грубкаю гарачай —
Гамонка. Каля ганка — збой падвод:
Сюды са штогадовай справаздачай
Прыехаў сёння брат-рахункавод.

Мужчыны, абступіўшы паштальёна,
Пакрэктваюць салідна гэтак: — М-да...
А я на ўсіх тараплюся здзіўлёна,
Не цямячы нічога,— як шкада!

І мне газету, хрусткую з марозу,
Падсунуў нехта: — Паглядзі, малы!
І бачу — блізка, проста каля носу,—
Вялізныя гарматныя ствалы.

І ўсё ж нічога я не ўмею скеміць,
Цікава вельмі, але што з таго?
І зноў гамонка: — Немец — гэта немец:
Чакаць што хочаш можна ад яго.

Але на ўсіх — паважная лагоднасць,
На ўсіх — з іголкі толькі — кажухі,
І яўна дэманструюць бесклапотнасць
Ў заломленых кубанках жаніхі.

Сабраныя ў гармонікі халявы
Сапернічаюць з сонцам, і хлапцы
Не ведаюць, што славы ці няславы
Ім вельмі скора выйдуць ручанцы.

І — все цішынёй з яловых нетраў,
І — не здагадваюся я, малы,
Што цераз столькі дальніх кіламетраў
Глядзяць мне ў сэрца чорныя ствалы.

## КАМАНДЗІРСКІ БІНОКЛЬ

З пасцелі падкіне раз'юшаны выбух,
І — дзверы з завес, а ікона — з кута:
Ухмылка трацілу ў патрушчаных шыбах,
І — звон у вушах, а ў вачах — цемната.

Бяжыш. А куды? — Даганяюць асколкі.
Бяжыш. А чаго? — Над табой «месершміт».
Машыны, гарматы і кухань двухколкі,
Зеніткі абмацваюць слепа зеніт.

Злаўчаецца зноў кулямёт счацвяроны,
Як лепш на злачынцу накінуць пятлю,
І з жудасным крыкам лунаюць вароны,
Нібыта навек пакідаюць зямлю.

Каровы бяздомныя ў полі рыкаюць,
А жыта — то змоўкне, то стане шумець.
Адны шпачаняты насы вытыркаюць —
Нічога не могуць ніяк зразумець.

Крыло да крыла чарнарэбрай армадай
Фашысты ідуць, аж хістае ў бакі.
І з яснай сінечы над самаю хатай,
Як з ножнаў клінкі,— нашых два ястрабкі.

І, быццам крутнуў велікан матавіла,
Рассеяўся строй, закруціўся клубком.
І — бачыш: машына адна задыміла,
Другая насцігнута зноў ястрабком.

Пад стук кулямётны і сэрцы пульсуюць:
Па фанабэрыстай чорнай брані
Агнём і нянавісцю паласуюць —
І трэці, і пяты спавіўся ў агні.

Ды што гэта?! —
Крылы згарнуў свае сокал,
За ім дыму шлейф пацягнуў і другі.
І — пацямнела адразу навокал
Ці то ад жалобы, ці то ад смугі.

З вурчаннем вантробным з-за бліжняга лесу
Страшыдлы з крыжамі — аж гойдаюць свет.
І быццам жалезам скрабуць па жалезу,
Валюхаўся першы, а тузіна — ўслед.

— Глядзі! —
адхіснуўся маёр ад бінокля.—
Глядзі і запомні! — І мне перадаў.
І — толькі ад нечага вочы намоклі,
І — толькі ён нейкую клятву шаптаў.

І вось над задымленым россыпам красак
Я ўбачыў іх — пруць напралом з-за ліствы:
Іх позірк тупы з-пад набычаных касак,
Да локцяў закасаны ў іх рукавы.

Снарады аднекуль здалёк паласнулі —
А там жа, а там жа свае за ляском! —
Бярозы галіны самотна прыгнулі,
Каб легчы на братняй магіле вянком.

Мільгае над жытам раз-пораз катушка —
То знікне, то з'явіцца зноў сувязны.
Шукае ратунку ўтрапёная птушка —
І ўпала ад кулі сярод баразны.

Са скрогатам,
грукатам,
громам
і гулам
Зямля прагіналася, неба расло.
І сам я — а стаў я чамусьці нячулым —
Не ўспомню, куды мяне што панясло.

Адно толькі помню я — пошчак гарматны,
І дробную дрож камандзірскіх плячэй,
І гэты бінокль дванаццацікратны,
Што буду заўсёды трымаць ля вачэй.

## ЗАЦЯЖКА

Чалавек гаворыць сабе: — Эх!
Знелюбеў энцэфалітны снег.

Душаць дрэвы з чатырох бакоў
Лапамі касматымі сукоў.

А табе камандуе халуй:
Гэта — зрэж, а тое — распілуй.

Выскаляецца лясны жуір,
З карабінам куцым канваір:

— Прыклад пакажы, інтэлігент,—
І зацяжка будзе, і працэнт.

Дрэвы звіслі — цяжка падсячы,
І ад смерці яўна не ўцячы.

Лёс свой не перахітрыш,
А чатыры кедры — добры крыж.

Чым насіць знявагу на гарбу —
Сам зямлю рукамі разграбу.

Можа, самасейка-гарладзёр
Лепш душу сагрэе, чым касцёр.

## ЗАМІНІРАВАНЫЯ ЦАЦКІ

Мітусня тумаяоў парадзела,
Праглянуліся нівы ў расе.
Што на досвітку неба гудзела,
Чулі дзеці — ды чулі не ўсе.

Беглі лугам —
не так, а ў абгонкі —
Ажно вецер сустрэчны звініць.
Прыўставалі на цыпках рамонкі,
Каб шчаслівы той бег прыпыніць.

Каласоў наравістыя грывы
Ад малых ухіляліся рук,
Самы меншы і самы шчаслівы
Нешта ўбачыў. Спыніся, хлапчук!

О! Ён гэтак узрадуе бацьку,
Ды і маці — надзея з надзей!
І пад сонцам бліскучую цацку
Прыгарнуў да худзенькіх грудзей.

— Пакажы! Пакажы! — закрычалі,
Падбягаючы ўслед, сябрукі.
І знямелі ў смяротным адчаі —
Грымнуў гром, ды страшэнны такі.

Гэтай ліпеньскай раніцай яснай
Я пабачыў аблічча вайны
З гэтай вузкай і гэтай дачаснай
І да смерці балючай труны.

Правам воіна, клопатам бацькі
Я нагадваю сталым часцей:
— Не бярыце бліскучыя цацкі,
Што наш вораг нясе для дзяцей!

* * *

Мне сніўся сон:
лагодныя вятры
Ішлі шырока ў горад беласценны,
Рака спішала быстрыя віры
І — ад вады струменіў бляск праменны.

Мак палымнеў на схілах берагоў,
Віліся ўверх ступені па спіралі
Да воблакаў, бялейшых ад снягоў,—
Ад вышыні аж думкі заміралі.

І расхінаўся гэткі далягляд,
Што мімаволі ты прыжмурваў вочы,
І толькі я быў нечаму не рад,
У тым сабе прызнацца не ахвочы.

І толькі, аглядзеўшыся наўкруг,
Я здагадаўся ў гэты ясны ранак,
Што непрыкметны ў горадзе тым рух,
Ніводны твар не бачны з-за фіранак.

На ўсім працягу волжскіх берагоў
Народ вянком пагойдваўся ўрачыстым,
І пурпуровасць схіленых сцягоў
Пераліvалася пад небам чыстым.

Я зразумеў, што людзі ўсе прыйшлі
Аддаць пашаны сціплую даніну
Свяшчэннай акрываўленай зямлі
І — пакланіцца бацьку альбо сыну.

З іх кожны роднае аблічча нёс
І пад паглядам слаўных генералаў
Баяўся прачытаць сапраўдны лёс
На строгім мармуру мемарыялаў.

Іх многа тут, праслаўленых імён,
Што нашай славы здабывалі пошчак.
Шукаў я брата роднага, бо ён
Загінуў тут, адважны бранябойшчык.

Была віной асмужанасць вачэй
Ці сіняга паветра калыханне —
Я не знайшоў. І толькі з-за плячэй
Адчуў яго знаёмае дыханне.

Яшчэ ў маўклівай стоячы чарзе,
Я верыў, што нам з ім не размінуцца.
І, каб навек не знік ён у смузе,
Назад я пабаяўся азірнуцца.

* * *

*Сястры Ані*

Самлелі ногі — шарп ды шарп,—
Ідзём, рыззём трасём,
Нясём з сабой жабрацкі скарб —
У бежанцы нясём.

А кананада за спіной —
Ну, вёрст за пяцьдзесят.
І за табою і за мной
Цікуе аўтамат.

І раптам бачым — самалёт —
З світальнае смугі
Адзін заход, другі заход —
Выпісвае кругі.

Нас апазнаў, і мы яго,
І — хоць ты закрычы!
Крычы ці не — а што з таго? —
Не можа памагчы.

І нават певень, што тайком
Усім сялом няслі,
Заварушыўся, грабянцом
Расштурхаў хатулі.

Даўно бацькоўскі комін знік.
Ідзём у белы свет.
Настала ноч. І маладзік
Пайшоў за намі ўслед.

Не ведаю, чаго яму
Круціцца так юлой.
Магчыма, сумна аднаму
У вёсцы нежывой?

І хоць мінула многа дзён
З тых пор — маладзіка
Я не забыў дагэтуль: ён
Мне стаў за дружбака.

* * *

Другія далі,
Іншыя часы
Мне нагадалі
Сінія аўсы.

Масты разбіты,
Грукат з пераправ,
А конь забыты
Ў полі паміраў.

Чужых ваякаў
Бачыць не жадаў —
Ад дыму плакаў
І — смурод глытаў.

Іржаў самотна,
Але што з таго?
Ланцуг пяхотны
Абмінуў яго.

У хаўтурных звонах —
Далеч да нябёс...

. . . . . . . . . . . .

Ад слёз ягоных
Пацямнеў авёс...

## 25 ЧЭРВЕНЯ 1944г.

Ах, колькі ў зрэнках пораху і сіні:
Праграмыхаў і — пакаціўся фронт,
І ты — збавіцель — прамільгнуў з усімі,
Свой жаркі крок панёс за гарызонт.

І на зямлі разгойданай — на хвалях
Аранжавых грымот, што засцяць свет,—
Ва ўздыбленых зямліста-чорных далях
Я бачыў твой імклівы сілуэт.

Ад гулкіх трас нябёсы ружавеюць,
Бягуць байцы — ланцуг за ланцугом,
І душна крылы плашч-палатак веюць —
Для ворага смяротным халадком.

На грэблі ўзгорка, не абцёршы твару,
Прыстояў — кулямёт наперавес,—

І ўслед табе, прыўстаўшы ад удару,
Абтрос галіны ссечаныя лес.

Гусцей татуіровачнай наколкі —
Варонкі. Смерць — міне ці не міне?
І — даляцелі дымныя асколкі
Да яблыні, дзе ты абняў мяне.

Адно імгненне — што б аддаў за вечнасць! —
Ты быў са мной, запылены зусім,
А мне вярнуў любоў, і чалавечнасць,
І чысціню зямную — назусім.

І, чуючы, што бітва цябе кліча
Туды, дзе ўсталі выбухаў слупы,
У вочы я забраў тваё аблічча,
Якое бачыць буду і сляпы.

Праз столькі часу — сярод зборышч людных —
Цябе шукаў я, прывідны бадай:
Ці ты жывы, ці ты — сярод адсутных? —
З'явіся сам ці голас мне падай!

Хай буду думаць аб жыцці і хлебе,
Душой аддадзены вогненным гадам,
Твой светлы вобраз напішу на небе
І — назаўсёды сыну перадам.

* * *

Бязлеснае раздолле —
Вятры ды сінява.
Скліміць асіна ў полі —
Гаротніца-ўдава.
Гарэлі людзі ў пекле,
Кідаліся ў нажы,
Адчайна пушчы секлі
На трупы і крыжы.
Хоць ты, мая дзяўчынка,
На досвітку прыйдзі,
Істужкі з аблачынкі
У косы запляці.

* * *

Кустоў малінавых мярэжы,
Вільготных трэсак едкі дым,
Павольных хмар цяжкія вежы
Над полем сумным і пустым.

Як па згавору, на падворку
Мы елі ўсе не за сталом
І цалаваць хацелі зорку,
Што блісне ала пад крылом.

Ах, толькі б воблакі гудзелі,
Ах, толькі б сокалы плылі —
Мы тры гады ў зямлі сядзелі,
Сваёй не бачылі зямлі.

Была задумліваю маці —
А ці зацягнецца вайна,
А ці нам доўга быць ў хаце,
А ці пакліча нас яна?

Юнацкіх мрояў пакліч ранні
Стаўляў нам радугі свае,
І ў нецярплівым парыванні
Мы забывалі пра яе.

Цяпер, зняможаны любоўю,
Са свету бачыш з-пад рукі,
Што з апусцелага гняздоўя
Паразляталіся шпакі.

* * *

У огня своя архитектура.

*Сяргей Арлоў*

Хто бачыў, той лёгка паверыць —
Як полымем зоймецца дом,
Страшыдла там пасць сваю шчэрыць
І — б'е з асалодай хвастом.

Вішнёвая кволая завязь
Пад подыхам жудкім трашчыць,
І ён, уталіўшы нянавісць,
У попеле цёплым вурчыць.

А ты і, заплюшчыўшы вочы,
У чаднай світальнай імгле
Забыць родны дом неахвочы
З акрайцам на чыстым стале.

А ты — бо такая патрэба,
Як вынік цяжкіх перамен,—
Палац узнімаеш да неба
На месцы абвугленых сцен.

А ты, не самкнуўшы павекі,
Сказаўшы: — За што ж я цярплю? —
Палац свой узводзіш навекі,
Загнаўшы пачвару ў зямлю.

* * *

Гэта ён — чалавек невідушчы —
Мне насустрач ідзе, як пажар:
У вачах — бураломныя пушчы,
Папяліпчаў раз'юшаны жар.

Аб якіх летуцець панарамах?
Фарбы яркія — даўнія сны:
На абліччы ў абвугленых шрамах
Скамянела грымаса вайны.

Не скажу — ён нічога не бачыць,
Хоць нам сноў юнака не спазнаць,
І, калі б яго лёс перайначыць,
Мог бы з захаду сонца падняць.

І калі разліваюцца рэкі
І дубровы шчабечуць званчэй,—
Асыпаецца мне на павекі
Горкі попел ягоных вачэй.

* * *

Мы цэлы дзень ішлі ў райком,
А год быў сорак шосты,
Штоміг абмацвалі кійком
Страшных калюг наросты.

Працяты ветрам навылёт,
І шлях зусім нязвычны,
І прыкрываў яскрава лёд
След танкаў гусенічны.

І вось ад снежаньскай зары
Зайгралі бляскі шыбін,
І разгарнуўся на бугры
Наш цэнтр раённы — Дрыбін.

І нас дзяўчына-сакратар
Чакала, хоць у печы
Даўно пагас апошні жар,
І мы ад халадэчы

Крануць рукамі не маглі,
І сакратар сказала:
— Ой, хлопцы, як жа вы дайшлі?!
Вёрст трыццаць — ці ж то мала?

Пасля з сабою павяла
Дамоў (быў дом істопкай)
І накарміла, чым магла,—
Гарачай бульбай сопкай.

Назаўтра мы ішлі дамоў,
І дуйка пачалася:
Крупу халодны вецер мёў,
Цямнела не па часе.

Мы ўжо стаміліся даўно,
Усё ў вачах дваіцца.
І бачым — свеціцца акно:
Што ж, трэба папрасіцца.

Заходзім і, абтросшы снег,
Пытаем ад парога:

— Ці не пусцілі б на начлег,
А то ісці нам многа.

А з прыадчыненых дзвярэй,
З чысцейшай палавіны,
Звон чарак, гамана гасцей:
Што б значыць то павінна?

— Сядайце, хлопчыкі, за стол,
Во — ахрысцілі хлопца.
І, абступіўшы нас вакол,
Нясуць па добрай стопцы.

— Прыміце з намі хлеб і соль.
А мы праз дыму кольцы
Глядзім ў падлогу і на столь:
— Не п'ём. Мы — камсамольцы!

І, не ўзнімаючы вачэй:
— І вы не верце ў бога.
І самі сунемся хутчэй
Да мокрага парога.

І ці то меншым стаў сняжок,
Ці вецер трохі ўняўся,—
Значка чырвонага сцяжок
Над сэрцам разгараўся.

Здаецца, і спарней пайшлі
Удалеч маладую,
А што частунку не ўзялі —
Аб тым цяпер шкадую.

* * *

Я зноў і зноў чакаю з-за пагорка
Знаёмы гул: расступіцца імгла,
На сонцы бліснe чкалаўская зорка
З імклівага і гордага крыла.

Ён не любіў пакоры-паслушэнства,
Нябёсаў гаспадар і сын зямлі.

І недарэмна сны майго маленства
Пад знакам зоркі гэтае прайшлі.

Спакой і ціш — уцеха жаўтаротых,
Ды не для нас — апошняя мяжа.
Гудзі, матор, на поўных абаротах,
Хоць з мёртвага не выйду віража!

* * *

Прараб стаіць на ўздыбленай пляцоўцы,
Пакуль астыне звонкае метро,
І на яго задымленай спяцоўцы
Нятленна ззяе вечнае пяро.

Касмічных трас вось дакрануцца плечы,
Падземны гул плыве з усіх краёў —
Зямлі сэрцабіццё! І недарэчы
Яму яршысты шчэбет вераб'ёў.

Зары кумач шуміць на краявідзе,
А цень ягоны лёг на сіняве.
Любімая! А можа, яна прыйдзе —
Па бронзавай пагладзіць галаве?..

* * *

Ад спякоты барханы шыпяць
Па-змяінаму шыпам злосным,
Дваццаць шэсць камісараў не спяць
У пяску, па-пякельнаму млосным.

Над пяском — ці міраж, ці туман? —
Узвышаецца горад святочны.
Намаганне зрабіўшы, Сцяпан Шаумян
Адкрывае павекі.

Паўночны
Купал неба высока навіс,
Разглядаючы гэты зацішак.

Быццам дома высокі карніз,
Як гірлянды, агні нафтавышак.

— Паднімацца нам трэба, сябры,—
Будзіць ціхенька ён Джапарыдзе,—
Вунь на ўсходзе палоска зары —
Ты ж чакаў так, калі яна ўзыдзе!

— О мой брат! Я падняўся б даўно,
Толькі нешта баляць мае вочы —
Можа, нават ад сонца таго, што ў акно
Сёння бачыць шчаслівы рабочы.

— Гэта праўда. І мне не лягчэй.
Я і сам бы падняўся, Алёша *,
Ды ніяк не разгорнеш плячэй —
Цісне грудзі свінцовая ноша.

Далучаюцца зноў галасы —
Дваццаць шэсць камісараў гамоняць.
І, пабачыўшы промень касы,
Ветры змрокі магільныя гоняць.

* * *

Аблакі — беласнежныя храмы Элады,
Сны мінулых вякоў, што да нас даплылі,
А пад імі — гатычных бароў каланады
Свае змрочныя шпілі ў нябёсы ўзняслі.

Спалучэнне часоў! Іх прамая залежнасць
Як бясконцасць жыцця, дзе звяно да звяна.
Шырыні і размаху твайго безбярэжнасць
Я істотай усёй спасцігаю здаўна.

І пад сэрца штурхае мяне нецярпенне,
Каб з расхістанай лесвіцы доўгіх гадоў
Кожны ўзяў для сябе па маленькай ступені
І другую б рабілі — для ўласных сыноў.

* Алёша — партыйнае імя Джапарыдзе.

Яна будзе да ўсякіх грымот адчувальнай,
Паясамі надзейнымі нас спавіе,
Каб пад ценем груваcткім ракеты глабальнай
Не згіналіся плечы — мае і твае.

* * *

І ў сне працуе чалавек,
І ў сне ён клопатам аддады,
І ў сне над ім грукоча век —
Ракеты, спрэчкі і кайданы.

А верыцца: наступіць час —
Падзелім зоры памяркоўна.
Ды мала будзе дзён для нас,
І не паспеем мы ўсё роўна.

Насцігне кожнага мяжа,
Якой не адкладзеш на потым.
Як ад зладзейскага нажа,
Халодным аблiешся потам.

* * *

*Міколу Аўрамчыку*

Век дваццаты — у процівагазе:
Папялішчаў чорную пургу
Нам не прадыхнуць — ва ўсякім разе,
Я свабодна дыхаць не магу.

Сны мае знявечаны садомам,
Ляжаш спаць, ды мулкая пасцель:
Кожнай ноччу над заціхшым домам
Атамная кружыцца мяцель.

У жыцці суровай многа ніткі,
Без вясёлак я даўно жыву:
Б'юць і б'юць ракеты і зенiткі,
Падаюць сцярвятнікі ў жарству.

Ці паспеем мы, ці не паспеем,
І ці толькі дзве ў мяне рукі,
Каб аддаць бязлітасным нампеям
Сына і маленькіх дзве дачкі?

Я гатоў аддаць сябе грымотам,
Каб жылі яны... Адкуль азон?
І, спавіты нетутэйшым потам,
Я не ўцямлю — праўда альбо сон?

Хочуць спапяліць, дашчэнту сцерці
Плён тысячагодні рабацяг.
Дык няўжо і пражывём да смерці
З атамнаю бомбай у грудзях?!

* * *

Фідэль! Аб чым ты думаеш начамі,
Пад галаву паклаўшы кулакі,
Калі праносяцца перад вачамі
Ну, як іх?.. можа, нашы кулікі?

Сузор'і. Вецер. Ядрана і свежа.
І — зноў ты насцярожыўся. Скажы —
Ці то шуміць трысцёг каля ўзбярэжжа,
Ці то аб гальку точацца нажы?

Чужы пражэктар перакрэсліць неба,
І, плашч паходны скінуўшы з пляча,
Ты з'явішся тады і там, дзе трэба,—
Няўмольны, як давідава пращча.

## СПІНІНГ ЖАЛІО-КЮРЫ

Для многіх свет — таемны лес,
А для цябе — акварыум,
І лес, і лёс, і сам кангрэс,
Што распагодзіў твары вам.

Сціхае цесных крэслаў скрып,
Настрой — цяжэй за волава:
Здаецца, вашынгтонскі грыб
Апусціцца на галавы.

Вядома ўсім, што гэта ты
Даў волю сіле чортавай.
Дык што цяпер? Марнець з нуды?
Жыцця не перагортвай!

Усё, што ты ў жыцці любіў,—
Мільёнам сонц прасвечана.
Высокі подзвіг ты зрабіў
Для шчасця чалавечага.

Якой бы ні бываць бядзе —
Гнуць не прыйдзецца спіны нам.
А хто ў праходзе там ідзе?
З чым? Са звычайным спінінгам!

О, гэта сімвалічны дар
Эпохі вадароднае:
Цяпер ты будзеш валадар
І глыбіні падводнае.

І добра паваюеш ты
Са сквапнасцю-скарэднасцю
Ў імя жыцця і дабраты —
З дзіцячай непасрэднасцю!

* * *

Прахалоды і цяню
Тут шукаў бы дарма:
Вынь запалку з кішэні —
Загарыцца сама.

Гэткі дзень невыносны,
А ў дадатак — касцёр.
Сонцаваліцца ў сосны,
Ты — адна з іх сясцёр.

Палыхаюць іголкі
Ад прамення-трысця.
Да бліскучай прыколкі
Ты прасвечана ўся.

І камарыкам слепа
Цішыня ўся звініць.
Душна так, ажно неба
Ты гатоў расчыніць.



## НА РАСКОПКАХ ХЕРСАНЕСА ТАЎРЫЧАСКАГА

За талакою беспрытульных зданяў
І я прыйшоў, каб мой бясплотны цень
Мог вызваліцца з тонкіх кіпарысаў
І праз туман вякоў і дым курыльніц
Пераступіў сучаснасці мяжу.

І вось — з нябыту узнікае горад
З разбітымі байніцамі, дзе можна
На вышчарбленым мармуры асколку
Зноў доблесных прысягу прачытаць.

Разбіта ўсё — і лазні, і давільні,
Што славіліся сокам вінаградным.
Калоны зруйнаваны, што калісьці
Герояў чулі,— знішчыла вайна.

Але не гэта ўразіла мяне.

За сходную цану мастак мясцовы
Уваскрасіў — на ўзроўні свайго дару —
Мінулае, каб кожнай ноччу зоры
(Як медзякі з калекцый нумізмата)
Прыходзілі пачціва паглядзець
На стройную смуглявую дзяўчыну
І юнака ў нейлонавым плашчы.

Яна — экскурсавод, ён — археолаг,
І па любві прафесію абралі
І ўсё ж глядзяць на стрэлкі нецярпліва,
Пакуль не схлыне гаваркі натоўп.

Ім хочацца хутчэй паслухаць мора,
Убачыць, як яно калыша люльку,
І — тчэ карункі пены немаўлятку,
І — абдымае шматвяковы пыл.

Я не хацеў бы стаць Напалеонам,
Ні жорсткім Тамерланам, ні Батыем,
Ні Аляксандрам Македонскім — толькі б
Заваяць мне дзвюх галактык тайны:
Прадонне сініх зваблівых вачэй
І, калі міма пранясецца вечнасць,
Чуць за сабою лёскат каблучкоў.

Вядома ім — усё, што прамінула,
Было загадкай цёмнай ці няпраўдай,
І — толькі з іх пачнецца добры свет.

* * *

Магічны бляск глыбінь Байкала,
А мне запомнілася ты:
Ішла і косы выціскала
На жвір халодна-залаты.

І, быццам помнячы закляцце,
Што ты пакуль што нічыя,
Лагодны вецер лашчыў плацце,
Каб лепш цябе разгледзеў я.

А што глядзець?! Няўжо прыпыніш
Імклівасць стрэчных цягнікоў?
Дзе мой, дзе твой далёкі фініш,
Не скажа бесталач гудкоў.

Няхай сціхае кроў у скронях.
Але, вярнуўшыся сюды,
Я б перанёс табе ў далонях
Увесь блакіт жывой вады.

Няхай бы рукі пасінелі,
Сабе б сказаў: — Не дакарай!

Адзін прабіў бы ўсе тунелі,
Каб ты на мой зірнула край.

Бо недарэмна — што ж такога! —
Вясёлкі сыплюцца з павек
Ад кроплі той, што выпадкова
Ты мне пакінула навек.

* * *

Шчаслівы голас жніўнай дайны,
Не замаўкай! Не замаўкай! —
Каб мой далёкі сіні гай
Прыйшоў у край твой незвычайны.

Вы слоў мне не перакладайце,
Калі я выйду на парог
Перад апошняю з дарог,
Але вады напіцца дайце.

Бо па-братэрняму бруіцца
Па нашых долах Вілія,
І ў цёмным кубку бачу я
Твой твар, любімая сястрыца.

Жаданай не парушу скрухі,
Воч не адводзячы з каўша,
Хаця і зойдзецца душа,
Нібы маёй каханай рукі.

* * *

Сорак вёрст папяроса не гасла,
Сорак вёрст мардаваў рысакоў,
Адступаліся цёткі за прасла —
Свет не бачыў такіх жаніхоў!

Так ляцеў, быццам трэба з пажару
Тую краску-прысуху схапіць,

І яна там змарнелася з твару,
І ў нябогі душа ледзь ліпіць.

Прыімчаў і, забраўшы з пасцеллю,
Развярнуўся,
аж іскры з падкоў.
Палахліва сарокі ўзляцелі,
Адступіліся дрэвы з бакоў.

І гаворка зайздросная ходзіць
З той пары і да гэтых часоў,
Быццам спрытнасць яго не праходзіць
І — усмешка з абвіслых вусоў.

* * *

— За лес упала сонейка,
Дастань яго з сасонніка.

— А ты мне вышый паясок,
Як салаўіны галасок.

— Глядзі, як месяц коціцца,
Дагнаць яго мне хочацца.

— Дагнаць яго хацелі ўсе,
Ды ногі стынуць на расе.

— Ах, гора маё, горачка,—
Згарэла мая зорачка.

— Ой, рана журышся яшчэ:
Яна са мной — шчаку пячэ.

— Табе ўсё жарты-смешачкі,
А я не бачу сцежачкі.

— А ты не збочвай у расу,
Цябе і сам я данясу.

* * *

Паглядзела з-пад рукі,
Бачыш — зажурылася:
— Эх, каб мне пакой такі,
Я б даўно жанілася.

На двары — базар-садом,
Людзі аж не месцяцца:
Абжываць высотны дом
Будуць тут равесніцы.

А дзяўчына як-ніяк —
Знатная мантажніца.
З ёю ж вецер-халасцяк
Па-блазенску дражніцца.

Ці зіма, ці крыгаход —
Міма хлопцы хвацкія.
Апастыляць за пяць год
Будні інтэрнацкія.

На адной скаварадзе
Ўсё яешню пляскае.
І чаму ён не ідзе —
З ручнікам і пляшкаю?!

* * *

Ішла дамоў з арэхаў,
А ён — са службы ехаў,

І трэба ж, як на тое:
Ён — слова, я — другое.

І — ладзіцца размова,
І — вынікае змова:

Схадзіць набраць арэхаў,
Пакуль ён не паехаў.

І ходзім мы за гаем —
Арэхі з ім збіраем.

Ды колькі ні блукалі,
А ўсіх не пазбіралі.

Бо столькі ў нас арэхаў,
Што ён і... не паехаў...

* * *

Без вудзільна, без ракі
Рыбу вудзяць рыбакі.

І, вядома, ім не грэх,
Бо наперадзе — начлег.

— Быстра ходзяць акуні —
Не дагоніш на кані.

— А шчупак ім насупроць,
Аж не возьмеш на аброць.

— А карась, а карась
Плесканууў — да неба гразь.

— Ну, а сом — дык гэта сом:
То не сом, а цэлы дом!

Так без вудаў і ракі
Рыбу вудзяць хлапчукі.

* * *

Паляцець сабраўся чмель
Аж за трыдзевяць зямель.

— Гу-гу-гу ды гу-гу-гу —
Мала кветак на лугу.

Толькі чуе — навакол
Дружны гул стаіць ад пчол.

Непаседы-матылі
Карагоды завялі.

Чмель падумаў, што яму
Будзе сумна аднаму.

Ды не хочацца, відаць,
Пчолам мёд яму аддаць.

А яны гудуць-гудуць,
Быццам гутарку вядуць:

— Будзе дружба — будзе мёд,
Будзе свята круглы год!

* * *

Забываюцца птушкі маленства —
адтуль
толькі стрыманы вецер вяшчае:
трыбунал бесклапотных зязюль
за гадоў марнатраўства
прысуд абвяшчае.

А было —
таямніцай здаваўся мне свет,
які сёння
з балючаю скрухай прысніцца:
не патрапіць туды,
дзе пакінуў я першы даверлівы след,
і таму я цяпер
для самога сябе таямніца.

Я — не фенікс,
каб зноў уваскрэснуць, і чую,
як ноччу завейнай
нехта ходзіць па лесе
і для хаты маёй падбірае ключы.
Маё сэрца!
Не стань жа ты птушкаю безнадзейнай
і ў грудзях — шчабячы,
шчабячы,
шчабячы!

* * *

Збярог я мала дарагіх абліччаў,
І не таму, каб апраўдацца зноў,
Я ў памяці іх рысы павялічыў
І вось вяртаю з даўніх туманоў.

Смуга начы — палотнішча экрана —
Пагойдваецца ціха на сцяне.
І тым, з якімі развітаўся рана,
Цяпер нялёгка апазнаць мяне.

Успамінаю: расцвіталі вішні,
Бялюткія, як пенны сырадой,
І сярод іх — няйначай, усявышні —
Стагодні дзед з лагоднай барадой.

І хоць старога крыўдзіць недарэчы,
Яго не прыгадаў бы аднаго:
Цікавіла мяне ў часы сустрэчы
Унучка і памочніца яго.

Вядома, вішні — лепшы пачастунак
Для госця — быццам іх знарок шукаў.
І дзед, адчуўшы нашых спраў кірунак,
Як дух нябесны, некуды знікаў.

Ах, слаўны дзед, які ты быў харошы —
Шчаслівая юнацкая пара.
І свет без варты і без агарожы —
Яна.
        І я.
                І ясная зара.

* * *

Бясспрэчных ісцін мала,
Менш — вечных, несумненна,
Для тых, каго ламала,
Як палку аб калена.

Дапытлівы я змалку —
Мне ўсе адказы выньце,
Абстругануюпалку
Нямогламу пакіньце.

Спакою не спазнаю,
І косць мая — не вата:
Я многіх закранаю
Яршыста-сукавата.

Для мазалёў рабочых
Дай праўду цэлай кронай,
А кволенькі лісточак —
Наіўнасці зялёнай.

* * *

Ашалелых разводдзяў калюгі,
Конь унурыўся ў злую імжу.
І агеньчык з бязлюднай акругі
Не сагрэе знянацку душу.

Я — адзін. Але верце не верце —
Не прашу я сабе спагадаць.
Што са мною? Адно маё сэрца,
Што спяшаюся ўсім вам аддаць.

Ад свайго не магу адступіцца
І злаўчуся — была ні была! —
За высокую зорку схапіцца,
Калі выбіты буду з сядла.

* * *

А ёсць такія,
Што вас спаткае
І — быццам кія
Даўно чакае.

Убіўся ў сметнік,
І рукі — граблі.
Яго хрыбетнік
Падатней шаблі.

Як вінаваты,
За ўсімі сочыць...
Калі шурпаты —
Жыццё адточыць.

І сама ацэніш
Людскую ласку,
Як запраменіш
Увесь да бляску.

Не будзь спагадны
Да асцярожных!
Я далікатны —
Як шабля ў ножнах!

* * *

Абступіла дробязей блакада,
Б'ецца з ёю колькі ўжо часін
Не дывізія, і не брыгада,
І не полк паходны — я адзін.

Ведаеш — ніхто не вінаваты,
Дапамогі не папросіш ты.
І якія б ні чакалі страты —
Дзве рукі ў цябе,
як два франты.

І калі ў цябе адна кашуля —
На бінты няшчадна разарві.
А насцігне ярасная куля —
Сцягам стань,
барвовым ад крыві.

* * *

Галодны заяц — сумная карціна! —
З пакорна загавеўшаю душой
І выпашаны ўвесь, як з каранціна,
Бачком-бачком пасоўваўся шашой.

Касы цішком ішоў на раздабыткі,
Азызлых не варушачы надзей,
І не ўяўлялі высахшыя лыткі
Цікавасці для лісаў і людзей.

Шафёр растрос снапы нішчымных промняў,
Заскрыгатаў жалезам тармазоў,
Каб заяц дабрату яго запомніў
І — дачакаўся восеньскіх аўсоў!

* * *

Хай дачасная стома мяне абміне —
І я смерць абхітру і ў раздоллях вясновых
Паплыву ўдалячынь на дубовым чаўне —
У вянку з цёплых стружак сасновых.

* * *

Шафёр хлебазавода
Даверыў мне душу:
— Ужо з якога года
Кватэру я прашу.

Мая халупка-хатка
Ледзь дыша, не сакрэт,
Ды пахвалюся, братка,—
Пусціў дзяцей у свет.

І не спасцігла ліха,
Хоць я не камерсант:
Дачка мая ўрачыха,
А хлопец — аспірант.

А іншы вельмі шустры,
Жыве не без маны,
А дзеці з-за распусты
На цэлы свет чутны.

Не будзеш жыць шчасліва
За бацькі-круцяля...

. . . . . . . . . . .

Ён у мяне на піва
Не ўзяў і паўрубля...

* * *

Каб ты ад бясхлеб'я не плакаў,
Не ўмеў паддавацца нудзе,—
Званочкі пунцовыя макаў
Раслі на нішчымнай градзе.

Ледзь стане з мукою каротка,
Мізэрных зярнят натаўкуць,
На ўцеху нам — будзе салодка! —
Бульбовых аладак спякуць.

Пагоніш кароў у дубровы
І недзе на роснай вярсце
Заўважыш, што ўсход пурпуровы
Пялёсткамі макаў цвіце.

Маленства мінула. Ужо вы
Свой маеце хлеб на стале,
І свет па-быламу ружовы
Для многіх прадстане.

Але
Капрызная памяць паверне
Да сцежак мінулых, і ты
Згадаеш, што з макава зерне
Бывае парой дабраты.

Кар'еру бяздушныя робяць,
А пафас — ажно з берагоў:
Не трэба нікчэмную дробязь
Прымерваць ад алых сцягоў!

Ілжывая дружба ці пляшка —
Даніна дачаснай журбе.
І вельмі балюча, што цяжка
Знайсці аднадумца ў сабе.

## МЕМАРЫЯЛЬНЫЯ ДОШКІ

Вятры шліфуюць вераснёвы змрок,
І — сполахі начныя не сціхаюць,
І — быццам кроплі поту высыхаюць
На мармуры чырвоным.

Грузны крок
Прыглушваецца вільгаццю жарствы,
І — пільнасці няўхільная патрэба —
Пражэктар прыткі аббягае неба:
Нясе свой пост дзяржаўны вартавы.

Бяссоннай зоркай свеціцца акно —
Заходзь сюды і ўсёй істотай грэйся:
Тут думаюць аб міжпланетным рэйсе,
Які канструктар разлічыў даўно.

Знянацку бліснуў серп маладзіка
І — зноў схаваўся ў павалоцы хмарнай.
І — зразумееш: сілай уладарнай
Паэт дамогся вешчага радка.

І недарэмна адчуваем мы,
Калі высокі ранак заалее,
Што неўміручы водбліск Маўзалея
Сабой пазалаціў усе дамы.

З кнігі

## «ПЕРАКЛІЧКА»

(1973 г.)



### СУСТРЭЧА З ЯНКАМ КУПАЛАМ

От бы шчасце напаткала:
Выйшаў я, а тут — Купала!
— Дзядзька Янка, добры дзень!
        — Добры дзень.

Спорна крочыць ён са мною.
Гмахі-гмахі за спіною,
Аж паглядам не дастаць.
        — Ці відаць?

З каміноў не бачна сажы.
Светлы свет і людзі нашы.
Снег — хоць босаму прайсці.
        — Паглядзі.

Дзядзька бліснe хітрым вокам
І кіём сваім высокім.
Завітае ў кожны кут.
        — Як вы тут?

І пра тое, і пра гэта
Распытаюць у паэта.

Сам падкіне слоўцы два.
— Галава!

І далей, як на кірмашы,
Прыглядзіцца:— Дзе тут нашы?
А свае — ва ўсе канцы.
— Малайцы!

Між людзей навідавоку,
Бачны зблізку і здалёку,
Лёгкім крокам мерыць снег.
Гоман. Смех.

Вецярок сцягі палошча.
Людзі сходзяцца на плошчы.
Цесна — яблык не ўпадзе.
Ён жа дзе?

З добрым днём у добрай згодзе,
Растварaецца ў народзе.
І шукаць яго дарма:
Быў. Няма.

Тут яны — пясняр і суддзі.
Абступаюць яго людзі,
А на сэрцах сілуэт —
Вечны след.

* * *

Я ведаю, што ў поціску рукі
Яднаюцца народы і вякі.

Таму душой юнацкай трапятаў,
Калі Якуба Коласа вітаў.

Купала прыгадаўся хвіляй той,
А побач з ім — і Горкі, і Талстой,

І Кацюбінскі, і пагляд Франка,
І сам Тарас у шапцы чумака.

І недзе, як у сінім тумане,
Памроіўся вялікі Пушкін мне.

Праз іх адчуў — удзячнасць таму дню! —
І ленінскай далоні цеплыню.

Яго, хто стаўся светачам эпох,
Я абмінуць і не адчуць не мог.

Бо нашы рукі зберагаюць след
Святла таго, што азарае свет.

## ПЛЫВУЦЬ МНЕ Ў ГРУДЗІ НЕБАСХІЛЫ

За мачтамі высакавольтных ліній
Такой раздольнасцю дыхне
З бязветрані бялёса-сіняй,
Нібыта неба ў грудзі мкне.

Даль залаціцца каласамі.
І, як удачы невады,
Здаецца, высягнулі самі
І —
тонка звоняць правады.

Яны пад сонцам серабрацца,
Як ад праменістай лускі,
І не адразу разабрацца,
Куды выходзяць бальшакі.

Падковы стук пачуеш зрэдку
Пад душнай засенню бяроз,
І дзіўна так,
што неўпрыкметку
Усіх людзей змяніўся лёс.

Тут маці некалі гарбела
Пры водсвеце лучынных дум
І песні восеньскія пела
Пад самапрадкі зімні шум.

Яе кужэльныя кашулі
Няслі ахвярныя сыны,—
Няслі пад полымя і кулі,
Няслі пад водгулле вайны.

І горыч вестак пахавальных,
Чыгуннасць сноў,
Журба званоў
У грудзі біла з даляў дальніх:
— Аддай! — аддай! — аддай! —
Сыноў!

У міг апошні чым ім стала,
Зямля мая? — Глытком расы? —
Ды і яе вялося мала,
Дзе астываюць адрасы.

Ды чужакам на безгалоўе
Праносіш ты, не паўшы ніц,
Палёў смуглявасць, пушч надброўе
І — незамутненасць крыніц.

Плывуць у грудзі небасхілы
І паўтараюць правады:
Няма нідзе званчэйшай сілы
І —
    больш відушчай гаркаты.

* * *

У галаве —
                адны
                    званы
                        вайны:
Яны
    чутны,
                як даўні боль зямны.
І праз граніт,
                    жалеза
                        і асфальт
Я чую Асвенцім
                    і Бухенвальд.

Б'е ў сэрца родным попелам Хатынь.
Нянавісць,
і ў нашчадках не астынь!
Мыс Канаверал,
каб пазбегнуць бур,—
Няўзнак
не падпалі бікфордаў шнур!

* * *

І дагэтуль у зялёным жыце —
Пераззвон званцоў.
Ну, а вы ці бачыце, скажыце,
Постаці байцоў?

Хто не помніць — крок не ўчуе цяжкі:
Сіл не берагуць,
Аж пустыя шоргаюць баклажкі,—
Чуеце? — бягуць.

Зарыва над чорным Магілёвам,
Попел з сінявы.
У грудзях і ў мроіве ліловым —
Дым парахавы.

## САНДАМІРСКІ ПЛАЦДАРМ

*Пятру Прыходзьку*

Пад палацамі нячутна час цячэ.
Ў камандарма губы сцяты ўпарта.
Пасунулася пад рукою карта.
З забытым чаем астывае кварта.
Як меч, ударыў маятнік яшчэ.

І гулка ўсталі выбухаў дубы
На ўвесь працяг грымотны небасхілу,—
Дубы, што воіны няслі праз сілу,
Каб менш у твары далятала пылу
У грозны час жалезнай малацьбы.

І вось няўмольны смертаносны шквал
На плечы гадаў чорным лёг абвалам,
І воіны ў азарце небывалым,
З траншэй устаўшы, коцяць вал за валам,—
Нянавісці святой дзевяты вал.

Б'е кананада ў цёмныя званы,
І ворагі глыбей шукаюць норы.
З усіх гармат аранжавыя пёры
Абмацваюць паспешна, як сапёры,
Рэльефнасць падазроную вайны.

Хвала артылерыйскай малацьбе! —
З бетонных надаўбаў скрыгоча смецце.
Агонь бязлітасны грукоча ў свеце.
Неспадзявана
раз,
другі
і трэці
Абвальваецца неба на цябе.

Змоўк галасоў шчаслівых ураган.
Ад мокрай сажы пацямнела зорка,
І запалаць гатова гімнасцёрка.
Агонь і попел. Нават дыхаць горка.
І на хаду ты выхапіш наган.

У цёмных зрэнках калыхнецца жах —
У полымі няма арыенціра.
І над бяскрайнім полем Сандаміра
Звініць вайны абугленая ліра —
Аж цесна перапонкам у вушах.

— Наперад!
І —
уздыбіцца плацдарм,
Зноў зойдзецца зямля ў шалёным гудзе.
Між трупамі варожымі па грудзі
Бяжыш ты пад гармат тысячагуддзе,
І — кожны крок твой бачыць камандарм.
З тваёй рукі не ўроніцца пяро! —
За смерць, што нам прынеслі душагубы,
За родны край, табе з маленства любы,

Бяжыш праз пекла, строга сцяўшы зубы,
А пад нагамі — мокрае мяздро.

Сяброў дыханне чуеш за сабой.
На ботах доўга сохнуць дымнай гліне,
Пакуль іх наглянцуеш у Берліне,
Каб там адлюстраваўся ранак сіні,
Дзе перамогай ты закончыш бой.

* * *

Помніць сяло — перад самай вайной
Сохлі хлапцы па дзяўчыне адной.

Наперабой яны слалі сватоў,
Ледзь не калы вырывалі з платоў.

Покуль свайго выбірала яна —
Грымнула, бліснула ў вокны вайна.

І засталася дзяўчына ўдавой —
Горкая дзічка з сівой галавой.

* * *

Як унадзілася ў вёску
        Шэрая сава,
Дык пусціла пагалоску,
        Што і я ўдава.

Маё сэрца скамянела,
        Быццам чорны птах.
І зязюля анямела
        У густых гаях.

Выязджалі з лесу ўранку
        Хлопцы-малайцы.
І падстрэлілі паганку
        Добрыя стральцы.

Расступаецца сасоннік —
і з далечыні
Да мяне імчыцца коннік
На гнядым кані.

Свайго любага пазнала,
Бегла угрунём.
І зязюля закувала
За маім акном.

* * *

Прысеў ля сцяны і з цяжкога пахмелля
Старэчыя плечы ніяк не падыме.
Сыграў ён за добрасць людское вяселле
І — плавае дзень у махорачным дыме.

Сядзіць за сталом маладая красуня,
І звоняць шчасліва вясельныя шклянкі.
Старому хто скварку, хто ладку падсуне:
Пацешся, старэча, з чужое гулянкі.

Зірне на свае ён усохшыя жылы,
І гора слязамі няўзнак пралілося:
Як гадаўка чорная наваражыла,
Так сталася ўсё, так усё і збылося.

Гуляка ж быў добры, цаніў сваю волю
І вывернуць шула умеў неспадзеўку.
Бывала, да рання ламаў частаколле,
Абы адстаяць прыгажэйшую дзеўку.

І добра жылі з ёй, і ў кублах вялося.
І дзеткі былі — тут шчака задрыжала,—
У жменю узяўшы, як тое калоссе,
Адненькім сярпом іх вайна пажала.

Здаецца, ніштто сабе мелася баба:
Ля печы хадзіла, даіла карову.
Ды нeяк злягла і, пакашляўшы слаба,
Пакінула хату і волю старому.

Змахнуў ён са скрыпкі сваёй павуціны,
Да чуйнага дрэва прыпаўшы шчакою.
А людзі падумалі —
розум дзяціны,
І бегаюць дзеці услед талакою.

А ён бы любога насіў у кішэні —
Жыццё не судзіла займець яму ўнукаў.
І сёння адно для яго суцяшэнне,
Што дождж зашумеў, гром далёка загрукаў —
І слёз не відаць...

* * *

*Міколу Аўрамчыку*

Слуга гвардзейскіх грозных мінамётаў,
Ты зведаў барацьбы суровы плён,
Пакуль не трапіў у пякельнасць гротаў,
Дзе быў крапёжны лес замест калон.

Ты развітаўся з сінявою неба,
Для падзямелля рускага чужы,
І з чорным антрацытам замест хлеба
Стаяў ля стойкі, быццам на крыжы.

Расла над галавой вуголля вежа,
І раз'ядала лёгкія іржа.
Ды чуў ты — нехта змрок пастылы рэжа
Агністасцю няўмольнага нажа.

Перад вачамі пыл кружыўся колкі,
Ды пра цябе не забывалі, брат:
Адшчэпваліся вугалю асколкі
Пад грукат сталінградскіх канапад.

Цябе не забывалі пабрацімы:
Яны ішлі праз спёку і праз золь
Свяшчэннай помстай дарагой Радзімы
І —
праламілі вугальную столь.

* * *

Маё сэрца прысніцца
Дзесь цяжкому свінцу.
Дзе цвіла медуніца —
Я іду па сіўцу.

Перасохла крыніца —
Што рабіць тут карцу?
Не прыстою напіцца —
Я іду па сіўцу.

Жахне зноў бліскавіца —
Не згінацца байцу.
Я хачу навучыцца
Не хадзіць па сіўцу.

## БЯССМЕРЦЕ

Плывуць нябёсы пад зямныя цвердзі
У клопаце пра дочак і сыноў,
Каб паглядзець —
ці многа было смерці,
Каб паглядзець —
ці многа будзе зноў.

Любому пакланіўшыся міжрэччу,
Палотнішчам імклівым кумача,
Спяшаюцца яны, а на сустрэчу
Зямля —
шырокай правасцю пляча.

Па чуйных клавішах мерыдыянаў
Праменні слізгануцца і — чутны
З марскіх глыбінь і цёмных акіянаў
Бяздонняў наўгародскія званы.

Ці шчасця хмель, ці смутак пахавальны
Чакаюць нас? — Што заўтра прынясе? —
Усё мы мерым на маштаб глабальны,
А паглядзім —
што ў макавай расе?

Плывуць нябёсы пад зямныя цвердзі,
Лагодна расхінуўшы касачы.
Плывуць нябёсы.
                    Воіну паверце! —
Ён тут навечна лёг пры станкачы.

Дык засланіце вы яго, нябёсы,
Пры сваёй хаце, пры сваім двары.
Бінт астудзіце, ласкавыя косы
І рукі наймілейшыя сястры.

Ён мне збярог не прывідную казку
З русалкай пад загадкавай вадой.
Ён мне прабітую пакінуў каску
З шырокай палымнеючай звяздой.

А сам заснуў, стамлёна склаўшы рукі,
Пад ніцаю бацькоўскаю вярбой.
І слёзны голас мацярынскай скрухі
Яму не скажа, як закончан бой.

Плывуць нябёсы пад зямныя цвердзі,
Пасечаныя студзяць касачы.
Плывуць нябёсы.
                    Хлопчыку паверце! —
Ён сам стаяў пры гэтым станкачы.

Звініць жалоба ў гільзах расстраляных,
А столькі гільз — па пояс хлапчуку.
І паўшых — палавіна безымянных,
Якіх ён і не знойдзе на вяку.

Шукаючы да кожнага сцяжынку,
Адсюль пабачыць, што бяжыць наўскач
Равесніца — японская дзяўчынка,
Каб з неба пераняць зіхотны мяч.

Прыжмурыўшы абпаленыя бровы,
Пасля на пальцах лічыць, як і ўсе —
Які, які жураўлік папяровы
Жаданы паратунак прынясе?

І не падлічыць, ціха склаўшы рукі,
І быццам углядаецца здаля —

Няўжо з-за чорнай мацярынскай скрухі
Не бачна ў сінім небе жураўля?

Плывуць нябёсы пад зямныя цвердзі,
Маленькай свечкі хіліцца святло.
Плывуць нябёсы. Жураўлю паверце! —
Плывуць нябёсы — хрупкія, як шкло!

Плывуць нябёсы ў пурпуровай пене,
Трымаючыся згодней і цішэй.
Ступаюць на гранітныя ступені
Зірнуць, хто нам на свеце даражэй.

Плывуць нябёсы, сцішваючы росы,
Навек кірунку верныя свайму,
І — заціхаюць. Вечныя нябёсы
Павінны заставацца і яму.

Ён там адзін, стамлёна склаўшы рукі,
Атулены ў прыцішаны кумач.
І ніякія ў свеце завірухі
Не данясуць да сцен ягоных плач.

Ён там адзін, дарадчык і заступнік,
Адкрыць арліны погляд не прасі,—
І дзеля нас, і дзеля ўсіх наступных
Скрануў чыгуннасць цяжкую асі.

Плывуць нябёсы —
вечнае бяссмерце.
Плывуць нябёсы —
вечнае святло.
Плывуць нябёсы.
Леніну паверце! —
І будуць яны чыстымі — як шкло!

* * *

Не толькі красамоўным тамадой
Я вас праслаўлю, баявыя госці,
Хто да мяне загляне з маладосці,
Асветленай сяброўскай яснатой.

У сталасці збіраць юнацтва плён
І каласам шумець на санцапёку.
І сёння бачу я сябе не збоку,
А ў гушчыні абветраных калон.

* * *

З дубовым лісцем на далонях
Жыцця разглядваю выток
І чую, як у белых скронях
Крыві юнацкай б'ецца ток.

Ад страт нідзе нам не падзецца,
І пазнаеш ты не адзін,
Што з цвету майскага прадзецца
Сцюдзёнасць позніх павуцін.

І ты стаіш з журбою шчырай,
Як на прыцэльнай паласе,
І што прынёс вясновы вырай —
Назад асенні панясе.

У гушчыні кругазварота,
Як у зігзагах ручая,
Твая надзея і самота
І радасць цвёрдая твая.

І не было ў жыцці памылкі
Над незваротнасцю гадоў,
Бо чулі ўсе мае пражылкі
Гамонку спелых жалудоў.

## МАТАЦЫКЛІСТ З ПАВЯЗКАЙ НА ВАЧАХ

Разяў — ад досвітку няма адбою,
Пусці — гатовы абламаць штыкет
І выструняцца, каб цаной любою
Пабачыць дзіва, што не бачыў свет.

А ў гэтай бочцы — ані дна, ні века,
Крукі мігцяць накшталт драпежных ікл
І стомленая постаць чалавека,
Што неахвотна вывеў матацыкл.

Завёў матор, нагамі ўзяў педалі,
Махнуў і — пакаціўся па сцяне
Хутчэй-хутчэй-хутчэй! І задрыжалі
Ўсе клёпкі, а мурашкі — на спіне.

Раскінуў рукі —
сам жа ўверх і з горкі —
Павязку ўздзеў, даверыўся рулю
І — коламі выпісвае васьмёркі,
Нібы сабе завязвае пятлю.

Мне душна і ў расшпіленай сарочцы,
Калі гляджу, усцішваючы жах,
Навек — матацыкліста ў гулкай бочцы —
З павязкай на задумлівых вачах.

* * *

Бяздонне нямое — цыклопава вока,
У прывідным бляску трымцяць вісажары.
І недзе далёка-далёка-далёка,
Як пульс ледзь улоўны, струменяць пульсары.

Халоднае неба здаецца загадкай,
І лукам згінаецца месяц рагаты.
Калісьці —
сябе падбадзёрыш ты згадкай —
Насілі вуголле ад хаты да хаты.

І сёння бяссонная думка ў трывозе —
Дарога ў нязнанасць яшчэ не абжыта.
І бачыш, як нехта на дрогкай дарозе
Рассыпаў з мяхоў залацістае жыта.

* * *

Кладзе спякота сваё вета
На недаступнасць глыбіні.
Крутні блакітны глобус лета
І —
    акіяны скалыхні.

Няхай ва ўсё, дзе адаб'ецца
Сухой спякотнасці пара,
Жывая вільгаць перальецца,
Нібы з дубовага вядра.

* * *

Задаволіць не могуць нас чуткі,
І што дзеецца дзе — пакажы.
І любыя зямныя закруткі
Бачым ясна з экраннай імжы.

Прызнаем толькі тое, што нова,
Дзе сучаснасці гул не ачах.
Карта свету трапеча нервова,
Як сятчатка ў трывожных вачах.

* * *

Рыба-скат агнём сябе бароніць,
Джалам —
            працавітая пчала.
Чалавек жа небяспеку гоніць
Словам, поўным мудрага святла.

Промні ў словы загарну натхнёна,
Каб нянавісць чорную гасіць,
І —
    на вастрыі пяра штодзённа
Атамную станцыю насіць.

* * *

Плашч-дажджавік накінуўшы на плечы,
На борт ускочу, адштурхнуўшы дол,
І панясецца, зычачы сустрэчы,
Бальшак і галалобы частакол.

Слупам стаяць, хоць і знямелі ногі,
Мне ж твар казыча сіняе асцё.
І невядомы паварот дарогі
Перад вачмі мільгне, як адкрыццё.

Журба ў грудзях падтайвае ільдзінай,
Каб выплеснуцца ў звонкую раку.
Зацешуся чародкай лебядзінай,
Што плавае пры ціхім астраўку.

Што зведаў я, усе пазнаюць потым
Са слоў маіх. А зараз слухай ты:
За новым нечаканым паваротам
Камлышкі залятаюць за барты.

Зямля мая! Мы ўсе згрызоты лечым
Табою, нібы травамі ў расе.
Перад табою вінаваты ў нечым
І я, і ён... Як добра, што не ўсе!

І ёсць прастор, і ёсць на свеце людзі.
Мядова зацвітаюць верасы,
Мядова вее халадком у грудзі,
Пакуль не заскрыгочуць тармазы.

* * *

Атуленае звонкай цішынёй,
У нерушы ёсць возера лясное
З неверагодна яснай глыбінёй,
Што люстрам зіхаціць перада мною.

Зялёны лес — у непралазі спрэс,
І неба перавернутым здаецца.

Далёкім гулам прашуміць экспрэс,
І рэха ў лёгкіх хвалях аддаецца.

Галіны расхінаючы ў бакі,
Дзе бляск у міліярды сонц драбіцца,
Я абдзіраў далоні аб сукі,
Каб да люстранай цэльнасці прабіцца.

Так блізка сонца, хоць рукой вазьмі,
І растае ад промняў павалока,
І поўнае стаіць перад вачмі
Прыроды незамутненае вока.

* * *

Зацярушаныя стрэхі,
Змрок і стынь — ва ўсе канцы.
Лушчаць спелыя арэхі —
Як замоўнікі — хлапцы.

Звонка хрумстаюць шкарлупкі,
Хоць і цёмна — не бяда:
Ад напаленае грубкі
Цеплыня і лагада.

Ад вуголляў незвычайна
Мітусіцца язычок,
Як вавёрка, што адчайна
Свой сціскае кулачок.

Не прыйшла б яна пад стрэхі
І не гойсала б — але
Дзеці выграблі арэхі
У прытоеным дупле.

Ля арэхавага гаю
Ходзяць ветры табуном,
І да раніцы мільгае
Хвост вавёркі за акном.

## ЦЕСЛЯРЫ

Без прынукі, спакваля,—
Справа, злева
Чэшам дрэва
Ад камля!

Тапары-тапары —
Загарацца ад кары!

Пад вугол кладзём рубля! —
Справа, злева
Роду дрэва —
Ад камля!

Тапары-тапары —
Як у чыстым серабры!

Хай і з намі і пасля
Справа, злева
Будзе дрэва
Ад камля!

Тапары-тапары —
Палыхаюць ад зары!

* * *

*Памяці*
*Анатоля Сербантовіча*

Хадзіць вучыўся ён на мінным полі,
Прыглядваўся трывожна да ўсяго,
На жаль, не азірнуўшыся ніколі,
Адкуль ляціць асколак у яго.

Юнацкай сіле ён хацеў прастор даць,
Як рэху шклоўскіх залатых бароў,
І ў непраслаўленую вёску Ордаць
Шырокім жэстам запрашаў сяброў.

Што ж, сцежка, ты каротка так вілася
І паспяшыла завярнуць туды,

7 Зак. 1743

Дзе і спагадная рачулка Бася
Ужо не дасць ані глытка вады.

Ах, як нялёгка камень крышыць слёзы,
І вельмі цяжка адхінуць граніт.
Каб паглядзець на родныя бярозы,
Ён жаўранкам падніме́цца ў зеніт.

Адтуль відаць, як мы згрызоты полем,
І добра праглядаецца здаля,
Што чэрствасцю і прыхаваным болем
Ты замініравана і цяпер, Зямля.

* * *

Калі адцвітаюць каліны
І ў вырай спяшаюцца дні,
Шукаю пад крык жураўліны
Калодзеж лясной цішыні.
Згушчаюцца зоры над дубам
І свецяць халодным агнём.
Калі нахіліцца над зрубам,
Ты можаш іх бачыць і днём.
Прыняўшы жыцця эстафету,
За сонцам прыходзіць імгла.
Трымаюць цвярдыні сусвету
Калоны густога святла.
Галін пацяжэлі аркады,
І лес прымірэнча гудзе:
Не страшны ніякія страты,
Калі побач хлопчык ідзе.

* * *

Што там бялее — ранні снег
Ці гусі селі на начлег?
Праймае грудзі халадок,
Як быццам босы стаў на ток.

Плячом апёршыся на зруб,
Апошні ліст раняе дуб.

І сівер — з ярасці сляпы —
Малоціць лёд ва ўсе цапы.

## КАБ АЖ ГАЙ ШУМЕЎ

*Памяці*
*Сымона Блатуна*

I

У люднай адзіноце,
У шчасця на краю,
На перасмяглай ноце —
Замоўкнуць салаўю.

У песенным раздоллі
Адну пацеху меў —
Людскую бачыць долю,
Каб ажно гай шумеў.

Каб голас той сарваўца
Не мог на спадцішка,—
Умеў ён харчавацца
Расінкаю з лістка.

Так прастарнелі грудзі,
Так шасталі лісты,
Што не адчулі людзі
Навокал пустаты.

Па выверанай сіле —
Удар страшней свінца!
І на яго магіле —
Ніводнага дубца!

II

Эх ты,
        слаўны Сымоне,
Паглядзі ў сіняву:
Не ў глухое прадонне —
Нёс ты ў свет галаву.

Быццам бачу і сёння,
Як з табою ідзе
І на смуглыя скроні
Сонца знакі кладзе.

А ці вецер, ці ліўні —
Ты без шапкі ішоў
І адскоквалі грыўні
Ад тваіх валасоў.

Толькі з першай пазёмкай,
Калі сцюжа злуе,
Прыкрываў ты кучомкай
Ўсе задумы свае.

Ды і то для прыліку,
Бо як выйдзеш да нас —
Гурт страката-вялікі
І збярэцца якраз.

Што ж ты рана так, Сёмка,
Углядзеўся ў жарству?
Ці не ўмела кучомка
Засланіць галаву?

III

Між панурых дзядзькоў, як матыль той лясны,
Ціха хлопчык снуе ля бацькоўскай труны.

Не вялікае гора, што бацька ў труне —
Ён устане, калі яго хлопчык гукне.

Хутка бліснуць пупышкі на кожнай вярбе,
Але бацька не возьме на рукі цябе.

Не падняць іх з зямлі, аніяк не падняць.
Дзе ж ён, бацька? Маломy адсюль не відаць.

Кружыць з ціхім даверам матыль той лясны,
А навокал народ — як сасна ля сасны.

Падрасце, набярэцца ён сілы між нас
З сэрцам шчодрым такім, як у бацькі якраз.

* * *

Вятрыска даль галубіць,
І сонечна ўваччу.
Ці любіць, ці не любіць —
Загадваць не хачу.

Наўзбоч канаў — рамонкі,
Хоць іх касой касі.
Пачуеш смех твой звонкі —
Ратунку не прасі.

У роздумах трывожных
Растанеш, як лядзень:
У зрэнках асцярожных
І я,
 і шлях,
 і дзень!

* * *

Надзену кофту белую,
Пайду я ў жыта спелае,
Пайду я ў жыта спорнае
Пазбыцца думы чорнае.

Калі я жыта сеяла —
Пад сонцам не правеяла.
Калі з табой сустрэлася —
Не ў сэрца заглядзелася.

Са сцежкі сумнай збочу я,
Каб быць магла дзявочая
Надзея — каласістая,
А радасць — прамяністая.

## ГАРАДЗІЛА Я ЗГАРОДУ

А ні ўцехі, а ні ўроду,
Ні двара і ні кала.
Гарадзіла я згароду
Для рагатага казла.

Кожны ў хаце нешта мае,
Людзі — людзі, як усе.
Ну, а я што ні прыдбаю —
Ён рагамі растрасе.

Хто на лузе, хто на полі,
А наводзяць нейкі лад.
З ім жа мне не мець ніколі
І маленькіх казлянят.

У другога — клопат-справа:
Гаспадар — не лабуда!
А ў яго адна забава —
Да каленяў барада.

Ані ўцехі, ані ўроду,
Ні двара і ні кала.
Гарадзіла я згароду
Для рагатага казла.

## КАРАСІ

— Выйдзі, маё сэрца,—
Кліча нас азерца:
Там такія карасі,
Што без солі паясі.

Свеціцца азерца.
Поўнае вядзерца.
— Хай гуляюць карасі:
Не пушчу і — не прасі!

Дном уверх вядзецца —
Хмурыцца азерца:
— Што мне тыя карасі? —
Сам з сабою паясі!

Без солі, без перцу
Горка мне, азерца.
Карасі дык карасі —
Іх без солі не з'ясі.

* * *

Над белай грэчкай, белай грэчкай
Гудзенне пчол — шукаюць мёд.
Над быстрай рэчкай, быстрай рэчкай
Гамоніць дружны карагод.

І шчасця соты, шчасця соты
Наліты сонцам да краёў.
І шум лістоты, шум лістоты
Плыве з задумлівых гаёў.

І, як хусцінкі, як хусцінкі,
Абселі чаіцы глыжы.
І ні хмурынкі, ні хмурынкі
Ані ў паглядзе, ні ў душы.

І што таемна, што таемна,
Дык выдае пунсовасць шчок.
І недарэмна, недарэмна
Праймае грудзі халадок.

## КОСТАЧКА ВІШНЁВАЯ

Калыхалася зара
Над палямі спішнымі.
Ты мяне сярод двара
Частавала вішнямі.

Было добра паспытаць
Залацістай спеласці.
Пра галоўнае ж спытаць —
Не хапіла смеласці.

Не было маёй віны
Ў ціхай сарамлівасці:
Свет гайдалі туманы
Маладой шчымлівасці.

Як рассталіся з табой —
Сёння цяжка помніцца:
Толькі ў сэрцы разнабой,
Бы прастуе конніца.

І вясельныя званкі
Праляцелі з подскакам,
Тваю вёску Казлякі
Аглушыўшы лёскатам.

Не знайсці цябе нідзе,
І — журбы асноваю —
Вішня белая цвіце —
Костачка вішнёвая.

* * *

Брыдуць у полі шэрыя дажджы,
І пацямнелі хаты ад імжы.
Выбоістая золкая дарога,
Куды ты скіравалася, скажы?

Над галавою — правады звіняць.
Самоты свайго сэрца не суняць.

І нават ля знаёмага парога
Ад золкасці мне цяжка шапку зняць.

Іду здалёку — паглядзець адно:
Ці скрыпне нецярплівае акно
У хаце той, дзе пагуляў я многа,
Здаецца, што не гэтак і даўно.

Ды адпяваюць штосьці правады,
І ў нечыя ступаю я сляды.
І шэпча нецярплівая трывога,
Каб не спяшаўся я дарма сюды.

## ГАРЛАЧЫКІ-ГЛАДЫШЫКІ Ў АКНЕ

Прыціснуўшы спаднічку да калена,
Ты іх ірвала, як у ціхім сне.
А ўжо яны свяціліся праменна —
Гарлачыкі-гладышыкі ў акне.

Дадому бегла па сцяжынцы роснай
І нават не заўважыла мяне.
Ой, будуць зіхацець красой зайздроснай
Гарлачыкі-гладышыкі ў акне.

Перад люстэркам заплятала косы,
А ходзікі спяшылі на сцяне.
І асцярожна калыхалі росы
Гарлачыкі-гладышыкі ў акне.

Цябе чакае дальняя дарога,
Але сустрэча наша праміне.
Жыве ў грудзях юнацкая трывога —
Гарлачыкі-гладышыкі ў акне.

## КОЦЯЦЦА З-ПАД РУК МАЛАДЗІКІ

Маладзік сярэбрана-зубчаты
Вас прывёў ад бацькавай страхі.
Не сумуйце, добрыя дзяўчаты,
Што шукаюць лепшых жаніхі.

Сто станкоў гудуць бесперапынна,
Як вятры між роднай асакі.
Птушкамі, што кружыць хуртавіна,
Грэюцца ў палёце чаўнакі.

Сны дзявоцтва ў зіхатлівым гуле
Сцелюцца узорным палатном.
І тапол і круцяцца, як шпулі,
Калі вецер пройдзе за акном.

Маладзік сярэбрана-зубчаты
Пакідае вёску — час такі.
А за што ні возьмуцца дзяўчаты —
Коцяцца з-пад рук маладзікі.

* * *

Як птушка рэдкая — кальцуюць,
За зверам след у след ідуць,
Нібыта іх знікненне чуюць
І заўтра блямбы ім дадуць.

Аберагаем, хто як можа,
І кракадзілаў, і ваўкоў,
І ўжо не есць цяпер вяльможа
Катлет з птушыных языкоў.

А нецярплівы археолаг
Перабірае ўсе пяскі,
Абы знайсці ў пустынях голых
Эпох мінулых чарапкі.

Не траціць ён у мудрасць веры,
Але з магільнага чала
Мільгне жахлівы след сякеры
Ці смертаносная страла.

І я без слоў сентыментальных
У імя еднасці братоў
Запас усіх ракет глабальных
Аддаць за маманта гатоў.

* * *

На выгарах лясных і балотных
Калыхалася ціха імжа.
І па птушцы ў раздоллях дрымотных
Палыхнула, як бляскам нажа.

А пад купінай з цёплых шкарлупак
Птушаняты пад золкім святлом
Цягнуць скаргу галодную дзюбак
Да карміліцы з алым крылом.

* * *

Дрымотны рай урочышч дачных,
Дзе шматпудовыя дзядзькі
Палююць акунёў няўдзячных,
Што не бяруцца на кручкі.

І для людзей пабочных глуха
Жыццё ідзе тут калясом:
Мурлыкне сонная бялуга,
Пялёхнецца вусаты сом.

Але пагляд свой апантаны
Усе скіроўваюць туды,
Дзе выструменьваюць фантаны
Шыракахвостыя кіты.

* * *

Чорны воран, белы лебедзь —
Вам далёка да радні.
Ночы вочы мае слепяць,
Апраменьваюць іх дні.

Чорны воран, белы лебедзь —
Лёд нябыту, смеласць мар.
Адзін маску з мяне лепіць,
А другі — натхнёны твар.

Чорны воран,
                    белы лебедзь —
Хто адолее з дваіх?
Першы рукі мне сашчэпіць,
А другі — разніме іх.

Чорны воран, белы лебедзь —
Гляну ўвысь і на жарству.
Мяне воран не зачэпіць,
Пакуль з лебедзем жыву.

* * *

У колькі клавішаў і струн
Гром ракатаў, іграў пярун?

Густому ліўню не злічыць,
Бо ўся зямля дасюль гучыць.

І спорна дожджык малады
Перабірае ўсе лісты.

* * *

У паравозаў — голас трубны,
Густых гудкоў турыны рык
І спорны бег шыракаступны,
Нібы імчыць на чацвярых.

З шырокіх ноздраў парай пыша
І душным жарам абдае,
Як ён ля валакачак дыша,
Струмень сцюдзёны прагна п'е.

І, зноў адчуўшы прахалоду
Лясоў цяністых, шумна мкне,
Свайго не сцішваючы ходу,
Аж дым кладзецца на сасне.

Ды крок яго меднагалосы
Вярнуцца сёння не прасі —
Імчаць наўскач электравозы,
Як элегантныя ласі.

## ЯК ІШОЎ НАПАЛЕОН

**Народнае паданне**

Як ішоў Напалеон —
Вымудраў што хочаш ён.
Гаварыў сваім салдатам:
— Маё слова — ваш закон.

Дзень ідзе, другі ідзе
Па сухому, па вадзе,
А канца цяжкой дарогі
Не прадбачыцца нідзе.

А салдаты хоць маўчаць,
Ды пад нос сабе бурчаць,
Што задумаў імператар
Безгаловіцу пачаць.

Цераз сто ці болей дзён
Станам стаў Напалеон.
На паляне на шырокай
Дуб-асілак бачыць ён.

І гаворыць Банапарт:
— Я ваюю не на жарт.
Пакажу вам зараз фокус —
Знайце ўсе, чаго я варт!

Сталі маршалы яго —
Лоб у лоб да аднаго,—
Падступаюцца да дуба
Высачэзнага таго.

Каля самага камля
Абшчапілі спакваля
І з карэннем вырываюць,
Ажно вохнула зямля.

Ставяць верхам яго ў дол,
Ажно водгулле вакол.
Не спазнаеш дуб высокі —
Ці то дрэва, ці то кол?

І сказаў Напалеон:
— Зацвіце цяпер хай ён!
Вось такая ў мяне сіла,
Вось такі ў мяне закон!

Шпагу ўзяў за рукаяць:
— Я хачу вам паказаць —
Будуць гэтак русіяне
Пад лязом яе стаяць.

Адышоўся гоні дзве,
Як даўбня па галаве.
Ён лячыў яе да снегу,
Праваждаўшыся ў Маскве.

А прамёрзшы не на жарт,
Бег, як заяц, Банапарт.
Шпагу кінуў на дарозе,
Хоць і добры ў яе гарт.

Толькі што гэта гудзе? —
На дарозе дуб расце,
Расхінаецца шырока
І — карэннямі цвіце.

А дайшло да завірух —
Зелянее кожны сук:
Абшчапіць яго гатовы
У мільён ці болей рук.

Не схавацца пад кустом,
Дый Бяроза пад мастом.
Сігануў і — не заўважыў:
Трохвуголка пад ільдом!

* * *

Стрэлка, я падганяю цябе —
Паспяшайся заведзеным кругам!
Лапушацца лісткі на вярбе,
Хоць па даце —
мясці завірухам.

Б'е гадзіннік. Яшчэ, і яшчэ,
І яшчэ. Наплываюць удары.
Час праз рукі іскрысты цячэ
І па гранях успененай чары.

Дзе б ні быў, я ў жыцці не адзін —
Я заўсёды ў суладнасці з часам.
Б'юць куранты дванаццаць гадзін.
Што чакаць? Крою неба алмазам!

Расчыняйце любое акно!
Зіхаціце святочна, гірлянды!
Палыхайце, штандары! Іграюць даўно
У грудзях і над светам —
куранты!

З кнігі

# «ВОДСВЕТЫ»

(1978 г.)



* * *

Маладзіковая дарожка
Прастуе ў чуйныя бары,
Дзе голле соннае сцярожка
Блішчыць у хрупкім серабры.

Снягі струменяцца праменна
І — зіхацяць.
А ў камінку
Агонь гамоніць задуменна,
Жар-птушкай просіцца ў руку.

Цвітуць у шыбах алеандры
І казкі мрояцца з куткоў,
Трымценне бляску,
бы скафандры,
На тварах ціхіх хлапчукоў.

Пагляд нічым не заімглёны,
Іх кліча горды запавет.
І, як палац белакалонны,
Свая зямля і ўвесь сусвет.

Скрыпяць у шызай далі сані,
А выйдзеш раніцай сюды,
Зірнеш — няйначай марсіяне
За ноч пакінулі сляды.

* * *

Васковы пах сасновых дошак,
І стружак мулкі аксаміт,
І сябра мой — кацігарошак,
Што горам душыцца наўзрыд,—

З далёкіх дзён у памяць хлыне,
Як праз птушынае сіло:
Ягоны бацька ў дамавіне
Навечна едзе за сяло.

Пасля мы стрыманей дурэлі,
Нібы і наша ёсць віна,
Пакуль кляновыя арэлі
З-пад ног не выбіла вайна.

Ах, як зямля загаласіла!
Ах, пралілося колькі слёз!
Была б і волатава сіла —
Такога б гора не панёс.

А злічыць хто бясконца многіх,
З жалезных вырваных лавін,
Што і ў лясах, і на разлогах
У дол сышлі без дамавін?

Бяжы, хлапчук, цераз сумёты,
Крычы братам, што ты жывы,
Пакуль чужыя самалёты
Не здзьмухнуць крыллем галавы.

Нас абняла пароўну, дружа,
На пачатковым рубяжы
Такая вогненная сцюжа,
Што слёзы вымерзлі ў душы.

Зірні на вёскі і мястэчкі,
На гарады — ва ўсіх кутках
Гарадь бяроз зімовых свечкі
На палюднелых бальшаках.

* * *

Жывое ўсё набрыдзь нядобрую чуе,
Што ходзіць па свеце з паганым намерам.
Па-свойму ў трывозе смяротнай вяшчуе
Аб здані, што стала пражорлівым зверам.

Я помню і сёння той досвітак хмуры,
Калі матацыклы здалёк затрашчалі,—
На стрэхі ўзляцелі спалохана куры
І хрыплымі пеўнямі ўсе закрычалі.

Піскляты схаваліся за падваротняй,
Шчанюк не брахаў і стаіўся ля хаты,
Бычок жа з пагардаю высакароднай
Паднёс галаву пад чаргу аўтамата.

Ды болей за ўсё нас здзіўляла карова,
Якую ў прысценку схавалі снапкамі.
Апытвалі немцы, шукалі сурова
І поркалі слепа салому штыкамі.

Ні гуку — маўчыць у сляпой дамавіне
І дыхаць зусім перастала, здаецца.
І толькі, як зграя фашысцкая схлыне,
Яна сіратліва сваім абзавецца.

Не мог дасачыць паліцман языкаты.
Ды неяк у клубах марозу густога
З'явіліся хлопцы:
— Мы толькі з блакады...
Разбіты абозы... І раненых многа...

Мой бацька тады не сказаў ані слова
І, узяўшы з запечка абрывак пласконні,
Карміліцу моўчкі прывёў. І карова
Пайшла за санямі ў лясное сутонне.

Забыўся ўжо я на сваю дратаванку,
А нешта заўсёды ў марознае ранне
Я чую, сыходзячы з новага ганку,
У сцішаным лесе — каровы рыканне.

* * *

Мёдам чмяліным веюць лугі.
Чаіца ные — кі-гі ды кі-гі.

Брынзава стынуць шаломы стагоў.
Плешча барвовасць зары з берагоў.

Сіняй смугой разышліся касцы:
Кожнага дом — на сярэднім вянцы.

З неба пачуеш гудзенне чмяля —
Ходарам ходзіць нямая зямля.

Чаіца, крылы студзі ля вады —
Хлопцаў на ёй палымнеюць сляды!

* * *

Штоноч на нябёсах — успышак таўро.
Упрыхапкі людзі хаваюць дабро.

Пшаніцу і жыта, авёс і ячмень —
Шалёнае полымя любіць сухмень.

Уранні туман калыхпецца з акна
Звільжэлаю губкай сырца-палатна.

А мы ў патаемных гушчарах лясных
Прытулак знайшлі для патрэбнейшых кніг.

Знішчальны агонь дакаціўся сюды,
Знішчаючы хованак тайных сляды.

І колькі пасля ні шукалі — дарма,
Знайсці не маглі свайго скарбу — няма.

Скарб вымылі ліўні з-пад цёмных ігліц,
А кнігі — цвярдзей вавілонскіх табліц.

Таму і дагэтуль у нетрах лясных
Клубіцца агонь непрачытаных кніг.

* * *

Акопы вадой заліло,
І спішана сочаць нябёсы,
Чые тут праглянуцца лёсы
Праз часу туманнае шкло?

Цень хмар на журботным лісці,
І жалем дыхне непазбытым
З-пад сосен.
Якім следапытам
Асколкі ўсіх жыццяў знайсці?

Даўно зацвярдзела смала
І вырас дубок над планшэтам.
Ляціць ля грудзей рыкашэтам,
Штурхнуўшыся ў памяць, пчала.

Да шыгалістых сяліб
Спяшаюцца ўвішна мурашкі.
І, выдых хаваючы цяжкі,
Карэнні хаваюцца ўглыб.

Знайсці намагаюцца там
Усіх, хто даў золаку аласць,
Калоссям і дрэвам —
трываласць,
Нязрушнасць —
пясчаным пластам.

* * *

Служыць табе — як меднаму кацялку.

*З салдацкіх афарызмаў*

I

Высокі месяц — медны кацялок —
Паказваецца ціха з-за аблок.

І над ракой разгублена навіс
У жудкім бляску Каінавых рыс.

І на нябёсах бачна, і на дне,
Што мімаволі ён служыў вайне.

Ледзь палыхне нянавісці пажар —
І ён запалымнее, быццам жар.

Так з першага да сённяшняга дня
Над светам ён вісіць, як галаўня.

II

Халодны месяц — медны кацялок —
Цябе ў паходах я і сам валок.

І мог пераканацца юнаком,
Што ты бываеш добрым дружбаком.

Калі ад солі пабялее дол,
І ўсядуцца сябры мае вакол,

І скварка ў добрай кашы засквірчыць —
Твая паверхня ярка заблішчыць.

І нечакана бачым, нібы зблізь,
Суладную лагоднасць юных рыс.

III

Бліскучы месяц — медны кацялок —
Прывабным уяўляецца здалёк.

І ў дзень, як міжнародны зоркалёт
І космасу растопіць косны лёд,

З задавальненнем звернем мы сюды
Першапраходцаў адшукаць сляды,

Праверыць пільна моц рухавікоў
І пачакаць сігналаў дружбакоў.

І здасца месяц нам хвілінай той
Сяброўства звонкай чашай залатой.

* * *

*Памяці*
*Уладзіслава Нядзведскага*

У знявечаных соснах —
Чорны цень кругана:
Аднагодкаў высозных
Даганяе вайна.

І кашчавыя рукі
Хочуць сціснуць цясней,
Каб ад вогненнай скрухі
Стала сонца цямней.

Каб у час не паспелі
Мы сяброў падтрымаць.
Травы горка паспелі
І — журботна шумяць.

Над агорклай калінай
Неба — бляскам ляза.
Шэрай соллю каліінай
Ледзянее раса.

Эх, хаця б напачатку
Абмінуць нераты:
Цвёрда ставіць пячатку
Смерць — рэдактар круты.

З той далёкай дарогі
Не прыслаць рэпартаж:
З рук ад цёмнай знямогі
Слізгануў карандаш.

Як цяпер ні упрошвай —
Не даклічашся ўслед.
Кулямётнаю прошвай —
Перарывісты след...

* * *

Прыцішся затоена — пушча начная рагоча
Грымасай бяскроўнай даўно ачунялых галін.
Пры месячным бляску аддаць невядомцу не хоча
Бяроз беластволых, дубоў і кашлатых ялін.

Блішчаць у нябёсах патроны бліштчастыя зорак,
Туман калыхнецца за шлюбнай лягчэй кісяі.
Навошта ў кішэні абмацваць маленькі
сцізорык? —
З арэхавых палак для мёртвых не трэба кіі.

Туды не дайсці ім, дзе стынуць магільныя пліты,
Дзе вецер схіляе апоўначы Вечны агонь.
Прыгледзься і ўбачыш,
што, месячным бляскам абліты,
З іх кожны табе падае па-сяброўску далонь.

Ох, як ім апрыкралі цёмныя нетры-засовы,
Як хочацца ўбачыць ім яснага сонца святло.
Ды ў лесе смяюцца брыдотна вушастыя совы,
Ды нешта бліпчыць, нібы саркафагнае шкло.

Заходзіцца смехам бяскрыўдны балоцісты гномік,
Ды, крок твой пачуўшы, спішаецца. Што?
А гэта з нябыту ўстае у абрысах знаёмых
Рагатая каска — нячыстай пачвары гняздо.

* * *

Рамонкавы хлопчык,
у джунглевых травах па плечы,
Ты пырхаеш зранку
у красках накшталт матыля.

Спагадны да ўсіх,
ты яшчэ не баішся сінечы
І сочыш з увагай
за сытым гудзеннем чмяля.

Напіўшыся мёду,
глядзіш, як сярдзітыя восы
Пікіруюць дружна
на душны прыземлены сад.
Як джаляць пякуча яны!
А ёсць бамбавозы,
Што рокатам чорным
бацькоўскі хіснуць палісад.

Даверлівы хлопчык,
ты ціхім заходзішся плачам,
Размажаш па шчоках
пацёкі слязы, як смалы.
А ёсць яшчэ гора,
што бліскае джалам гарачым —
Гарластых гармат,
а не сосен нагрэтых ствалы.

І краскі счарнеюць,
ты чуеш планеты дрыжанне.
У свеце разгойданым —
тупат шалёны каня.
Праз попелу дым
і каня нелюдское іржанне,
Праз спалены луг
бяжыць столькі год хлапчаня.

Бяжыць ён у сне,
схаладнелы ад ліпкага поту,
Да цёмных крыніц,
што крывёю братэрскай кіпяць.
Кашуля — як ветразь.
Хто меў нелюдскую ахвоту
Яе бессардэчна
і гэтак навечна напяць?

А недзе пад ветрам
гайдацца выносістым пальмам,

Сланам шукаць засень,
дзе дыхаць у спёку лягчэй.
А можа, і там
пад бязлітасна грозным напалмам
У попел рассыплюцца
яблыкі спелых вачэй?

## СТАЛІНГРАДСКАЯ БАЛАДА

Грымот пурпуровыя гмахі
І купал шкляной сінявы
Драбілі жалезныя птахі,
Каб зрынуць іх прыскам жарствы.

Варочаўся гул мнагатонны,
Агніста сляпілі грамы,
Увысь узляталі пантоны,
І падалі з неба дамы.

У зімніх палях кананада
Расла кругавою сцяной.
Гудзела браня Сталінграда
У нашых байцоў за спіной.

Сняжок да зеніткі нагрэтай
Ад жару не мог даляцець.
І сэрца сігнальнай ракетай
Спяшала ў грудзях затрымцець.

Радзіма прышэльцаў карала,
Няроўны прымаючы бой,
І шчыт непрабойны Урала
Высока нясла над сабой.

Рухомы прасцяг небасхілу —
Палі, крутаяры, лагі —
Тупую варожую сілу
Ў жалезныя браў абцугі.

Хвала табе,
момант атакі!
Усе грамыхнулі ствалы.

І вось бліскавічныя тракі
З чужой скрыгатнулі імглы.

Шалёна ў густой каруселі
Сусвет крутануўся сляпы.
І бінт забялеўся, бы селі
На грудзі байцоў галубы.

І недзе ля волжскіх прамоін
Пад скрыгат аглухлых ільдзін
Сустрэліся —
доблесны воін
З пачварай —
адзін на адзін.

Не час для развагі салдату —
Паспешна сарваўшы чаку,
Пад днішча кідае гранату
І ўспышкай схаваны ў пяску.

Якое там полымя біла —
Не ўбачылі вочы байца:
Ці дымнай зямлёй асляпіла,
Ці полымным бляскам свінца.

І недзе ў сібірскіх шпіталях,
Працяты вайны скразняком,
Душою нудзіўся, што ў далях
Цяпер ён не з родным палком.

Хто з хлопцаў жывых, хто забіты?
Якія бяруць гарады?
Ён думаў, што ўсімі забыты,
І лёс праклінаў свой тады.

І сэрца, што сцялася люта,
З грудзей бы ён вырваў, каб мог,—
Агонь пераможны салюта
І той ён пабачыць не мог.

Ды дні яго постаць не гнулі,
Не гнёў яго гул халадоў.
І зрок абаронцу вярнулі
Урачы аж праз дваццаць гадоў.

І ўбачылі людзі з экранаў,
Калі ён з дарожным кійком
Прайшоў у страі ветэранаў
З чупрынай, укрытай сняжком.

Чаму ж ён нахмурвае бровы?
Не! — памяць зманіць не магла:
Аблокаў кар'ер мармуровы
І — высяцца гмахі святла.

Сябры з тых часоў навальнічных
Ля волжскіх крутых берагоў.
І чуецца з даляў касмічных
Гамонка лісця і — сцягоў!

* * *

З дасвецця дзяцел кулямётны
Да слепаты
Паветра пругкія палотны
Рве на бінты.

Ад яблыкаў — світанне мятнае,
А цішыня
Ў густое водгулле гарматнае
Б'е, як даўбня.

Трывожна веснічка парыпвае
У белы свет.
Ах, маладая спёка ліпавая —
Шалёны цвет!

Рабрысты птах расправіў крылы
І пад сябе
Падмяў крутыя небасхілы —
Усё дзяўбе!

Апошніх стрэлаў пошчак рэдкі
І — праз сіўцы —
Грукочуць пыльныя танкеткі,
Бягуць байцы.

. . . . . . . . . . . . . . .

Залатыя дні, дзянёчкі,
Як вы нячутна адплываеце!
— А дарагія ж вы сыночкі,
А на каго ж нас пакідаеце???

* * *

Вочы заплюшчыш і — грыфельнай дошкай
Цемры сцяна:
Зноў дыхавічна зацятай бамбёжкай
Дыша вайна.

Чуецца шорганне крокаў стамлёных.
Подых жуды.
Вянуць рамонкі ў лугах заімглёных.
Млеюць жыты.

Смага. Ды ўсе не паспеюць напіцца.
Далеч дыміць.
Зараз зямлю скалане навальніца.
Чуеш? — грыміць!

Сэрцам дзіцячым паспей гэты ранак
Апаясаць,
Выхапіць з долу асколкі маланак
І — напісаць!

**МАЙ 1945 г.**

І нездарма дзіцячая рука
Цягнулася да нас і да гарматаў.

*Максім Танк*

Абвал цішыні. Зачахлёны
Відушчыя жэрлы гармат.
Збіраецца войска ў калоны,
Каб ехаць да сірат і хат.

У сэрцах — спякотная смага.
І крыллем махае пілот —
Фашысцкая каска рэйхстага
Прабіта ў баях навылёт.

Прасыплецца шчопаць махоркі
З дрыжачых ад радасці рук.
Святыя медалі і Зоркі
І ордэны ззяюць наўкруг.

Якое вялікае свята
Дадому вяртацца жывым
Не з сумных палат медсанбата,
А ў шумным гурце франтавым!

Ляцяць за акном кіламетры,
Прыдуманы наспех сталы.
І толькі гарматы на ветры
Ніяк не астудзяць ствалы.

Нячутна струменяць патокі
З вільготных лагчын і бароў
І свет запаўняюць шырокі
Аблічамі паўшых сяброў.

У скатках суровых і касках
Прыйшлі прывітаць гэты дзень,
І наўзбач па стомленых красках
Нябачны праносіцца цень.

Абмоткі ў абветранай гліне,
І страшныя раны відны.
У гэтакі дзень на чужыне
Не могуць застацца яны.

Бягуць ачуняўшыя сёлы
Сваіх пераможцаў сустрэць.
Часцей спатыкаюцца колы,
І буксы пачалі гарэць.

Усіх развязлі і шукаюць,
Дзе груз свой пакінуць цяжкі,
І сумна кагосьці гукаюць
З глухіх тупікоў цягнікі.

Ля помнікаў травы прымяты,
Віруе людскі карагод.
Вясна. Зачахлёны гарматы.
Ды бачыць і Захад, і Ўсход!

1946

Замест масткоў — разгойданыя кладкі
Хавае сонца далеч у імглу,
І пад аркестр няўмелыя дзяўчаткі
З салдатамі танцуюць на валу.

А ўнізе — ля падножжа касагора —
Страката-гаваркі базарны збой.
І франтавік, напіўшыся ад гора,
Каля ларка гаворыць сам з сабой.

Адзін прыносіць гарнітур трафейны,
Другі — кашулю абмяняў на хлеб,
І гурт людскі, рухава-муравейны,
Ці бачыць брата, што ў баі аслеп?

Аслеп? Ці толькі? — Ён жа і бязногі!
Глядзі — абедзвюх не хапае рук!
І — як прадвесце смутнае трывогі —
Падшыпнікі паскрыгваюць аб брук.

Пусты картуз — жабрацкая скарбонка.
Ды ён сляпы — не бачыць пятака.
А побач? — Побач прыгажуня жонка
І ўцеха — двухгадовая дачка.

З пустых вачэй цякуць па шчоках слёзы,
І, незнарок пачуўшы самалёт,
Ён, быццам праклінаючы нябёсы,
Канвульсіяй працяты навылёт.

Туды, туды, дзе на падлозе бруднай
Падлічваюць таропка медзякі,
Дзе шклянкаю празрыстай і атрутнай
Вяртаюць маладосць франтавікі.

Сыходзіць вечар павалокай шэрай,
І, сцяўшы зубы, каб не галасіць,
Жанчына ўсёй адданасцю і верай
Яго нівек не зможа ўваскрасіць.

* * *

Купаюцца лябёдкі —
Равесніцы мае.
І сорам іх дрыготкі
Спякотна абдае.

Нязнаныя глыбіні
Даходзяць да грудзей.
І ў досвіткавай плыні
Трывога саладзей.

Кужэльныя карункі
Лазовага лісця.
Шчаслівыя дарункі
Бяссмертнага жыцця.

Ніхто красы не бачыць,
Што вораг не пажаў.
Навучацца аддзячыць
Таго, хто не спужаў.

І сэрца так хмялее,
На вуснах — гаркага.
Бялюткія лілеі.
Крынічная вада.

* * *

Добра стамілася лета.
Бач! — павуцінне плыве.
Сохне лянок ля кювета
На палінялай траве.
Пеўні на золкім іржышчы —
Выйшлі шукаць каласы.
Яблыкаў хмель на гарышчы
З духам крамянай расы.
І да дзяўчат заляцацца
Могуць увішней хлапцы:
На ручніках залацяцца
Пеўняў сівых грабянцы.

* * *

Любіць ён люльку
І табакерку,
Зіму-бабульку,
Вясну-швагерку.

Восень-залоўку
І лета-свата,
Душу-салоўку
Сагрэўшы ў свята.

Да белай хаты
Не будзе лішні.
Дым зухаваты
Плыве на вішні.

Унукаў маюць
Сыны і дочкі,
А ўсё буяюць
Сады-садочкі.

Усё старанна
Ў руках кіпела.
І дзед рахманы —
Як кіпень белы!

* * *

*Рыгору Барадуліну*

Адпушчаныя дні
Ўстаюць на поўны вымах.
Відаць, з тваёй радні
Ўсё ж нехта быў алхімік.

Над попелам вайны
Ты прычашчаўся справе.
І далечы відны
У залатой аправе.

Крыніца-азярцо
Спагады не шкадуе.
Купаліцца слаўцо
І шчодра калядуе.

Перад агнём стаім,
Вятрамі сэрцы студзім,
Ты ўсё рабіў сваім,
Каб засталося людзям!

* * *

Яму яшчэ няма ў чым павініцца
Перад жыццём, дзе сцюжа і сухмень.
Звініць, як бесклапотная сініца,
І ў рукі ловіць сонечны прамень.

Яшчэ не раз ён будзе спатыкацца,
Падумаўшы, што ўзяў разгон малы.
Яшчэ не раз ён будзе натыкацца
На вострыя і цвёрдыя вуглы.

У свет прынёсшы непахіснасць веры,
Што сумна заставацца ўпатайкі,
Якія ёсць, усе расчыніць дзверы,
Каб свідравалі хату скразнякі.

Ён не баіцца іх, бо сам здаровы,
Ён толькі прызнае адно дабро.
Над хітрай цацкаю нахмурыць бровы,
Каб здагадацца: што там за нутро?

Натхнення міг сабе не выбірае,
А творыць, як прыроджаны мастак.
Пісаць пачне з сярэдзіны і з краю
І — зноў закрэсліць: не, яшчэ не так.

І, раптам засяродзіўшыся, піша,
І свет нязнаны ў думках паўстае,
Нікім не бачны. Будучыні ціша
Над ім стаіць — ён піша для яе.

8 Зак. 1473

Зацяты свет глядзіцца ў цёмны кратэр
Трывожна-насцярожаных надзей.
І галавой, як радыёлакатар,
Ён ловіць усе помыслы людзей.

І цеплыні заступніцкага сцягу
Падобна ціхая ружовасць шчок,
Калі ён спіць, атулены ў адвагу,
Ротфронтаўскі сціскае кулачок.

* * *

Галубы над хатаю —
Згода і любоў.
Ястрабы зіркатыя
Сочаць галубоў.

Галубок нядзеліцца,
Як маладажон.
Шчасцем так захмеліцца —
Пойдзе на ражон.

І, ад шчасця тлумнага,
Высака ўгары
Лёгка ўзяць бяздумнага
Проста ў кіпцюры.

І пасля пад хмараю
Зноў вядзе кругі.
Новаю ахвяраю
Стане і другі.

* * *

Бруд зімы ручай імклівы вынес
На шырокі транспарцёр ракі.
З тайных сцежак сунуцца на выпас
Шэрыя ваўкі.

Лета адгуло, адшалясцела,
Гнуцца ад антонавак сукі.
Сноўдаюць па ўзлессях пасыцела
Рыжыя ваўкі.
Паляўнічым раяць завірухі,
Што пара знімаць драбавікі.
І на месяц выюць з галадухі
Белыя ваўкі.
Прымяраюцца да перадрогшай скуры
Вострых зор калючыя цвікі.
Сняць свой сон чырвона-шэра-буры
Чорныя ваўкі.

## АД ЛЯСКА І ДА ЛЯСКА

Ад ляска і да ляска —
След кляновага вазка.

Вецер сонца ў поле гоніць —
Са сняжынкамі гамоніць.

Весялее шум дуброў —
Сталі меней секчы дроў.

Свежы вецер, лёгкі бег.
Серабрыцца чысты снег.

І бярозу сцюжа гоніць.
Ды пра венікі гамоніць.

І пра тое, што сяло
Забывае памяло.

Па душы яму якраз
З электрычнасцю і газ.

Не паўсюль надарыцца —
Венікам папарыцца.

Шэпча снег з-пад палазка —
З-пад кляновага вазка.

* * *

Вы так размашыста зайгралі,
Раздаўшы свет ва ўсе бакі,—
О, магістралі, магістралі! —
Надзей акрыленых смычкі.

Калоссяў спелых шум бурунны
За небасхіл плыве круты,
Нібы перабіраюць струны
Сваімі пальцамі масты.

І там, перад усходам алым,
Што промні шчодра аддае,
Уся зямля канцэртным залам
Пераліваецца-пяе.

І далячынь, што ўперад кліча,
Як з-пад натхнёнага разца,
Перадае штодня аблічча
Свайго героя і тварца.

А з вёсак тых, што пройдуць міма,
Зноў смелы вырай з-пад страхі
Глядзіць блакітнымі вачыма
На магістральныя шляхі.

* * *

Імклівы, лёгкі, стрэлавідны,
Анёлам ззяючы зямным,
Напоўніць ён абсяг блакітны
Шырокім рокатам грудным.

І на дубах у цёмным лісці
Аж скаланудца жалуды:
Каб гэта сіла — ды *калісьці!*
Каб гэта сіла — ды *тады!*

Душа акрылена хмялее,
Хоць знік няўлоўны сілуэт,
І між хмарынкамі бялее
Алмазнай стрыманасці след.

* * *

Ліст пажоўклы ляціць да кастра.
Свеціць полымя гальштук чырвоны.
Лес шуміць. Наступіла пара
Год мінулых праверыць калоны.
Змрок нясмелы нячутка кладзе
На аблічча яго светацені.
Ох, і доўгая ціша ідзе
Па пустым і знямелым скляпенні.
Свецяць зоркі. І добра цяпер
На жыццё паглядзець з сэрцавіны.
Ноч. Азяблы пенсіянер
Каля вогнішча грэе ўспаміны.

* * *

Ты выскокваў з агню — і адно
На плячах сваіх вынес акно.

Храбусцела ад полымя шкло,
І асколкі пасеклі чало.

На спіне прыкіпеў чорны крыж.
Ты ўбярогся. Чаго ж ты маўчыш?

Жонка з дзецьмі маленькімі там —
Не цвісці іх ружовым садам.

Азірнешся на чорны працяг
І — гранаты ўзарвуцца ў грудзях!

* * *

*Эдуарду Валасевічу*

Абсыплюцца імёны
Лістотаю з галля,
Ды пошум свой зялёны
Нясе далей зямля.

Як добра красавацца
Высокаму лістку,
Ды толькі не ўтрымацца
Навечна на суку.
Ўсяму патрэбна пэўнасць,
Што на зямлі жыве.
Шырокая напеўнасць
Над вечнасцю плыве.
Ды час — хірург няўмольны —
Воч не змыкаў яшчэ:
Лісток той неадольны
Для новых адсячэ.
Ад змены не схавацца,
Часова ўсё вакол.
Ды будзе красавацца
Жыцця зялёны ствол.

* * *

Майго маленства пошум вызначальны,
Які ў прысадах пралунаў скразных
Паданнем сумным, што паэт апальны
У ссылку ехаў на перакладных.

Ён піў з крыніц і давяраў напевам,
Што чуліся ў дыханні вецярка,
І палыхалі вочы сцятым гневам,
Як згорбленага бачыў жабрака.

Фальд'егера ганебная апека —
Не грэх яго б распетрыць пад арэх
За ўніжаную годнасць чалавека
І навальнічную пахмурасць стрэх.

Таму званчэй усіх званок маскоўскіх,
Хоць і было іх сорак саракоў,
У глухамані даляў прыдняпроўскіх
Звінелі іскры пушкінскіх радкоў.

* * *

Нячутны і ціхі, як любай дыханне,
Ён сеяўся. Ярка вясёлкі цвілі.
І нечым падобны ён быў на каханне —
Блакітны сняжок на сасновым галлі.

Высокага сонца касцёр языкаты
У нетрах лясных прабіваў бальшакі.
Ступіць бы з каханай пад тыя аркады,
Цяпло адчуваючы шчырай рукі.

Снег цяжкасцю чыстай наструньваў галіны,
Карункі вясельныя ў высі сплятаў.
І сонца прымеркла. Як гоман пчаліны,
Між дрэў насцярожаных шум нарастаў.

Усё загайдалася. Ветрам дыхнула —
І рыпнулі суха цяжкія камлі.
Галіны прыгнула, пасля скаланула,
Нібы дакрануцца хацелі зямлі.

Да раніцы самай крышыла-ламала —
Абломкі сустрэць было суджана дню.
Каб шчасце ў абдымках сваіх нас трымала —
Патрэбна вучыцца любіць чысціню.

* * *

Дубовы жар шклянога адвячорка
Кідае медны водбліск на камлі.
Ад сіверу праклюнутая зорка
Паблісквае званочкам у галлі.

Лістоту ў трубкі круціць, і марозна
Бялеюць перадрогшыя імхі.
Сцямнелы вецер пройдзецца і — грозна
Раздзьмухвае кавальскія мяхі.

Зара ірдзіцца ў далечы закатнай,
Цішэе хрупкіх ценяў мітульга.

Прыслухаешся — скурай сырамятнай
Парыпвае нябачная дуга.

Плыве з імшар туману калыханне,
Нібы табун павольны, і да дня
У лесе чутна цяжкае дыханне
Сівога крутарэбрага каня.

Дарожку прыкмячай маладзікову,
Пакуль нальецца золак малаком.
Тады і дзяцел звонкую падкову
Заб'е сваім блішчастым малатком.

* * *

На цесным двары — сярод белага дня —
Убачылі дзеці жывога каня.

На гумавых колах — адна любата —
Падвёз іх дзядок — з памяло барада.

Усмешкі шчасліва вакол зіхацяць —
Здаецца, калёсы паўсюль тарахцяць.

І ў небе, хоць воку яны не відны,
Грымяць табунамі наўсцяж табуны.

* * *

Ці скрануў хто сузор'і,
Ці стаў век забаўляцца,—
Нешта стала надвор'е
Незвычайна мяняцца.

Да устойлівай нормы
Яму сёння далёка:
Афрыканскія штормы!
Атлантычная спёка!

Ці паспелі так страсці
Пераграэць атмасферу?
Ці праз боязь напасці
Перабралі ўжо меру?

Знак, напэўна, паганы,
Што знянацку над намі
Грукацяць ураганы
І шалеюць цунамі.

У развагах світальных
Нам набрацца б адвагі,
Каб пры спрэчках фатальных
Не скрануць раўнавагі!

* * *

Яшчэ з бяроз лісты не сыплюцца,
Святло чаканячы грашовае,
Здалёку небасхілы зыблюцца —
Ідзём на свята кірмашовае.

Над рэчкай хмаркі зухаватыя
Плывуць удаль, сабой усцешаны.
Нясём кіі замыславатыя,
Што з тонкай зроблены арэшыны.

Перад цяжкімі навальніцамі
Грамы нябачныя варушацца.
І свет прапах так медуніцамі —
Самі сабой галовы кружацца.

З цяністай сцежкі збочыць хочацца
За сакавітаю малінаю,
І ў небе гулка стаў варочацца
Стары бальшак — крыло буслінае.

* * *

Там человек сгорел.

*А. Фет*

Падкрадаўся агонь неўзаметку
З даляглядаў асмужаных ніў.
Юнака ў палымяную клетку
У раздольных палях зачыніў.

То пры ляжа агонь, то заўецца,
Азараючы іскрамі свет.
Хлопец з полымем ярасна б'ецца,
Пакідаючы вогненны след.

Не паклікаць бацькоў і ні жонкі,
Не пачуць слёз няўцешных дзіця.
На задымленыя рамонкі
Ён упаў, поўны прагі жыцця.

Зорка сцежку героя шукае
І гарыць-палымнее да дня.
І грыміць у вушах, не змаўкае
І палае ў грудзях цішыня.

* * *

Узлесак шастае альховы,
Каб расчасаць кудлаты воз.
І птушка, пырхнуўшы са сховы,
Сігае ў неба з-пад калёс.

Дыміцца даль смугою волкай,
Святло ў расчыненым гумне.
Перад каромыславай ёлкай
Глядзіш — прыгнуцца альбо не.

А следам — праз тваё маўчанне —
Струменьчык згубленых зярнят,
Кароў лянівае мычанне,
Дурныя выбрыкі ягнят.

Замоўклі дудкі пастуховы,
Прыгнула высь далечыня,
І не спазнаць — дзе куст альховы,
Дзе круп маўклівага каня.

І пяткамі — у днях забытых —
Адчуеш ледзяністы ток,
І неправеяны набытак,
І страт шчымлівы халадок.

* * *

Дажджынкамі шыбы абмыла,
Скразняк паласнуў цераз двор,
Сцямнела, і даль задыміла —
Ішоў упрысядку віхор.

Гарох абтрасаў і арэхі,
Расплёскваў вымоіны луж.
Сарваў залацістыя стрэхі —
Прымерыць сабе капялюш.

Узяўшыся ў бокі, зазыўна
Свістаў, аж цямнела трава.
І сыпаў блішчастыя грыўны
З пустога свайго рукава.

Гусей распалохаў чародкі,
Пускаў пыл у вочы густы.
Ад той маладзецкай чочоткі
Валіліся вобзем платы.

Вяршынямі сосны гудзелі,
Калышучы сонмішчы зор,
І сціпана людзі глядзелі
Туды, дзе схаваўся танцор.

* * *

Лясы мае, імхі мае,
Лістота лапушыстая!
Цяпер над вамі хімія
Крылом шырокім шастае.

Я сам жадаю спорнасці
Высакавольтнай лініі,
Хоць часам сэрца ў горнасці —
А дзе гняздо буслінае?

Глынулі мху балотнага
І камарынай заедзі.
Для птаства пералётнага
Не бачу ціхай завадзі.

І згадваць не даводзіцца
Пра каляіну гразкую,
Ды нешта пераводзіцца
З ёй і пчала каўказская.

Эх, заўтра наша смуглае
Ды ў рукі ўзяць падковаю —
Усё крамяна-круглае,
Нібы баравіковае!

* * *

Дубоў надрэчных выразное лісце
Адлюстравала крохка Вілія.
Гул акіянскіх хваль сюды прынёс калісьці
Я.

Плылі насустрач з далечы нясмелай
Хмурынак ненадзейныя плыты.
Махала з берага касынкай белай
Ты.

Пад кліч зязюль і алай завірухі
Плылі туманаў мройлівых дымы.

Стаялі, згодна ўзяўшыся за рукі,
Мы.

У хвалях шчасця бліскала падкова —
Пакінуў конь бліШчастым капытом.
І з прыцемкаў нас вабіў выпадкова
Дом.

Ды таямніцы маладой прычасце
Рассеялася ў золку залатым.
І сустракалі раніцай не шчасце —
Дым.

* * *

Ад юных яблынь — белым-бела,
Як галубінае крыло.
І нешта ў іх перакіпела
І ясным цветам узышло.

Пчаліны гуд, дзе россып красак,
Снуе адгэтуль і адтуль.
І каля марлевых калясак
Дыханне сцішаных матуль.

Ах, дзеці! Колькі вас у свеце
Сніць сны свае пад халадком.
Напэўна, спалі вы ў суквецці
І прынясло вас вецярком.

У небе лётчык невядомы
Вядзе нябачны самалёт,
І ў сэрцы ад шчаслівай стомы
Другі завязваецца плод.

* * *

Ён падаў.
Няўмольная лава
Ламала круты небасхіл.

І нават сусветная слава
Яму не расправіла крыл.

Усё пакідаў назаўсёды.
Выхопліваў памяці бліц
Святочных людзей карагоды
І гоман замежных сталіц.

А недзе ў прыцішанай хаце,
Трывожны расслухаўшы гук,
Ніяк не магла яму маці
Прасцерці заломленых рук.

На строгіх нябесных скрыжалях
Чытаў ён апошні свой дзень.
Па ордэнах
і па медалях
Мільгнуў развітальны прамень.

Партрэты,
газеты,
экраны
Прайшлі.
І —
апошні штуршок.
І ў сэрцы, што ўспыхнула рана,—
Самотныя вочы дачок.

* * *

Дождж рассыпаў пятакі на дахі —
Падстаўляй далоні і збірай.
Досвіткам
нахохленыя птахі
У цяплейшы выбраліся край.

А на ўзлессі пачарнела гала —
Нават верас позні не цвіце.
Тут вавёрка ўчора прабягала
І —
несла агеньчык на хвасце.

Ці ёй нешта страшнае здалося,
Ці здалёк спужалі маразы —
Ураніла жар, і занялося:
Зашугалі полымем лясы.

Дым-туман у безгалосым полі,
А яна не думае аб тым
І арэхі лічыць на прыполе,
І здаецца кожны — залатым.

* * *

Салаўі на зары адсвісталі.
Вецярок у паркалю тваім.
Пачакай хоць хвіліну, расстанне!
Маё сонца! Пры ясным світанні
Мы — рука у руцэ — пастаім.

Бачыш — лісце бяроза варушыць.
Паглядзі — абуджаецца чмель.
Ён з духмянымі кветкамі дружыць,
Кружыць чмель, і зямля за ім кружыць,
Да нябёс навіваючы хмель.

Будзем п'яны ад лёгкага хмелю,
Ад спякоты, што ўняць не маглі.
Чуеш — недзе грукоча вяселле,
І званок, што падобны да чмеля,
Хутка коціцца з краю зямлі.

* * *

Душнай цяжкасцю аблок
Далечы завешаны.
Тонкі сеецца пылок
З маладой арэшыны.

Лес расчулена гудзе —
Барада паголена.

Быць самотным
анідзе
Сёння не дазволена.

Зварухнуліся снягі —
Камень кропляй точыцца.
І пакінуць берагі
Ціхім рэчкам хочацца.

Валунам іх не суняць —
Смела мкнуць,
напорныя.
З дна каменьчыкі звіняць —
Жэмчугі адборныя.

Крыгі суму зіхацяць
Згубленай падковаю,
І даверліва трымцяць
Крыльцы матыльковыя.

Пад лагоднасцю аблок
Бачу ў яснай тоні я:
Шчасце — лёгкі матылёк,
Гора — мнагатоннае.

Асцярогі валуны
Сонцам разварушаны.
Лёгкай мятлушкай яны
Будуць расцярушаны.

З кнігі

## «АЗАРЭННЕ»

(1980 г.)



* * *

Жыццё бярэ нас невідушчай жменяй
І — сее ў свет, не дбаючы аб тым,
Каму на глебе прарастаць каменнай,
Каму расці ў раздоллі палявым.

### ВЫЗВАЛЕННЕ

Абняўшы ўвесь абсяг паднебны,
Дзе краскі яркія цвілі,
Фашысцкіх фрэнчаў крой ганебны
Забрудзіў колеры зямлі.

Нявомі труднай,
                    невыкрутнай
Сціскала сэрцы нам жуда:
Працяты шызасцю атрутнай
Трава,
        паветра
                і вада.

І толькі лес вечназялёны —
У акаймленні смуглых ніў,—
Наструніўшы камлёў калоны,
Зялёны колер не змяніў.

О лес!
Ты добра разумееш
Мяне —
паплечніка свайго.
Іграць па-рознаму умееш —
Чаму.
І што.
І для чаго.

Ты,
распаліўшы горн у багнах,
За гора дзетак і матуль
Прышэльцаў брудных і нахабных
Граміў адгэтуль і адтуль.

Ты ракатаў,
шыракалісты,
Так,
ажно нетры ўсе гудуць.
А там —
здалёку —
гармaністы
Яшчэ званчэйшыя ідуць.

Лес расчыніў шырэй вароты —
Спякота бітвы абдае.
Як глянуць —
роты,
роты,
роты,—

Бягуць
свае,
свае,
свае.
Кладуцца пад стальныя тракі
Балота,
непралазь
і гаць.

Як акрыляе міг атакі —
  Ламаць,
          крышыць,
                    перамагаць!

Крыло ў крыло —
                    чырваназора! —
Шліфуюць неба ястрабкі,
Пакорны волі дырыжора,
Як віртуозныя смычкі.

З любой лагчыны ці пагорка
Ўсё той жа чуецца матыў:
Стралковая скорагаворка,
Цяжкіх гармат рэчытатыў.

О, пурпуровае імгненне,
Як ты зайграла на сцягу!
І я з усімі ў наступленне
З тых дзён
          бягу,
               бягу,
                    бягу!

Я рад, што з гэтых дзён не выйшаў,
І тым агнём душа гарыць.
Хоць і пакутваў, але выжыў,
Каб з вамі сёння гаварыць.

О, гэта музыка.
                    Ніколі
Мне не забыць збавення дрож —
Па золкім лёдзе і вуголлі
Дайсці да праўды басанож!

* * *

Адна бярозка і была
На лузе — сцішана-нясмелая.
Адна — а гэтулькі святла
Дарыла плацце яе белае.

Травы крамяны аксаміт
У бліках сонца перасвечваўся.
Які даверлівы блакіт
Праз тое лісцейка прасвечваўся!

Перадваенная пара,
І далячыні не засмужаны.
Пяе з сяброўкамі сястра,
Хто ім на гэтым свеце суджаны.

Гамоняць пчолы і чмялі,
Буяе лета меданоснае.
А на зямлі, а на зямлі
Такая спёка невыносная!

Загрукатала ўсё вакол,
І ўся краса куды падзелася.
Асколкамі пасечан ствол.
А лісце?
Лісце разляцелася.

## ІРЫНКА

Як сонца жарынка,
мне ў грудзі балюча запала —
Дзяўчынка Ірынка
з бацькамі на ўсход адступала.
Ад цёмнага жалю
лясы да зямлі прыпадалі.
Аблокі дрыжалі,
прамені ў вачах прападалі.
Яна гарадская —
на ножках бялеюць
таркcінкі.
Уся трапяткая —
дрыготней світальнай расінкі.
І мы, як ні цыркай,
не здолелі гэтак напяцца:
Умела, як цыркуль,
яна крутануцца на пятцы!
І што нам вайна!
Што чорнае ліха з бядою:

Так слаўна яна
бярэ гладышок сырадою!
Паехалі рана.
За імі услед — бамбавозы.
Зусім нечакана
назад прыскрыпелі калёсы.
І мы не ахвочы
паверыць — шнурочкі-павекі
Яснейшыя вочы
закрылі навекі-навекі.
З-пад русых кудзерцаў
бліщчыць журавінка-крывінка.
Як крык нашых сэрцаў
пачуць не магла ты, Ірынка?!
Сястрыца мая,
я ведаў цябе дзве гадзіны,
Ды ўсё жыццё я
клянуся табе штохвіліны:
Жыць буду пад сонцам,
пакуль яно ў сэрцы іскрыцца:
З апошнім забойцам
за першы свой боль разлічыцца!

* * *

От чаму нашы маці галосяць,
Прыпадаюць грудзьмі да зямлі
І нябёсы роспачна просяць,
Каб дачасна сыноў не ўзялі.

Абчапіўшы адчайна драбіны,
Выдыхае: — Сынок мой, сынок!..
Цяжка падаюць слёзы-бабіны
У суцішаны пыл каля ног.

Хмурыць брат несярдзітыя бровы
І не можа падняць галавы:
— Мама, грады патопчуць каровы,
Можа б, неяк вярнуліся вы...

Неба просінь скразная такая,
Галашэннем абмыта нібы,

І калі чаго ў ім не хапае,
Дык архангела грознай трубы.

Сэрца маці ў жалезным капкане,
Вечны боль не адпусціць яго
І нівек не кране хваляванне
З-за цяжкога набытку свайго.

— Мой сыночак...
Чаму ж яно гэтак...
Хоць дзянёчак пабыў бы...
Але.
Ўсё кілішкі іскрыстыя кветак
Ставіць лёс на жалобным стале.

От чаму нашы маці галосяць,
Прыпадаюць грудзьмі да зямлі
І карміцельку роспачна просяць,
Каб дачасна сыны не ляглі.

* * *

Просценькая песня
Пра белае белле.
Ды дзяўчатам гэтым
Не гуляць вяселля.

Зацвіла іх доля
Чамярыцай жоўтай.
Не дастаць пярсцёнак,
Як ты вір ні боўтай.

Сонца хмарай крые
Твар свой невясёлы:
Павязуць красу іх
На чужыну колы.

Вып'юць злыдні шчокі
І засушаць грудзі.
І ў жыцці уцехі
Ім ужо не будзе.

Скамянее горыч
У счарнелых вуснах,
І праступіць іней
З-пад жалобных хустак.

Толькі боль зацяты
Блісне ў зрэнках хмарай,
Як расплата катам,
Што грымела карай!

* * *

Пры акупацыі — за тры гады —
У берагах паменшала вады:
Бязлітасна чужынцы секлі пушчы,
А квола рос падлесак малады.

Пры акупацыі —
за тры гады —
Было удосталь гора і бяды.
І хлеб нявolі бачыў невідушчы
Са шчаўя конскага і лебяды.

Пры акупацыі — за тры гады —
Цапы назад вярнуліся сюды,
З сырой лазы —
абутак нетрывушчы,
І ў плуг упрогся чалавек тады.

Пры акупацыі — за тры гады —
Свінцовымі ўсе сталі жалуды,
Дубы стагналі: —
Катаў бі і трушчы,
Каб ветрам іх развеяла сляды...

Пры акупацыі — за тры гады —
Устаў народ, нібыта вал круты,
Усемагутны,
і — усевідушчы —
Сустрэў Дзень Перамогі залаты.

## ЯБЛЫНЕВЫЯ ЧАЎНАКІ

Так дзяўчаты квеценню завеяны —
Не пазнаць суседавай дачкі.
Быццам мроі незямныя ўсе яны,
Не дзяўчаты — подых трапяткі.

Хмельна хлопцам сярод яблынь ходзіцца,
Кратаюць гармонікаў басы.
Ды перад вайной — сказаць даводзіцца —
На сады апалі маразы.

А пасля ўжо гэтак замяцеліла,
А пасля ўжо гэтак загуло:
Заверацяніла, закудзеліла
Пры лучынах смаляных сяло.

Сцятыя тугою неспатольнаю,
І дзяўчаты нашы і жанкі
Радаваліся мне — рабіць быў здольны я
Яблыневыя чаўнакі.

Як там і снавалася, і ткалася,
Не скажу — не бачыў той пасаг.
Не адна свайго не дачакалася —
Яблынь цвет у русых валасах.

* * *

Накруціла сумёты,
Кожны — снежнаю горкай.
Праляцяць самалёты
І — зачэпяцца зоркай.

З той прычыны — мы знаем —
Кананада не чутна.
І сябе праклінаем,
Што расцём так марудна.

Ані хлеба, ні бульбы,
Толькі ўдосталь самоты,

Ды іскрыстыя гурбы —
Аж да неба сумёты.

Не займаўся б той ранак,
Не прыносіў трывогу —
Мы для немцаў паганых
Расчышчаем дарогу.

За калонай калона,
Хмара газаў бензінных.
У вачах аж зялёна
Ад шынеляў тых сініх.

Снег кідаюць лапаты.
Што ты скажаш тут проці?
Раптам выбег з-за хаты
Стрыгунок без аброці.

І мяне для пацехі
На яго пасадзілі.
Аж уцяліся стрэхі
У маўклівым бяссіллі.

Немцаў выдумка гэта
Ім цяпер даспадобы,
Аж хістае штакеты
Іхні смех нізкалобы.

Нехта пугай з іх ляснуў.
Страхам выбіты з тропу,
Стрыгунок мяне бразнуў
На дарогу з галопу.

Паімчаўся, вятрысты,
Ён з лагчыны да горкі.
А ў вачах маіх іскры
Ды чырвоныя зоркі.

. . . . . . . . . . .

Ледзьве бліснуць падковы,
Санны збудзіцца скрогат,—
Чую бег стрыгунковы,
Чую ворагаў рогат.

* * *

Не пакажу я сцежак следапытам,
Пад сховы хвойных шат не правяду,
Каб не забыць ім,
у баі забітым,
Далёкіх дзён спякотную жуду.

Зямля ад плачу голасна зайшлася,
І неба ад напружання расце:
Зірнеш налева —
кроў дыміцца ў Басі,
Зірнеш направа —
пеніцца ў Расце.

Вугельчыкам,
але не ўсім вуголлем
Табе маленства сэрца апякло.
Адно згадай, як пад сасмяглым голлем
У сорак першым колькі іх лягло.

А потым ноч агністая апала,
Якой ніякім ліўням не заліць,
І з крэматорыя ўставаў Купала,
Каб вешчым сэрцам
край свой асвятліць.

І ў свеце не было ніякай сілы,
Каб памагчы нам ці паспагадаць:
Мы братнія трывожылі магілы,
Каб зброю паўшых
мсціўцам перадаць.

Не дакарай жа ты мяне, Радзіма!
Адно прашу ў заступніцы-Зямлі:
Суцеш мяне,
што тыя кулі міма
Варожых,
чорных
сэрцаў
не прайшлі!

* * *

Струменіцца ад промняў павалока,
Наблізіўшы нячутна край зямлі
І — акіянскі рокат...
Як далёка
Мы ў несупынным наступу зайшлі!

І мімаволі адчуваеш тое,
Што сонца ў зіхатлівай пекнаце
За кожнаю адоленай вярстою,
Як ратаборца шчыт,—
расце-расце.

Сціскае грудзі вогненная смага,
І пад падэшвамі пясок смыліць.
Але ці знойдзецца такая фляга,
Каб змог ты смагу тую наталіць?

Ты бачыш іх, былыя пакаленні,
Хто ў скрыжаванні трасаў і дажджоў
У дзёрзкім і нястомным наступленні
Сюды даўно і ўпэўнена прайшоў.

З аблiччаў іх нічога не сатрэцца —
Яны жыццё аддалі барацьбе.
Убачыш,
як надарыцца сустрэцца —
Яны паўсюль наперадзе цябе!

* * *

Прайду ля вокнаў ветэранаў,
Як ападзе святочны змрок,
І ля прыцененых экранаў
Спыню міжволі ўдзячны крок.

Пры ордэнах і пры медалях,
Але без ценю пахвальбы,
У дзень такі яны ў тых далях,
Дзе не сціхае гул пальбы.

Хоць ад дзяцей і ад унукаў
І гаманліва за сталом,
Яны ад тых пякельных гукаў
Сядзяць з задумлівым чалом.

Яны збіраюцца штогодна.
Ды — як калодзежнае дно —
Усё часцей-часцей самотна
Пагасла нечае акно.

І будзь ты ў горадзе ці вёсцы,
Напомняць веку скразнякі,
Што на пастах ракетаносцы,
Што на пастах штурмавікі.

* * *

Весь день стоит как бы хрустальный.
*Ф. Цютчаў*

Серабрыцца далячынь шкляная,
Павуцінка нават не плыве.
І шацёр блакітны развінае
Нехта ў зіхатлівай сіняве.

Залацяцца спелыя налівы,
І платы ўсохлі без расы.
Чую, усхвалёвана-шчаслівы,
Аж з-за небасхілу галасы.

Пад гадамі рана яшчэ гнуцца,
Не зайздрошчу спрыту юнака,
А лісты калі і шалахнуцца,
То, напэўна, не ад вецярка.

Далячынь струменіцца скразная,
Сонца ярка шыбы залаціць.
Ды пчала, як куля разрыўная,
Да мяне з мінулага ляціць.

* * *

Над варонкаю з сынам стаю,
Дзён сваіх перайшоўшы экватар,
І праз трыццаць гадоў пазнаю
Супакоены вогненны кратэр.

Прасцірае далоні трава
На зарослым пясчаным адхоне,
Каб зірнуць не магла сінява
У сырое, глухое прадонне.

Мне трынаццаць — галёкаць пара,
Толькі лёс забаўляцца не раіў.
Бачу: ставіць свайго дзегцяра
Кулямётчык — узбек Мамсараеў.

Я прынёс пехацінцу вады,
Ён мне даў звальцаванага хлеба,
Ён пра немцаў пытаўся...
Тады
Нас накрыла грымотнае неба.

Любы сын, мне трынаццаць было,
Як табе цяпер... Помніцца толькі —
Для байца тут пагасла святло,
А мяне абмінулі асколкі.

Ён дагэтуль прыходзіць у сны
Позняй ноччу, той пошчак далёкі,
Бо ад выбухаў страшных вайны
Над зямлёй не астылі аблокі.

* * *

Промні сонца афарбоўвалі бронзавыя ствалы гармат у зеленаваты колер. Гэта была дзівосная карціна.

*Гейнц Гудэрыян, «Успаміны салдата»*

Зямля не стагнала ад болю і ран,
І сонца прасвечвала сосны.
Глядзеў на гарматы Гудэрыян,
Нібы на малюнак дзівосны.

Не мог хвалявання суняць генерал,
Таропіўся ў прыцемак волкі —
Калі загрукоча смяротны харал
Ад ціхага Буга да Волгі?..

Адно прадугледзець не мог аніяк,
Што тая агністая ціша
На друз перамеле фашысцкіх ваяк,
Гарматы і танкі пакрыша.

Падмазаўшы пяткі, на Захад рване
І ён з недабіткамі гадзін,
Каб чуць —
аж да скону —
у кожнай сасне
Зноў нюрнбергскі скрып перакладзін.

* * *

Воіны на маршы — лес густы.
Пыл — не бачна сонца галаўня.
Каскі — як дубовыя лісты.
Жмурыш вочы — бліскае браня.

Армія! Ты — наша маладосць,
Ты няўхільнай пільнасці запас.
Ведаем, што ты заўсёды ёсць,
Хоць і самі мы пайшлі ў запас.

Толькі вецер травы скалыхне,
Небасхіл прыцьмее ад смугі,
Армія сыноў усіх гукае
Пад свае высокія сцягі.

Воіны на маршы — лес густы.
Пыл — не бачна сонца галаўня.
Каскі — як дубовыя лісты.
Жмурыш вочы — бліскае браня.

* * *

Дрыготкая дажджынка на прыцэле
Суцішваецца ярка — схлынуў гром.
А мулкая сцюдзёнасць ные ў целе
І — рух прадплеччаў сціснут каўняром.

Вясёлкі трыумфальныя вароты.
На росных красках абазваўся чмель.
І зырка адкрываюцца шыроты
Нязведаных і прывідных зямель.

Мішэнь — як патэфонная пласцінка —
Зайграць гатова, толькі пакруці.
Прынюхваецца куля-залацінка,
Каб не мінуць знянацку дзесяці.

Туман крылом бязважкім самалёта
Плыве па-над цяснінай. Уздыхні —
І родных ніў густая пазалота
Пакажацца табе з далечыні.

Кустоў васковалістае трымценне
На міг уявіш шолахам снапоў,
І неўпрыцям мацнее летуценне —
Прайсці між геркулесавых слупоў.

* * *

Дыялектыкі мудры закон
На мяне пазірае з акон.

Бабка ў бляску акругленым дня,
На руках у яе ўнучаня.

І стамлёна, як лепшы свой дар,
Носяць пчолы апошні нектар,

Гаркаваты з апошняй вайны:
На акопах былых палыны.

Ні з расстайных дарог, ні са сноў
Не даклікацца ўсіх ёй сыноў.

Павуціны дрыготная ніць
Прыхаванай надзеяй звініць:

Што свяцейшае? Праўда ці бог?
Можа, ступіць які на парог?

Бо няўжо і кужэльнасць кашуль
Не магла ўберагчы іх ад куль?

Каб былі яны чыстымі ўсе —
Мыла ногі ў світальнай расе.

Калі гора-бяда — на стале лебяда,
Ды нічога для роднай зямлі не шкада.

І пастаўлена сэрца на сон —
Дыялектыкі мудры закон.

* * *

Быў гэткі лес — прабіцца цяжка промню —
Бярозкі, елкі, грабы і дубы.
І хоць касі касою — добра помню —
Крамяныя грыбы.

Маліны столькі, што чырванашчокіх
У ёй дзяўчат нялёгка і знайсці.
І столькі ў нетрах таямніц глыбокіх —
Як у самім жыцці.

Вайна ж усё дашчэнту агаліла:
Дзе веяў гоман — забялелі пні.
Ды злу насустрач узнялася сіла
Аж з самай глыбіні.

Мясцін знаёмых нават не пазнаеш,
Нібы зямля зрабілася другой.
І лес, які ты ў памяці ўзнаўляеш,—
Аслонены смугой.

Навала бліскавічна адгрымела,
Пакінуўшы свой след... Прайшлі гады —
І з буралому выступае смела
Падлесак малады.

* * *

*Памяці Генадзя Кляўко*

З недалётам і з队пералётам,
Хоць і цэліў у сэрца табе,
Колькі дзён над іржавым балотам
Вораг мінамі цішу дзяўбе.

Але сэрца не зойдзецца плачам,
Хоць між золкай дрыжыць асакі.
Будуць плыць з успамінам дзіцячым
Кулікоў, як і куль, касякі.

Цябе ў свеце ніхто несурочыць,
Устаіш,
як і што ні тарань.
Абаперціся рукі захочуць,
А навокал балотная твань.

Не прызнаешся ў гэтым нікому
І не ўступіш з дзялкамі ў хаўрус.
Будзеш несці штодзённую стому,
Як патрэбны і радасны груз.

І балот лабірынт пакручасты
Ва ўспамінах асушыш наўкруг.
Будзе рунь зелянець. І блішчасты
З далячыняў засвеціцца плуг.

* * *

Духмянае сена стагую,
Аж пот па спіне — што ручай.
І спрытна малога страхую:
Ты — жаўранак — мне выбачай.

Табе нова усё і цікава,
І ўсё захапляе наўкруг.
Рамонак — вядомая справа —
З тваіх парываецца рук.

Пакуль не разгорнуцца крылы —
Я мушу цябе падтрымаць.
Праменяцца ўдаль небасхілы
І — лёгкі іх гул не стрымаць.

Рыхтуешся ты да палёту —
Сягнуць за нязнаны рубеж.
І ўтульнай зямлі прахалоду
Ты ў дальні палёт панясеш.

Пасланнік прадбачлівай веры,
У космаса душных цісках
Адчуеш, прайшоўшы бар'еры,
Прапелер рамонка ў руках!

* * *

Мяне не вабіць бляск паркетны,
Я чую клеткай не адной,
Як грозны катаклізм сусветны
Зямлю гайдае пада мной.

Дваццаты век, разняўшы крылы,
Ты мог бы вышай узляцець,
Каб толькі зблізіць небасхілы,
Каб вочы ў вочы паглядзець.

У іх віры — ільноў званочкі,
Шэпт спавядальны каласкоў,
Дзяўчынак ясныя вяночкі,
Загар нястомных хлапчукоў.

Для іх — усе зямныя шыры,
Багацце нетраў, лёт ракет
Ад першых лямпачак Кашыры
Да бляску стоеных планет.

І як не стане ў свеце дымна,
Як гром зямлю не скалане,
А пераможна, неабдымна
Аблічча праўды свеціць мне!

* * *

Кладу руку на галаву дзіцяці —
На лёгкі адуванчык залаты:
Хай адчувае і ў маім паглядзе
Святло і ўсеабдымнасць дабраты.

Мая далонь — памірскія цвярдыні,
Шыракаплынных бурных рэк выток,
Зіхотлівая неабдымнасць сіні,
Дзе і пад ветрам не трымціць лісток.

Шурпастая, як дзедаўскія жорны,
Лагодная, як звільгатнелы лёс,
Яна адпрэчыць можа прывід чорны
І — падарыць малому ясны лёс.

Скрыжоўваюцца трапяткія цені,
Як на вяку было ўжо не раз.
І — нібы адчуваеш шалясценне
І след агністы балістычных трас.

Дзетазабойцы,
                    хіжнякі,
                              пралазы,
Не адсядзецца вам у халадку.
На вашы планы,
                         сховішчы
                                    і базы
Кладу руку!

* * *

Спыніся! Стань! Няхай зямля прыпыніць
На міг свой рух — агледзецца хачу.
Ах, колькі радуг свеціцца ўваччу,
Што не магу душой апалавінець.
Якія б ні чакалі павароты,—
Будзёнасці адкіну драбязу,
І ў далечах, яснейшых за слязу,
Іду праз трыумфальныя вароты.

## ВЯЗЫНКА

Так і ёсць — каля парога
Камень-жарнавік.
Намалоў ён гора многа,
Бо за век прывык.

Навакол зірнеш у поле —
Бачыш валуны.
Мужыка цяжкую долю
Сцераглі яны.

Столькі трэба было сілы,
Як свой шнур араў.
Ды затое для магілы
Камень выбіраў.

А ў хаціне моўчкі ступа
Стала пры куце
І глядзіць спрадвеку тупа,
Як бяда расце.

Гаспадар ці хутка будзе?
Нешта не відаць.
Пэўна, ён пайшоў, каб людзям
Праўды хлеб раздаць.

* * *

*Пімену Панчанку*

У франтавога летапісца Пімена
Вучыліся мы многаму,
а іменна —
Суровасці,
адкрытасці,
спагаднасці,
Няўрымслівасці,
снайперскай дакладнасці,
Дасціпнасці,
агню,
высакароднасці

І —
непадкупнай грамадзянскай годнасці.
Запала ў сэрца слова яго кожнае —
Набатна-ўсевідушчае,
трывожнае.

І верыцца —
нівек яно не зменіцца —
З расінкі кожнай будзе зноў праменіцца.
Узрошчана яно высокай тайнаю —
Усенароднай праўдай хлебадайнаю.

* * *

Труба жураўліная —
з подыху блізкіх мяцеліц,
З блакітнага бляску дрыготка-сцюдзёнай імжы —
Парою паўночнай самотай няяснай надзеліць
І — хвалямі пройме ўсяго трапятанне душы.

Праз столькі гадоў ты вяртаешся зноў
у прыроду,
Да чуйных вытокаў, да тых прамяністых крыніц,
Што дужасць падораць табе, што нясуць асалоду
Красою світальнай, якую ўслаўляеш ты ніц.

Цямнеюць нябёсы, і смутна бялеюць аблонні,
А ціша такая — баішся глыбока ўздыхнуць.
З надзеяй няўцямнай увысь прасціраеш далоні,
Каб сёння удача цябе не магла абмінуць.

Варушацца цені, і веюць загадкава шумы,
Зямля сунялася, і пругка паветра трымціць.
Прыслухайся ўважліва —
гэта пярынка задумы
З бяздоння халоднага ў шчырыя рукі ляціць.

Хутчэй жа,
хутчэй апускайся ў раздоллях бялёсых —
Даўно хваляванне маю акрыліла душу.
Трывогі і радасці ўсе на зямлі і нябёсах
Табой — светазарным — упэўнена я напішу!

* * *

У бярозах пасяліўся гном —
Лес зялёны ходзіць хадуном.

Ведаць бы, што сталася —
Лісце так шапталася? —
Мы гадалі з Янкам Скрыганом.

У галінах вецер-ветраном,
І туман паслаўся палатном.

Лета развіталася,
Восень затрымалася,—
Мы рашылі з Янкам Скрыганом.

Стала явай, што ўяўляў ты сном.
Стала высcю, што лічыў ты дном.

Так перапляталася,
Так усё злівалася —
Нас дзівіла з Янкам Скрыганом.

Гэткі свет дзівосны за акном —
У бярозах пасяліўся гном.

Скруха заставалася.
Далячынь гайдалася,—
Ехалі мы з Янкам Скрыганом.

* * *

Забыўся ледзьве чуйным сном,
А нехта ходзіць пад акном.
— Хто там? — пытаю ў цемры строга.
— Твая трывога.

Ад шыб няўлоўны шолах чую,
Да рання сны свае арфую.
— Хто там? — спрасоння халадзею.
— Твая надзея.

Здаецца, з яснай сінявы
Мне надтачыў хтось рукавы.
— Хто там? — заінееў ад поту.
— Твая работа.

Я падрамаць яшчэ ахвочы,
Але шукае промень вочы.
— Хто там? — пытаюся ў здзіўленні.
— Тваё здзяйсненне.

* * *

Прытворства непазбежнасць
Штодзённа бачыш ты:
Жалезная залежнасць
І зла, і дабраты.

Зямлі спыняе шэсце
Катэгарычны тон:
Яе могуць растрэсці
І сотні мегатон.

Ад слоў сурова-гнеўных
Наш вораг не панік.
Каханне славіць еўнух,
Нянавісць — гвалтаўнік.

Ад сутыкненняў звонкіх
Аж галава трашчыць.
А ісціна ў пялёнках,
Нібы дзіця, крычыць.

* * *

*Анатолю Вялюгіну*

Усё аддаць — сябе прыдбаць,
Вярнуцца з восені ў прадвесне,
Сябе штодзённа адчуваць
У эпіцэнтры юнай песні.

Між гэтых ломкіх галасоў
І крыл, яшчэ не ацвярдзелых,
Адчуеш горды шум лясоў
І водар ніў, ад рос спацелых.

Адно пяро з свайго крыла
Падлетку ўручыш на дарогу,
Глядзіш — пабольшала святла,
Што нашу значыць перамогу.

І новы жаўра з-за пляча
Зноў сочыць, тоячы дыханне,
Як з паляшуцкага карча
З'явіўся дзед, нібы паданне.

І як там дні ні халадзей,
Але нікому не зайздросціў
І стаў за многіх маладзей
На столькі ясных маладосцяў.

* * *

Гравіраваныя на медзі,
Аблокі мкнуць за небасхіл.
Шумлівы млын грукоча недзе
У скразняках шырокіх крыл.

І дождж успенены з нахілам
На ўзлессі сцішана гудзе,
І вось ён зліўся з небасхілам
І лугам з подскакам ідзе.

Дужэе пруткае калоссе,
Нібы выпроствае спіну,
І непрыкметна ўсё злілося
У дробны шум і гаману.

І за спякотаю — адхланне:
З лістоты коцщца раса,
Пamаладзелае дыханне
І пасвяжэлая краса.

І, на бацькоўскі стаўшы ганак,
Не ўбачыш, колькі б ні прайшоў,—
Такіх малінавых маланак,
Такіх сярэбраных дажджоў!

* * *

Не ўмею быць я абыякавым
Да спраў, што ўседліва раблю.
Хай упаду зярняткам макавым,
Ды толькі ў родную зямлю.

Не можа быць будзённасць шэраю
І свет без шчодрай дабраты,
Што нам няслі жыццём і вераю
Мае браты, твае браты.

Я пад любой нягодай выстаю,
Я не сагнуся ў барацьбе
І будучыню прамяністую
Набліжу працай да сябе.

Яна ўсё шырай разгараецца,
Усё бліжэй... І ад таго
Усе народы прымяраюцца
Да сцягу алага майго.

Ды не пакрыю бляскам лакавым,
І што рабіў і што раблю.
Хачу упасці зернем макавым,
Ды толькі ў родную зямлю.

## РАЗВІТАННЕ З ПІЛІПАМ ПЕСТРАКОМ

Як жа так?
Не маглі ж пераможныя горны
Стаць жалобнымі трубамі?!
Ды яму — скразняку!
Дык навошта тады я прыгнечана-горны
Разам з іншымі крочу ў самотным вянку?

Ён, хто ў цемры астрожнай фарміраваў зоры,
Цалаваў сіняву столькі часу з-за крат,
Нёс у сэрцы нязломным агонь непакоры,
Штодня слухаў разложысты гром барыкад.

Паўтараць мог спрасоння імя Гарыбальдзі,
Дыхаў толькі павевам адным — кумача,
Крочыць спорна умеў па раллі і асвальце,
Нават кепку насіў на манер Ільіча,—

Мог здарожыцца?
Не!
Бо яму — непаседу —
У саюзнікі мог бы прыдацца віхор.
Яму мала было навакольнага свету —
Маладзейшы, ён сам ірвануўся б да зор!

Нешта думае ён,
ды не дзеліцца з намі.
І ўжо нам не пазнаць яго думак і сноў.
Калі праўду сказаць,
жыў не надта ён снамі.
Хай пасніць.
А мы вернемся зноў
Да асноў.

Над галечай спрадвечнай,
над доляй зламанай,
Што акенцам сляпенькім паглядвае ў свет,
Пад зарослай імхамі страхой саламянай
Спіць маленькі загінены хлопчык-паэт.

Абуджаюцца раніцай золкія студні,
На нябёсах няўтульная зорка дрыжыць,
І праз горкае гора і шэрыя будні
Шлях-дарожка яго ў свет бяжыць і бяжыць.

Узваліўшы сабе на юнацкія плечы
Боль нясцерпны зямлі і лістоту ў расе,
Гоман бору працяжны і боль чалавечы,
Ён да горкага дня яго нам прынясе.

У жыцці ён удумлівы быў канспіратар,
Увіяцкую сутнасць разгадваў ксяндзоў.

Дык чаму не сказаў ён касой:
— Праваката́р! —
І за ёю пакрочыў у засень лясоў.

Пэўна, скіне ён зараз маркотныя чары.
Чуеш —
буйна і хмельна віруе рака
І сабою шырока займае абшары.
І — на хвалях плыве капялюш Пестрака!..

* * *

Куды сцягі хаваюць пасля свята?
Іх шэлест сціх, і ўжо на сэрцы змрок.
А як зусім нядаўна зухавата
Ішлі байцы, друкуючы свой крок.

Гулі ў калонах танкі урачыста,
Пагойдваючы маналіт зямлі.
Іх рокат змоўк, і ім услед плячыста
Ракеты ўсевідушчыя пайшлі.

Упэўненасць расла і біла ў бераг,
Над дэманстрантамі устаючы,
І не было ніколі будняў шэрых,
А адчуванне сына на плячы.

Ты з нечым неістотным разлучаўся,
Загледзеўшыся ў заўтрашнюю сінь,
І сам ты непрыкметна далучаўся
Як быццам да затоеных глыбінь.

Выблісквала базальтавае ложа,
Як дзень з-за узвіхураных гардзін.
Так, чалавек усё на свеце можа,
Калі ў сваім парыве не адзін.

* * *

Ад променя пазалаціцца шыба,
Як амальгама ў блёстках тапаліных.
Тваёй удачы зварухнецца рыба,
Хвастом пялёснуўшы ў густых галінах.

І затрапечацца ў лісцвянай сетцы
Строй вуліц гарадскіх, які далёка.
Сказаць бы слова добрае суседцы —
Так вабіць цёмных веек павалока.

Ды не! Ды не!
Здзяйсненне мары блізка —
Між камяніц, узвышаных смугою.
З надзеі сома застанецца пліска,
Адно шукаў ты, а знайшоў другое.

І неашчадна між каменных хваль там
Забудзеш рана, як звініць крыніца.
І да касцей распараны асфальтам,
Гадаеш: а чаму суседка сніцца?

Ля цёмных стрэх высока дагараюць
І халадзеюць зоры над вярбою.
Крыжы сукоў...
Паэты паміраюць
У гарадах, узятых імі з бою.

* * *

Ад дзіцячай радасці нямей —
Б'ецца ў высях папяровы змей.
І паветра золкага паток
Мкне яго, як восеньскі лісток.
І лунаў бы так, ды спадцішка
Верне яго чэрствая рука.
Нітка ад напружання звініць.
Чым чужую волю замяніць?
Ёсць рука на свеце, што мяне
На зямлю з нябёсаў шмаргане.

* * *

Стрыножвалі коней жалезнымі путамі,
Каб іх не звялі — божа крый — прайдзісветы.
А сёння і трактары ходзяць раскутымі,
Да цугляў прывыкнуць не хочуць ракеты.

Мы гэткія далечы ў думках аблазілі,
Дзе новых галактык вытокі снуюцца.
Ды што гаварыць! Нават чуйныя лазеры
Цяпер толькі сціплай ступенькай здаюцца.

Умеем да шчырага ставіцца з ласкаю —
Самою гісторыяй гэта даручана.
Касмічная высь, глыбіня акіянская
Асвоена будзе і будзе прыручана.

Са сціпласцю гордай прызнацца даводзіцца,
Што крочым мы смела і поплеч з эпохаю.
Амаль аніхто ўжо цяпер не калоціцца
Над бруднай, грашыма набітай, панчохаю.

І як бы душа не ўляглася ворага,
А заўтра сустрэне дзяцей нашых яснасцю.
Нам праўда адна толькі ў свеце і дорага.
Сумленне і вера — нязменнай уласнасцю.

* * *

Ледзь толькі лесу снежная падкова
У шыбах блісне, аж зазвоніць шкло,
А ўжо зары крыло сіваграков
Плячысты горад ціха абняло.

Зіма. Марозна — ажно дух займае.
Праз іней сонца зябка промні шле.
Нябачны нехта гмахі прыўзнімае,
Як карабель у прывіднай імгле.

З буслінай зацікаўленасцю краны
Ўглядаюцца — з якіх мясцін

Прыйшлі будаўнікі — народ старанны:
Не нарадзіўся тут з іх ні адзін.

А недзе там — за шызаю смугою —
Пачуеш скрып марозны жураўля,
Але не стала ўсё-такі другою
Да скону найраднейшая зямля.

І там і тут — адна твая Радзіма,
І ўсё патрэбна — ты куеш ці жнеш.
І мара зіхаціць перад вачыма:
Падкову свайго шчасця разагнеш!

* * *

Рэчка — блакітнае дрэва,
Лежбішча гнуткае — ствол.
І ад густога павеву
Шэпчуцца хвалі вакол.

Гладзі люстранай мігценне
Там не пазнаць з-пад рукі,
Дзе без зялёнага ценю
Сохнуць яе ручайкі.

* * *

Дні — як спіцы у коле —
Зіхацяць-серабрацца.
Ды не ўмеюць ніколі
Яны паўтарацца.
Кожны стане адметным,
Кожны зробіцца новым —
Ці то водбліскам медным,
Ці адлівам свінцовым.
Гэтак едзеш і едзеш
Ты з прылівам-адлівам
І сябе сам угледзіш
У жыцці зіхатлівым.

* * *

Зара прыслала вокліч развітальны,
Дапальваючы ў горне бляскат дня.
Шацёр нябёс стаў болей адчувальны,
І — чуйна падступіла цішыня.

І выгнутае над ракою неба
У вечаровай прывіднай імгле
Было падобнае на бохан хлеба,
Што астывае млосна на стале.

Над соннай сенажаццю і над пашай,
Над лазняком, дзе ціўкне птушаня,
Свяцілася дыханне стомы нашай —
І шырыня яе, і глыбіня.

Мы так жывём, каб кожнае імгненне
І кожны пробліск думы трапяткой
Маглі пераўвасобіцца ў праменне,
Што дагарала зараз над ракой.

Штодзённы хлеб наш — велічная праўда,
Якую не паблытаць з палыном.
Няхай жа, як пад ногі касманаўта,
Пражыты дзень нам ляжа дываном!

* * *

Хоць конь на чатырох,
А можа спатыкнуцца.
А мне з цяжкіх дарог
Як без прыгод вярнуцца?

Трымаюся ў сядле,
Упэўнена-шчаслівы.
Мой добры конь.
                    Але
Занадта палахлівы.

Ці ўчуе што ў аўсе,
Ці ад машыны збочыць,—

Ды раптам панясе,
Ледзь не да сонца скочыць.

Усім не навіна —
Быць добра на выгодзе.
Ды думка ёсць адна —
Не адпускаць паводдзе.

Няхай душа мая
Суцішыцца патроху,—
І выкірую я
На роўную дарогу!

* * *

У кожнага свая ёсць Беатрычэ,
Што, лаўры прымяраючы на лоб,
У яснасць новых даляглядаў кліча
І без каторай — Дантэ не было б.

* * *

Прымярацца да шчасця,
Мабыць, трэба з пары,
Калі грозяцца ўпасці
У бяздонне бары.

Шмат юнацкае сілы:
Ледзь яе закрані —
Затрымцяць небасхілы,
Загудуць карані.

Не баішся нічога —
Ні сумненняў, ні здрад.
Пралягае дарога
Міма суму і страт.

Сам сабе не дваішся —
Справа ёсць да ўсяго.
Аднаго і баішся —
Абмялення свайго.

Можа, выйдзе не гэтак —
Сцежка мкне на шашу,
Закрасуе палетак,
Ускалосіць душу.

* * *

Санлівы маладзік у голлі,
Дымяць звільжэлыя імхі.
Прыцьмела зыркае вуголле,
Мы спім, падклаўшы кажухі.

Дзесь птушка ўскрыкнула спрасоння,
Дзесь смачна чвякнуць капыты.
Салодка спім. Пасуцца коні
Далёка так, як з-пад вады.

Дзень сонца ўскоціць на нябёсы —
Душа замрэ ад хараства:
Гамоніць лес, іграюць росы,
Зіхціць крамяная трава.

Гарэзна выцягнуўшы шыі,
Ідуць кругамі жарабкі,
А кабыліцы маладыя
Нясуць хвастоў андаракі.

Дзень паднімаецца паволі,
І адступаецца сутонь.
Халоднае шарэе поле,
Як попел, дзе заснуў агонь.

* * *

Зайграй, мая зорка вячэрняя,
Дня лепшага не выбірай.
Калі для мяне была верная —
На промнях апошніх зайграй.

Лугі заліўныя пакошаны,
Плячыстыя ўсталі стагі.

Арэхі даўно аблатошаны,
І рэчкі ўвайшлі ў берагі.

Сумленне маё не закладзена,
І жыць не працэнтам са сноў.
І ўсё, што народу аддадзена,
Юнацтвам вяртаецца зноў.

Зайграй, мая зорка вячэрняя,
Дня лепшага не выбірай.
Калі для мяне была верная,—
На промнях высокіх зайграй.

* * *

У далячыні гляну
І распазнаю зноў
Сунічную паляну
Праз зыбкасць тумаsucceeded ноў.

Дзяўчаткі — не пястушкі,
І ўсе да аднае
Злятаюцца, як птушкі,
Ледзь сонейка ўстае.

І смех іх белазубы —
Крынічная эмаль.
І пунсавеюць губы,
Як ягады амаль.

А хто званчэй смяецца —
Ці птушкі, ці яны,
Аж рэха аддаецца
Ад баравой сцяны?

Раса ўспамін халодзіць,
І ледзь паварушы,—
То рэха не выходзіць
Дасюль з маёй душы.

* * *

Разляцеліся хусціны —
Залатыя матылі.
Маладзенькія дзяўчаты
З добрым подскакам пайшлі.

Рукі плаваюць шырока —
Толькі веюць вецяркі.
Дробна-дробна вырабляюць
Каблучкі ды каблучкі.

Можа, іншыя і ўмеюць,
Ды не гэтак і не так.
А яны зярняты сеюць,
Сеюць долю, сеюць мак.

Анікога не няволяць —
Проста добрае пайшло.
Полюць-полюць-полюць-полюць,
Каб асоту не было.

Хай ідуць, што згоду маюць,—
Кожны родны, кожны свой.
Лёгка сонейка трымаюць
Над высокай галавой!

* * *

Праменнем даль прашыла,
Заварушыўся сад.
І бель зацерушыла
Затоенасць прысад.

Дзяўчыны крок наіўны,
Дзве ручаіны кос.
І рокат рэактыўны
Разносіцца з нябёс.

Пранёсся з гулам трубным
І знік за сонцам ён.
А след?

Ён шлейфам шлюбным
Трымціць на ўвесь раён.

І радавацца трэба,
Хоць бачыш ты здаля,
Што парадняцца неба
І чуйная зямля.

* * *

На высокім ганку,
Што дажджом абмыла,
Ты пшаніцай зранку
Галубоў карміла.

Чыстая пшаніца,
Як твае надзеі.
Помні, галубіца,
Светлы дзень нядзелі.

Галубоў віхрастых
Згоду-варкаванне
І грудзей уласных
Радасць-хваляванне.

За лёгкай смугою
Поўны лес арэхаў.
Пад яснай дугою
Суджаны твой ехаў.

Дык няхай пшаніца
Стане напамінам:
Кожны прычасціцца
Шчасцем галубіным.

* * *

Пакацілася лета
Цераз поле і лог.
Пакацілася лета
Без усякіх дарог.

І, напэўна, чакала
Ад яго сінява —
Журавоў выпускала
З аднаго рукава.

А з другога — у скрусе —
Выпускала гусей.
Стала ў лесе і ў лузе
І цямней, і цішэй.

І, абраўшы часінку,
Не для лепшай красы
Запляло павуцінку
І ў мае валасы.

Што ты скажаш на гэта?
Я сказаў бы, каб мог:
Пакацілася лета
Без усякіх дарог.

* * *

Я і навобмацак пазнаю —
На небе серп,
Лістота звонкая разная
Кляноў і верб.

Душа ўтрапёная залее
Ад нематы:
Туману воблачка ў алеі
Ці — можа — ты?

Ах, перацятае дыханне
Тваіх грудзей,
Лістоў дрыготкіх калыханне,
Святло надзей!

І вуснаў хмель, і абяцанкі,
І ветру ўздых,
І зачароўваюць цацанкі
Нас удваіх.

Душа па-іншаму залее,
І паласа
Святла няпэўнага ў алеі,
Як бляск ляза.

* * *

Ручай вясновы звонка булькае —
Спяшае некуды трушком.
Сачу за светлаю бабулькаю —
Ідзе з кіёчкам бальшаком.

Уся асветленая яснасцю,
Як красавіцкая вада.
І вочы свецяцца прыязнасцю,
І ім нічога не шкада.

Былое ў памяці высноўвае,
А што — табе не разгадаць.
І гэта раніца вясновая
Ёй не паўторыцца, відаць.

За доўгі век напрацавалася,
Наняньчылася, як магла,
Наплакалася, наспявалася,
Але без справы не была.

Цяпер між фарбамі і гукамі,
Якімі звонкі дзень гудзе.
На праведкі з сваімі ўнукамі
Яна ў каторы раз ідзе.

* * *

Ціўкне ў шыбу сініца —
Дзынкне тонкае шкло.
І такое прысніцца —
Мабыць, што не было.

Не, было, ды не ўспомню —
Як сплыло пад ваду.
І па тонкаму промню
За ўспамінам іду.

Залацістае ранне —
Гэтак думку сную.
І ў святлістым тумане
Маці бачу сваю.

Мне працягвае рукі,
Ды не можа дастаць,
І ад даўняе скрухі
Сцяты вусны, відаць.

Як у плыні драбіцца
Твар любімы здаля...

. . . . . . . .

За цябе я, сініца,
Аддаю жураўля.

* * *

Прайшлі мае экспрэсы міма,
Аж недзе ўгнуліся масты.
З неразгаданымі вачыма
Прамільгацела з імі ты.

За небасхілам знікла знічкай,
Нібы іскрынка пад адкос,
З сваёю строгаю спаднічкай
І ручаямі русых кос.

Калі б сышла ты гэтай ранню,
Дзе аднаму цяпер залей,
То свет зайграў бы кожнай гранню
Яшчэ званчэй і весялей.

Відаць, да радаснага болю
Цябе б любіў да скону я,
І непачутая ніколі,
І неспазнаная мая!

* * *

Усё гусцей твае маршчыны,
І варта сцішыцца абы,—
Плывуць у зрэнках аблачыны
Маўклівай стомы і журбы.

Смугой сцюдзёнасці спавіты,
Як невыразныя агні,
Надзей мінулых краявіды
Відны з былой далечыні.

І мімаволі ў фарбах шэрых,
Што не заўважаны спярша,
Захочаш бачыць ясны бераг,
Куды спяшалася душа.

Маршчыны ўсё ж не павуціны,
Каб абляцець на скразняку.
Ды згоніш з сэрца ты ільдзіны,
Адчуўшы верную руку.

Збярэцца дзён пражытых веча,
Каб ты адчула хвіляй той,
Што шчасце зноўку затрапеча
У зрэнках рыбкай залатой.

* * *

У поўнай стопцы —
Броў абадочкі:
Чые вы — хлопцы?
Чые вы — дочкі?

Няўжо абраны
І так прыдатны
Тлум рэстаранны
І водар чадны?

За кожнай шыбай
Смяецца неба,
А тут жа нібы
Азызласць склепа.

Ці прасвятленне
Не скажа: — Досыць! —
Хто абнаўлення
У сябе папросіць?

Свет не варожы
Для вас таксама.
Хто жыць з вамі можа
Без свайго БАМа?

У поўнай стопцы
Броў абадочкі:
Чые вы — хлопцы?
Чые вы — дочкі?

* * *

На ўсіх засцілайце абрусы —
Садзяцца за стол беларусы,
        А злева і справа —
        Высокая слава.

Ільніста блішчыць самабранка,—
Святкуе свой дзень партызанка,
        Прыстойна, без лішку
        Глынуўшы з кілішку.

Лунае настрой карагодны —
І клопат знікае заўсёдны.
        І мёд саладзенькі,
        І сам маладзенькі.

Дзень добры, здзяйсненне і ўдача!
        Няхай непрыяцель наш плача:
        Да дзён незакатных —
        Мы ў шэрагах братніх!

* * *

Помню з досветнага дня
Ветра плынь імклівую —
Пасадзілі на каня
З навальнічнай грываю.

І пайшоў ён, і пайшоў
Па-над лугам-рэчкаю.
Пахла блізкасцю дажджоў
І духмянай грэчкаю.

Ад бліскучых капытоў
Аж кіпелі лужыны.
Асыпаўся ля платоў
Цвет калакалушыны.

З гэтых дзён я і лячу —
Бедавацъ і цешыцца.
Аднаго толькі хачу —
Да пары не спешыцца.

* * *

Млечны Шлях — як калодзежны жораў —
У сузор'ях натужна рыпіць.
Хто ратай тых нябесных прастораў,
Што сабраўся апоўначы піць?

Да зямлі прыпадзеш чуйным вухам,
Чуеш — сыплецца дождж залаты,
Скібу зорную гоніць ён плугам,
Конь павольна нясе капыты.

Разгарнуцца на гэткай аблозе
Можна кожнаму — толькі жадай.
І ніхто не стаіць на дарозе,
І ніхто не зайздросціць, бадай.

Заграбастасці мулкага струпа
У душы не адчуеш ты. Не!
Таму ў поўдзень — у цемрадзі зруба —
Россып зор на калодзежным дне.

* * *

Ходзіць полем завіруха —
Белая мяцеліца.
Цяжка дыша, стогне глуха
І пад ногі сцелецца.

Прыглядзішся — быццам скачуць
У сутонні коннікі.
І дарогу хлопцам значаць
Цёмныя сасоннікі.

Вось, здаецца, ля паркана
Зараз яны спешацца,
І агеньчык нечакана
У акне засвеціцца.

Не! Змяістыя сувоі
Зноў пад ногі сцелюцца.
Сосен шум над галавою —
Гойсае мяцеліца.

Завіруха не змаўкае
І сапе раз'юшана,
Як мядзведзіца, якая
Не ў пару разбуджана.

* * *

Дрэвы гінуць маўкліва:
Адчуваюць яны
Ліўняў цёмныя грывы,
Золкіх зім табуны.

Дрэвы гінуць маўкліва:
Добра чуюць яны
Птушак спеў сіратлівы,
Слёзны голас зямны.

Дрэвы гінуць маўкліва:
Не скрануцца яны,

Пакуль полымя грывы
Зварухнуць каміны.

I, як выдых апошні,
Свой хаваючы страх,
Рассыпаюць на пожні
Зледзянелы свой прах.

Прыпадаюць да глебы —
Найглыбейшай з асноў,
I ўскрасаюць,
як трэба,
I паўторацца зноў.

* * *

Чаму не гралі
праўды,
Нібы набралі
ў рот вады?

Вы толькі ўчора
так гулі,
А сёння гора
прыняслі.

Любое дрэва —
цёмны хвошч.
Замоўклі спевы,
сыпле дождж.

Здаецца, неба
долу гне.
Зноў ёсць патрэба
у труне.

Слязяцца шыбы
і —
чутны
Дажджу усхліпы,
плач сасны.

* * *

Ашаламіў мяне птушыны гам.
Лясныя шаты засланілі высі.
Па моху шаўкавістаму нагам
Як не прайсціся!

— Ку-ку! Ку-ку! — удачу у руку.
Як не паверыш ты зязюлі шэрай?
Ідзеш ты па вільготным халадку
З юнацкай верай.

Далёка шум застаўся гарадскі,
Ды чутна са скляпення баравога,—
Абы павеяў вецер трапяткі,—
Мая трывога.

Хоць макавінкай хочацца малой
Тут узысці, дзе ўсё трымціць лілова.
З карэннямі,
зігліцамі,
з зямлёй
Я вырву слова!

* * *

Спёка. Якая пякельная спёка —
Непрыкметна згушчаецца смог.
Я б паехаў кудысьці далёка
Ці пайшоў пехатой, калі б змог.

Ці налева ступі, ці направа —
На адным жа і тым ланцугу.
Не адпусціць суровая справа —
Перад некім я вечна ў даўгу.

Горад любіць сваю дысцыпліну
І мяне да яе прывучыў.
Эх, каб вецер разложысты ў спіну —
Як мяне б ён ад стомы лячыў!

Толькі гэта пустое: не трэба
Ні абследваць мяне, ні лячыць,
Паўзірацца б са стога на неба,
Мігатлівыя зоркі лічыць.

Хай табе і не суджана лётаць,
Рады даць можна гэткай бядзе:
Расхінаючы сцішана лотаць,
Хоць пабоўтаць нагамі ў вадзе.

* * *

Калі не надзеліш душой сваёй слова,—
Сумленне становіцца плошчаю лобнай,
І хоць апярэнне бліжчыць адмыслова,
Твой дзень змарнаваны —
у рамцы жалобнай.

## ІНЕЙ



Мароз пахруствае крамяны,
Рыпіць пад ботам сыпкі снег.
І месяц коціцца румяны
Па-над пуховай гладдзю стрэх.
Настылыя галіны дуба
Гудуць пад звонкай сінявой,
І запрашаюць вокны клуба
У несуцішны вулей свой.
Рукой намацаўшы прабой,
Хтось расчыніў нячутна дзверы,
Марознай ночы морак шэры
З двара прынёс ён за сабой.
Шыбнула ў залу шызай парай,
Паспеўшы постаць асмужыць.
Падлога пад вясёлай парай
Ад дробных выстукаў дрыжыць.
Гарэзна пляскаючы ў ладкі,
Дзяўчына лёгка стан нясе,
А хлопец чэша упрысядкі,
Ваўчком крутнуўся на пазе.
Заходзіць справа ён і злева,
Ажно трасецца русы чуб.

Дзяўчаты хорам:
— Брава, Ева!
А хлопцы ўслед:
— Смялей, Якуб!
І заварожаныя вочы
Ніхто адвесці тут не мог,
І не заўважылі, хто з ночы
Пераступіў сюды парог.
І ад сухой марознай стыні
На міг
Ва ўсіх
Займае дух...
Танцоры пакідаюць круг,
Гармонік змоўк. Падлога стыне.
Ды зноў прыходзіць зала ў рух,
Нібы па волі дырыжора:
— Глядзіце, хлопцы! Саўкаў Жора!
І ўраз самкнуўся цесны круг
Ля чалавека,
што маўчком
Перад прасветам стаў аконным
У новым шынялі суконным,
У шапцы з мокрым казырком.
І па руках пайшоў ягоны
З бліскучай крышкай партабак.
І тут сержанцкія пагоны
Ўсе разгледзелі...
— Значыць, так...
Ужо са службы, брат?
— Вядома.
— Цяпер куды?
— Пакажа час.
— А можа, застанешся дома?
— Спяшацца нечага ў калгас.
І бляск паглядаў скіраваных
Заўважыў Жора: у кутку
Сяброўкі ў кофтах вышываных
Штурхаюць Еву пад руку.
Занята лузганнем арэхаў
Дзяўчат вясёлая сям'я,
А Ева быццам не свая,
Аж сэрца вяне:
— Ён прыехаў!..
Дала руку яна нясмела

10 Зак. 1473

І счырванела: грымнуў смех.
І не адразу зразумела,
Што выпаў з кулака арэх.
А для сябровак ёсць мішэнь,
І жарт даносіцца нягрубы
(Узяў арэх ён у кішэнь):
— Арэх каляны — зломіш зубы!..
Курылі хлопцы ў калідоры,
І тут на думку ім прыйшло:
Танцора
Гэткага, як Жора,
Даўно не бачыла сяло.
І просяць гуртам:
— Ты з маразу.
Сагрэйся. Іней страсяні!
Скамечыў Жора папяросу;
І вось, нібы ў былыя дні,
Аж раздаліся сцены клуба,—
Чачотку ён рассыпаў так.
І ўсе ў адно:
— Пабіў Якуба!
— Сапраўдны клас!
— Артыст!
— Мастак!

Яны ж вачмі на міг кароткі
Адзін, як кажуць, на адзін
Сустрэліся
бы ў час паводкі
Дзве глыбы вострыя ільдзін.

Але пагасла тут святло.
Натоўп шумлівы выйшаў з клуба
І звонка — ажно сэрцу люба —
Выводзіць песню на сяло.
А месяц у прасторы сіняй
За хмарай твар хавае свой.
Халодна-серабрысты іней
Плыве над самай галавой.
Яго мігценне трапяткое,
Як сівагракава крыло,
Да болю блізка, што рукою
Крануцца хочаш...
А сяло

У смуглым покрыве дрымоты.
Мароз жалезны ліст куе.
Натоўп патроху растае,
Лянiва рыпаюць вароты.
Яны ж ідуць маўчком абое.
Так многа слоў! З чаго пачаць?
І іней бачаць над сабою.
Ды ён маўчыць.
                    Яны маўчаць.
Даўно мінуў той дзень,
                              і вось
Яны ідуць па тому ж следу,
Дзе Жора кляўся:
                         — Я прыеду...
Мароз прахватвае наскрозь.
Іскрыцца ярка снег сыпучы,
Нібыта ў той далёкі дзень,
Як пакляліся...
                    Бот рыпучы
Ступае на дзявочы цень.
Няўзнак падслуханае: «Франт»,
Чамусьці Еву скаланула...
Ля плота постаць прамільгнула
Якуба...
          — Хто ён?
                         — Кватарант.—
Хіхікнуў Жора легкадумна:
— Ты з ім і швэндаешся ў клуб?
Знайшла замену!..
                         А Якуб
У гэты час раздумваў сумна.
З гульні такой ён выйдзе вон,
Патрэбна глупству ведаць меру...
...Яго калісьці на кватэру
Узяў к сабе Клявец Лявон.
І не таму, што ўжо дзяўчына
Была нявестай і яму
Быў зяць па часе. Не таму,—
Штурхнула іншая прычына.
Лявон з маленства цягу меў
Да тэхнікі, і ў наваколлі
Не па сваёй — па людскай — волі
Ён славу дзівака займеў.
А тут якраз такая справа:

10*

Прыехаў тэхнік МТС.
Знайсці агульны інтарэс
Была сапраўдная падстава.
А спадзяваўся ён пры гэтым
Адбіць атаку лёгкіх кпін,
Бо, шчыра кажучы, адзін
Не важным быў аўтарытэтам
Лявон.
З прычыны той Якуб
Жыць у Кляўцоў з вясны застаўся.
Хадзіў ён з Евай часта ў клуб
І у каханні ёй прызнаўся.
Ды вельмі горача яна
Была душой таму аддана,
Хто — для яго неразгаданы —
Стаяў у рамцы ля акна.
Таварыш школьны дарагі,
Яшчэ бліжэйшы ў час расстання,
Бо з ім зялёныя лугі
Не раз таптала да світання.
Яе халоднасці цяжар
Адчуў ён сёння ў першай сіле...
...У хаце лямпу пагасілі,
Гарачы тлее ў печы жар.
Якуб намацаў папяросу,
Вугаль раздзьмуў.
Якая ціш!
І раптам,
шумная,
з марозу
Убегла Ева:
— Ты не спіш?
Табе ж на працу трэба рана...
Якуб разгублена глядзіць:
Ад галавы да ног прыбрана
Дзяўчына ў іней — ён мігціць!
Уся, нібы красуня тая
З дзіцячай казкі, з даўніх дзён...
Ля цёплай печы іней тае...
Якуб маўчыць,— убачыў ён,
Як іней коціцца на шчокі
З густых заінеўшых брывей.
Хавае Ева ўздых глыбокі,
А шчокі сталі ружавей...

Спрасоння голас свой падаць
Паспела маці:
— Як там дзверы?
Не зашчапіла зноў, відаць?
І спаць кладзешся без вячэры?
Ох-ох, няма табе ўгамону...
Слабее ценяў мітусня.
Трымціць бязгучна цішыня
Ад тонкага шклянога звону.
Якуб прыслухаўся: за шторай
Не спала Ева. Зноў і зноў
Перажывала горыч слоў,
Што ёй сказаў сягоння Жора.
...І Жора не заснуў, нібы
На шчоках чуў яе далоні...
Успомніў ён лугоў улонне,
Спякотны, душны дзень касьбы,
Як хмары
Лезлі на імшары,
Маланка бліскала ўбаку
І тарахцелі ўсцяж мажары,
Узняўшы пыл на бальшаку.
На ветры хусткі трапяталі
Жанчын увішных, і здалёк
Здавалася, што краскі ўсталі.
Пад'ехаў ён, падаўшы глёк.
Вяршылі воз. Як на стагу
Стаяў ён. Нейкі падавала
Патрапіў віламі ў нагу,
І Ева ўміг забінтавала.
— Кульгавым будзе кавалер,—
Кругом смяяліся смуглянкі,
Ды, супакоены цяпер,
Ён з ёй
З адной
Напіўся шклянкі.
З якім салодкім заміраннем
Глынуў сцюдзёнае вады,
Шчаслівы верачы тады,
Што ўвесь стаў чыста-серабраным.
На возе ехалі адным,
І рэдкай
Сеткай
Дождж завесіў

Дарогу пыльную.
З узлессяў
Гром нёсся выдыхам грудным.
Яна тулілася нясмела,
Пытала ціха:
— Не баліць?
О, як тады яна умела
Нясцерпнасць болю уталіць!
І дотык рук — такі ласкавы! —
Што добра помніцца яму,
П'яніў, як скошаныя травы,
Як цвет грачнёвы...
Дык чаму
Без трапяткой дзявочай веры
Яна стаяла ля двара,
Рукой узяўшыся за дзверы,
І паўтарала:
— Мне пара...
Так Жора ўспамінаў...
Сялібу
Мароз абходзіў з малатком,
Галіны грукалі у шыбу,
Нібыта просячыся ў дом.
Прадроглыя гудзелі дрэвы,
Стагналі ў комінах вятры,
Рыпелі кроквы. А да Евы
Сон не прыходзіў.
На зары
Яна устала. Чысты ранак!
Сумёт на вуліцы, што стог.
Скрозь бель заінеўшых фіранак
Упалі промні на парог.
І бляскам сонечным зайграла
Пылінка кожная і рэч...

Заслала ложак, стол прыбрала,
Падкінула падтопы ў печ.
Абмацала увесь пяколак —
Няма запалак. Бацька знёс.
І вугалькоў — іскрынак кволых —
Яна сыпнула на паднос.

Паклала на патэльню здору,
Раздзьмула жар — пячы бліны.

І незнарок зірнула: Жора
Сачыў за ёю са сцяны.

Якуб падняўся. Хлопец дбайны,
Ён не заспаў — не гэткі час.
Рамантаваць пайшоў камбайны,
Узяўшы хлеба пра запас.

Без справы ён сядзеў не часта,
А што рабіў — дык спакваля.
І быў задумны твар скуласты
З апёкамі, што ў каваля.
Хоць хлопец і абчосан груба
(Падкова ляжа на далонь!),—
У цёмным позірку Якуба
Свяціўся стоены агонь.
Ён салаўём не пеў ля вуха,
Не дакучаў, як авадзень.
У хату зойдзе, скажа глуха
Густыя словы:
— Добры дзень!

Ён зведаў у жыцці нямала,
І Ева — кволае дзяўчо —
Яму і ў думках даставала,
Як і па росту,— па плячо.
Ды смех яе — амаль дзіцячы —
Якуба хваляваў, і ён,
Каб не пазнаў таго Лявон,
З ім дыспут пачынаў гарачы.

Лявон устаў. Сваё начынне
Занёс у клець. Прыняў тапор.
Абмёў з падстрэшша павучынне:
— От дуйка! Снегу повен двор!

Да тонкай лірыкі не здатны,
Не ведаў ён трывог дачкі.
Бярог адзін закон выдатны,
Які ўшаноўвалі бацькі:
Жывеш з суседам — будзь у згодзе,
Не стараніся. Як-ніяк
(Гаворка ж ходзіць у народзе),

Сусед душэўны — што сваяк.
Бяда спасцігла — дапаможа,
Гукнеш яго і ў талаку.
І сам не раз па часе, можа,
Ты падасі яму руку.
І з важкай гэтакай прычыны
Абдумаў план Клявец Лявон.
Трывух насунуўшы аўчынны,
Схадзіў з глячком кудысьці ён.
І Еве кажа:
— На бяседу
Сягоння Саўкавых гукнём:
Прыехаў Жора.
І к суседу
Пайшоў з узнятым каўняром.
Штампуючы сумёты следам,
Кіруе ў бліжні двор Лявон.
З Высоцкім Саўкаю — суседам —
Яны ў сяброўстве з даўніх дзён.
І не было ў іх смешнай сваркі
За парасят ці за курэй.
Суседскай не міналі чаркі
І не цураліся дзвярэй.
Служылі разам, ваявалі
І ўсім дзяліліся яны,
Дзяцей сумесна гадавалі,
Што выжылі пасля вайны.
Ды век такі ўжо... Дзеці... дзеці...
Гадуй, расці іх, а зірнеш,—
Паразляталіся па свеце,
Адзін пад старасць пі і еш.
Чакай, як сонца таго, весткі,
То сустракай, то выпраўляй.
А тут ні зяця, ні нявесткі,
Як хочаш, з працай паспявай.
Адно Лявону цешыць сэрца,
Што Ева пры сваёй страсе...
У сенцах адчыніўшы дзверцы,
Выходзіў Саўка ў картузе.
— Куды сабраўся гэтак?
— Трэба
Узяць пянькі ў кладаўшчыка.
— Прашу, сусед, да солі-хлеба,
Твайго ж не бачыў я сынка.

— Ды ён не ўстаў яшчэ...
— Наспіцца,
Пакуль гасцюе ў бацькі ён...
І хутка белыя масніцы
Слядзіў валёнкамі Лявон.
— Пара ўставаць! Салдат — не дзеўка,
Яму закон: пад'ём — адбой.
І Жора — што за неспадзеўка! —
Лявона бачыць над сабой.
І спрыт тут выявіў вайсковы:
Раз-два, і хлопец — на нагах!
Клявец відовішча такога
Не мог чакаць і крэкнуў:
— А-ах!
Навучан здорава ты!
— Што вы!
Звычайнасць простая.
— Ну, ну...
Відаць, што ты салдат талковы,
Сказаць, як сам я у вайну...

Дарма не трацячы хвіліны,
Разгладзіў Жора свой прабор.
І вось, адводзячы галіны,
Ступаюць трое цераз двор.
Усё святочнае такое
Ў Кляўцовай хаце. Ды чаму
Няўтульна Жору аднаму,
Бы што гняце яго цяжкое?
Гасця — у покут. На стале
Закускі выстаўлены густа:
Тут шаткаваная капуста,
Каўбаска, агуркі... але
Украсай лепшаю быў глёк
З гатункам першым самагону
(Грашылі й тут супроць закону).
Лявон прыўзняўся:
— Ну, сынок,
Здаровы будзем.— Чарка з чаркай
Марозна дзынкнулі.
Вусы
Абцёршы болей для красы,
Заняўся кожны добрай скваркай.
Смялей

Яшчэ раз паўтарылі
І весялей
Загаварылі.
І Жора, захмялеўшы, шумна
Бубніць старэйшым:
— А па мне,
На свеце трэба жыць разумна,
Скажу прасцей — як на вайне.
— Як на вайне? — Лявон здзівіўся.—
Ты нешта гнеш на свой капыл.
Хай лепш бы той аб сценку біўся,
Хто хоча войнаў...
— Я пра тыл...
Тут Саўка хмурыць свае бровы:
— Ты, сын, гарод не гарадзі...
— Я гэта, бацька, дзеля слова,
Для параўнання...
— Дык глядзі...
— Я пра калгас ваш. Маладому
Сягоння цесна тут.
— Во-во!
Таму і бежыцё вы з дому
Шукаць другое рамяство.
Убок адсунуўшы яешню,
На стол цясней налёг Лявон:
— Яно і так мяркуй, канешне,
Калгасы ў нас бяруць разгон.
А каб усё ішло увішней,
Патрэбна, братка, талака.
Я да таго вярну, што лішняй
Не будзе добрая рука.
Ну, скажам, ты — салдат, служака,
Быў на пасту сваім пакуль.
А іншы ж пнецца, як вужака,
Каб толькі выслізнуць адсюль.
Ціхенька Саўка да Лявона:
— Пара дамоў мне. Печ заве.
Пайшоў.
І зноў размова сонна,
Як папяросны дым, плыве.
І Жора козыр хоча ўзяць
Апошні:
— Людзі без дыплома
Цяпер ні сена, ні салома...

Лявон падумаў:
— Як сказаць.
Вазьмі ты Еву — і ў пашане,
Пашлюць на выстаўку ў Маскву.
Якое ж трэба яшчэ званне?
Не дабяру я ў галаву.
— Ох, гэткі чын — служыць каровам!
Для пахвальбы няма прычын...
— Абы нутро было здаровым,
Дык будзеш жыць. А што той чын?
Бывае, часам, скула сядзе,
Ёй загаджае небарак.
А ўся заслуга яе, браце,
Што села тут,— і чын вось так.

А Ева, стаўшы ля запечку,
Маўкліва слухала гасця.
І перад ёй — пад гэту спрэчку —
Прайшлі дні лепшыя жыцця.
Ля ціхай рэчкі Серабранкі,
Зарослай раскай і трысцём,
Кароў ганяла на паранкі
Яна бярозавым дубцом.
Над рэдкай зараслю альховай
Плылі ў блакіт сівагракі,
А лёскат пугі пастуховай
У вушы плёскаў з-за ракі.
І ўсё кружылася, няслося,
Як на кароў находзіў зык.
А чысты голас:
— Цё-сю... цё-сю...—
Мог пасароміць і музык.
А як вяртаўся важна статак!
Сказаў, напэўна, не хвалько,
Што сыты ўсе і ёсць дастатак,
Калі вядзецца малако.
Вячэрняе цямнела неба,
І, пераймаючы кароў,
Давалі з рук акрайчык хлеба
Сваім падласкам ля двароў.
І, дзённай стомлены хадою,
За кожным бачыў ты акном
Дзяцей са шклянкай сырадою
І пухкім ранішнім блінам...

І засталася пасля школы
Яна на ферме.
Любы ёй
Цялят цыбатых спрыт вясёлы
На росным лузе раніцой.
І хоць не мроіцца ёй Зорка
Геройская, дык што з таго?
Медаль дадуць, відаць...
Гаворка
Чутна ўжо бацькі аднаго...
Ён ледзь падняўся:
— Можа, хопіць?
І рот раскрыў аж: — Ты глядзі...
Заснуў ваяка... Змогся хлопец...
І Еве — строга:
— Правядзі!..
Шынель накінулі на плечы,
Адзелі шапку-казырок.
Лявон пасунуўся да печы,
А Ева з Жорам — за парог.
Ляцела зорка з высі сіняй —
Між іншых зор — на іх... на іх...
Ён схамянуўся. Бачыць — іней.
І чуе — з некім удваіх.
Галіны распарсцёршы,
дрэва
Свой стан імкне ў блакіт пусты...
— Ева,
Гэта ты?! —
І перад ім у яснай сіле
Пад шолах хрупкай цішыні
Пераліваліся, свяцілі
Вачэй даверлівых агні.
Плячамі стаўшы да паркана,
Неасцярожна, як на грэх,
Расчоскай вытрас нечакана
Ён фотаздымкаў стус на снег.
Яны палёсткамі сухімі
К нагам упалі...
І ў той час
Паміж дзяўчатамі другімі
Сябе пазнала Ева ўраз.
На шчокі хлынуў макаў цвет,
І сэрца агарнула скруха.

— Ты — гэткі?..
Добра ж...
Дзверы глуха
За ёю грукнуліся ўслед.
Агонь у лямпе захістаўся,
Як шыбануў за ёй мароз.
А над сталом яшчэ гайдаўся
Дым ад яго ных папярос.
І, супішаючы усхліпы,
Яна скрозь сонны скрып галля
Пачула —
зазвінелі шыбы
Дрыготкім звонам.
— Хто там?
— Я.

І, паціраючы далоні,
Якуб ступіў у хату.
— Т-так...
Заўважыў на старым услоне
Забыты Жорам партабак.
Здзівіўся — ясная прычына —
Што, сабіраючы на стол,
Як на вуглях была дзяўчына
І вочы апусціла ў дол...
І хлопец з думаю суровай
Хацеў спазнаць яе бяду...
...Назаўтра ў хусце сваёй новай
Спяшыла Ева па ваду.
У ступе Жора тоўк каноплі
І цікаваў за ёй з двара.
Яна прайшла прад ім,
ні кроплі
На снег не плёснуўшы з вядра.
Ён засмяяўся недарэчы,
Паплёўся ў хату, як у сне...

Стары варочаўся на печы
І плечы
Грэў на чаране.

Была зайздроснай Саўкі доля,
Бо гэткіх конюхаў, як ён,
Ніхто не знаў у наваколлі:
Ім ганарыўся ўвесь раён!

За коньмі
па лугах,
па лесе
Ў старэнькім сноўдаў армяку.
Ды што!
Хвароба ў косці ўлезе,—
Не падкладзеш сабе руку.
Трывожыў Саўку тупат громкі
Грывастых д'яблаў-жарабкоў.
А ён
Віў путы і пастромкі
Пад звонкі цокат іх падкоў.
З таго нярадаснага лета,
Калі паводдзе упусціў,
Свае газетныя партрэты
На самакруткі ён круціў.
І, можа, ў тым была прычына,
Што ён абдзёр усю сцяну.
І думаў ён цяпер пра сына —
Уцеху старасці адну.
Сын, праўда, з норавам адметным,
Ва ўсім імкнецца напралом.
Ён голасам аўтарытэтным
Давёў аднойчы за сталом:
— Ягорам ахрысцілі...
Сорам!
Назваў поп з п'янай галавы,
І паўтараць прывыклі вы.
Мяне патрэбна клікаць Жорам! —
Так ён сябе перахрысціў.
Згадзілася пакорна маці,
А Саўка нават дапусціў,
Што нешта ёсць ад жарабяці
У новым імені,
і ён
Быў адкрыццю такому рады,
Бо сына ўласнага парады
Прымаў маўкліва, як закон.
З хвіліны гэтай год каторы
Ўсё па-сыноўняму ішло.
Імя абноўленае
— Жора —
Пераняло
Усё сяло.

На печы душна стала Саўку.
Далонню вочы ён працёр.
Спусціўся, крэкчучы, на лаўку,
Накрыў аладак макацёр.
Каструбаватую цыгарку
Скруціўшы, сыну даў кісет
І пра жыццё, пра гаспадарку
Пагаварыць хацеў як след.
Ён жыў цяпер адною марай,
Каб Жора дом не пакідаў.
А сын гартаў альбом-гербарый,
Паклонніц фота разглядаў.
Пасвістваў. Маці ля парога
Дно выцірала гарлача
І зазірнула з-за пляча:
— Дзяўчатак нешта ў цябе многа.
У нерашучасці, панура
Стары разгладзіў бараду.
Узняўся Жора:
— Я пайду.
Схаджу у сельскі Дом культуры.
Мо працу там сабе знайду.
Старую Саўка суцяшае:
— Яшчэ не выгуляўся ён.
На пагулянкі, бач, спяшае,
Пакуль аббегае раён.
— О божа,— уздыхае маці,—
Так без падмогі і памру.
Хоць бы душа жывая ў хаце.
А Саўка:
— Я пагавару.
Дарэмна справай безнадзейнай
Суцешваў бацька сябе.
Сын
З армейскай трупай самадзейнай
Нямала выездзіў мясцін.
Плячэй не натрудзіўшы скаткай,
Ён, выканаўца гапака,
Лічыў жыццё дарогай гладкай —
Раўней любога бальшака.
На тых,
што, гойдаючы сцэны,
Яго упрошвалі на «біс»,
Ён, чарадзей салдацкай сцэны,

Глядзець вучыўся
зверху
ўніз.
Яго лічылі зоркай новай
Там,
У ансамблі карпусным...
Ды пасля службы тэрміновай
Рассталася і слава з ім.
Танцор-салдат? Такіх нямала.
Удасканальвайся. Расці.
А гордасць крыллі разнімала:
Павінен месца ты знайсці.
Ды ў клубах штатныя танцоры
Не прадугледжаны,
і тут
Паўстала загваздка для Жоры:
Ці не падацца ў родны кут.
Знайсці даўно ён мог прытулак,
Дзе стрэнуць, быццам жаніха.
Але прымацкі ложак мулак,
Не грэе цесцева страха.
Успомніў Еву. А вядома:
Друг першы — лепш за новых двух,
І вось ён тут, і вось ён дома —
У час зімовых завірух.

На выган крочыць сыпкай сцежкай,
Сумёт адолеўшы круты.
Насустрач Ева. Ён — з усмешкай:
— Пастой! Куды спяшаеш ты?
А сцежка вузкая такая:
Ні размінуцца, ні прайсці.
А Ева стала і чакае,
Гаворыць строга:
— Прапусці.
Ён збочыў. Быццам ненарокам
За локаць — цоп. На юнака
Яна такім зірнула вокам,
Што апусцілася рука.
І, аступіцца баючыся,
Пайшла —
далей...
далей...
далей...

А хлопцу хоць ты праваліся,
Што не трымаў яе смялей.
Ён пастаяў і рушыў прама
Сваёй дарогаю...
                    І вось
Слупоў смалістых дыяграма
За небасхіл імкне наўкось.
І недзе там, у шызай далі,
Злілася з чыстай сінявой,
Гарыць электраправадамі,
Як дыяграмнаю крывой.
Даўно з яе імклівым ростам
Дужэем мы, і кожны стаў
Вышэйшым сам!..
                    А Жору роздум
Пакутлівы не пакідаў.
Няўлоўней лёгкага павеву,
Няўлоўней промня
                    перад ім
Цяпер маўчком праходзіць Ева
З дакорам горкім і цяжкім.
Не заўважаючы дарогі,
Мінаў ён долы і ляскі,
А ўзбоч, ямчэй абуўшы ногі,
Слупы ступалі напрасткі
І крокам саракасажнёвым
Спяшалі ўперад...
                    Светлы дом
Пад чарапічным дахам новым
Святочна кожным ззяў акном.
З дзвярэй шырокіх пошчак звонкі
Клубком каціўся на вярсту.
Абледзянелыя валёнкі
Загрукалі, як па масту.
І Жора ўбачыў, што падлога
Аж выгінаецца. І ён,
Знайшоўшы крэсла ля парога,
Усеўся паміж дзвюх калон.
І ўняць не мог румянец яркі,
Калі
На сцэну узышлі
Механізатары, даяркі,
Настаўніцы і кавалі.
І панясліся — калі ласка! —

Перад паглядам юнака
Імклівая «Малдавяняска»,
Віхор стракаты «Крыжачка».
А зала
Паўтарала:
— Мала!
І без паслуг канферансье
Ўсіх пазнавала
І давала
Ацэнкі верныя свае.
Нястомныя кружылі пары,
Абцасы стукалі дужэй,
І станавіліся ўсе твары
І маладзей,
І прыгажэй.
Калі ж і адчуваў хто стому,
То на нябачнае крыло
Мог абаперціся...
Нікому
Да Жоры справы не было.
Забыўшы пра свае намеры
Пагаварыць аб працы,
ён
Нячутна выслізнуў за дзверы
І стаў адумацца пад клён.
Снавалі людзі ля сельмага,
І порсткі шум грузавіка
Іх словы заглушаў...
А смага
Сушыла губы юнака.
Зайшоў туды ён. Ля прылаўка
Знаёмы трапіўся адзін.
Пагрэліся на славу...
Саўка
Гадаў, чаго напіўся сын?
Круціў цыгарку асцярожна,
Здалёк пачаўшы сказ такі,
Што ў нашы дні завесці можна
У вёсцы звычай гарадскі.
— Вядома, сілу любіць праца,
А сіла ў нас — не вечны дар.
Калі папраўдзе разабрацца,
Хто ў сіле —
той і гаспадар.

Агледзься і за гуж бярыся,
Змяні на старасці мяне.
Захочаш — дык цяпер жаніся,
Сям'ёю абзаводзься...
— Не.

А маці, сеўшы на пяколку,
Тых слоў не слухала нібы
І на мяшковую іголку
Маўчком нанізвала грыбы.
Да рук не звыкшы незанятых
Ні на жніве, ні на касьбе,
Яна абы-які занятак
Цяпер знаходзіла сабе.
Яна, што столькі ўзгадавала
Дзяцей уласным малаком,
Ды не сама іх пахавала,—
Дрыжала зябка над шнурком.
І гэты цёмны твар, спавіты
Нязгладнай сеткаю маршчын,
Хаваў адбітак хваравіты
Вялікіх страт, цяжкіх хвілін.
Пад вышытымі ручнікамі
Застылі поплеч на сцяне
Яе сыны, што юнакамі
Там засталіся — *на вайне*,
І след бясслоўнага дакору
Ў бяскроўных вуснах быў,—
яны
Былі, відаць, гадамі ў Жору,
Калі сустрэлі дзень вайны.
— Сынок, адзін ты ў нас застаўся,—
І бацька жылістай рукой
Слязінкі абмахнуць стараўся
Са скрухай даўняй і цяжкой.
З няўцешным саўладаўшы горам,
Стары на згорбленых плячах
Нёс стому.
Жору стала сорам
Жыць зноў на бацькавых харчах.
Ды што рабіць? Цяпер з другімі
Ён стаць нароўні не хацеў,
Не ўмеў...
З календара сухімі

Лісткамі
час
ляцеў...
ляцеў...
Ахутаны былога снамі,
Юнак у памяці бярог
Прыязнасць Евы...
— Едзем з намі! —
Якуб гукнуў цераз парог...

Імклівей стромкага трампліна
Гара ўзнялася над ракой.
Унізе снежная даліна
Іскрыцца рыбнаю луской.
Шчаслівы, хто адвагу мае
З паднебнай высі ўзяць разгон!
Сустрэчны вецер абдымае
І прыўзнімае...
А ў абгон
Бягуць,
бягуць,
бягуць дарогі,
Кругом — сняжынак мітусня.
Не адчуваюць лыжаў ногі,—
Дае нам крыллі вышыня.
Зямля нясецца
бліжай...
бліжай...
Кладзецца белым ручніком.
Зярністы снег
нагрэтай лыжай
Убок адкіне,
як саўком.

І лыжы беллю лугавіны
Слізнуць, аж зойдзецца душа,
Як без графіта
Палавіны
Дзіцячага каранда́ша.
Якуб пракладваў след імкліва,
Узяўшы ўправа —
пад гарой
З-пад цёмнай навісі абрыва
Палонка білася вадой.

Жанчыны там бялізну мылі
У ветраныя дні, калі
На рэчцы замеці дымілі,
Крупу ільдзістую няслі.
За ім падаўся Жора следам,
Назад адкінуўшы кійкі
Узмахам рэзкім...
                    Перад гэтым
Зірнуў на Евін твар, які
Задумліва, сур'ёзна, строга
Акамянеў. І юнаку
Балюча стала так...
                    Нічога
Не ўбачыў ён!..
                    Цераз раку
Імчаў, а сонца ў вочы біла,
Ад зіхатлівага святла
Трымцеў прастор...
                    Яна любіла,
Вярнуць хацела і магла
Сяброўскую прыязнасць Жоры
І вецярок над ім круты.
Ад бляску яркага ружовы
На вейках іней ззяў густы.
І на лыжню выходзіць Ева,
Сцяжыну змераўшы вачмі.
Слізнула — ш-шусь,
                    а лыжы ўлева...
Крычалі зверху:
                    — Пе-рай-мі-і-і!..

— Была высока — стане ніжай,—
Зласліва Жора суцяшаў
Сябе, абражанага...
                    Бліжай
Якуб да праламкі спяшаў,
Снег разрываючы нагамі,
Глыбока ўціснуўшы сляды;
З гары нясліся лыжы самі
Да краю стромкага, сюды.
І, пабялелая ад страху,
Якуба стукнуўшы ў плячо,
Аж за палонкаю з размаху
У снег закапалася дзяўчо.

Здыхнула іней з чорных веек
Хусцінкай, збітай з галавы.
Прыўстала і здзіўлёна нeяк
Зірнула ў бездань сінявы:
Пустое гойдалася неба,—
Праймала грудзі халадком.
З хусцінкай Жора к ёй...
— Не трэба...
Кроў з губ абцёрла кулаком.
На лыжы стаўшы без ахвоты,
З сябрамі да сяла
Пайшла.
І назаўсёды,
назаўсёды
Давер дзявочы панясла.
А Жора што?
Адзін маўкліва
Дадому рушыў.

Беглі дні,
І ён углядваўся тужліва
На шлях у зімняй цішыні.
Схадзіўшы раненька к суседу,
Падаўся Саўка па ваду,
Сабраўшы ў жменю бараду,
А Жора — бухнуў:
— Я — паеду...
Стары не мог заснуць да дня.
Каторы раз агледзеў сані,
Сярдзіта водзячы вусамі.
Павёў к калодзежу каня.
А той — прайдошны балаўнік —
Стаў перапрыгваць цераз жолаб.
— Чаго ты разышоўся, ёлуп? —
Падняў над вуліцай ён крык.
Ужо зашморгнуўшы супонь,
Хрыпата выгукнуў з парогу:
— Хутчэй вы там. Пара ў дарогу!
Паветра стрыг вушамі конь.
Раменныя расправіў лейцы,
Схаваў у сані сала кус.
Ямчэй паправіўшы картуз,
Павёз на станцыю армейца.
Глыбей засунуўшы пад сена

Арэхавае пугаўё,
Глядзеў навокал задуменна
І думаў нешта пра сваё:
«Жыццё такая рэч, сынок,
Што не схаваешся ў канаплі.
Шляхі баіцца стрыгунок,
А ўсё ж паставяць у аглоблі.
Не вечна бегаць па лугу,
Шукаць, дзе мяккая атава.
Падумаць трэба пра дугу
І пра хамут,— такая справа».
Сын, супраць ветру сеўшы бокам,
Панура чубам трос густым,
Усё курыў
і ненарокам
Пускаў у вочы бацьку дым.
На павароце ўстала дрэва
Ля скрыжавання дзвюх дарог.
Вось тут калісьці ён і Ева
На воз накладвалі мурог.
Цяпер пад белаю пустыняй
Маўчыць духмяная трава.
Вісіць на зябкім голлі іней,
Халодны, шорсткі, як жарства.
Нямой бязлюднасцю пустэчы,
Бяскрайняй снежнай белізной
Студзіла сэрца,
Гнула плечы,
Бяліла скроні сівізной.

І вось — вакзал.
Гудкі і шум.
Стары каню падкінуў сена,
Расправіў грыву задуменна,
Але ад горкіх сваіх дум
Ніяк не можа адкаснуцца.
Прадрог пад лёгкім кажушком.
Няўзнак паспеўшы адвярнуцца,
Ён вочы выцер кулаком.
Сказаў,
Як выціснуў з грудзей:
— Была пара — і мы служылі,
Але ж сваяцтвам даражылі,
Была павага ад людзей.

Ды сіл былых няма сягоння...
Жыві, я, ведаеш, сынок...
Пацалаваліся.
                    Гудок —
І ціха паплылі вагоны.
І сыну ўслед рукой махнуўшы,
Палез на сані. Тузануў
Каня. Глыбока уздыхнуў,
Пацёр далонню чэрствай вушы.
Стары лясной дарогай едзе
І разважае ў цішыні:
«Што ж скажуць добрыя суседзі?»

А дзесьці удалечыні
Ідзе цягнік шырокім гонам,
Бяжыць
Вагон,
Дрыжыць
Вагон.
Бягуць бярозкі за вагонам,
Бягуць бярозкі наўздагон.
І вецер свішча ўслед:
                              — Вяр-ні-і-ссяя!..
Цягнік
Гусцей,
Часцей сапе.
А столь так нізка — хоць прыгніся —
Ад дыму ў сцішаным купэ.
Ён прагна курыць, невясёлы,
Глядзіць маўчком скрозь дым густы.
Спарней,
Раўней
Ляскочуць колы,
Пад'ём адолеўшы круты.
Хавае ўсмешку правадніца,
Зірнуўшы ў вочы юнака...
Усё,
З чым ён паспеў зрадніцца,—
Як белы дым ад цягніка,
Перад сустрэчным ветрам тае,
Пакінуўшы гаркавы пах...
Усё растрос.
                    Душа пустая.
Крывая ўхмылка на губах.

І позна ўвечары ці ўранку
І ён, транзітны пасажыр,
На нейкім спыніцца паўстанку.
Куды ісці?..
Прастораў шыр
Цягнік нястомна расхінае,
Ляціць стралой за небасхіл...
А бацька, выбіўшыся з сіл,
Каня маўкліва паганяе.
Каля Кляўцоў сустрэў Лявона.
— Куды наведаўся ўжо сёння?
— Сынка завёз.
— А што з сынком?
— Зусім паехаў.
— Што ты кажаш?!
З чаго б ён так?
— Яму відней.
— Ну, гэты вузел не развяжаш.
Закурым мы, ці што, лацвей?
Адубянелы ад марозу
Выцягваў Саўка з тайніка
Сабе й Лявону папяросу.
— Што, падарунак ад сынка?
— Ды ўжо ж.
— Так, так, давай з табой засмалім.
А дух які! Адэкалон!..
І зацягнуліся з запалам
Пануры Саўка і Лявон.
— Здаецца, трошачкі сырыя?
— Ды і ў мяне агонь пагас.
Пераглянуліся старыя:
— Занадта лёгка. Не для нас.
Над вёскаю плыло
Крыло
Зары.
А на двары,
Шырэй расставіўшы калені,
Сыры камель калоў Якуб,
Аж разляталіся паленні.
Лявон — да Саўкі:
— Бачыш дуб?
Усохся ён да палавіны,
Зрабіўся сітным,— а таму,
Што падгніла ў ім сарцавіна.

Вось і кароткі век яму.
Як чарваточына ўесца,
Яна ўжо точыць і зімой.
Хоць хворага не бачыш месца,
Дуб храпне так, што, браце мой!
Якуб парадчыў кругляки
Так,
Аж глядзець было ахвота.
Рашылі згодна дружбакі:
— Што чалавек, то і работа.
І Саўка — ціха:
— Мне самому
Няма цяпер чым печ паліць.
Сухую ліпу каля дому
Спілую. Думаю прасіць
Якуба. Ён-то не адкажа.
Няёмка ўсё ж, ды з'ехаў сын.
І што рабіць?
Каля галін
Сняжку накручвалася пража.
А Еве сорам выйсці з хаты:
Сустрэнуць дзе і ў той жа міг
Яе дапытваюць дзяўчаты:
— Куды падзеўся твой жаніх?
Дыханнем адагрэўшы шыбы,
Глядзіць задумліва ў акно,
А снег
Да стрэх
Замёў сялібы,
Ажно дарогі не відно.
Нічога ёй цяпер не люба:
А ні работа, ні гульня.
...Стаіць у хаце цішыня:
Сышлі бацькі, няма Якуба.
І ў сэрцы, поўным горкай скрухі,
Яго аблічча усплыло...

Адгаманілі завірухі,
Скідае зімні ўбор сяло.
У вокны грукаюць галіны:
Прайшла сцюдзёная зіма.
Але да гэтае часіны
Для Евы ўсё няма
Пісьма.

Зямля ў смузе застыла сіняй,
Шпакоўні ставяць хлапчукі.
Сваіх надзей няўлоўны іней
Страсло дзяўчо, як сон цяжкі.
Яе занятак быў нязвычны:
Упершыню за ўсе гады
Кідала ў печ архіў лірычны,
Былога палячы сляды.
Ва ўдушлівым знікалі дыме
Вясёлак прывідных агні,
Што Жора фарбамі густымі
Ёй маляваў з далечыні.
Іх бляск вільготны хутка высах,
Пабляк,
завяў...
Дыхнуў агонь —
Ад пісем тых застаўся прысак,
Які умесціш на далонь...
А за акном як на далоні —
Палі,
узлескі,
бор стары...
Выходзяць цугам на аблонне
З натужным гудам трактары.
І ўжо на пах вясновай скібы
Ляцяць шпакі,
Ляцяць гракі.
І ажыўляюцца сялібы,
Снуюць кабеты і дзядзькі.
А сонца свеціць — сэрцу люба,
І лёгка дышацца — вясна!..
І ў хаце голасу Якуба
Не чутна з рання да цямна.
Туды... туды ёй зараз трэба,
Дзе ветру свіст над галавой,
Дзе парусінавае неба,
Як дах палаткі палявой.
І свет відзён, як з новай вышкі,
І пасвятлела на душы...

. . . . . . . . . . . . .

Са стрэх цурчалі капяжы
І — распускаліся пупышкі.

## ШТОДЗЁННЫ ЛІСТАПАД

**Лірычная паэма**



Калі ты блізка —
звонка адгукніся,
Калі далёка — да мяне прыйдзі,
Маіх павек стамлёных дакраніся
І, як раней, у вочы паглядзі.
Цябе я пільна ў далях выглядаю,
Хоць ластаўкай на мокрых правадах
Адшчабятала лета,— і гадаю,
Аб чым бубніць бляшаны гулкі дах.
Мне хочацца адчуць твае далоні,
Расслухаць голас скрозь асенні свіст.
Ды што казаць —
і на бязлістым клёне,
Як сэрца, б'ецца адзінокі ліст.
Ты ж ведаеш, што шум лістоў зялёных
Вандруе па шляхах усіх за мной,
Што ўсмешак сонца, горыч слёз салёных
Мне выдзелена мераю зямной.
Дажджы даверху налілі калодзеж
Блакітнай навальнічнаю вадой.
Чаму ж ты на світанні не прыходзіш
З сваім вядром па пенны сырадой?

. . . . . . . . . . . . .

Хвала табе, зялёная цыбуля,
Зямны паклон укропу з агурком!
Не касавурся на мяне, бабуля,
Схіляючыся крукам над кійком.
Не для набегу сад я аблюбую:
Ужо даўно тут яблык я не трос.
Я ем пакорна горкую цыбулю,
Аж вочы засцілаюцца ад слёз.
А грады — рай. Крамяны агурочак,
З жаўтлявай паласой уздоўж спіны,
Глядзіць піскленкам. З саpака сарочак,
Засопшыся, вылазяць качаны.
Сланечнік — франт, здаецца, п'яны троху,—
Хістаецца ў бакі ад вецярка.
Гарбуз, самлеўшы, выпаўз на дарогу
З закручаным хвастом, што ў парсюка...
— Ох, што за хлопец...
Прэцца проста ў грады,—
Бабуля шэпча, сеўшы на граду.
Не ведае старая, як я рады
Убачыць яе ўнучку-сірату.
А пакуль хлеб шуміць у полі жытам,
Варушыць бульба высахшы падзол,—
Ідзе Галіна ў хвартуху расшытым
І агуркі збірае на засол.
У прывіднай смузе трымцяць абшары,
Гудзе над вухам нудны авадзень,—
Спякота морыць.
Мімалётнай хмары
Між намі лёгкі праплывае цень.
Затупаў дождж дзесяткам тонкіх ножак,
Пайшоў скакаць старанней і ямчэй.
З сабою прыхапіўшы поўны кошык,
Галіна ў двор кіруецца хутчэй.
На вуліцы прыстаяла з суседкай,
Сказала нешта: я пачуць не мог.
І дождж сваёй празрыста-сіняй сеткай
Яе аблытаў з галавы да ног.
Абмыўшы пыл на ядранай мураўцы,
Зашастаў спорна ў бэзавым галлі,
Не горш якога штатнага прамоўцы,
Аж бурбалкі пускае па зямлі.
Шкада, я не прамоўца адмысловы:

Шумеў бы так і цешыўся з сябе.
Ды знаю я, што ёсць на свеце словы,
Якіх ніхто не скажа за цябе.
І нездарма да смерці добра помнім,
Калі мы прызнаваліся ў любві:
Перад вачмі зіхціць стацветным промнем
Такое слова — паспрабуй злаві!
Яно ў табе — як зрок і як дыханне,
Яно ў табе — як сіла рук тваіх,
Яно ў табе — адвага і ваганне,
Яно ў табе — сэрцабіццё і слых,
Яно ў табе — юнацкіх, беззаганных
Пачуццяў згустак. Так пад малатком
Жалеза ачышчаецца...

На ганак

Галіна выйшла з шарсцяным клубком.
Цудоўна пад дажджом пабыць улетку:
Стаіш, а ён казыча па спіне.
Яна ж праз капяжу густую клетку
З усмешкай пазглядае на мяне.
І сонца свеціць з далячыняў... Хочаш —
Падам руку і — подбегам туды.
Не бойся, што сандалікі прамочыш,—
Там столькі красак! Промень залаты,
Заблытаўшыся ў серабрыстых спіцах,
Вясёлкай яркай аздабляе ўзор.
Няўжо не можаш ты пераступіць іх
І — проста з ганка да мяне, на двор?!
Табе ж утульней пад зацішнай страхой:
Маўчыш, схіліўшы галаву набок;
З хусціны паслізнуўшыся пуховай,
Падскокваючы, коціцца клубок.
Мячом дзіцячым гопае па сходках,
Па мураве набраклай, па вадзе.
Ідзі за ім па лужынах дрыготкіх —
І ён цябе з сабою павядзе.
І ёй чамусьці выпала патрэба
Набраць вады. І вось мы поплеч зноў.
У калодзежы блішчыць кавалак неба
Квадратным люстрам, цёмным ля краёў.
Нашто дзівіцца, што я гэткі шчодры:
Шчаслівы, што з каханаю стаю.
Дык падстаўляй хутчэй пустыя вёдры,—
Табе з сваіх ваду я пералью.

Намокшыя рабінавыя гронкі
Плячамі закрануў я — і ў вядры
Плывуць кругі, як тонкія пярсцёнкі,
Хоць іх сваёй каханай падары.
Не знаю, з кім ты будзеш абручона,
Хто прад табой стаіць ужо ўваччу.
Я не сказаў табе яшчэ нічога,
А вельмі многае сказаць хачу.
І, калі сонца падала за стрэхі,
Ад шызых ценяў стала даль цямней,
Спытаў я ціха: — Сходзім па арэхі?
Падумаўшы, сказала мне: — Пазней...
Пазней... Пазней... І гэтым сумным словам
Маўкліва захапляўся я пасля,
Я дыхаў ім!..
У марыве ліловым
Тулілася спякотная зямля.
І жніўнае паветра трапяткое
Над спелым жытам хвалямі плыло,
Калоссі расхінаючы,— такое
Ўсё незвычайна сіняе было!
А мы ішлі з ёй палявою сцежкай,
Ускінуўшы на плечы рукзакі.
І за яе затоенай усмешкай
Сачыў я ўсю дарогу ўпатайкі.
Дзяўчыны ўсмешка — ласка і спагада,
Давер і просьба, яснасць і смуга,
І мімалётнай радасці прынада,
І безнадзейнай роспачы туга.
Часінай тою я аддаў бы многа,
Каб зразумелай мне яна была,
Нібы пачуцці ўласныя...
Дарога
Нас пад лясныя сховы прывяла.
Бярозы ў адзіноце задуменнай
Плялі свае дзявочыя вянкі.
І хвоі строгія з красой нязменнай
Маўчалі, як цярплівыя жанкі.
Арэшына! Ды радавацца рана,
Нам не шанцуе штосьці, як на грэх:
Яна ўжо некім чыста абабрана,—
Адзін вісіць на макаўцы арэх.
Ну, на каго я крыўдаваць тут стану?
І лес на тое, каб любому браць.

Галіна просіць: — Я арэх дастану...
Палезла ўгору. Верхавіна — хрась...
Хіснулася разгойданае вецце,
Ляціць і долу дакранаецца уміг,
І вось я — самы шчаслівейшы ў свеце;
Я — пераняў! Ты — на руках маіх!
Любімая! Як сэрца гулка б'ецца
Пад кофтай паркалёвай... Як яно
З маім суладна!.. Праўда ці здаецца,
Што зараз яны б'юцца заадно?
Трымцяць нябёсы сіняю істужкай,
І ў цёмных зрэнках бачу сябе я.
Арэшына, цішэй у вецці гушкай
Прысеўшае сцярожка птушаня.
Яму — ляцець, як толькі пройдзе стома,
Хоць вернецца не раз сюды пасля...
Арэшына застыла нерухома,
І — з краю ў край гайдалася зямля.
Паставіў яе, лёгкую, на ногі,
Не ў сілах утрымаць і адпусціць.
Ішлі, не разбіраючы дарогі,
І чулі толькі, як суччо хрусціць.
І лес шумеў, і зноў сінела неба,
І вецер гоні абмяраў свае.
Зняла руку маю з пляча: — Не трэба...
Сказала шэптам, ледзь пачуў яе.
Шырокае зямное сугалоссе,
Высокае, што неба ад зямлі,
Нас абняло, як спелае калоссе,
Куды ранейшай сцежкай увайшлі.
І гэта неабдымнае раздолле,
Дзе плавалі ў блакіце галубы,
Дзе песня жніўная танула ў полі,
Жыло чаканнем блізкай малацьбы —
Ударнай.
Самаходнай малатарняй.
Яна прыйшла на вымецены ток.
І жытняю саломінкай янтарнай
Блішчыць на дрэвах не адзін лісток.
Падняўся з ценю трактарыст заспаны,
Пыл абмахнуў з пракураных вусоў,
Матор завёў — і ўзвылі барабаны,
Глынуўшы ўволю шорсткіх каласоў.
І, кашляючы хрыпла і натужна,

Саломы ломкай кінулі валы
Людзям пад ногі. Паглядзі, як дружна
Грабуць яе дарослы і малы.
Я не чакаў, што столькі маю сілы.
На рукі плюнуў. Пастаяў яшчэ.
Пласт велічэзны падхапіў на вілы,
Нясу на стог, а пот цурком цячэ.
У маладосці спрытам пахваліцца
Не грэх нікому, і таму лягчэй,
Што ты нідзе не можаш ухіліцца
Ад самых пільных ласкавых вачэй.
Спакойныя, разважлівыя рухі
І адчуванне: азірнецца мо?
І сам упатайкі глядзіш на рукі,
Што цвёрдае раскручваюць вязьмо.
Яна снапы развязвае. І нейкі
Віхор дзяўчыну ахапіў. Раса.
Блішчыць на шчоках. Пабялелі вейкі,
І выбілася русая каса.
А коні порстка фыркаюць ад пылу,
Што нерухомым воблакам густым
Заслаў зямлю ажно да небасхілу,
Павіс над стрэхамі, як шызы дым.
За цэлы дзень уходзішся, вядома.
Дакучна шыю колюць асцюкі.
І хоць павекі атуляе стома
І не сагнуць здранцвеўшае рукі,—
Якая радасць паглядзець пад вечар,
Што бронзавая высіцца гара,
Што каласкі змятае свежы вецер
Са збожжа залатога, як зара.
О, незабыўны хлеб пасляваенны!
Хвала табе сардэчная заўжды!
Спазнаў я добра, які хлеб бясцэнны
У чорныя галодныя гады
Фашысцкай акупацыі!..
Маленства!
Прайшло ты пад грымотамі вайны,
Пад п'яны рогат дзікага шаленства
Рабаўнікоў бацькоўскай стараны.
Я б не хацеў трывожыць успамінаў,
Але ў дзяцінстве — з дзесяці гадоў! —
Буханак менш мы бачылі, чым мінаў,
Варожых гільзаў больш, чым жалудоў.

11 Зак. 1473

Запомніў я чужынскае аблічча —
Такога мог праняць хіба абух
Ці вострая сякера!..
Кліча
І плёс рачны, і цішыня, і луг.
Ручнік на плечы — і гайда з абрыву.
Паспешна распранешся на пяску,
Зажмурышся на хвілю нецярпліва,
Дасі нырца — плёск пойдзе ў лазняку.
Каб падбадзёрыць — можна не старацца:
Так пройме халадком! Ды ў глыбіні,
Куды плывеш — ніяк не разабрацца.
Давай наверх паднімемся... Зірні:
З Галінай сутыкаюся сваёю!
Яна — убок. Адзін узмах, другі.
І вадзяныя абручы за ёю,
Нібы выратавальныя кругі.
Харошая, навошта ратавацца?
Ці замалая для мяне рака?
Ці сапраўды ты думаеш хавацца,
Як плотка перад пасцю шчупака?
На хвалях месяц гойдаецца хліпка,
Халодна слізнуў па тваім плячы,
Па смуглых локцях... Дарагая рыбка,
Нам ад сябе нікуды не ўцячы.
Адзін узмах, узмах другі і — поплеч
Плыву з табой, любуюся табой.
І нечаканага здзіўлення вокліч
Гучыць цудоўней музыкі любой.
Глядзі — над намі і пад намі неба.
Здаецца, што з нябёс даеш нырца.
Схаваўся месяц. Нам ён і не трэба —
Дваім нам светла і ад грабянца,
Ляцяць угору пырскі вадзяныя,
І хвалі дабягаюць да лазы.
Чакай, чакай, чаго ж ты ільняныя
Рукою папраўляеш валасы?
Ці грабянец маладзіком бялее,
Калышацца, упаўшы на ваду?
Дык не саромся — белыя лілеі
У шоўкавыя косы запляту.
Адно — плыві, плыві са мною...
Бераг.
Перад вачамі — зорак мітусня,

Ды блiснуў грабянец з чаротаў шэрых,
I ў цэлым свеце мы i — цiшыня.
Струменiцца з бяздоння зорны высеў,
I Млечны Шлях — як зерне на таку.
I адтаго да недаступных высяў,
Здаецца, можна працягнуць руку.
Ступаць па лугу скошанаму колка.
Чаго ж дзiвiцца, што iдзём маўчком,
Калi i ў жыце змоўкла перапёлка,
Паспеўшы падавiцца каласком.
Са слоў, даўно старанна падабраных,
Усе забудзеш, хоць ужо дубы
Над вулiцай святлеюць...
Сiнi ранак.
Воркуюць на прыклецi галубы.
Стаiць на сходках лiпавая лубка,
Ручнiк-скарач прадзет пад абадкi.
Сама, як белагрудая галубка,
Галiна корміць галубоў з рукi.
Яны клююць адборнейшае зерне,
Халоднае i звонкае, як шкло.
Адно к другому галаву паверне
I затуркоча, занясе крыло.
А ўчуюць шорхат крокаў нецярплiвых
Якога хцiўца,— азiрнуцца ўсе,
I шумны шэлест крылляў лапатлiвых
Iх пад нябёсы вiхрам узнясе.
На сонцы блiснуць, аж зажмурыш вочы,
Сваёй святочна-чыстай белiзной.
I перахопiш ты пагляд дзявочы,
Што сочыць за галубкаю адной.
Ляцiць яна, ляцiць ужо ў зенiце,
А тут — ад крылляў шолах у лiстве.
Заззяла апярэннем i — зiрнiце! —
Растала, патанула ў сiняве.
I на дзявочай ласкавай далонi
Зярняты стынуць золкаю жарствой:
Цi вернецца назад галубка?..
Конi
Хрумсцяць пад дубам роснаю травой.
Паблiзу на кiйках гарцуюць дзецi,
Узняўшы пылу белыя клубы.
Народ сабраўся ля калгаснай клецi.
Гамонка. Жарты. Сёння — дзень сяўбы.

Узяўшы лубку, дзед сівабароды
Маладцавата падкруціў вусы,
Паважна першы адчыніў вароты,—
І ў поле цугам рушылі вазы.
І мы з Галінай едзем на падводзе,
Усеўшыся на ёмкія мяхі.
Глянь! Трактарыст прыўзняў на павароце
Нагрэтыя да бляску лемяхі.
Як вабіць далячынямі прастора!
Наперад вецер разагнаўся ўгрунь
Абмерыць цёплую раллю, дзе скора
Праклюнецца і загамоніць рунь.
— Расці спарней! — і дзед з шырокай жмені
Жытцо дажджом сыпнуў перад сабой,
Ажно са звонам дзынкнулі праменні
Ля самых ног. І мернаю ступой
Развaжна крочыць — смуглы, расхрыстаны,
Аб лубку зернем сцёбае сабе.
За ім дзядзькоў пятнаццаць поплеч стала,
Плячо ў плячо ідуць, як на касьбе.
На плечы ўскінеш мех пяціпудовы,
Нясеш сяўцам, каб браць было бліжэй.
Не аглянешся — і загон гатовы.
Цяжэе ноша, сцежка ўсё даўжэй.
Стаіць Галіна. У руках — завязка.
Трапеча кофтачка ад вецярка.
Падыдзе дзядзька з лубкай,— калі ласка:
Насыпле жыта звонкага з мяшка.
А здвоеныя рыпаюць бароны,
Ашчэрыўшы клыкастыя кляцы.
І аглядаюць здзіўлена вароны
Бярозак пазавораных дубцы,—
Так поле зарасло ў вайну! Бясконца,
Штодзень, штоміг яна яўляе мне
Свой страшны твар!
Стамілася і сонца —
На ноч кладзецца спаць у баразне.
Туман ахутаў скошаныя пожні,
І сырадоем пеніцца раса.
І ты ля прыгумення раз апошні
Каню падносіш прыгаршчы аўса.
Паедзеш заўтра ў горад невядомы.
А я?.. Смуга струменіцца ў вачах,
Хоць і бадзёры пасля дзённай стомы,—

Зямлю панесці мог бы на плячах.
Дарэмна праз узорную фіранку
Хацеў убачыць кофты тваёй бель,—
Спямнелі вокны. Адзінокі ўранку
Калодзежны курлыкаў журавель.
Перад дубовым зрубам невясёлы
Стаю адзін з сваім пустым вядром.
Старэнькага веласіпеда колы
З узгорка мільганулі серабром.
Далей... Далей... І фініш небасхілу
З разгону расхінула ты грудзьмі.
І — воблачка бялюсенькае пылу
Калышацца ў мяне перад вачмі.
Ці гэта ён кладзецца на павекі
Так, што знаёмых не пазнаць людзей,
Знаёмых рэчаў?..
Пацямнелі рэкі.
Пахаладзелі далі. Сонца ўсё радзей.
І воблакі, што ліўнямі гудзелі,
Маланак распусціўшы паясы,
Сягоння, як кудлатыя кудзелі,
Туманамі ляглі на верасы.
Цярусіцца на шыбы дождж сцюдзёны,
Нябёс блакітных памутнела шкло.
Шумлівым лісцем лістапад штодзённы
Раскалыхаў прыціхшае сяло.
Мне з гэтым субяседнікам адменным
Пабыць прыемна некалькі хвілін.
А голыя сады, як пад рэнтгенам,
Цямнеюць цьмяна рэбрамі галін.
І вецер рукі вымыў нецярпліва,
І, хоць пад нос пасвістае сычом,
Прад ім зямля раздзелася маўкліва,
Як перад мітуслівым урачом.
Здаровая зямля! Як душыць грудзі
Магутнай сілай, стоенай у іх,
Як кроў пульсуе роўна!.. Людзі,
Сябе праверце і сяброў сваіх.
Мы, творцы будучыні — аднаверцы.
Нам шлях пракладваць і нясці святло.
Глядзіце ж так, каб на ніводным сэрцы
Ніводнай цёмнай плямы не было!
Мы для зямлі другое ўбранне скроім,
Хоць малаверам гэта і няўцям,

Што варта жыць на ёй адным героям,
Што варта жыць на ёй адным тварцам.
Хай лістапад шуміць у кожным сэрцы,
Скідаючы пажоўклыя лісты,
Каб на штодзённай, на такой праверцы
Мець сведчанне жыццёвай праваты.
Што аджыло,— хай чыстае насенне
Пакіне на зямлі пасля сябе
Для ўсходу новых...
Лес гудзе асенні.
Табун атаву золкую скубе.
Над гаманлівым вогнішчам начлежным
Прагуцца смачна познія грыбы,
І нерухомым змрокам безбярэжным
Хвіліны ахінуліся. Дубы
Раняюць словы вешчыя — і словы,
Цяжкія, быццам тыя жалуды,
Складаюцца ў запеў неадмысловы
Пра светлыя юнацкія гады.
Няхай у іх спачатку мала ладу:
Крануцца глебы роднай — прарастуць
І прашумяць шырокую баладу.
Паслухай добра, як яны гудуць!
Звініце, словы, сілай жалудовай!
Мне добра ў лесе слухаць цішыню
І назіраць, як па лістве дубовай
Бяжыць агонь. Зайздрошчу я агню!
Як смела ён бярэ сабе ў абдымкі,
Гарэзна забаўляецца з суччом!
З густога дыму, як з блакітнай дымкі,
Прыйшла ты, ціха стаўшы за плячом.
Ці да цябе нясказанае слова
Дайшло скрозь шум бяссонны гарадскі —
І паспяшыла ты?.. Гарэць барвова
Лісты дубоў — мае чарнавікі.
І колькі іх, лістоў неадасланых,
Якім шаптаў нясмелыя радкі,
З-пад смалякоў, сырой імжой засланых,
Аблізваюць са смагі языкі?..
Няхай зіма закруціць верацёны,
Я веру, што для закаханых воч
Зноў вернецца былое —
сад зялёны,
Зялёны сад і — месячная ноч.

Уся з святла няўлоўнага саткана,
Лягчэйшая, чым ціхі вецярок,
Ты блізка ад мяне, што нечакана
Магу ў пялёстках твой расслухаць крок.
Ты прывіднаю стала паваллокай,
Расою чыстай акрапіла след.
І будзе маладосць румянашчокай,
Калі каханне — яблыневы цвет.
І ты — са мною і ва мне, каханне,
Пакуль я сэрца слухаю біццё,
Пакуль на свет гляджу я. Ты — дыханне,
Якое дорыць нам само жыццё.
На край зямлі, будзь цішыня ці бура,
Сягну — а быццам дух пераняду.
Не верыцца? —
                                        На беразе Амура
Ламаюцца маланкі аб ваду!
Глядзіць з акопа ствол незачахлёны
На хмары стометровай таўшчыні.
І я, пад куст улёгшыся зялёны,
Шукаю сваю зорку ў вышыні.
А цемра пагранічная, як порах:
Ускалыхнуўшы гнеўна паўзямлі,
Магла б успыхнуць і ад яркіх зорак,
Калі б яны не пільнымі былі,
Граніцы ціша — не спагадней міны,
Што стоена чакае ў баразне,
Пакуль наедзе плуг... і —
                                                            успаміны
Вяртаюць у мінулае мяне.
Сапёры са стальнымі вудзільнамі
Прыйшлі ў сяло, каб смертаносны смерч,
Што кожны міг мог загрымець над намі,
Утаймаваць. І — адступіла смерць.
І ў нас са сталі і штыкі, і пёры,
Каб мы іржавых мін не абышлі.
Дык пойдзем, як бясстрашныя сапёры,
Пакуль ніводнай міны на зямлі
Не застанецца...
                                        Пагранічча спала,
Чароты гнула горкая сухмень,
Калі з неасцярожных рук упала
Іскрынка, як надломлены прамень.
І знікла ў момант, як іголка ў возе,

Мільгнуўшы слабай ніткаю дымка.
І доўга прышываць ёй давялося
Лісток мінулагодні да лістка.
І вось кашулі вогненна-чырвонай
Прыўзняліся пустыя рукавы,
І па тайзе, ад жудасці зялёнай,
Пранёсся шолах маладой ліствы.
Кашуля тая ў ярасным мігценні
Чаплялася за травы, за кусты,
За рэдкія лістоўніцы,— і цені
Баяліся наблізіцца сюды.
Відаць, ні да каго не прымярала
Адзежыну бязвокая швяя,
І зараз нецярпліва выбірала,
Каго ў яе адзець зручней бы...
Я
Сачыў, як яна шумна падступае,
Каб да мяне прымерыцца цяпер.
Адчуўшы, што паветра не хапае,
У гімнасцёрцы расшпіліў каўнер.
Каля мяне ёй завіхацца рана —
Я ні імгнення смерці не ўступлю!
Барвовая кашуля разадрана
І — кінута пад ногі, на зямлю.
Ці за няўдзячнасць тым мяне карала,
Ці за знявагу,— ведаць не магу,—
Бязвокая швяя шмаццё сабрала,
Згарнула і — закінула ў тайгу.
— Ха-ха-ха-ха! — зарагатала рэха,
І гэты смех, як хруст сухіх сукоў,
У нетрах чуўся,— быццам недарэка
Біў у заслонкі з чатырох бакоў.
Пакінуўшыя логавы і гнёзды,
Аслепшыя ад зыркага святла,
Няслісся здані. Вось лягчэй бяросты
Згарнуўся цень птушынага крыла.
Ізюбр на ўзлессе выбег асцярожны,
Агледзеўся і — да людзей бяжыць.
І сасунок за ім...
Пажар таежны
Мы кінуліся стрымгалоў тушыць.
Баграмі раскідаючы завалы,
Капалі наспех непраходны роў.
І глуха паўтаралі перавалы

Цяжкія стогны спуджаных звяроў.
Дождж-імжачок шчыльней ахутаў скалы,
Заслаўшы парай дымныя карчы,
І галавешак чорныя аскалы
Карэжыліся ў зарыве начы.
Над галавою нешта закрактала,
Штурхнула ў плечы, прыскам абдало.
Ці то — на цыпачкі тайга прыўстала,
Ці то — мяне з разгону прыўзняло,
Аж полымя ў вачах запалыхала,
Ярчэйшае, чым пеўні з ручніка.
І неўпрыцям мяне закалыхала
Чыясьці клапатлівая рука.
Няўжо так сонца многа ў роднай хаце
І вочы слепіць белізна гардзін?
Чаму ты вокан не расчыніш, маці? —
Мне душна!..
Схамянуўся я адзін.
Патыліцамі абгарэлых сопак
Тайга чарнела — хмурая тайга.
Цяжкія кедры датлявалі вобак,
Іскрыстая кружылася пурга.
Кашчавыя знявечаныя рукі
Мне дрэвы працягнулі — наупрост —
Мой хісткі цень сягнуў ад завірухі,—
Шырокі, як кашуля навырост,—
Пабрыў па сопках, па траве прымятай,
Па ломкаму рабрыстаму галлю
І, толькі параўняўшыся з гарматай,
Зняможаны, усеўся на зямлю.
Глядзеў з акопа ствол незачахлёны
На небасхіл світальнай чысціні,
І я, пад куст улёгшыся зялёны,
Убачыў у бясхмарнай вышыні,
Што хтосьці ўсцяж нябеснай магістралі
Густых сузор'яў яблыні трасе,
Каб людзі свае зоркі выбіралі,
Каб шчасцем падзяліцца маглі ўсе.
Я адхінуў плячамі куст зялёны,
Якім замаскіраван быў акоп,—
Няхай гарматны ствол незачахлёны
Шукае новых зор, як тэлескоп!
Павінны быць у кожнага кахання
І свае зоркі, і шляхі свае,

Хоць сёння для юнацкага дыхання
Здаровага паветра не стае.
Ад горкага таежнага смуроду
Табе ўздыхнуць няможна свабадней,
Вальней...
А для людскога роду
Агонь намнога можа быць страшней.
Няхай, як клятву, сёння помніць кожны
Пра пыл парахавы па-над зямлёй,
Бо і вайна, як і пажар таежны,
Пачацца можа з іскаркі малой.
І па зялёнаму зямному шару,
Самкнуўшы полымя пякельны вал,
Прайсціся можа ураган пажару,
Знішчаючы жывое напавал.
Пільней жа зрок, сучаснікі,— альбо вы
Жыць на планеце будзеце пустой,
Хоць некаму зялёны ліст дубовы —
Апошні! — стане маршальскай звяздой.
Я попел Хірасімы ўваскрашаю
Не з той прычыны, каб іржу штыкоў
Ачысціць зноў,— у думках я зближаю
Народы ўсіх пяці мацерыкоў.
Я — чалавек. Я — міру абаронца.
Я — зычу радасці планеце ўсёй.
Ці чуеце вы? —
Маладое сонца
Малочнай умываецца расой.
І медных сосен шчыльныя абоймы
Паспешна маскіруюцца ў лісцё,
А свежы вецярок з шырокай поймы
Не зварухне сцярожкае трысцё.
Як лёгка дыхаць на такім прыволлі,
Дзе нават жвір змаўкае гаваркі,
Дзе кожны лісцік шэпча мімаволі:
Каханне — берагі адной ракі.
Яна прывыкла к веснавым разлівам,
Калі ўжо сіл няма куды падзець,
Калі ў блакітным люстры зіхатлівым
Сябе захоча неба разглядзець.
Карункі ўзорных ферм многапралётных
Трымцяць на сіняй гладзі, бы ў акне.
І ціха так, што качак пералётных
Не хочацца спужнуць знянацку мне.

А краявід — пагляду не адвесці:
Вось тут на грудзі поўныя ўздыхну!
І што з таго, што ты далёка дзесьці? —
Заплюшчу вочы і — цябе вярну.
І галубы твае, і паштальёны,
Прынёсшы вестку ці за блізкі свет,
Не ведалі, што ліст твой — ліст зялёны,
Зялёны ліст і — яблыневы цвет,
Той цвет — непадуладны завірухам,
Той цвет — прыязнасць і празрысты смех,
Той цвет — і за сляпым Палярным кругам
Разгоніць сцюжу і растопіць снег.
У далі прасціраючы галіны,
Нябёс крануся свежаю ліствой,
І клапатліва-дружны звон пчаліны
Мяне акружыць музыкай жывой.
Няхай усім удосталь будзе мёду,
Бо шчасце не даецца аднаму,
Я кожнага схаваю ў прахалоду
І густалістым шумам абдыму.
Сцяжынак не ахутаю туманам,
Ад воч юнацкіх адвяду смугу,
Да радаснага дня ўсім закаханым
Па сочным яблыку прыберагу.
Суквецці над зямлёю навісаюць,
А я шчасліва гэты груз нясу:
Няхай пялёсткі ціха атрасаюць
З густой травы сцюдзёную расу.
Ты пройдзеш тут, з сабой прынёсшы свята,
Па квецені ружова-трапяткой...
Прыўзняў павекі — а трава прымята:
Сядзела ты ці я прымяў рукой?
Напэўна, ты, калі няўлоўны шолах
Дзявочых крокаў чую. Дзе ж ты? Дзе?
Няхай жа па тваіх слядах вясёлых
Мяне з сабою сонца павядзе.
Раскалыханы ракатлівым валам,
Край пагранічны сёння не засне,
Хаваючы за сінім пераваламі
Таго, хто на пасту змяніў мяне.
Шырока крылы сцяга майго ўюцца
І вогненным дыханнем абдаюць.
Пад сцягам — у любві не прызнаюцца,
Пад сцягам — клятву вернасці даюць.

Хай толькі цень мільгне над краем горным,
Хай напрарочаць чаіцы бяду,—
Радзіма, кліч мяне салдацкім горнам,—
І я салдатам да цябе прыйду!
Хвала рукам, што плавяць сталь спрадвеку,
Хвала рукам, што для твайго стала
Ўзрасцілі добры хлеб. Ды чалавеку
Ў руках са зброяй — першаму хвала.
Скуюць са сталі ланцугі і краты
І хлеб твой зробяць кормам саранчы
Рабаўнікі,— адкормленыя каты,
Якім дасі сябе перамагчы.
Я шкадаваў, што гэткаю зялёнай
Была мая дзесятая вясна,
Што я не мог з салдацкаю калонай
Пайсці туды са зброяй, дзе вайна.
Нявольнік, чым я мог сябе ўзнадзеіць,
На прысак хаты стаўшы басанож:
Прад лесам шыбеніц лясы радзеюць,
Цяжэй травінку ўбачыць, чымся нож.
Я нёс нябёсы чорныя ў арбітах,
Забыўшы на блакіт вачэй сваіх,
І вочы змардаваных і забітых
Глядзелі з іх, глядзелі страшна з іх.
Я быў цямней асенняй цёмнай ночы,
Я стацца чорным порахам хацеў.
Калі б я кату паглядзеў у вочы,—
Я больш на свет ніколі б не глядзеў.
Я смех забыў. І цвет вясёлы макаў —
Шчаслівы цвет! — мне грудзі ранай пёк.
Я толькі жыў — не дыхаў і не плакаў,—
Як на стаптаным полі каласок.
Мільёны ног мае таптталі рукі,
Мільёны рук сціскалі за каўнер,
І смерць была мілей за тыя мукі,
Ды я сказаў, што выжыву цяпер.
І стала маім пульсам кананада,
Дыханнем — узарваныя масты,
Святлом — агонь высокі Сталінграда
І вера ў сілу нашай праваты.
Мяне зняме́ўшыя кармілі пожні,
Паіў пясок сляпога ручая.
Я верай жыў, што прыйдзе суд апошні —
І першым сведкам буду толькі я.

Я — той, хто змог з-пад гусеніц узняцца
Травінкай чахлай. І маёй крыві
Мне хопіць — у нянавісці прызнацца,
Не хопіць — аб сваёй сказаць любві.
І стане белым, белым, белым
Твар хлапчука, што выйшаў з небыцця,
Каму на шчокі пылам амярцвелым
Лёг прысак непазнанага жыцця.
І доўга пад акном шумець ажынам,
Пакуль не прыйдзе ў вогненныя сны
З неўтаймаваным шчэбетам птушыным
Зялёны шум трынаццатай вясны.
І бэзавая росная галінка
Вачам запаўшым верне сіняву,
І нейкая сур'ёзная дзяўчынка
Нахіліць нада мною галаву.
За шыбай — бель садовай завірухі,
І бежанка — равесніца мая —
Працягне свае кволенькія рукі,
Каб разам з ёю выйшаў з хаты я.
Абноўленым устанеш перад светам
Пад сонцам, што пакажацца з-за хмар.
І яблыневым цветам, як адсветам,
Дзень гэты ляжа на ажыўшы твар.
І ты адчуеш чалавечы гонар,
Што можна жыць не толькі для сябе.
Радзіма — бескарыслівейшы донар —
Сагрэе ўсмешкай матчынай цябе,
Яна адчыніць новыя вароты
У далячынь нязведаных палёў,
Дзе кожны верабейка жаўтароты
Жыць-жыць! — з высокіх зычыць канаплёў.
І будзем жыць! І мы дадзімся ў знакі
Тым, што пра гібель блізкую гудуць.
Зірні, якія радасныя макі
На нашых градах і для нас цвітуць!
Я даглядаць іх буду разам з тою,
Што кожны міг стаіць перад вачмі,
І макавага зернятка не ўтою
Ні перад ёю, ні перад людзьмі.
Не пашкадую добраму суседу
Адборнага насення — хай і ён
Спазнае шчасце маладое...
Еду

Тваім нястомным крокам наўздагон.
І сонца на імклівым паравозе —
Удалеч свеціць зыркім ліхтаром.
Лес прашуміць, як спелае калоссе,
Мост прагрыміць, як вераснёвы гром,
А паравоз махае шатунамі,
Як марафонец — проста не суняць,
Ледзь паспяваюць далі перад намі
Шырокія вароты расчыняць.
Дарога гэта нас даўно чакала —
Выструньваецца. І — з далечыні —
Бялеюць скалы сіняга Байкала.
Байкал, Байкал, вады не скалыхні!
Пагойдваецца камяністы бераг —
Насоўваюцца горы, бы яны
Цягнік гатовы падхапіць аберуч,
Падняць вышэй учэпістай сасны,
Дзе Млечны Шлях, пераваліўшы грэбень,
На стромкіх апіраецца быках,
І зоркі, як неўтрамбаваны шчэбень,
Рассыпаны грудамі па баках.
Лясы з палямі за акном вагона,
Як бліскавіцы, прападаюць з воч.
Збягаюць з камяністага адхона,
Не аглядаючыся — дзень і ноч.
Зближаючы нямыслімыя далі,
Шырокі водсвет ранішняй зары
Ярчэй геройскай залатой медалі
Гарыць на Волзе і на Ангары.
Даём гудок — пара глухому збочыць,
Наперад свецім — саступай, сляпы:
Тут нават шпалы выпрастацца хочуць
І ўстаць, як тэлеграфныя слупы,
Каб паляцела ўдалеч тэлеграма
Маланкай сіняй над хрыбтамі гор —
Хутчэй святла цягнік нясецца прама.
Свяці, вечназялёны семафор!
За намі ўслед ужо грукочуць колы,
Грукочуць колы новых цягнікоў.
І вось ярчэй сярэбранай падковы —
Знаёмы небасхіл...
Зямля бацькоў!
Ці не пад столлю гэтага вакзала
Мне бацька ў рукі першы даў білет

І маці сваю хустку развязала,
Каб памахаць на развітанне ўслед?
Адразу не апомнішся ў зацішку:
Ці рэйкі мкнуць, ці коціцца састаў,
Што тут спыніўся не на перадышку,—
Пад хобатам водаправодным стаў.
Я сам з сабой пабыць жадаю трошку,
І вельмі не турбуйся, праваднік,—
Ускочу на апошнюю падножку,
А толькі не спазнюся на цягнік.
Града барвовых воблакаў над Шкловам
Спынілася, чакаючы чаўны.
А на ўзбярэжжы, ад смугі ліловым,
Пафыркваюць ляніва табуны.
Зары вячэрняй водбліск пурпуровы
Замгліў сляды вільготных капытоў,
І пальцамі азяблымі дубровы
Не могуць далічыцца ўсіх лістоў.
Лясы сінеюць за туманам шызым,
І пад бляянне соннае ягнят
Стаіўся куст ля хлева рыжым лісцем,
Цікуючы гарластых куранят.
Над чарадой бярозак беластволых
Плятуць сарокі плёткі спакваля,
І — нібы чутны з-пад травінак кволых
Сярдзіты гул заспанага чмяля.
Тапор грукоча — дом сасновы рубяць,
І рэха стром ружовых дастае,
І скора, скора сіверы затрубяць
У горны хрыплаватыя свае.
Цямнеючы ад блізкай завірухі,
І горбіцца, і моршчыцца Дняпро,
І з высяў хлопчыку малому ў рукі
Раняюць гусі шэрае пяро.
Ягоных рыс не засціць павалока.
Дык хто ж такі знаёмы? Ці не я?
І гэтак недалёка, недалёка
Твой светлы горад, любая мая...
Ляці, цягнік!..
Усмешкі не хаваю,
Чым і падобны стаў да ліхтароў,
Што кожнаму сустрэчнаму трамваю
Падміргваюць шчасліва: — Будзь здароў!
Няхай твой скарб у лёгкім чамадане,—

Ты шчаслівейшы ў свеце чалавек.
Не пакідай жа кожнага, жаданне
Дастойна жыць у наш адказны век.
Лісты над галавою мітусяцца,
Напамінаючы вачам людскім, што пад
Скляпеннямі Зімовага палаца
Пачаўся наш Вялікі Лістапад.
Чаканнем не хачу людзей расчуліць,
Хаця з юнацкай вераю стаю
Пры самым людным скрыжаванні вуліц,—
Што тут сустрэну любую сваю.
І па квадратах ранішніх кварталаў
З людзьмі мы пройдзем у святочны час,
І статуі саступяць з п'едэстэлаў,
Заглядзеўшыся на шчаслівых нас.
Са слоў усіх, якія выбіраем,
Каб ім у песнях вогненных палаць,
Каб ім зямлёю стаць і небакраем,—
Люблю я словы — ПЛОШЧА і ПАЛАЦ.
Сюды не панясеш будзённай скрухі,
Тут не паверыш згорбленым плячам,
І тое, што твае зрабілі рукі,
Тваім жа адкрываецца вачам.
Мы заслужылі за жыццё такое,
Каб у сяброўстве з ясным сонцам жыць,
Каб мець усім прасторныя пакоі
І чалавечым шчасцем даражыць.
І мімаволі сцішваеце крок вы,
Каб паглядзець на паднябесны дах,—
Там дахаўшчыкі накрываюць кроквы,—
І крок іх аддаецца ў правадах.
І правады гудуць прыхільна неяк,
Прарочачы сустрэчу нездарма:
Яны падобны да касых лінеек
Дзявочага ласкавага пісьма.
У яснай строгасці імклівых ліній
Для ўсіх нябачны прабягае ток,
І чысціня вячэрняй высі сіняй,
Нібы любімых вуснаў халадок.
Дыханне сутыкнулася з дыханнем,
Рассоўваючы шум будзённы: — Ты?
І вуліцы шырэюць...
З калыханнем
Ляцяць з каштанаў жоўтыя лісты.

Рука ў руцэ. І побач мы ступаем.
Праносяцца нястомныя аўто.
Нікому мы дарогу не ўступаем,
Але на нас не крыўдзіцца ніхто.
Пад колішняю хусткаю пуховай,
Бы ў яблыневым цвеце, родны твар.
І ты ідзеш са мною, як [redacted] аховай,
Забыўшыся на цесны тратуар.
Павекамі чырвонымі аўтобус
Міргнуў, а ўсё ж аб'ехаў спакваля.
Ад нашых крокаў, як маленькі глобус,
Пайшла шпарчэй вялікая зямля.
Нам лепш за ўсё цяпер дваім застацца,—
І сонца ўдалеч коціцца клубком.
Яму яшчэ не скора разматацца,
І ў сэрцах промень — цвёрдым вузялком.
Ніпто шчаслівай згоды не парушыць,
І нам з табою праблукаць да дня,
Пакуль наступіць свята...
Цішыня.
З халодных высяў колкі снег цярушыць.

12 Зак. 1473

ПРОФІЛЬ ВЕКУ

Мы немач лечым
словам чалавечым,
І я не пабаюся рот адкрыць,
Хоць перад трохмільярдным вечам
Мне давядзецца сёння гаварыць.

Для Леніна
звычайнай мала рамы.
І неабходна — каб яго абняць! —
Перамяшчаць
зямныя панарамы,
Планеты
дэкарацыі мяняць.

Працуе пастаянна-акіянна
Яго дыханне і сэрцабіццё.
І рукатворная *Леніні́яна* —
І будучыня наша, і жыццё.

Задуха царскай шубы сабалінай,
І сыты скрып вяльможных калымаг,
І рабскі стогн над згорбленай далінай,

Хто вас закрэсліў —
чарадзей ці маг?
Пачнём з таго,
што бездаражжу лютай
Ён,
глыбісты нахмурваючы лоб,
На тройцы ўсерасійскіх рэвалюцый
Падняў краіну
ў ярасны галоп.

Ад гулкага паветра сэрца ные,
Грымотна
каранная торыць след,
Як крыллі,
прыўзняліся прыцяжныя,
Ракетаю
сягаючы ў сусвет.

І як мы не паверым чалавеку,
Што нам сябе пакінуў усяго?
Глядзі —
манументальны профіль веку
Навечна зліўся з профілем яго!

Ён гаварыў з набатам без'языкім —
Цар-звонам,
што свой голас абвясціў...
І,
каб народ стаў гордым і вялікім,
Ён ядры слоў па свеце пакаціў.

Ён сніў такое полымя пажара,
Што з акіянскіх выйдзе берагоў:
Ужо даўно вага зямнога шара
Лягчэй вагі іржавых ланцугоў.
І —
спынен рух,
І —
адступіла мэта,
і —
безнадзейнасць надышла.
І — вось,
Згадаўшы меркаванні Архімеда,
Ён смела замяніў зямную вось.

Штурхнуў плячом,
каб зноў надаць вярчэнне,
І частка шостая,
а там і трэць,
Адчуўшы нечакана аблягчэнне,
Прайшлі пад сонцам —
крыўды абагрэць.

І людзі,
што спрадвек прасілі хлеба
З працягнутай пакорліва рукой,
Цяпер штурмуюць цытадэлі неба,
Дзе зоры ходзяць дружнай талакой.

Ці не аб тым у тытунёвай гары
Маркс па-юнацку марыў?
І былі
Ягоныя дзяшовыя сігары,
Як міжпланетных рэйсаў караблі.

Хвала табе, змагання дух юнацкі!
І Ленін,
пераняўшы гэты гарт,
Адзіны скарб —
стары гадзіннік бацькі —
Не раз у эміграпцкі нёс ламбард.

Ён, будучы і ў загранічнай далі,
Не падарожнічаў і не гасціў,
І не веласіпедныя педалі,
А колы ўсёй гісторыі круціў.

Няхай там зоры ядраней каралаў,
На іх не пазіраў — не да таго:
Крывёй ахвярнай ледзяных цэнтралаў
Юнацтва акаймована яго.

Ён слухаў час,
як водгулле прыбою,
Ён слухаў час,
каб пры сваім жыцці
Утаймаваць яго
і за сабою
На радасць паднявольным павясці.

Шторм акіянаў —
                    ён іх пульс намацаў —
Руйнуе раз'яднанасці парог.
І хараство разгойданых палацаў —
Марскім пяском ля выпрамленых ног.

Асвежаць вочы радужныя пырскі,
Праменне ловяць ліўняў невады,—
Адразу прысмак пазнаваў сімбірскі
Ён і ў патоках маладой вады.

Яго цягнула ■ сілай неаслабнай
Туды,
        дзе сакалінае крыло
Пагрымлівала
                    разінскаю шабляй
І —
    пугачоўскай вольніцай гуло.

Няхай ён ад бяссонніц быў стамлёным,—
Паўсюль-паўсюль
                    дзіцячыя канькі
Напаміналі серабрыстым звонам
Раздолле Волгі — матухны-ракі.

Прымаючы нягоды лёсу злога,
Ён ведаў —
                тая на зямлі жыве,
Што пела песні для яго, малога,
І —
    гладзіла па светлай галаве.

І ён пайшоў наперад без аглядкі,
Адчуўшы бітву юнымі грудзьмі:
Суровае аблічча праўды-маткі
Стаяла *ісцінай* перад вачмі.

Ні стома,
            ні жуда,
                    ні небяспека
Яго не насцярожвалі даўно:
Ён ведаў, што другога чалавека
Парой цяжэй падняць,
                            чым бервяно.

Ён расшчапляў ядро любой падзеі
І факта,
каб бязвольнасць аддзяліць
І — чалавецтва даўнія надзеі
Энергіяй сваёю надзяліць.

Каб сіверам сляпым і перагрэву
Навек не паддавалася зямля,
Расцёкся думкай па людскому дрэву
З вяршыні самай гонкай да камля.

І,
падлічыўшы сэрца свайго ўдары,
Прыехаў пад крамлёўскія зубцы,
Што змоўклі,
як жалобныя штандары,
Дзе спяць яго таварышы-байцы.

Сустрэча — развітанне!
Без дакору
Ён пастаяў ля ценяў дарагіх,
Адчуўшы ўсёй істотаю,
што скора
Сам назаўсёды вернецца да іх.

Дарога мулка клалася пад шыны,
Журботна асыпалася ліства.
І на такую родную машыну
Глядзела пацямнеўшая Масква.

Раздолле расхіналася шырока,
Зара самотны прыспускала флаг,
І неба — як агромністае вока —
Яго прымала ў зыркі саркафаг.

Каб вечна бачылі яго жывыя,
Пераступіўшы ў юныя вякі...

. . . . . . . . . . . . . . .

І — гаварылі трубы грамавыя,
Заціснуўшы ад болю кулакі.
І рукі,
скамянеўшыя ад скрухі,

Зноў лашчылі
абледзянелы лом,
Каб пад сляпую жальбу завірухі
Прабіць зямную тоўшчу напралом.

І,
каб вярнуць бяссоннае дыханне,
Што ўсіх сагрэе на вякі вякоў,
Сціскаліся ў адзіным парыванні
Пяць пальцаў,
быццам пяць мацерыкоў.

Зрабіць усё —
ад трактара да ніткі,
Хоць вораг стане ярасней і злей!
Глядзі —
скразное зарава Магніткі
Свой водбліск кінула на Маўзалей.

Няпраўда, што рабфакаўская схіма
Суцэльна нашу вызначыла стаць,—
Пад крыллем Асаавіяхіма
Ў саміх нас крылы сталі вырастаць.

Было юнацтва марай і разведкай,
А наступала ростані пара,—
Услед махалі туркестанскай веткай
Ці электрычнай хусткаю — з Дняпра.

І, можа, ў тым была заканамернасць,
Што на працоўны подзвіг, як і ў бой,
Сажэнна-маяковістая вернасць
Ішла з мулярскай кельмай і трубой.

Расла сцяна, якой не сточыць шашаль,
Ва ўсім размаху моцы і красы.
І, стрымліваючы неадступны кашаль,
Нёс Горкі буравесныя вусы.

А за мяжой —
гарачка камбінацый,
Фашызму чумаваты сілуэт,
Што шулерскай ператасоўкай нацый
Імкнецца перайграць і лёс, і свет.

Не быць таму!
I ў прадчуванні буры
Стаў час над капіталістым тузом
Рэспубліканскай хусткай
Ібаруры
I —
тэльманаўскім дзёрзкім картузом.

Фашызм фатальна распірала смага —
Быў ненажэрным скваплівы дракон.
I палыхала полымя рэйхстага
З пустых вачэй,
як з выбітых акон.

Даверыўшыся рускаму жалезу,
Пры вогнішчах,—
у ценях трапяткіх,—
Клянуцца ў вернасці галаварэзу,
Не чуючы барвовы голас кніг:

— Запомніце: у хлебадайным жыцце
Мы — каласы жыцця,
а вы — асцё.
Спыніцеся!
Вярніцеся!
Тушыце
Пажарышча —
у ім вы згарыцё!

Ды што ім!
У надзеі бесклапотнай
Яны гатовы марыць аб Маскве.
Застылі шэрай лентай кулямётнай —
Цяжкі свінец у кожнай галаве.

Цень свастыкі
перахрысціў пероны
I з богам —
і нябесным, і зямным,—
Як у казённік новыя патроны,
На прыступкі вагонаў —
па адным.

I здань Майданека і Асвенціма,
Манбланы дзіка змардаваных цел

Нястомна клічуць іх...

. . . . . . . . . . . . . . .

Рыхтуй, Радзіма,
Дакладны —
і бязлітасны! —
прыцэл!

Атаку пачынаюць артабстрэлам!
І,
будучых не згадваючы ран,
Даверыўшыся камандарскім стрэлам,
У сэрцы бі пачвару,
як таран!

Паказытаўшы грукатам грамовым
Прышэльцу пяткі,
каб устаў хутчэй,
Шасцідзюймовым,
як шэсцьсотдзюймовым,
Ты злёгку сцебанеш паміж вачэй.

І ўжо затым,
прымерыўшыся добра
Да тушы той,
што верашчала: — Хальт! —
Разважліва,
упэўнена,
харобра
Малоціш так,
каб звар'яцеў базальт.

Мільённарукім і мільённавокім,
Мільённаротым —
да зямлі твае
Ішоў дагэтуль трыумфальным крокам
І —
вось цяпер страшыдлам паўстае.

І ярасцю,
што набрыдзь пакарала,
Як цеціва імклівая напят,
З гранітных ножнаў вырвеш меч Урала,—
Раскроіць хціўца з галавы да пят!

Хваленне кулям —
смертаносным восам!
Але ты джаліў сатанінскі ком
І флегматычным буслам —
бамбавозам,
І коршакам дзюбастым —
ястрабком.

І,
небывалы ў сіле сваёй дужай,
Выроставаючы вышай дзень за днём,
Душыў
ільдзістай падмаскоўнай сцюжай,
Арлоўска-курскім
спапяляў агнём.

У гэтай бітве —
земнай і падводнай —
Свая атрута ёсць
і дзівасіл:
З стыхіяй
пабратайся
першароднай,
Каб дакрануцца невычэрпных сіл.

Хоць многа страціў,
але стой сурова
З гранёнаю
няўмольнасцю штыка,
Каб вырастала
— з жолуда! —
дуброва
І разлілася ніва
— з каласка!

Кідайся ў ногі
вожыкам іглістым,
Пакуль змагання не прапаў запал.
А ўкленчыш незнарок
сарваным лістам —
Грымі,
як супрацьтанкавы запал.

Наш век вялікай праўдай апраменен!
Адзін застанься,
а калень не гні,
І сцяг,
што завяшчаў патомству Ленін,
На шыр усёй планеты
разгарні!

Нас не спакусіць
страусава схова.
Наш век —
рэвалюцыйнасці парад.
Каб ён наперад
крочыў пасияхова —
Нясі ў грудзях
пякельны Сталінград!

Хай пад курганам, ліўнямі абмытым,
Навекі лёг,
а толькі закрані —
Рвані
тысячатонным дынамітам,
Каб выветрыць
чужынца карані!

Няхай даўно ляжыць ён распластаным —
Кружыся,
карай недаступнай вей,
Спраўляй прысуд
над злыднем апантаным,
Пакуль не стане ён
як мурравей.

Гані ў агонь,
каб цень ягоны сцерці,
Пакуль пажар сляпы не пагасіў.
Гані ў агонь,
каб немінучай смерці,
Як літасці найбольшай, папрасіў!

Хай грукат пераможнага салюта
Глухіх разбудзіць,
дасць аслепшым зрок!

Хай пад зямлёй,
спакутаванай люта,
Вясновы прашчабеча вецярок!

Хай аніхто ніколі не забудзе
Злачынства азвярэлых ліхвяроў!
Хай для людзей святым сумленнем будзе
Маёй айчыны донарская кроў!

Барацьбітамі
стопрацэнтнай пробы
Прайшоўшы ў бітвах
трыдзевяць зямель,
Без перадышкі
на цяжкія робы
Змянілі мы
цяльняшку і шынель.

І столькі хараства,
і звонкай волі,
І так бяжыць дарога насустрэч,
Што разварочваецца мімаволі
Гармонік шпал —
на шыр юначых плеч.

Зямля-зямелька,
ты даброМ багата,
Дык будзем гаспадарыць не з пляча:
Нам будучыні Апасіяната
Завешчана любоўю Ільіча.

І каб такой бязмежнаю была,
як
Сусвет,
што і душою не абняць,—
На тромканне
трохструнных балалаек
Яе не маем права размяняць!

Прастуй наперад,
карабель-караблік!
Хай падганяе парусы твае
Бяссонны пульс
усіх заводаў, фабрык,—

Ў нас інструмент і музыка —
свае!

Хто ведаў словы
«ёўня» і «адрына»,
З кароўкай разам
зімаваў зіму,—
Цяпер яго дачушка-балерына
З Нью-Йорка
прывітанне шле яму.

І грацыяй
непараўнальнай слепіць
Багатых англічан
і парыжан.
Яе партнёр
і закаханы лебедзь —
Нашчадак
забайкальскіх катаржан.
І нашай сілы
вешчыя адсветы
Нясуць яны.
Мастацтва —
не ласо,
Каб заарканіць дух:
яно яднае светы,
Як быстракрылы голуб Пікасо.

І я сцвярджаю, што натхнёнай сажы
Не заімгліць імклівую красу,—
Аб нашай праўдзе
словы-эрмітажы
Па ўсёй планеце
насцеж пранясу.

Грымі, радок,
як цэх інструментальны,—
Ты ўсё павінен прадчуваць і ўмець!
Варочай грузы,
быццам кран партальны,
Каб славу бескарыслівасці мець!

Хачу,
каб ты штоміг на душы падаў

Не вераб'ём стамлёным за штыкет,
Не шэлестам
штодзённых лістападаў,
А ценем перахопленых ракет.

За аб'ектыўным эпасам акопаў
Зноў —
рэкагнасцыроўкі глыбіня
І —
лінз камуністычных тэлескопаў
Шліфованая доўга чысціня.

Пакуль мы марым
пра пратуберанцы,
Якіх дасюль не разглядзець вачмі,
З нас кожны бачыць
кантыненты-ранцы,
Набітыя
патронамі-людзьмі.

Не падыходзь сюды!
Архіпелагі
Гатовы задыхнуцца без вады.
Яны —
перафарбованыя флагі,
Яны —
прадвесце заўтрашняй бяды.

Ад страшнай вакханаліі трапічнай
Маланкі шалясцяць сярод галля,
І,
нібы ў ліхаманцы электрычнай,
Аслепленая курчыцца зямля.

Цунамі
Звар'яцелымі сланамі
Бягуць,
Бягуць
На нашы берагі.
А што за намі? —
Буры з перунамі.
Што перад намі? —
Вобраз дарагі.

Свет не павінен
быць апалавінен
Тлом
радыёактыўных ляд.
Я верую —
яго стрымаць павінен
Набатны голас
мудрых немаўлят.

Надзеі нашы —
не карыятыды,
І не такі нам вызначаны лёс,
Каб жудкі лёд
бязлюднай Антарктыды
З нас кожны
на грудзях
да смерці нёс.

Далоў, панове!
вы —
ігралі дрэнна.
Пацеха
гладыятарскіх баёў
Канчаецца.
Мяняецца арэна
І — рацыён прадажных салаўёў.

Хоць вы і мяснікі,
ды мы —
не тушы,
Каб пластацца
пад вашым тапаром:
Мы не дазволім
яблынныя душы
Аддаць
на куклускланаўскі пагром.

Лёс
інкубатарных напалеонаў —
Кульгаць на сушы, тонуць у вадзе,
І талісман
яфрэйтарскіх пагонаў
Да Волгі
болей вас не давядзе.

Ніхто не верне пахаванай мары,
Чым заплацілі мы
— на ўсе вякі! —
За вашы маркі,
стэрлінгі,
далары,
За вашы банкі,
сейфы,
кашалькі!

І мы для вас —
не астра і алебастра,
Якую можна
мезенцам разбіць:
Ад Спартака і да Фідэля Кастра
Свабоду мы вучыліся любіць.

Каб нас і пальцам
аніхто не кратаў,
Я сам —
да спакайнейшае пары —
Дывізіі
узброеных сакратаў
Саджу на апалчэнства сухары.

Каб малавер абразай не раз'ятраў,
Скажу,
не цешачыся пахвальбой:
Па меншай меры,
дзвесце міліярдаў
Сааўтараў я чую за сабой.

Варухай свет,
чорнарабочы атам,
І,
акрылёны мудрасцю людзей,
Ты
усясветным стань ваенкаматам
Здзяйсненяў самых светлых
і надзей!
Мой урагане,
мой шчанюк пакорны,
Мне ў вочы пільна не ўглядайся так:

На дне трымаю
крыўды згустак чорны
І — гнеў вяду
з сабою па пятах.

Я буду гадаваць цябе цярпліва
І толькі не аслаблю ланцуга,
Каб вораг,
што прымераўся зласліва,
Працверазіўся болей як мага.

Калі ж яму
не хопіць раўнавагі,
Я бразну самалёты ўсе далоў,
Сарву з пачварных небаскробаў дахі,
Зламаю мачты цёмных караблёў!

Я перадам табе
абсяг глабальны,
Каб у імгненне кожнае ты мог
Узняць над імі
шторм тысячабальны
І —
пахаваць ад галавы да ног.

Увачавідкі
свет памаладзее
І —
сілы адчуваючы свае —
Сваё дзіцяці —
лепшую надзею! —
Касмічнымі арбітамі спаўе.

Нябёсы —
планетарная вітрына.
І —
гэткі прамяністы свет!
Ён — ваш:
Заместа яблыка ці мандарына
Захочаш —
сонца на далоні ўзваж!

Мы давяраем праўдзе адчувальнай
І жыццядайнай,— я на тым стаю!

Я быў між молатам і накавальняй
І ўласную іскрынку не ўтаю.

У прадчуванні заўтрашняй свабоды
Такога дакрануўся я агню,—
Хай сёння
рукі страчу
назаўсёды —
З іх аніколі зброю не ўраню.
Не вечныя мы.
І не ў тым бяссмерце,
Каб славіцца ў стагоддзях аднаму.

А рэвалюцыя —
як перасадка сэрца —
Жыццё вяртае свету усяму.

Хай закрануць —
прыгледзіста злаўчуся
І,
каб навекі ім аддаць канцы,
Усевідушчым смерчам
пакачуся
На зімнія
і летнія дварцы.

Бяссмерце праўды ленінскай адкрыта,
І сцверджана нястомнай барацьбой,
І прадстае для ўсіх людзей адкрыта
З любой старонкі,
з літары любой.

Мой голас —
ціхі галасок калібры
Прад ураганным голасам яго.
Ды ёсць часы,
як зброі ўсе калібры
Мабілізуем мы для аднаго.

Казённых пазбягаючы авацый,
Сказаў аб тым,
што ўстала прада мной,
Залежнасцю прамой асацыяцый
З лагічнасцю рэакцыі цапной.

I,
выканаўшы шчыра абавязкі,
Магчыма, славу заслужу і я,—
Прыйдзі ка мне
вагой салдацкай казкі
І — сціпласцю паходнага рамня.

І над маёю ціхаю магілай,
Адваяванай будучыні дні,
Прашалясціце бэзавасцю мілай,
Прышліце водгалас з далечыні.

І,
не ўяўляючы вышэйшай долі,
Набуду неўміручасць без разца,
І ў ленінскім сусветным арэоле
Свяціцца промнем буду да канца.

## СУШАНЫЯ АРЭХІ

**Эпізоды жыцця**



Сінеюць заліўныя плёсы
Раздольна, як акінуць вокам,
І ранішні туман бялёсы
Над борам сцелецца далёкім.
А там, на зыбкім небасхіле,
Гне магістраль сваё калена.
Ды ўсе, хто ў добрай яшчэ сіле,
На перавоз ідуць нязменна.
Хоць на машыне можна ехаць,
А здаўна павялося неяк:
Дарма плаціць пяцёрку нехаць,
Паром жа — пяцьдзесят капеек.

Лагодзіць халадок ліловы —
Прадвеснік блізкага марозу.
Архіп — паромшчык адмысловы —
На рукі хукнуў, стаў да тросу.
Ды ад штодзённае натугі
І вочы засцяцца смугою.
Ён так нагледзеўся на дугі,
Нібыта сам стаў пад дугою.

Яго душу ўспаміны раняць,
Як ветру свіст між частаколін.
І лес стаіць, як навабранец,—
Пастрыжан чыста і паголен.
Гудуць вятры на сумнай ноцы,
Ды не таму душа залее.
Ён прыглядзеўся ў адзіноце:
Спускаюць лес — Дняпро мялее.
К парэнчам прысланіўшы спіны,
Мужчыны круцяць самакруткі,
А цёткі, сеўшы на драбіны,
Гатовы з іх не злазіць суткі.
Заняўшы рукі гарлачамі
І макатрамі з цёплым мёдам,
Не зварухнуць яны плячамі,
Паглыбленыя ў ціхі одум.
Дняпро грыміць, шыракагруды,
І — хлебасольна, і сэрцам шчырым —
Манет сярэбраныя груды
Ў прыгоршчы сыпле пасажырам.
Ва ўсіх іх — выгляд незалежны:
Вязуць збываць свіней, авечак.
І ў тлуме тым — зусім няўцешны —
Таўчэцца ціха чалавечак.
Архіп глядзіць — Змітрок Аблога!
Куды джгануў сваёй хадою?
Хмурынкі пеняць з дна рачнога,
Нібы даёнкі сырадою.
І глуха, як у падзямеллі,
Ён земляка гукнуў, суровы:
— Ну, як жыццё?
　　　　　　　　— Сядзім на мелі:
Адзін прыбытак, што з каровы.
— А як Аўмен, што жыў ля рэчкі,—
Яшчэ не выпетраў ад молі?
— Маўчы, браток: ён ставіць свечкі,
Налёг цяпер на багамолле.
Гешэфт з папом трымаць выгодна:
Паходзіць месяц — пуд ячменю,
І выпрасіць каня свабодна,
І пятакоў утоіць жменю.
— Са старшынёй няма рахубы?
— Умеў ляснічага расчуліць:
Пусціў набок чатыры зрубы —

Рубель кішэні не намуліць.
І, свой разглядваючы ногаць,
Закопчыў стоеным уздыхам:
— Вядома, грошы — як той дзёгаць:
Няма і — едзеш, брат, са скрыпам.
— А як там маецца Хадора?
— А што прыключыцца жанчыне?
Падсвінка біла пазаўчора,
І я пабыў на свежаніне.

Пакуль вяліся абгаворы,
Смуга адсоўвалася з даляў,
Лянелі хвалі ў ціхай зморы —
Памост бліжэў,
паром прычаліў.
Прайшоўшыся ля воза ўдосталь,
Апошні дзядзька з горкі з'ехаў.
Змітрок за ім паплёўся воддаль
З пудовым клуначкам арэхаў.
Там, за зялёнымі лясамі,
Стаіць сяло яго Бароўцы,
Куды, як кажуць людзі самі,
Не кожны пойдзе на вяроўцы.
Калісьці там — дай божа памяць! —
Усё па-людскаму вялося.
Прайшла вайны сляпая замець,
Скрышыла ўсё
і —
пачалося...

. . . . . . . . . . . . .

Пасля цяжкіх дарог салдату
Сустрэць балюча папялішча.
Ды не лягчэй вярнуцца ў хату,
Калі там вецер дзіка свішча.
Чаму? — дапытвацца не будзем —
Архіп спаліў бы надвячорак,
Як запусценнем і бязлюддзем
Сустрэў бур'яністы падворак.
Сеў на парог, прыгнуўшы плечы,
І — растрывожыў змрок прастуды,
І — два вугольчыкі ў падпечны
Мільгнулі — кот прабег прыблудны.
За шыбай у спакойнай далі

Адна наклюнулася зорка,
І —
    пацяжэлі ўраз медалі,
І —
    стала душнай гімнасцёрка.
У змрок калодзежнага зруба
Глядзела неба пустатою.
І на вяршыні цёмнай дуба
Крануў кажан лісцё густое.
І горкай памяццю згрызотнай,
Што асмужае небасхілы,
З'явілася аблічча роднай,
І бровы — ластаўчыны крылы.
Хадзіў у хлопцах год пад сорак
Ён, выбіраючы дарэмна,
І не злічыў бы, колькі зорак
Над галавой прайшло нядрэмна.
Не парасё — за раз не купіш:
Ледзь перад самаю вайною
Прывёў (пасмейваліся — з кукіш!)
З касою светла-ільняною.
І халасцяцкі быт трывалы
Не ўстояў перад ёй, малою:
Падлогу, сцены шаравала,
Пакуль запахлі зноў смалою.
Прагорклы, даўні дух махоркі
Адслоен быў духмяным кмінам,
Ды падаспеў і час той горкі,
Што стаў балючым успамінам.

Ад адзіноты недаўменна
Пабрыў, мінаючы сялібы.
Спыніўся толькі ля Аўмена —
Яшчэ свяціліся там шыбы.
Спакойна плёскалася рэчка,
Пачуўшы гутарку здалёку.
І хата — круглае яечка —
Дыхнула ўтульнасцю са змроку.
Расстанне з ім ён помніць добра:
Як выпраўляліся ў салдаты,
Напіўшыся, Аўмен харобра
Людзям хваліўся каля хаты:
— Вайна?
                Ну, што ж, і мы паслужым!

Я сотню немцаў анямечу!..
(Адстаў ён пад Дарагабужам
І прасядзеў вайну пад печчу.)
Каля дашчанага паркана
Па жэрдцы віўся хмель дасужы.
Учуўшы крокі, нечакана
Рвануў ланцуг сабака дужы.
Аўмен ускочыў мітусліва,
Нібы ўспароўшыся на шыла.
А жонка, гледзячы ліслівa,
Абрусам яйкі ўсё ж прыкрыла.
— А бог ты мой! А родны братка! —
Аўмен заенчыў і завохаў.—
Хоць я не з хілага дзесятка,
Ды і мяне сон напалохаў.
Кажу табе нібы на духу,
Здаецца, самая пятроўка,
А ты ідзеш у завіруху,
Ну, і ў руках тваіх — вяроўка...
Што да чаго — мазгі ламаю,
Нудзіўся з раніцы ў трывозе.
А сон нядрэнны — госця маю:
Як бачыш, сам ты на парозе...
Архіп — прамоўца не важнецкі,—
Прывыкшы вокам мацаць рэчы,
Пазнаў інструмент свой шавецкі,
Што тут з'явіўся недарэчы.
Аўмен заўважыў гэта. Кажа:
— Прыняў, каб не спягнулі дзеці.
Ты не падумай, што пакража.
(А ў клуні і прасторнай клеці
Стаялі цэбры, кублы, бочкі —
Скарб, што Архіпам быў нажыты,
А жончын кужаль — на сарочкі
Яшчэ вясной увесь расшыты.
І гаспадар з такой прычыны
Перад гасцём сумеўся трошкі.)
А той зірнуў на твар дзяўчыны,
Што моўчкі рыхтавала ложкі
І, узбіваючы падушкі,
Санліва пляскала рукамі,
І хахалок яе, што ў птушкі,
Уздрыгваў дробна завіткамі.
— Сваячка ў вас? — Дачушка Ніна.

Яна расце, а мы — старэем.
Пра ўборы думаць бы павінна,
Ды бачыш — спіны сонцам грэем.
Відаць, заведзена ад веку,
Што людзям хочацца прастору.
Пабегчы трэба чалавеку,
А чорт разбэрсае абору.
— Што чорт табе? Ты любіш бога.
— Ай, бог цяпер... Людзей пакінуў.
Відаць, браток, ты зведаў многа,
Як мы...
— Ды хопіць успамінаў.
— Не давядзі гасподзь нікому,
Каб калаціўся ў сваёй хаце.
Ты хоць далёка быў ад дому,
А я напетаваўся, браце.
— Яно відаць.
— Як той смалянцы
І пад падлогай і ў падпеччу.
Ах, каб гарэліцы па шклянцы,
Дык мы б адзначылі сустрэчу.
Перамігнуўшыся з Аўменам,
Пашыбавала з хаты жонка,
Аб лаўку бразнуўшы бязменам
І дзверы зачыніўшы звонка.
Маркотна цішыня звінела,
Здалося, ёй не будзе скону.
Адно з парожніх місак смела
Ляцелі мухі на ікону.
Святы Ілля сядзеў задумна,
Самотна тоячы абразу.
Аўмен, адкашляўшыся шумна,
Спагадны тон узяў адразу:
— Мадзела доўга твая баба.
Што ж зробіш, мой ты чалавечак,
Калі ва ўсіх з харчамі слаба...
Ты з'еў бы, можа, агурэчак?
Не бачым самі скваркі ў місе,
Цяпер у кожнага, Архіпка,
Яна — вада: хоць еш, хоць мыйся,
Даўно ўжо голыя, як ліпка.
— Нічога, гора невяліка,—
Сказаў Архіп, а сам прыкмеціў:
На воз лапцей надраў бы лыка

З той ліпы — многа на ёй вецця̆.
— Мукі б узяў, бо жыць без хлеба —
Якая ж гэта завядзёнка?
Паўпуда дам.
                    — Пакуль не трэба.
Устаў Аўмен. За ім і жонка.

Архіп падаўся ў сваю хату,
Хоць цяжка [redacted] цішай сустракацца.
Усе — спагадвалі салдату.
Усе — спяшылі парукацца.

Але спачынак быў кароткі:
Пабраўшы вілы,
                    граблі,
                              косы,
Людзей квяцістыя чародкі
Ў натоўп зліліся стогалосы.
А выган аж грымеў ад спрэчкі:
— Адкуль пачнём?
— Давайце з кліна!
— З лагчыны лепш!
— Хадзем да рэчкі!
І вось — шчаслівая хвіліна! —
Луг зварухнуўся ад гамонкі,
Загуў сярдзітымі чмялямі,
І дзеці, топчучы рамонкі,
Пабеглі ўскач за матылямі.

Лістрат — дзядок сівабароды,
Пчаляр ва ўсёй акрузе слынны,
Крапак вынослівай пароды —
Шарахнуў мокрыя сцябліны.
Наўзбок ішлі — Змітрок Аблога,
Салдатак цэлае вужышча
І сам Аўмен, пасля якога
Быллё ўставала, што іржышча.
Ці то з лянoты, ці ад здору
Касу ён нёс, як лук напяты,
І азіраўся на Хадору,
Каб не скубнула часам пяты.
Яна пракос свой гнала спорна,
Хоць збілася на плечы хуста,
І травы клаліся пакорна,

Расой усыпаныя густа.
Архіп ступаў ля Лістрацёнка,
Не зняўшы з пояса баклажкі,
І косы шоргалі, і звонка
Раз-пораз дзвэнкалі мянташкі.
Пад кустам прыслаціўшы боты,
Салдат шырока крочыў, босы,
І гнаў, сасмягшы без работы,
Вал двухметровага пракоса.
След гусенічны ў паўаршына,
Вадой размыты веснавою,
Нібы трывожныя ўспаміны,
Хаваў ён рослаю травою.
І калыхаўся луг шырокі,
І даль ад кофтачак бялела,
І неба блякла, і ад спёкі
Вярба над сажалкаю млела.

Схлыналі дні. Зялёны конік
Шумней куляўся ў душным сене,
І на бязлюдных падаконнях
За дзень стамлялася праменне.

Дарогай гулкаю, як бубен,
Скрозь замець сеннай пацярухі
Імчаўся рыссю Янка Клубень —
Чарнявы дзядзька аднарукі.
І конь падлечаны вайсковы
Пад старшынёй ішоў удала.
Глушэй зачаўкалі падковы,
Лагчына сонна заквахтала.
Учотчык Шмайчанок Мікіта
Бег напрамкі з сваім блакнотам.
— Ну, як тут?
— З клінам будзе квіта.
Кавалак скончым за балотам...
— Ох, мала, мала... Жыта спее...—
Не ўтоіў Янка ўздых глыбокі,—
Калгас з уборкай не паспее...
І, шорхнуўшы каня пад бокі,
Звярнуў у зараснік альховы,
Каб на сляпнёў зламаць галіну.
Адтуль — з зялёнай сваёй сховы —
Ён незнарок убачыў Ніну.

Пад млявай засенню салодка
Драмала, вызваліўшы грудзі,
І матылёк сачыў дрыготка,
Каб не спужнулі яе людзі.
Рашуча тузануў паводдзе,
Аж вецце сцёбнула па твары...

Стаяла сонца на зыходзе,
Клубіўся луг ад шызай пары,
І надышла хвіліна совам
Зноў вылятаць на паляванне,
Як пад густым кустом лазовым
Касцы сышліся на паляне.
На росных травах стылі косы,
Ноч сон нашэптвала дарогам,
І месяц, мерачы нябёсы,
За кожны стог чапляўся рогам.
Як рэха скрухі перажытай,
Што многіх з шчасцем разлучала,—
«У чыстым полі пад ракітай» —
Журботна песня загучала.
І так, як на траве прымятай
Вячэрнія блішчалі росы,
У словах тых, дыхнуўшых стратай,
Свяціліся людскія слёзы.
І перасмяглымі губамі
Напеў падхоплівалі ўдовы,
І над маўклівымі дубамі
Настой струменіўся мядовы.

Аблакаціўшыся карцінна,
Ля іх дзяцініўся Мікіта
І сам сабе ўсміхаўся — Ніна
Вяла свой голас сакавіта.
Не адставаў Змітрок Аблога,
Падаўшы сціпла голас звонкі,
Упершыню зірнуўшы строга
У твар сваёй змарнелай жонкі.
Жаль аб часіне незваротнай
У песню ўкладвала Хадора.
Архіп з задумаю маркотнай
Перажываў маўкліва гора.
Расчуліўся Лістрат плшывы —
Цяклі па шчоках слёзы дробна.

Аўмен, узяўшы тон фальшывы,
Гнусава песню вёў асобна.

Туман снаваўся ў наваколлі,
Як кучаравыя ягняты.
Дачка ў Хадоры на прыполе
Драмала, склаўшы ручаняты.
І песня ціха калыхала
Сон Веры чатырохгадовай,
Якая стомлена ўздыхала
Пад хусткай матчынай бардовай.
І засмучоны погляд маткі
Пяшчотна лашчыў сірацінү:
Нялёгка для ўдавы-салдаткі
Узгадаваць сваю дзяціну!

Заціхла песня — адгалоскі
У сіняй далечы раставлі.
Касцы гуртом ішлі да вёскі,
Траву вільготную таптвалі.
І толькі аднаго Аўмена
Было не бачна. Ён — апошні —
Пад пахай нёс бярэмца сена
І — падбіраў былінкі з пожні.

Так абжывацца стаў патроху
Былы салдат — Архіп цыбаты.
Знайшоў гарбатую трыногу,
Чыгун палуджаны шчарбаты.
Штовечар, расчыніўшы дзверы,
Над дымнай стравай чыхаў звонка.
Праездам міліцыянеры
Спыняліся: «Мо самагонка?»
Яму ж і без гарэлкі горка —
Сядзі, чакай самотнай ночы.
Бур'ян здзічэлага падворка
Скасіў, каб не мазоліў вочы.
Ды чалавеку халастому
Ў руках жаночых ёсць патрэба.
Раз, не сказаўшы анікому,
Сам напячы задумаў хлеба.
Стагнала печ страшней мартэна,
І ён, абліўшы галавешкі,
У гэта пекла задуменна

Кідаў буханкі проста з дзежкі.
А хлебнага не зведаў смаку:
Скарынка гэтак прыкарэла,
Што і галоднаму сабаку
Не раскусіць.
— Каб ты згарэла!

Ісці прыйшлося да Хадоры —
Устанавіць хаўрус часовы.
Яна збірала памідоры
У кошык зношаны лазовы.
— Ідзе ўдавец да удавіцы,—
Пажартаваў ён, стаўшы збоку,
І расказаў — чаго таіцца? —
Пра пірагі свайго выпёку.
Курыў.
І з роздумам глыбокім
Удовін двор абвёў вачамі:
Стаялі бочкі, цэбры бокам
З патрэсканымі абручамі.
Ён маладзіцы за паслугу
Паправіць посуд падрадзіўся.

Цяньком па скошанаму лугу
Падаўся ў гай.
А гай свяціўся
Ліствой крамянаю вільготнай,
І, як з пячнога паддувала,
У ціхай засені лагоднай
Твар цеплынёю абдавала.
І ў цёмнай навісі, і вонках
Быў кожны куст святочна ўвешан
Арэхамі густымі...
Гонкіх
На абручы насек арэшын.
Дамоў, забыўшыся нібыта,
Ішоў, адводзячы галіны.

Над рэчкай Ніна і Мікіта
Пілі з навузы мёд чмяліны.
Архіп узбоч маўчком падаўся
З цяжкой арэхавай вязанкай,
Дзе на адным дубцы матляўся
Спарыш, зняважаны маланкай.

З варштата абмахнуўшы смецце,
Архіп бандарыць, невясёлы,
А ля расхрыстанай павеці
З абножкаю снуюцца пчолы.
Паставіў ёмкі цэбар бокам
І, к вушаку прыпаўшы вухам,
Па клёпках і па дне шырокім
Пастукаў лёгенька абухам.
І вось пасудзіна пустая
Азвалася забытым гулам,
І звон брынклівы нарастае,
Збудзіўшы думкі аб мінулым.
Сушыць распаранае века
Хадора вынесла пад ліпу.
— Што ж не шукаеш чалавека? —
Дазнацца хочацца Архіпу.—
З тваім здароўем сум развееш,
А што было — дык прамінула.
— Гаршка разбітага не склеіш,—
Яна сама сабе ўздыхнула.

Здзіўляцца стала маладзіца,
У ім адкрыўшы рысу гэту:
Не раз ён позна засядзіцца,
Скурыўшы ледзь не ўсю газету.
Прыносіць для маленькай Веры
Маліны жменю ці парэчкі,
А выпраўляецца за дзверы —
Нібы ў руках праносіць свечкі.
Самоце добрага суседа
Паспагадаць Хадора рада,
Але гаворка — не бяседа,
Але каханне — не спагада.
Хай маладосць адкаласіла,
Хай налілася спелым жытам,—
Ёсць у руках жаночых сіла,
Як напамін аб перажытым.

Салдаткі спорна жыта жалі,
Прыйшоўшы ў поле на дасвецці.
Снапы на пострацях ляжалі,
Як закалыханыя дзеці.
А галубы ў блакітным небе
Плылі высока над дубамі,

І думы жней аб мірным хлебе
Нясліся ўслед за галубамі.
О, родных, спелых ніў прыволле!
Прыждала ты сваёй хвіліны —
На серп зублёны мімаволі
Кладуцца ломкія сцяблiны.
Да сіняй далечы прасцёрта,
Шумліва жыта лічыць колас,
Густое, частае, як бёрда,
Ажно ў ім блытаецца голас.
Нябёс крануўшыся шаўковых,
Лунае звонка сугалоссе,
Што ад званочкаў жаўруковых
З пары вясновай засталося.
Ад недасыпу па-сляпому
Шырокі вецер хвалі гоніць:
Зямля-карміцелька любому
І сілу дасць, і боль загоіць.
На ўвесь размах, па-маладому,
Жанчынам ёсць дзе разгарнуцца:
Касу — вянком, хусціну — долу,
А серп — агонь:
не датыкнуцца!
Прасцяг, разгойданы рукамі,
Смугой праменнаю спавіты,
І перазваньвае званкамі
Світальны шэлест сакавіты.
Ах, ці даўно жыла, як пела?
Ах, як магла накрасавацца!
Заплюшчыць вочы не паспела —
А ўжо ніколі не дазвацца.
Бывала, ён ідзе дадому —
І даль святлей, і вышай неба,
І лёгка так, што анікому
І шчаслівейшым быць не трэба.
А першы сноп няслі ў зажынкі
Ды па зялёненькай дарожцы:
На чыстым небе — ні хмурынкі,
А ўсе ў вянках, як пераможцы.

Смуга струменіцца ў раздоллях —
Ані мяжы табе, ні вешак.
А сэрца? — сэрца на вуголлях,
А ў зрэнках — чад ад галавешак.

Саскочыў зайчык з меднай пражкі
І — ходу: рупіцца Аблога!
А дзеці — цёмныя мурашкі —
Снуюцца дзень каля самога.
Па пояс голы і без шапкі,
Парадчыць воз — раўняе крылы,
Яны ж снапы валочаць з бабкі
Маўчком — ды колькі гэтай сілы!
Убіўся конь у пырнік пысай,
Гужы рыпяць гарачым скрыпам.
Гудуць сляпні. Патэльняй лысай
Блішчыць Лістрат — яны з Архіпам.
Ім што! Бабыль і дзед бяздзетны,
А тут старайся галавою,
Як і рукамі: апраметны,
Паспеў абсыпацца дзятвою.
Даўно забыўся, калі костка
Была ў гаршку, як у Аўмена.
А той спрабуе, як загвоздка,—
Мацуе, стаўшы на калена.
— Пара палуднаваць! — гукае,—
А то рассохнуцца пампушкі!
І ў торбе нечага шукае
І для сябе, і для дачушкі.
Яна выпростваецца спрытна —
Сасмягла б, стоячы яшчэ б там.
А бацька суне нешта скрытна
І —
на мігі даводзіць шэптам.
Пад возам, сціснутым вяроўкай,—
Змітрок з сям'ёй. Усе заняты:
Малыя цешацца маркоўкай —
Грызуць, як тыя трусяняты.
Лістрат з Архіпам нелюдзімым
Адным абходзяцца кісетам
І ўволю душы грэюць дымам,
Суладнасць маючы пры гэтым.
— Вось ты разваж — раяцца пчолы.
Чаму?
А матка завялася.
І лад у іх, і гурт вясёлы,
Як у дагледжаным калгасе.
Пчала навобмацак блукае
І слепа б'ецца, недарэка,

Пакуль сабе не адшукае
Кірунку — так і ў чалавека.

Дастаць каромыслам да сонца
Магло дзіця даўно, як Ніна
Піла бярозавік і з донца
Сабе ўсміхалася нявінна.
Гарлач ад душнага дыхання
Цямнеў, рабрысты і няўклюдны,
Звінеў, як ціхі шэпт кахання,
Для слыху іншага не чутны.
Вяснушак след на пераноссі
І ў кроплі — як на дне шкарлупкі —
З-пад пераглнутага калосся
Бялелі ядраныя зубкі.
Чаго ж ён, круглы скавароднік,
Ля носа круціцца фартова
І гэтак горнецца, нягоднік,—
Расшнуравацца ўсё гатова.
Не разумней якой малечы —
Такі тапор без тапарышча!
А што яму? — Гармонь на плечы
І — вёрст за дзесяць на ігрышча.
Жыруе, ёлупень паганы,
Пакуль не злезе трохі ворса,
Як быццам сам ён без заганы,
Калі ля ўдоў чужых пацёрся.
Хоць разам бачыць іх прывыклі,
А ўсе спыняліся ў здзіўленні,
Калі на порсткім матацыкле
Дамчаў учора да праўлення.
Падобны ртуці вочы-мышкі,
Да губ абвіслых — чуб лахматы.
А Клубень:
— Скінемся ў карцішкі?
А сам ён:
— Зрэжамся у шахматы!
Адзін — вядзе фігуры левай,
Другі — падпёр рукамі цэбар,
А ты — бязвольнай каралевай —
Чакаеш: не дайшло б да рэбер!
— Куды ты зноў падставіў пешку,
Пакуль я скручваў папяросу?!
— Япа ж стаяла там.

— На плешку
Цябе ўганю — не вытраш носу!
А конь стаенны недарэмна
Адчуў спагаду нюхам звычным
І звоніць цуглямі — прыемна
Ў суседстве фыркаць з матацыклам.

Гром
водгуллем парожніх бочак
Напоўніў гулка далячыні.
І ўняўся. Месяца зубочак
Ледзь праразаўся ў аблачыне.
Нябёс вятрыстае бяздонне
Паглыбіў самалёт агнямі,
І пушчы змрочнае сутонне
Завалаклося туманамі.
Змітрок, прыкінуўшы, што многа
Тут выбіваецца асоту,
Гукнуў дзяцей стамлёных строга
І — падсадзіў на воз басоту.
А жонка — з вечным тым адчаем —
А каб паспець, каб не спазніцца! —
Уподбег бегла з малачаем,
Аж целяпалася спадніца.
Ступалі жнеі па дарожцы,
Боль аддаваючы мурожцы,
І ўсе травы няслі па ношцы
Сваёй карміцельцы-кароўцы.
Перакідацца б да налецця,
А там жыццё само пакажа,
Ці застанецца што і ў клеці
Да коцікаў вярбовых — скажа.
Прыгоршчы жыта, сена вехаць
Умей дзяліць якую пору...
— Ой, мама! Я хачу праехаць,—
Дачка цярэбіць тут Хадору.
Змітрок ужо быў замахнуўся,
Ды прытрымаў: — Садзі з маімі!
І рушыў свет, і калыхнуўся,
Зайграўшы фарбамі зямнымі.

Глядзі на свет! Зарой шырокай
Ён асцярожна пазалочан,
І птушка, ўзмыўшы над затокай,

Ляціць праз луг, што забалочан.
Дарога, стомленая пылам,
Бяжыць узлоб'ямі і прама,
І разам з дальнім небасхілам
Плыве лясоў зубчатых рама.
І трактар, што ля завароткі
Шырока бліснуў лемяхамі,
Нібы разгорне ў міг кароткі
Гармонь з шаўковымі мяхамі.
Воз дрогка б'ецца каласкамі,
Па-свойму славячы надвор'е,
І можна смелымі рукамі
Дастаць алмазныя сузор'і.

Лістрат узгробся на сталюгу,
Узняўшы доўгі шнур з адвесам.
Пчаліны звон плыве, як з лугу,
Ад верасоў, схаваных лесам.
Архіп з пілой прынараўіўся
Унізе, сплюнуўшы цыгарку.
І дзед на елку пакрывіўся:
— О, то б яе на цыркулярку!
Запахла цёплаю смалою
І — непазбежнасцю. Хвіліна —
Стальныя зубы з прагай злою
Мільгнулі — войкнула яліна.
Апілкі дробнаю крупою —
На шыю, грудзі і калені.
І вось ужо без разнабою
Пульсуюць маятнікі-цені.
Піла — штуковіна жывая,
Не ўсім даецца яна ў рукі.
З узмахам кожным адбівае
І твой настрой, і тваe рухі.
Паклаўшы хусту на галінах,
Спыніцца сонца хоча трошкі,
Даць цеплыні для хат пчаліных —
Для іх пілуюцца і дошкі.
Непадалёк на паграбеньцы
Лянiва курыца сакоча,
І ветрык, адчыніўшы сенцы,
Па хаце ходзіць, дзе захоча.
— А што было! — Лістрат успомніў,
З сталюгі звешваючы ногі

І засланіўшыся ад промняў.—
Ні табе свету, ні дарогі.
На тры гады абселі злыдні,
Паелі ўсё — няхай іх чэмер! —
І ледзь не на апошнім тыдні
Да нас з'явіўся нейкі Клемер.
Ціхоня, быццам з самых добрых,
За ім салдаты козлы носяць;
Ці то кіношнік, ці фатограф:
Вады і то напіцца просіць.
Па вёсцы неяк ён цягаўся.
Зайшоў. Не бэкае пра сала.
І тут баранчык абазваўся
З гарышча. Божа! Што тут стала!
Гіргоча, гад. Бягуць салдаты.
Падобны ўсе на ваньку-ўстаньку.
А я сяджу і чую з хаты:
Нясуць далоў майго бараньку.
Ажно танцуюць ля парога,
А я маўчу ды вокам кіну.
— Чаму,— пытаюць,— дошак многа
На хаце?
— Ат, на дамавіну.
— А ты ж адзін цяпер,— гіргоча
Старэйшы іхні і — калдуе.
— А можа, хто раней захоча,—
Кажу,— дык я не пашкадую.
У белых споднiках (ды самі
Знайшлі!) становяць ля паркана,
Надзелі пояс з кутасамі
Паверх кашулі саматканай.
Паставяць так, пасунуць гэтак
І, каб усе мяне пазналі,
Бараньку — тыц!
Сабралі дзетак,
Што тут круціліся, і — знялі!
Жанчынам шнапсу даў па стопцы,
Каб спелі песні і частушкі.
А вёрст праз дзесяць нашы хлопцы
Спалілі іх і тыя стужкі.
Як бачыш, роль і мы ігралі,
Хоць не скакалі і не пелі.
— А што з баранчыкам?
— Забралі,

Але ўжо з'есці не паспелі.
Вось так і ўсе бясследна кануць,
Што ласы на дабро чужое.
Ці, можа, зноў які паганец
Ашчэрыў зубы за мяжою?
Ён, можа, чуючы магілу,
Не лепш за немцаў, самураяў?
Ці не?
          — Я бачыў нашу сілу
І — нас чапаць я б ім не раіў.
— Ну, лезь наверх. Лягчэй там трохі.
І — паглядзі: пазнаеш хіба,
Хто там стаіць сярод дарогі?
— Упаўнаважаны Кандыба.
— Змакрэла ўся твая рубашка,
Хоць малады — даеш ты чосу:
Не налягай адразу цяжка,
Дык і не будзе перакосу.
Адна піла, а рук чатыры,
І ты злаўчайся асцярожней,
Каб як на добрых вагах гіры —
Была ў цябе нагрузка кожнай.
Часцей мяняцца трэба, ведай,
І — будзе толк! А дзе той гівал,
Што на дрындушцы ездзіць гэтай?
Няўжо сюды ідзе, нячывель?
І — Клубень з ім...

                    — Братва, здарова!
Не б'е каўказскіх пчолак трасца?
Як з мёдам?
               — Пчолка — не карова,
Каб кожны дзень даіць: не дасца.
— А ты дымком, дымком, старэча!
Чаго над імі гэтак сохнуць?
— Ад дыму не расце малеча,
А возьмеш мёд — усе падохнуць.
— Давай, давай! Каго не джаліў
І труцень гэткаю парою?
Сябе гасціннасцю не ўмаліў
Ніхто часінаю такою.

І ногі — гнуткае палоззе —
Ужо бяруць кірунак самі

Да вішняку, дзе на выгодзе
Гамоняць пчолы, як басамі.

— Ну вось і енчыў ты дарэмна:
Там мёду многа — жыць павінны.
Чаго туляцца патаемна?
Хадземце ў дом, што ля вярбіны.

Сабака еў з лаханкі новай,
Не пабрахаўшы ў гэты ранак.
Яго цурубалкай дубовай
Сам гаспадар турнуў пад ганак.
— Заходзьце, госці. Вельмі рады.
— Ну, як жывецца?
— А — патроху...
— Даўно з прымацкай вылез хаты,
І ёсць прыварак да гароху?
— Які там хлеб, якое мліва,—
Закончыў скаргаю знаёмай
І ў хату ўносіць сарамліва
Глячок, заторкнуты саломай.
— Хіцёр! Запас бяды не чыніць,—
Шаноўны госць разводзіць рукі,—
Хоць — па закону — ты злачынец,
А — маладзец! Глынём сівухі!
Паслухай, Клубень: ты тут свойскі,
Каб шчупаком трапляць у нерат.
Ты скалаціў актыў геройскі —
Дай ход яму! Вядзі наперад!
— Актыў — астыў,— пчаляр азваўся,
А гаспадар каля прыпечка:
— А ты маўчы — мудрэц узяўся,
А вам вось — свежае яечка.
— О, густ мой ведае таварыш,
Дык дзюбнем трохі для пачатку.
Я бачу — кашу з вамі зварыш,
Але скажу ўсё па парадку.
Правал, Янук. Ратуй суседа.
Ён сапсаваць нам графік можа,
Табе ж аддзякуем за гэта,
Машыну выдадзім за збожжа.
У нас цяпер раён, як вока,
І, зняўшы гэту катаракту,
Наперад глянем мы далёка!

— А з пчолмі што?
— Спісаць па акту!
Займі чым-небудзь свайго дзеда,
А то пад носам будзе хліпаць
І — сапсуецца ўся бяседа.
Салдат, а ты — не хочаш выпіць?
— Давайце,— сунецца з услону
І, крактануўшы, дзель канчае.
— Скажы, браток, як — па закону —
Салдат салдата выручае?
Канчаецца ўжо нарыхтоўка,
А ваш сусед — дзяржаве вінен.
— Каму паручана вінтоўка,
Той і глядзець яе павінен.
Адвёў фіранкі край кісейны,
Штурхнуў акно — абвеяць грудзі —
І — пагразіўся:
— Фонд насенны
Засып жалезна ты!
— А людзі?
— А ты ім болей бульбы выдай,
Дык пражывуць і з агародаў,—
І старшыня з трывогай скрытай
Перасмыкнуўся аж:
— Уходаў!
Над анямелымі палямі —
Шпакі.
І кінулася ў вока:
Вось тут — над цёплымі скрылямі —
Пчала кружыла адзінока.
Зайшла дачка, каля парога
Падэшвы ног абцёршы босых,
І, не спытаўшыся нічога,
Адзначыў госць:
— Нічога носік!..
(За падаконнем — той, абсевак —
Аж загарлаў, каб ён апрогся:
— Ой, не хавайце, маткі, дзевак...
Ды, дзякуй богу, скора змогся.)
— Янук, а ты не выбраў жонку?
Каб мы за стол па-брацку селі —
Здай хлеб, бяры паўтаратонку
І, як гавораць,—
да вяселля!

І ўсё пайшло наперад звычна.
Ды неяк надвячоркам сінім
Матор зачахкаў дыхавічна,
Запахла вуліца бензінам.
Праз ноч караваю бязрогай
Стаіць машына каля дуба,
І перад новаю дарогай
Яе агледзець цёткам люба:
— А што — яна не растрасецца?
— Залазь! Машынай — не пяшэчкам...
— Шкада, мая ўжо не нясецца,
А то б...
— Ой-вой, а я куды з мяшэчкам?..
А збоку дзетак, як цыбулі,
І ўсе крычаць, усе тармосяць;
Даўно забыўшыся на гулі,
Сваё загадваюць і просяць.
Ох, з дзецьмі тымі — толькі збыткі,
Адно ад іх і чуеш зранку:
— Карандашы!
— Пеналы!
— Сшыткі!
— Буквар!
— Задачнік!
— І чытанку!
Гусак, гатовы на закланне,
Глядзіць з каша туманным вокам,
А з ім — ахвяра заляцання,
Што гневам душыцца глыбокім,—
Пявун.
Мікіта — насцеж дзверку:
— Не абярніце там каністра!
Сеў, і ў надтрэснутым люстэрку —
Свой нос, задраны ганарыста.
Даў газ.
Дразды дзяўбуць рабіну,
Галлё аб шкло зацерабіла,
І нехта грукае ў кабіну:
— Пастой! Пастой! Курэй забыла!..

Густы туман радзеў паволі,
Настылы золак разгараўся.
За ўсіх раней — адзін у полі —
Аўмен ля сеялак стараўся.

Вы спаць ляглі, зярняты-дзеці,
Пад шэпт начэй маладзіковых,
Разбудзіць маці на дасвецці
Вас — яснавокіх і талковых.
І схамянецца яе ўлонне —
Такія хлопцы — глянуць люба:
Па звонкім жаўранку ў далоні,
І ўсе смяюцца светлазуба.
Ды так ідуць, каб болей сіні
Адчулі людзі над сабою.
Ад чорнай здрады колас гіне,
Як чалавек на полі бою!

Аўмен, ніжэй нагнуўшы карак,
У шэрым змроку непрыкметны,
З дачкой, трымаючы ліхтарык,
Ішоў у хлеў свой запаветны.
З карыта выкінуў каменьчык,
Кныр — рохнуў: цеста чуе нюхам.
— Знімі, дачушка, свой грабеньчык,
Шкрабі, шкрабі яго за вухам.
Дастаў з кішэні спелы жолуд:
— Еш, папраўляйся, парасятка:
Задушым, як настане холад,
А солад ёсць у нас, дзіцятка.
І свой набытак не куплёны,
Чужым ніхто не разжывецца.
Ты прыглядзіся — хмель зялёны
І па сухой жардзіне ўецца.
А старшыня наш — хлопец слаўны,
З ім пасядзець не палянуйся.
Вядома, ён не вельмі спраўны —
Не падпускай, але пільнуйся.

На жэрдках сохне канюшына,
Стаяць кулі саломы чынна,
І ледзьве фыркнула машына,
Імпэтна выскачыла Ніна.
Каб гэта ж ведаў — даў бы многа! —
Ці сам, ці фарамі міргае
І — за мяжу святла начнога
Ступіць нясмела памагае?
Рыпіць пясок вільготны хрустка,
Бяруць пад паху яе цені,

На галаве бялее хустка,
І — падгінаюцца калені.
Даўно прадвызначан кірунак —
А ці для шчасця, ці для гора?
І хустка — першы падарунак —
Панікла, быццам флаг пакоры.
Шчака дыханнем абагрэта,
Мільгаюць зоры летуценна,
І —
    цішыня...
                Згадаўшы лета,
Маўчыць зняможанае сена.

Дасветак прыцемкам нясмелым
Халодна вочы назаляе,
А на папары здзірванелым
Шырока вогнішча гуляе.
Туман — клубы вільготнай ваты —
Плыве над вёскаю задамі.
А побліз дуб каржакаваты —
Чутно — гамоніць жалудамі.
Хоць далячынь пакуль імгліста —
Яна звініць званчэй падковы.
Прад ёй усталі цвёрдаліста —
Дубочкі.
            Дзеці Змітраковы,
Чым-небудзь атуліўшы плечы,
Без перапынку носяць дровы,
Шугае полымя, што з печы,
Зялёным пошумам дубровы.
Золь у вачах струменіць шэра,
Вісяць гузы кішэняў поўных,
І падышла сіротка Вера.
— А вы чаго тут?
                        — Мы пры конях.
Рабіна — горкая з уцехаў —
Пры ёй.
            — Кладзі сюды рабіну.
— Насыпце, хлопцы, ёй арэхаў.
— Мы абшкрабём табе бульбіну.
— А бачыш — конь які прыгожы?
— А я б узлезла, ды баюся!..
— Не бойся, гэта конь харошы —
Ваенны конь!..

— А я звалюся.
— Конь сам прыбег сюды з салдатам...
— Салдат памёр...
— А конь застаўся...
— Узят быў старастам кашлатым,
Калі калгас наш распускаўся...
— Конь збег...
— Дык дзіва што — ваенны!..
— Ну, а яны — схаваў настаўнік...
— І ўсю сям'ю запёрлі ў сцены...
— А ён быў тайным партызанам...
— Кідалі голых на дзядоўнік...
— Мы ў кузню збеглі на жалезе...
— Шпакі схаваліся ў шпакоўнях!..
— А дзе ваш бацька быў?
— У лесе.
— А дзе настаўнік той?
— Забілі.
— А злыя людзі?
— Знойдуць скора.
— Ага, а мы сказаць забылі —
У хаце іх цяпер кантора.
— Ды ты зусім яшчэ малая,
Каб калатэчу помніць гэту...

І Вера ўжо з каня махае:
— Пусціце — я сама паеду!

Шынель накінуўшы на плечы,
Архіп праходзіць задуменны,
Глядзіць праз голле ў глыб сінечы
На месяц — белы блін ячменны.
Прысядзе, золкімі рукамі
Запаліць зыркую запалку,
Ружо з іржавымі куркамі
Ля ног паставіўшы, як палку.
А вецер пройдзе над такамі
І засмучоны прыйдзе нейкі:
Не адгукнуцца пад нагамі
Зярнят прасыпаных капейкі.
Неасцярожны скрып драніцы,
І ён спыняецца ў здзіўленні:
К аднапрызыўніку з сяніцы
Мільгнуць асветленыя цені.

Змітрок — не разгінаўся нібы —
Мільгае секачом, без шапкі,
А дзеці — ажно звоняць шыбы —
Цярэбяць хрусткія ахрапкі.
Жмут часнаку, цыбулі вязка,
Сланечнік — дзецям для пацехі —
І — вечароў зімовых казка —
У белых торбачках арэхі.
Нялёгка людзям разжывацца,
А колькі будзе гэткіх ночак.
І неяк добра прыпыняцца
Ля хаты — дзе снуе чаўночак.
Яго зрабіў для удавіцы
З засохлай цітаўкі ён летам:
Што ж, маладосць не расшуміцца,
Не забуяе майскім цветам!

Стаіўся змрок у завуголлі,
І, звонка выскачыўшы з печы,
Ля ног закруціцца вуголле —
Прадвесце радаснай сустрэчы.
Каго чакаць? Не знойдуць дзверы
Ні пастаялец, ні начлежнік:
З-за непрадбачанай вячэры
Не разварушыш качарэжнік.
Мароз прымерыўся суровы,
Як лепш падняць з падвалін сцены.
Пасекла яблыні на дровы,
Што змерзлі ў год перадваенны.
А што яму? Вусач бядовы,
Гукне — ды коўзацца па лёдзе,
Падкіне кантар трохпудовы,
Дубы шчапае на абоддзе.
У юшкі грукне холад звонкі
І — зноў выпeрадкі ў поле,
І матылі з жывой саломкі
Аж закалышуцца ля столі.
І насцярожаныя цені
Гусцей збіраюцца на бровах,
І толькі чутна шалясценне
Старых фіранак папяровых.
Гучыць паціху самапрадка,
Кудзеля — як на каравуле,
І спіць памочніца-дзіцятка

Пад манатонны шорхат шпулі.
Ад промня ўспыхнула падлога —
Дачка ўсміхнулася, здаецца,
Як быццам зайчыка жывога
Прынёс ёй бацька, і — смяецца.
І дзень за днём усё няструмней
Мільгае сонца-матавіла,
І з чысціні суровай зімняй
Напрасці пражы наравіла.
Узор марозных кветак тае,
І маладзіца ставіць ставы,
Калакалуша зацвітае,
Пялёсткі сыплючы на ставы.
Няхай нацешыцца малое
І паглядзіць яшчэ на ткаллю,
А будзе ёй жыццё такое,
Што хопіць шоўку і паркалю.
Хай паглядзіць, што маці дзеўкай
Вось так магла, вось так умела,
Што чаўначок з гарачай цэўкай
З рукі ў руку мільгае смела.
Пчала пылок мядвяны пыліць,
Гамоняць кветкі з гладышамі,
І зіхатлівы стук набіліц
Аж падбадзёран панажамі.
Ніты — жытнёвыя сцябліны —
Перасмыкаюцца за бёрдам,
І белы цвет, і звон пчаліны
Гучаць прадуманым акордам.
Навой — бясконцая дарога —
Абкручваецца губкай спорнай.
Каб разгарнуўся ля парога,
То стаў бы ён трубой падзорнай.
І ластаўчыных крыл мігценнем
Таго атуліш, хто — праз годы —
Да шыб прынікне тонкім ценем,
Каб тут застацца назаўсёды.
І, працягнуўшы з болем рукі,
Яму — кармільцу-абаронцу —
Як быццам не зазнала скрухі
І зноў пад бровамі — па сонцу! —
Ты — выдыхнеш нячутна:
— Родны!
Я не магу цябе пакінуць:

Я столькі год нясу палотны —
Да чыстых ног тваіх дакінуць.
Сагнала сонейкам ільдзіны,
І столькі ласкавых дарожак:
Перастуні ж ты, мой адзіны,
Праз свой высочанькі парожак.
І гэтак светла пасля ночы
Смяюцца ў садзе нашым птушкі.
Дык паглядзі ж хоць раз у вочы
Сваёй крывіначкі-дачушкі.

Старанна вымеўшы з-пад кросен
Зімы папрадкавае хлоп'е,
Ішла і гэта з ціхіх вёсен,
Хусцінку ссунуўшы з надлоб'я.
Адной рукой нясла палотны,
Другой — бярозавенькі пранік
І басанож — у зуд халодны —
Ступала ў вымаінах ранніх.
І, губкі ўскінуўшы на кладку,
Адну разгорне — хай падсохне.
І, як вядзецца, упрысядку
Наўзмаш пялёхне ды пялёхне.
Аж толькі свечкі са сняжніцы,
Аж певень пахіснуўся [redacted] плотам —
У сіняй лужы ля сяніцы
Разгледзеў зернетка пад лёдам!
Ого! Знаходка ў добрым часе.
Ён дзеўбануў, прабіўшы плёнку.
Вада цурком як палілася!
Ён — ходу! Хваля — наўздагонку.
Ён — угрунём, другія збоку
І — напярэймы. Ён — падлётам.
Паехаў снег, і ён з падскоку,
Ажно кіпцямі зросся з плотам.
І страх калоціць недарэку,
Ды хітрасць ёсць яшчэ ў запасе —
Захлопаў крыллем: — Ку-ка-рэ-ку!
З мяне вясна зноў пачалася!

Палотны сівераюць хутка
У зялёнай золасці сняжніцы.
А прыглядзішся, і ціхутка
На вербах шэпчуць завушніцы.

Ураз аблыселі франтоны,
Пад вільчык ластаўкі снуюцца,
І ля шпакоўняў — гвалт законны:
Зноў вераб'і з шпакамі б'юцца.
Нябёс нішчымныя барозны
Глядзяць з раз'езджаных калюжын,
І тоіць водар меданосны
Нясмелы цвет калакалушын.
Хрушчы — сляпенькія істоты —
Снуюцца шумна вечарамі.
І салаўі з густой лістоты
Ўсю ноч не моўкнуць за дварамі.
Сабак — вясковых пустабрэхаў —
Злуюць сабе для зубаскальства
Падлеткі.

Бацюшка прыехаў.
Каму — гультай, каму — начальства.

І вось пад небам васільковым
Перасялялася за рэчку
З аблічам стомлена-васковым
Дзіця, падобнае на свечку.

Душу, здаецца, нахалодзіш
На золкай дзятліне, а трэба —
Штодня ўзіраецца калодзеж,
Як жураваль адлётны, ў неба.
Не паляціш за вольным клінам,
Як бы вятры ні гаманілі:
Стаіць нязменным напамінам
Дачушка — пальчыкі ў чарніле.
Яшчэ далёка да навукі,
А ўжо стараецца малое.
З халодным жвірам мые рукі,
Што пахнуць слівавай смалою.
Аўмен цяпер — не падступіцца:
Друг старшыні — як хто спытае.
А Кубень стаў вады напіцца,
І — вецер чуб яго гартае.
Знянацку плеснуўшы вадою,
Бы зноў абсунуўся ў прадонне:
Ці сон, ці ява? — Зніклі людзі,
А наўзгалоў тапочуць коні.

І сам яшчэ ў галопе смелым,
Але размах з адцяжкай слабы.
І стала неба бела-белым,
А ў ім — пакручваюцца жабы.
І ўсё... Шукай другога, шашка.
Пусты рукаў — таму адзнакай.
І ён, аддыхаўшыся цяжка,
Аддаў вядро Хадоры:
— Дзякуй.
Калодзеж тут — заместа клуба,
Дзе ўсе збіраюцца навіны,
І памянташыць цёткам люба,
Што патаўсцела станам Ніна.
Крануць усіх, нібы знянацку,
І горнуць к аднаму карыту
Яе ухвацістага бацьку,
Кандыбу, Клубня і Мікіту.
Усё, што зробіш пры народзе,
Не ўтоіцца і зернем звялым.
І то сказаць — спектакль, дый годзе,
Хоць і з няведамым фіналам.
І толькі стрыманае сэрца
Жыццёвай сажы не кранецца.
Ах, як дубовае вядзерца
У чыстым зрубе баўтанецца!
Зноў жураўлю прывычна гнуцца —
Спіну выпроствае са смакам.

А камары чаго таўкуцца? —
Таксама хочуць булкі з макам.

Здаровы будзьце, дзед і рэпка,
З натугай даўняю на твары!
У жытніх калівах свірэпка
Буяе — быццам на папары.
— Чаму? Чаго? — скрыпяць шаптухі.
І вось, надзеўшы ўбор шчыгульны,
Снуе Мікіта віславухі
З канца ў канец:
— На сход агульны.
Як бочка з брагаю — кантора
Сярдзіта дыша. Насцеж — дзверы.
Ля вушака стаіць Хадора,
З рук не спусціўшы сваёй Веры.

Аўмен не лез ніколі ў спрэчку
І тут уцяўся: — Я з краёчку.
І прысутоніўся ў запечку,
Прыткнуўшы шапку на кіёчку.
Прысеў Архіп з абліччам хмурым,
Змітрок, на выдумкі не здатны.
І плавае пад абажурам
Чад тытуню — як дым гарматны.
Камар ляціць у просвет форткі,
Пазнаў свайго. Звініць вясёла.
Кандыба, не па ўзросту вёрткі,
Махнуў рукой: — Адстань, назола!
Далонь на стол паставіў брыжам
І з-пад расшпіленай ватоўкі
Медалем бліснуў: — Так запішам —
Пункт першы. Хлебанарыхтоўкі.
Нібы уласную абразу,
Прыняў Кандыба гул няпэўны:
— Цішэй, цішэй, не ўсе адразу.
— Дазвольце мне сказаць пра пеўня.
Усе зірнулі на Лістрата.
Сход пацішэў.
— Пра што?
— Пра пеўня.
І нехта хмыкнуў хітравата:
— Ты, дзед, не выспаўся, напэўна.
— Давай!
— ...Жыў певень-валацуга.
Любіў пшанічныя зярняткі.
А тут зіма, з харчамі туга,
І — ані бацькі, ані маткі.
І, можа, не знасіў бы грэбень —
Вясна ідзе. Паправіў шпоры.
І ўцяміў, быццам сонца ў небе
Дастаў і кінуў у разоры.
Раскукарэкаўся на плоце,
Ажно на ўсё заплюшчыў вочы.
А наш ратунак — у рабоце
І — у сумленні...
Сход рагоча.
— Уйміце там сваіх свісцёлак.
— Скажы, Архіп!
— А што Архіпу?
Узяў тапор, узяў свярдзёлак

І можа ўсё — хоць вудзіць рыбу.
— Змітрок, здаецца, нешта скажа.—
І той зблажэў, як з перапуду,
Аж праступіла з шыі сажа:
— З людзьмі пастыліцца не буду.
Як айсберга цяжкая глыба,
Плыў дым у бэзавых адлівах.
І ўжо не мог стрымаць Кандыба
Хрусценне пальцаў нецярплівых.
— Што за пасіўнасць? Што за слоўцы
І двухсэнсоўнасць? Што ўсё значыць?
Мы не пагладзім па галоўцы,
Хто перспектыў не ўмее бачыць.
Хадора не ўтрымала:
— Досыць!
Па горла сыта ад навукі.
Не ноччу крадуць — днём выносяць,
Але — умеюць вымыць рукі.
Даверыш злодзею такому,
Які з яйца адліць умее,—
Не хопіць ста вачэй райкому
Глядзець за гэткім...—
Сход нямее.
— Мы ж ведаем, хто жыта сеяў.
Цяпер маўчыць, як кілаваты.
Хоць ён скупей усіх сугнеяў,
Ды не міне начальства хаты.
Умее ўгодліва патрапіць
Заўсёды чаркай-скваркай...
Ніна
Усмешкай вялай Клубня вабіць —
Той моршчыцца, як ад бензіна.
Аўмен устаў, нібы спрасоння
Расслухаў пошапт выпадковы:
— Пра чым тут я? Стапталі коні.
Былі ж там дзеці Змітраковы.
Якраз на спаса, у нядзелю,
Бульбянішча ён з жонкай поркаў.
Ну, а яны не даглядзелі.
Вядома што — дзяцей наторкаў...
І гул — без вытрымкі і ладу —
Паплыў пра жоўтую няўроду.
Кандыба, каб пазбегнуць ляду,
Параіў: — Спішам на прыроду.

На мулкай лаўцы не злаўчыцца,—
І — пад канец — жартуе посна:
— А старшыню пашлём вучыцца.
Хто — за? Супроць? Аднагалосна!

. . . . . . . . . . . . .

І — млосна-млосна згадваць гэта.
Душой даверыўшыся плёсу,
Архіп каторае ўжо лета
Нібы прывязаны да тросу.
І ад штодзённае натугі
Аж вочы засцяцца смугою.
Ён так нагледзеўся на дугі,
Нібыта сам стаў пад дугою.
Аднак калена магістралі
Выпростваецца — для другой дарогі.
Пад грукат баб
устал
палі,
Каб мост трымаць —
ажурна-строгі.
Машыны захапкам шырокім
Свет разварушылі бартамі.
І лета звонкае з падскокам
Услед ім коціцца лістамі.
Замоўк калёсны скрып картавы,
Паром спыніўся з недаўменнем.
І малады пушок атавы
Пад нізкім грэецца праменнем.
У твар дыхнулі завірухі.
Даўно не быў паромшчык дома,
І — сэрца сцялася ад скрухі:
А што? а як там? — Невядома.
І шэлест маладых сняжынак
Душу дашчэнту развярэдзіў.
І след задумлівых сцяжынак
Цень нецярплівы апярэдзіў.
Над хваляў стрыманым разбегам
Ярчэй праклюнулася зорка.
І ў цішыні — над сінім снегам —
Арэхі лушчыла вавёрка.

## ЗМЕСТ

З кнігі «Шчодрасць» (1962 г.)

**З кнігі «Ураган» (1966 г.)**

З кнігі «Профіль веку» (1969 г.)

**З кнігі «Пераклічка» (1973 г.)**

## З кнігі «Водсветы» (1978 г.)

З кнігі «Азарэнне» (1980 г.)

ПАЭМЫ

Гаўрусёў С.

Г 24 Крона: Выбр. вершы і паэмы/[Прадмова А. Пысіна].— Мн.: Маст. літ., 1981.— 398 с., 1 л. партр.

У пер.: 2 р. 20 к.

У аднатомнік увайшлі лепшыя вершы і паэмы, якія стварыў паэт за многія гады творчай працы. Лірычны герой Сцяпана Гаўрусёва — чалавек, які адчувае сябе адказным за ўсё, што адбываецца вакол яго. Мэтанакіраванасць і настойлівасць, адчуванне абавязку дапамагаюць яму актыўна працаваць, змагацца і перамагаць.

Г $\frac{70403-133}{М\ 302(05)-81}$ 81

ББК 84 Бел 7

Бел 2

Степан Захарович
ГАВРУСЕВ

КРОНА

*Избранные
стихи
и поэмы*

Минск, издательство
«Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар
*Р. М. Яўсееў*

Мастак
*Н. М. Сустава*

Мастацкі рэдактар
*Л. Я. Прагін*

Тэхнічны рэдактар
*Т. М. Сокал*

Карэктар
*Я. Ф. Харко*

ІБ № 973

Здадзена ў набор 17.03.81. Падп. да друку 09.09.81. АТ 07639. Фармат 84×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 19,50+ +0,1 укл. Ум. фарб.-адб. 19,7. Ул.-выд. арк. 19,45. Тыраж 6000 экз. Зак. 1473. Цана 2 р. 20 к. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.